# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 20 Сшыткі 1–2 (38–39) Снежань 2013

## ЗМЕСТ

### Артыкулы



### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

## Інфармацыі і хроніка

# Вучоба немцаў на Беларусі ў 1-й палове XVI ст.

**Васіль Варонін**

Наша гістарычная літаратура аддала нямала ўвагі праблеме навучання выхадцаў з беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага за мяжой. Прыблізна такая ж сітуацыя назіраецца і ў гістарыяграфіях суседніх краін. Тамтэйшыя даследчыкі таксама прыклалі шмат намаганняў, высвятляючы розныя аспекты атрымання вышэйшай адукацыі мясцовымі ўраджэнцамі за мяжой у часы, калі сваіх вышэйшых навучальных устаноў у гэтых краінах не было. Ды нават калі такія ўстановы з'явіліся, паездкі юнакоў па навуку за мяжу па-ранейшаму былі вельмі пашыранай справай. Галоўнымі высновамі гэтых даследаванняў можна лічыць тое, што асаблівай папулярнасцю ў маладых людзей з Вялікага Княства Літоўскага карысталіся ўніверсітэты Цэнтральнай і Заходняй Еўропы, а таксама Італіі і што там набывалі адукацыю пераважна прадстаўнікі шляхецкага саслоўя. Такія высновы грунтуюцца на вялікай колькасці фактаў, якія малююць дастаткова поўную і рознабаковую карціну разгляданай з'явы. Адваротнае пытанне – навучанне замежнікаў на Беларусі – здаецца, у навуцы нават не было пастаўлена. А яно, безумоўна, патрабуе разгляду. Уплывы, у тым ліку ўплывы ў галіне адукацыі і культуры, у гісторыі вельмі рэдка бывалі накіраванымі толькі ў адзін бок. У большасці выпадкаў яны былі ўзаемнымі. Зразумела, што ступень тых уплываў магла быць рознай: у нейкім кірунку яны маглі выяўляцца мацней, а ў нейкім слабей. Аднак у цэлым гэтыя працэсы выглядалі менавіта як двух- ці шматбаковыя, якія ўздзейнічалі на розныя народы.

Трэба зазначыць, што пра вучобу замежнікаў-немцаў на Беларусі ў 1-й палове XVI ст. мы ведаем не вельмі многа – ад той пары да нас дайшлі толькі адзінкавыя факты. (Зрэшты, ад ранейшага часу такіх фактаў увогуле не захавалася.) Паколькі гэтыя рэдкія факты яшчэ не ўведзены ў навуковы зварот, спынімся на іх больш падрабязна.

13 сакавіка 1538 г. полацкія бурмістры і радцы накіравалі да рыжскіх ратманаў ліст (гл. Дадатак). Гэты ліст, сярод іншага, утрымліваў скаргі на трох маладых немцаў, якія прыехалі ў Полацк “на новуку”. Але, як высвятляецца з паслання, дзейнасць юнакоў не абмяжоўвалася толькі стараннай вучобай. Палачане скардзіліся на немцаў за тое, што яны “людеи на торгу покололи и поранили”, у дадатак уварваўшыся да некага з палачан у дом. Тыя ж маладыя немцы некалькі разоў збівалі замкавых вартаўнікоў і земскіх перавозчыкаў, прычым яны ганяліся за сваімі ахвярамі з кордамі. Прадстаўнікі гарадскіх уладаў Полацка адзначалі, што мясцовыя жыхары скардзіліся на гэтых немцаў за іх учынкі не адзін раз. На думку бурмістраў і радцаў, за тыя злачынствы немцы заслужылі смяротнае пакаранне. Сапраўды, у адпаведнасці з першым артыкулам сёмага раздзела Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г., за гвалтоўнае ўварванне ў чужы дом злачынца “шию тратить”. Праўда, у гэтым раздзеле Статута гаворка ідзе пра шляхецкія маёнткі. З іншага боку, пасланне наўпрост указвае на тое, што немцы “заслужили были горла” ў тым ліку за раны, якія яны нанеслі мяшчанам. Аднак у Статуце няма артыкула, які прадугледжваў бы смяротнае пакаранне за нанясенне цялесных пашкоджанняў. Таму палачане, магчыма, мелі на ўвазе не Статут Вялікага Княства, а нейкі іншы заканадаўчы кодэкс. Нельга выключыць таксама, што яны папросту хітравалі, перабольшваючы магчымае пакаранне. Палачане паведамілі ў Рыгу, што, нягледзячы на цяжкасць злачынстваў, яны, тым не менш, хадайнічалі перад тутэйшым ваяводам Янам Глябовічам, каб ён адмяніў смяротнае пакаранне немцам. Калі верыць лісту, полацкія бурмістры і радцы зрабілі гэта “для приязни и захованя з давных часов и суседства” паміж двума гарадамі.

Кім былі гэтыя “маладыя немцы” і што было прадметам іх навучання ў Полацку? Усе трое названы па імёнах:

Індрых Гармонаў, Індрых Фанальтэн і Лаўрэнц. Апрача таго, палачане ведалі імёны іх працадаўцаў ці домаўладальнікаў у Рызе. Пра дваіх сказана, што яны ці раней, ці на той момант былі "служэбнікамі" іншых, больш багатых і ўплывовых рыжан. Трэці ж, Індрых Фанальтэн, "живеть у Гануса Шиперя у шлесарском ряду". Гаворка тут ідзе пра месца жыхарства Фанальтэна ў Рызе, дзе дамы (яны ж адначасова былі і рамеснымі майстэрнямі) размяшчаліся па радах у адпаведнасці з прафесіяй іх гаспадароў. Хутчэй за ўсё, Індрых Гармонаў і Лаўрэнц былі слугамі багатых нямецкіх купцоў, якія мелі шчыльныя гандлёвыя сувязі з Полацкам. Праўдападобна, што гэтыя юнакі вучыліся ў Полацку гандлёвай справе. Такое навучанне, сярод іншага, прадугледжвала таксама засваенне старабеларускай ("рускай") мовы і навязванне справавых сувязяў, якія маглі спатрэбіцца ім у будучыні. Трэці немец, Індрых Фанальтэн, належаў, найверагодней, да рамесніцкага асяроддзя і навучаўся ў Полацку рамяству. Мяркуючы па месцы яго жыхарства ў Рызе, гэта была слесарская справа.

З ліста вынікае, што паездкі нямецкіх юнакоў для навучання ў Полацк былі звычайнай справай і адбываліся рэгулярна: "А которые немци молодые з вашеи милости места до земли господарьское и до места нашего приежчают(ь) на новуку…".

Мадэль паводзінаў, якую маладыя немцы прадэманстравалі ў Полацку, не была для іх нечым незвычайным. У Рызе такія здарэнні адбываліся дастаткова часта. На вялікі жаль, мы не ведаем працягу справы і не можам сказаць, якое пакаранне панеслі трое названых немцаў. Невядома таксама, ці спыніліся пасля гэтай непрыгожай гісторыі паездкі немцаў у Полацк "на новуку", як таго хацелі раззлаваныя ваявода, палачане "и вся земля".

Іншы выпадак паказвае другі канал адукацыйных сувязяў немцаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Гаворка ідзе ўжо не пра мяшчанскае, а пра княска-магнацкае асяроддзе. Як высвятляецца, немцы выступалі тут не толькі як найманыя слугі (цывільныя і ваенныя), але і ў іншай якасці.

10 лістапада 1551 г. князь Андрэй Сямёнавіч Адзінцэвіч падаў скаргу віленскаму намесніку Яну Навіцкаму на маладога немца, "которого хлопъца немъца на име Германа з Рыги дано было для звыкълости языку руского до мене". Але немец уцёк, украўшы ў князя рэчы[1]. Такім чынам, нямецкі юнак прыехаў да двара князёў Адзінцэвічаў для навучання "рускай" мове. У дадзеным выпадку мы валодаем, на шчасце, і некаторымі дадатковымі крыніцамі, якія даюць важны матэрыял для далейшага вывучэння і гэтага факта, і праблемы ў цэлым.

Да нашых дзён дайшоў твор, які ў літаратуры атрымаў назву "Радавод князёў Адзінцэвічаў"[2]. Гэты невялікі па аб'ёме помнік складаецца з дзвюх частак. У першай выкладзена версія пра паходжанне роду Адзінцэвічаў ад вядомага князя – пакутніка XIII ст. Міхаіла Чарнігаўскага, кананізаванага Рускай праваслаўнай царквой. "Радавод" падрабязна распісвае нашчадкаў Міхаіла, адзін з якіх, Фёдар насіў празванне Адзінец – адкуль і прозвішча ўсяго княскага роду. Гэтая частка радаводу завяршаецца на асобе ўжо вядомага нам Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча. Другая частка твора змешчана пад асобным падзагалоўкам "Нача княжити Русь" і не мае відавочнай сувязі з першай часткай. Зразумела, калі не лічыць таго, што абедзве яны прысвечаны генеалогіі роду Адзінцэвічаў. Другая частка пачынаецца з паведамлення пра тое, што "князь Иван Одинец приехал з Немец" і што "подаваны ему именя уво Друцку". Гэтая версія радаводу найбольш падрабязна спыняецца на асобах і падзеях XV ст. Так, у прыватнасці, яна адзначае сваяцкія сувязі Адзінцэвічаў з вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам і ад'езд двух прадстаўнікоў роду на службу ў Маскву.

Зыходзячы з таго факта, што першая частка радаводу Адзінцэвічаў заканчваецца на асобе князя Андрэя Сямёнавіча, лагічна дапусціць, што яна была напісана ме-

[1] Российский государственный архив древних актов. Ф. 389. Оп. 1. Ед. хр. 240. Л. 219об.

[2] Родословие князей Одинцевичей // Полное собрание русских летописей. Т. 35. Москва, 1980. С. 282–283.

навіта пры ім. Такім чынам, мы маем сур'ёзныя падставы лічыць А. С. Адзінцэвіча натхняльнікам стварэння гэтай часткі помніка. Што да другой яго часткі, дык тэарэтычна яна магла быць вынікам творчасці таго ж Андрэя Адзінцэвіча і яго госця, маладога рыжскага немца Германа. Праўда, гэтаму дапушчэнню супярэчыць пэўная храналагічная неадпаведнасць. Як ужо было адзначана, у другой частцы твора нічога не гаворыцца пра рэаліі XVI ст., яна цалкам засяроджаная на падзеях XV ст. Сярод іншага, там згадваецца той факт, што былую вотчыну Адзінцэвічаў сяло Рэпухава[3] "тепер… дръжит пан Илинич". Гаворка тут ідзе, хутчэй за ўсё, пра вядомага вяльможу Івана Ільініча, які памёр недзе ў канцы XV ст., а з 1481 г. сапраўды валодаў Рэпухавам[4].

Як бы там ні было, але Адзінцэвічы яўна мелі нейкія сантыменты да немцаў і старанна падтрымлівалі свой імідж германафілаў. Безумоўна, адсюль і спроба вывесці паходжанне роду "з Немец". З гэтым жа было звязана і тое, што Адзінцэвічы прымалі на свой двор нямецкіх юнакоў для навучання. Пытанне пра рэальнае паходжанне роду Адзінцэвічаў у генеалагічнай літаратуры і сёння застаецца адкрытым. Тым не менш адзначым, што ў вачах іншых людзей знаходжанне немцаў пры двары Адзінцэвічаў магло дадаць іх сямейнай легендзе пераканальнасці.

Факты, якімі мы валодаем сёння, сведчаць пра тое, што ў 1-й палове XVI ст. немцы сапраўды прыязджалі вучыцца на беларускія землі. Мяркуючы па ўсім, гэтыя паездкі на той час мелі ўжо сваю традыцыю і насілі рэгулярны характар. Можна ўпэўнена гаварыць, што немцы праяўлялі зацікаўленасць у навучанні і навязванні кантактаў у мяшчанскім і княска-магнацкім асяроддзі суседніх беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага. Асаблівай актыўнасцю тут вылучаліся прадпрымальныя жыхары горада Рыгі.

[3] Цяпер вёска Смальянскага сельсавета Аршанскага раёна Віцебскай вобласці.

[4] Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Metryka Litewska. Kn. 4 / Par. L. Anužytė. Vilnius, 2004. P. 112.

## Дадатак

*1538 г. сакавіка 13. Полацк. – Пасланне полацкіх бурмістраў і радцаў да ратманаў г. Рыгі з просьбамі паведаміць дакладную інфармацыю пра эпідэмію ў Рызе, прытрымліваца старых мер вагі і са скаргай на маладых немцаў, якія прыехалі ў Полацк “на новуку”, але паводзяць сябе неадпаведным чынам.*

| | *[2]* Славутны*м*[a] пано*м* ра*т*моно*м* слову*т*ного места Риги.

Єсть | ꙋ на*с* слыша*т*, и*ж* бы не єсть ꙋ вашо*м* месте здорово, в нас е*ст* | слыша*т*, и*ж* єсть ꙋ ваше*и* м(и)л(о)*с*ти в Ризе поветрие. Прото па*н* | на*ш* его м(и)л(о)*с*ть и вси ку*п*ци г(о)*с*(по)д(а)рѧ н(а)ш(е)го товаро*в* свои*х* до места | вашего Риг*и* пуст*ити* не смею*т*. Прото пише*м* до ва*с*, абы в(а)ша | м(и)л(о)*с*ть ꙋ месте свое*м* Ризе достато*ч*не доведа*ли,* єсли бы | было здорово, абы ку*п*ци г(оспо)д(а)рьски*и,* ведаю*чи* певность ѡ*т* | ваше*и* м(и)л(о)*с*ти, бе*з*печно до Риги єхали.

А которые не*м*ци | молодые з ваше*и* м(и)л(о)*с*ти мѣста до зе*м*ли г(о)*с*(по)д(а)рьское и до места | н(а)ш(е)го прие*ж*чаю*т* на новукꙋ, и ѡни в месте г(о)*с*(по)д(а)рѧ н(а)ш(е)го | Поло*ц*ко*м* кривды великие чинѧ*т*. Яко *ж* и тыми разы моло|ды*и* лю*ди* з места ваше*и* м(и)л(о)*с*ти на имѧ И*н*дри*х* Гармоновъ, | Геизы*н* служебни*к*, а другы*и* Индри*х* Ѳа*н*альтє*н*[b], живе*т* | ꙋ Ганꙋса[c] Шиперѧ ꙋ шлеса*р*ско*м* рѧдꙋ, а трети*и* Лавре*н*ць, | пере*д* ты*м* служива*л* ꙋ пана Ганус Диве*л*, прото тые ве*р*ху|писаные з места ваше*и* м(и)л(о)*с*ти Риги, бꙋдучи на новуце | ꙋ месте г(оспо)д(а)рѧ н(а)ш(е)го Поло*ц*комъ, при бы*т*ности его м(и)л(о)*с*ти пана | ꙋ месте г(оспо)д(а)рьско*м* Поло*ц*комъ, тые ꙋченики з места в(а)шои | м(и)л(ос)ти люде*и* на то*р*гу покололи и поранил*и*, и в комору ꙋско|чивши. Прото за ѡными жалобами и за ранами ты*х* | меща*н* г(оспо)д(а)рьски*х*, во*д*лу*г* вчи*н*ков и*х*, заслужили бы*ли* го*р*ла. | И мы жеда-

[a] с *большая па памерах*
[b] є *перапраўлена з іншай літары*
[c] ꙋ *перапраўлена з іншай літары*

*ли* и проси*ли* пана н(а)ш(е)го, воевод*ꙋ* поло*ц*кого | пана Яна Ю*р*євич*ч* Глѣбовича, мо*р*шалка г(о)*с*(по)д(а)*р*ѧ королѧ его | м(и)л(о)*с*ти, абы его м(и)л(о)*с*ть го*р*лами и*х* кора*ти* не коза*л* длѧ при*ѧ*зни | и захова*ня* з да*в*ны*х* часо*в* и суседства ваше*и* м(и)л(о)*с*ти. А та*к* еще | | *[3]* пото*м* ко*л*кокро*т* жалоба на ни*х* приходила, сторожо*в* за*м*ко|вы*х* и перево*з*нико*в* зе*м*ски*х* збито, и з добытыми ко*р*ды[d] | за ними гонили. Длѧ токовы*х* и*х* и ины*х* вчи*н*ко*в*, | велики*х* выступо*в* вызволи*л* па*н* его м(и)*л*(ос)*т* и место нашо Поло*ц*кое | и всѧ зе*м*лѧ таковы*х* молоды*х* з места ваше*и* м(и)л(о)*с*ти Риги | на новуку брати не хот*ѧт*.

А которы*и* ку*п*ци г(оспо)д(а)рьски*и* п*ꙋ*щаю*т* | товары свои до места ваше*и* м(и)л(о)*с*ти Риги, ино напротивку | свои*х* товаро*в*[e] ваше*и* м(и)л(о)*с*ти ку*п*цо*в* со*л* з гири[f] беру*т*. Ино то*т* | ва*ш* ва*г* в на*с* не заходи*т*, ка*к* ѡ*т* ваше*и* м(и)л(о)*с*ти пере*д* си*м* | хожива*л*. А которые товары ѡ*т* на*с* до ваше*и* м(и)л(о)*с*ти | прихо*дѧт*, ино то*т* на*ш* ва*г* зупо*л*но *ꙋ* ваше*и* м(и)л(о)*с*ти заходи*т*.

| Пса*н* по*д* *л*ѣ*т* Бѡ*ж*его нар(о)*ж* 1538 м(е)*с*(е)ца ма*р* | 13 де*н*, инди*к* 11.

| Слову*т*ного места Поло*ц*|ка бу*р*мистры и р*ѧ*дци.

*Адрас на арк. 2адв.:* | Слову*т*ны*м* пано*м* ра*т*моно*м* слову*т*ного | места Риги.

*Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі (Latvijas Valsts vēstures arhīvs). Ф. 673. Воп. 4. Скр. 19. Адз. зах. 110. Арк. 2–3адв.*

*Арыгінал на 2 паўаркушах (аркуш, складзены роўна напалам), 21,0 (21,6) × 32,3 см. Дакумент быў складзены ў выглядзе канверта, на паперы сляды ад двух папярочных і двух падоўжных згінаў. У складзеным выглядзе папера мае 8 проразяў для падкладкі пячаткі. На арк. 2адв. архіўная адзнака XVI–XVIII ст.:* Poloczker schreib(en), darinne sie bitt(en), inen, [g]ob die[g] | pestis zu

d *слова паўторана двойчы, другі раз у пачатку новага радка*

e р *перапраўлена з* ш; *усё слова* товаров *перароблена, праўдападобна, з слова* вашеи

f *слова перароблена з слова* Риги

Riga regiert, zu wiessen zu thuen. | It(em) eine klage uber die iung(en) gesell(en), die zu Polotzko die sprache lernen. | It(em) eine klage weg(en) der Rigisch wage, | datiert a(nn)o etc. 38 den 13. martii. *На верхнім полі арк. 2 алоўкавая адзнака Г. Гільдэбранта:* Cop. H. H. 104. 1538 März 13.

*На сярэдзіне арк. 2адв., ля правага краю, рэшткі прыціснутай пячаткі зялёнага воску дыям. каля 3,5 см і яе падкладка.*

*Філігрань на арк. 2 – тыяра (выш. 11,2, шыр. 3,3, панцюзо 2,4 см, у Пікара адпаведных няма, падобныя сабраны ў яго ў аддз. V)*.*

* *Апісаў знешнія прыкметы рукапісу і расчытаў архіўныя адзнакі на нямецкай мове С. У. Палехаў, за што прыношу яму шчырую падзяку.*

[g-g] *напісана над двума ці трыма закрэсленымі неразборлівымі словамі*

# Studies of Germans in Belarus in the first half of XVI century

**Vasil Varonin**

Belarusian historiography disposes quite a lot of publications on studying abroad of people coming from Belarusian lands under Grand Duchy of Lithuania at the end of XV–XVI centuries.

The situation in a historical science of the neighboring countries of Eastern and Central Europe is quite similar. Indeed, many natives of these lands studied at the universities of Central Europe and Italy. However, we reserve the right to ask a different, an opposite question: what do we know about teaching foreigners in Belarus? It should be kept in mind that cultural influences are rarely lop-sided; usually they are mutual. This article, resting upon a number of facts, handles an issue of studying of young Germans in the Belarusian lands in the 1st half of the XVI century. The 1538 letter of Polack town authorities to Riga reveals that young Germans from Riga were frequent visitors to Polack “for academic training”.

Apparently, they belonged to the artisan-merchant community and were trained crafts, trade and Old Belarusian (“Ruthenian”) language in Polack. However, the message of Polack was rather about the crimes which the young people of Riga committed than a success they achieved academically.

Another source informs us about a young man from Riga being at the court of Duke Andrey Adzincevič studying Ruthenian language there. As a result, we have evidences that the Germans were trained to be craftsmen and tradesmen in Belarusian towns, and in the courts of the local nobility they studied Ruthenian. In addition to the article there is above-mentioned message of Polack people to Riga in 1538 from the collections of the State Historical Archive of Latvia.

# Ульская бітва 1564 г. у помніках лацінамоўнай літаратуры Вялікага Княства Літоўскага

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая**

Адным з самых яркіх эпізодаў пачатковага перыяду Лівонскай (Інфлянцкай) вайны (1558–1882) стала бітва на Уле, або Чашніцкая бітва (26.01.1564), у якой войска Вялікага Княства Літоўскага нанесла паразу 24-тысячнай арміі маскоўскага ваяводы Пятра Шуйскага, што меў намер злучыцца каля Оршы з 50-тысячным войскам братоў Сярэбраных. Гэтая славутая перамога прыцягнула да сябе ўвагу як айчынных, так і замежных літаратараў.

На пачатку 60-х г. XVI ст. пры двары віленскага кашталяна Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча ў яго радавым маёнтку Заблудаве жыў і працаваў высокаадукаваны нямецкі гуманіст, філолаг-класік Іаган Мюліус. Ён паходзіў з мястэчка Лібенродэ ў Цюрынгіі, а ў двор Грыгорыя Хадкевіча прыбыў у якасці хатняга настаўніка сыноў магната – Аляксандра і Андрэя Хадкевічаў. У 1564 г. у Вене ў друкарні Міхаэля Цымермана выйшаў з друку зборнік Іагана Мюліуса пад назваю *“Divina gratia imperante Sigismundo Augusto <…> victoria de Moschis reportata a magnifico Domino Gregorio Chodcievitio…”* (“Перамога над маскоўцамі, здабытая з ласкі Божай у часы праўлення Жыгімонта Аўгуста яснавяльможным панам Грыгорыем Хадкевічам…”). Цэнтральную частку выдання складае аднайменны эпінікій (верш на перамогу) – 110 радкоў дактылічнага гекзаметра. Акрамя таго, у склад зборніка ўвайшла эпіграма *“Ad bellicosam Lithuaniae gentem de Moschis”* (“Да ваяўнічага народа Літвы, які ваюе з маскоўцамі”) (згодна з субскрыпцыяй, яна была напісана ў Вільні ў 1563 г.), ліст Грыго-

рыя Хадкевіча да сыноў Андрэя і Аляксандра, а таксама некалькі элегічных вершаў: *"Ad magnificum D. Georgium Chodcievitium legatione Moschouitica perfunctum"* ("Да яснавяльможнага П[ана] Георгія[1] Хадкевіча, які кіраваў маскоўскім пасольствам"), *"Ad magnificum D. Ioannem Chodcievitium, Samogithiae praesidem"* ("Да яснавяльможнага П[ана] Яна Хадкевіча, адміністратара Жамойці"), а таксама *"Ad magnificum D. Philonem Cmitham strenuum et bellicosum equitem"* ("Да яснавяльможнага П[ана] Філона Кміты, адважнага і ваяўнічага рыцара").

У літаратурных адносінах найбольшую цікавасць уяўляе эпінікій "Перамога над маскоўцамі". Польскі вучоны Юльюш Новак-Длужэўскі лічыць, што ў гэтым творы ўслаўляецца перамога, здабытая войскам Грыгорыя Хадкевіча 7 лютага 1564 г. у бітве з войскам маскоўскага князя Сярэбранага пад Оршай[2]; да гэтага ж меркавання далучаецца С. Кавалёў[3]. Аднак падобная інтэрпрэтацыя не знаходзіць пацвярджэння ў тэксце твораў, уключаных у склад зборніка І. Мюліуса. Са зместу ліста Г. Хадкевіча, апублікаванага разам з эпінікіем, вынікае, што размова ў ім ідзе менавіта пра бітву пад Улай (пры Чашніках), якая адбылася 26 студзеня 1564 г. Такой жа думкі прытрымліваюцца і літоўскія даследчыкі Э. Ульчынайтэ і А. Ёвайша[4]. Як і эпінікій Мікалая Гусоўскага "Пра перамогу над туркамі", прысвечаны перамозе пад Церабойляй у 1524 г., эпінікій І. Мюліуса быў напісаны па гарачых слядах падзей.

Магчыма, Ю. Новака-Длужэўскага, які вырашыў, што тут ідзе размова пра нейкую іншую бітву, увяла ў зман адсут-

1 Лацінская форма імя *Georgius* паслядоўна перадаецца як *Георгій*, хоць беларускім адпаведнікам можа быць як *Георгій*, так і *Юрый*. У прыватнасці, брат Грыгорыя Хадкевіча, які ўзначальваў пасольства да Івана Жахлівага (канец 1563 – пачатак 1564 г.), у беларускіх крыніцах называецца Юрыем.

2 Nowak-Dłużewski J. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce: Czasy Zygmuntowskie. Warszawa: Instytut wydawniczy "Pax", 1966. S. 206.

3 Кавалёў С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу: манаграфія. Мінск: Кнігазбор, 2010. С. 109.

4 Ulčinaite E., Jovaišas A. Lietuvių literatūros istorija: XIII–XVIII amžius. Vilnius: Lietuvių literatūros ir tautosakos Institutas, 2003. С. 138.

насць у паэтычным тэксце ў якасці ўдзельніка Ульскай бітвы гетмана Мікалая Радзівіла. Аднак тлумачэнне і гэтай акалічнасці даецца ў лісце Г. Хадкевіча. Аўтар паведамляе, што войска ВКЛ, якое рушыла 26 студзеня пад яго камандаваннем да месца бітвы, прабіралася вузкімі шляхамі па лясных дарогах. Маскоўцы паўсюдна чынілі перашкоды, кпілі з вайскоўцаў Хадкевіча і займалі самыя лепшыя пазіцыі. Хадкевіч мусіў нават крыху адкінуць маскоўцаў *("Moschos undique obstantes aliquantulum repuli"*[5]) для таго, каб вызваліць месца для дыспазіцыі свайму войску. Далей Хадкевіч піша: *"Acie itaque iam instructa, magnam esse hostium multitudinem animaduerti, contra quos vel cum reliquis copiis optassem adfuisse totius exercitus gubernatorem Nicolaum Radiuilum Troccensem Palatinum, qui Lithuaniae robur secum habebat. Verum cum non ita statim ad nos advolare propter magna in syluis impedimenta eum posse sentirem, paucis pro tempore militem hortatus, omnes ad pugnam incitatos produxi"* ("Выставіўшы войска ў баявым парадку, я заўважыў, што колькасць ворагаў надзвычай вялікая, і хацеў, каб супраць іх з астатнімі сіламі выступіў таксама гетман цэлага войска Мікалай Радзівіл, ваявода Троцкі, які меў з сабою вялікую літоўскую рацьь. Аднак калі я зразумеў, што ён не зможа так хутка прыбыць да нас з-за вялікай колькасці перашкод у лесе, то адпаведна з часам звярнуўся з кароткім словам да войска, узрушыў усіх і павёў у бітву"[6]). Такім чынам, ліст Хадкевіча, апублікаваны І. Мюліусам, пацвярджае дадзеныя гістарычных крыніц, што гетман Радзівіл не адыграў галоўнай ролі ў Ульскай бітве. Пра гэта, прынамсі, піша Андрэй Янушкевіч у манаграфіі "Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558–1570 г."[7]. Са зместу эпінікія

[5] Mylius, I. Divina gratia imperante Sigismundo Augusto Polonorum rege potentissimo, Magno Lithuaniae Duce etc. Victoria de Moschis reportata a Magnifico Domino Gregorio Chodcieuitio Castellano Vilnensi, Capitaneo Grodnensi, stipendiarii militis supremo gubernatore. <…> Authore Ioanne Mylio Libenrodensi. Viennae Austriae ex officinal Michaelis Zimmermani, 1564. P. 10 n.n.

[6] Тут і далей пераклад з лацінскай мовы зроблены аўтарам артыкула.

[7] Янушкевіч А. М. Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558–1570 гг.: манаграфія. Мінск: Медисонт, 2007. С. 83

І. Мюліуса і ліста Г. Хадкевіча вынікае, што на чале войска, якое здабыло перамогу на чашніцкіх палях, стаяў гетман Грыгорый Хадкевіч.

Вось чаму "Ласка Божая..." адкрываецца ўрачыстай прэзентацыяй правадыра войска:

*At tibi GREGORIO generosi Martis alumno*
*Inclyta CHODCONUM soboles, ac nobile germen,*
*Magnanimi titulos victoris grator abunde,*
*Atque tua in bello miror sat fortia facta*[8].

Цябе, ГРЫГОРЫЯ, выхаванца радавітага Марса, о знакаміты прадстаўнік і знатны нашчадак ХАДКЕВІЧАЎ, я шчыра віншую са славаю мужнага пераможцы і дзіўлюся з тваіх такіх велічных спраў у вайне.

Аўтар падкрэслівае колькасную перавагу ворага: *"Millibus hinc multis Litavum properanter ad arva / Moschicus accurrit variis exercitus armis"*[9] ("Шматтысячнае маскоўскае войска з рознай зброяй імкліва накіроўваецца ў землі ліцвінаў"). Ніжэй паэт нават назаве канкрэтную лічбу: *"Millia namque simul viginti quinque fuerunt"*[10] ("Іх было [ўсіх] разам дваццаць пяць тысяч"). Але правадыр войска Хадкевіч дае нападнікам рашучы адпор: *"His se Gregorius venientibus agmine longo / Fortiter opposuit parvo cum milite pugnax"*[11] ("Ваяўнічы Грыгорый мужна супрацьстаіць доўгаму шэрагу [ворагаў], якія да яго набліжаюцца, з невялікай колькасцю войска").

Грыгорый Хадкевіч паказаны як вопытны ваенны камандзір і мудры правадыр войска, у якім – мужныя героі з ліку айчыннай арыстакратыі:

*Quem penes in medio volitare Georgius audet*
*TYSCEVUS, pugnasque ciens exuscitat iras.*
*BURCULABAS iuxta properat vectusque caballo*
*Corsacos decorat, fulgenti et casside BACA,*

8 Mylius, I. Divina gratia... P. 3 n.n.
9 Idem. P. 4 n.n.
10 Idem. P. 5 n.n.
11 Idem. P. 4 n.n.

*Ductorem equitum, generosaque fulmina belli.*
*NICOLEOS laeva ingreditur de parte Sapiha.*
*A dextra veniunt acer ROMANUS in armis,*
*Vivida Romanus SENDUSCAE gloria stirpis,*
*BOGDAnusque gravem quatiens Solomirius hastam*[12].

Разам з ім у цэнтры прагне ісці ў наступ Георгій ТЫШКЕВІЧ; уздымаючы на бітву, ён абуджае [у ваярах] гнеў. Побач, асядлаўшы каня, спяшаецца [у бітву] БАРКУЛАБ, краса Корсакаў, а таксама БАКА ў бліскучым шлеме, правадыр вершнікаў, – высакародныя героі вайны. З левага флангу ідзе ў наступ МІКАЛАЙ Сапега, з правага ідуць з войскамі суровы РАМАН – сапраўдны рымлянін – слава роду САНГУШКАЎ, а таксама БАГДАн Саламярэцкі, які ўздымае цяжкую дзіду.

Іаган Мюліус беспамылкова вызначыў тых асоб, якія былі вартыя ўслаўлення ва ўрачыстых гекзаметрах. Паказальна, што амаль праз 70 гадоў пасля апісаных падзей Мялецій Сматрыцкі ў “Верыфікацыі” менавіта Рамана Сангушку і Грыгорыя Хадкевіча, побач з Канстанцінам Астрожскім, “мужоў светлай памяці і невыказальнай у словах мужнасці”, называў “трыма найсмялейшымі рускімі Геркулесамі, Ганібаламі і Сцыпіёнамі”[13].

Пасля 1564 г. чашніцкі рэгіён працягваў заставацца стратэгічна важнай тэрыторыяй як для Вялікага Княства Літоўскага, так і для Маскоўскага княства. Яшчэ ў 1563 г. па загадзе Жыгімонта Аўгуста на мысе пры зліцці рэк Дзвіна і Ула было распачата будаўніцтва Ульскага замка. Аднак праца так і не была завершана з прычыны нечаканага нападу расійскіх войскаў: маскоўцы знішчылі недабудаваны замак і па загадзе Івана IV самі пачалі ўзводзіць умацаванні на здабытай пляцоўцы[14]. У пачатку 1568 г. Улу асаджала войска пад камандаваннем Яна Хадкевіча, але на гэты раз дасягнуць пос-

[12] Mylius, I. Divina gratia… P. 5 n.n.

[13] [Smotrycki Meletiusz] Verificatia niewinności powtore wydana. <…>. [W Wilnie: Zakonnicy Monastera Bratskiego Wileńskiego, Cerkwie ześcia Świętego Ducha, 1621]. S. 13 n.n.

[14] Макараў М. Ула // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. Т. 2. 2-е выд. Мінск: БелЭн, 2007. С. 685–686.

пеху ліцвінам не ўдалося. На гэтую падзею адрэагаваў доктар абодвух праў, ураджэнец Алканізы Пётр Раізій. З 1552 г. ён стала пасяліўся ў Вільні, робячы тут духоўную і юрыдычную кар'еру. Пяру гэтага вельмі папулярнага ў свой час паэта належыць шэраг твораў, прысвечаных найбуйнейшым магнатам краіны, у тым ліку – Яну Геранімавічу Хадкевічу. Сярод іншых твораў, адрасаваных магнату, Пётр Раізій напісаў чатыры эпіграмы, у якіх сам тапонім *Ула* робіцца сродкам стварэння версіфікацыйных каламбурных вынаходніцтваў за кошт абыгрывання сугучча з лацінскім займеннікам *ulla* ('нейкая'). Вось адна з гэтых эпіграм:

*Ulam non ullam Lituania debuit armis*
*Efficere, ulla tamen non minus Ula manet.*
*Vires, quae fuerant magnae, discordia fecit*
*Parvas; haec causa est, Ula quod ulla manet*[15].

Літва павінна была здабыць зброяй не нейкую там Улу, аднак жа Ула застаецца гэткай самай "нейкай". Нязгода робіць мізэрнымі тыя сілы, якія былі вялікімі; у гэтым – прычына таго, чаму Ула застаецца "нейкай".

Адсутнасць адзінства ў войску ВКЛ – цэнтральная тэма і іншых трох "ульскіх" эпіграм Пятра Раізія. А калі б, падкрэслівае паэт, стан ліцвінаў быў у згодзе, *"ullam iam nullus Moschus haberet Ulam"*[16] ('тады ўжо ніякі масковец не авалодаў бы Улай?').

Яшчэ да сканчэння Лівонскай вайны Ульская бітва пачала ўспрымацца ў літаратурным дыскурсе Вялікага Княства Літоўскага як векапомная падзея, якая заслугоўвае таго, каб застацца ў памяці нашчадкаў. У 1580 г. у Падуі выйшаў з друку *"Panegyricus in excidium Polocense"* ("Панегірык на ўзяцце Полацка") віленскага паэта Базыля Гіяцынта. У гэтым паэтычным творы распавядаецца пра адваяванне Полацка летам 1579 г.

[15] Petrus Royzius. Carmina selecta = Petras Roizijus. Rinktiniai eilėraščiai / Iš lotynų kalbos vertė Rita Katinaitė etc. Vilnius: Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas, 2008. P. 162.
[16] Petrus Royzius. Carmina selecta… P. 162.

З самага пачатку аўтар дэманструе сваю настроенасць на гуллівы лад, на крытычнае пераасэнсаванне канонаў гераічнай паэзіі. Як вынікае з нешматлікіх біяграфічных звестак, Базыль Гіяцынт вучыўся ў Падуі, дзе прыкладна ў гэты ж час выкладаў паэтыку Франчэска Рабартэла. Вучнем апошняга быў і славуты польскі паэт XVI ст. Ян Каханоўскі, які ў ранні (лацінамоўны) перыяд творчасці стварыў дастаткова вялікую колькасць панегірычных вершаў на лаціне, пазней жа праславіўся сваімі польскамоўнымі творамі, перадусім жартаўлівымі "Фрашкамі". Магчыма, аўтар "Панегірыка на ўзяцце Полацка" вырашыў дасягнуць мастацкай арыгінальнасці шляхам спалучэння панегірызму, узнёсласці з ключавым для паэтычнай школы Рабартэла прыёмам – іроніяй. Гэтае імкненне заўважнае на працягу ўсяго твора.

Так, напрыклад, у паэме прысутнічае эпізод з апісаннем сяброўскай вячэры ў стане войска караля Стэфана, якая папярэднічала бітве за Полацк. Паэт, не называючы імёнаў яе ўдзельнікаў, як быццам бы канспектыўна натуе пачутыя ім гісторыі:

*Hic narrat decies octo sub moenibus Orsae*
*Millia qua ratione suo uictore parente*
*Caesa virum fuerant, proprio ter denaque ductis*
*Vt fuerint superata suo, Magnumque Suiscum*
*Demissum nigras memorat Phlegetontis ad umbras*
*Nec reticent clari (qua laus sua) funera Tauri.*
*Ille fera quantum ualeat ui in maenibus hostis*
*Tutandis, pressae quondam infoeliciter Vlae*
*Monstrat ab exemplo, prodit Starodubus ab isto*
*In medium, laudatur Constantinus et alter*
*Victor, et excisor populi Tarnouius heros*
*Commemorant alii Vitoldi insignia gesta,*
*Olgerdumque alii laudant, aliique Iagellum*[17].

[17] Hyacinthius Vilnensis B. Panegyricus in excidium Polocense atque in memorabilem victoriam Stephani invictissimi Poloniarum Regis Magnique Ducis Lituaniae ex potentissimo Moschorum Principe III. Cal. Septemb. MDLXXIX reportatem. Basilii Hyacinthii Vilnensis ad inclytum Nicolaum Georgii Radivillum Ducem Dubingae et Birzae in Lituania. <…> Patavii: Apud Laurentium Pasquatum, 1580. P. 16 n.n.

Першы распавядае, як пад мурамі Оршы яго бацькам-пераможцам былі разбіты 80 тысяч мужоў, прычым яны былі адолены з трыма тысячамі падначаленых яму [вайскоўцаў]; успамінае, як ён адправіў вялікага Шуйскага ў чорны змрок Флегетонта. Ён не прамаўчыць і пра пагібель славутага Тарваста (асобная гісторыя). Другі на прыкладзе Улы, ганебна прыгнечанай калісьці, паказвае, наколькі мацнейшай была [гэтая] звяруга ва ўмацаваных варожых мурах. У трэцяга ў цэнтры ўвагі – Старадуб; ухваляецца Канстанцін і другі пераможца, а таксама пагроза для ворагаў герой Тарноўскі. Адны ўспамінаюць слаўныя подзвігі Вітаўта, другія хваляць Альгерда, трэція – Ягайлу.

Як бачым, перамога ў бітве пад Улай і гібель ваяводы Пятра Шуйскага прыгадваецца на пачатку ў адным кантэксце з успамінам пра перамогу пад Оршай у 1514 г., а таксама пра паспяховую аблогу і захоп Тарваста (цяпер – Тарвасту ў Эстоніі) войскамі Мікалая Радзівіла Рудога ў 1561 г.

Чашніцкая бітва набывае значэнне мастацкага сімвала і ў гераічнай эпапеі Яна Радвана *“Radivilias sive De vita et rebus praeclarissime gestis, immortalis memoriae, illustrissimi principis Nicolai Radivili”* (“Радзівіліяда, або Пра жыццё і подзвігі бессмяротнай памяці, учыненыя з найвялікшай славай, найсвятлейшага князя Мікалая Радзівіла”), якая ўбачыла свет у складзе кнігі, выпушчанай віленскай друкарняй Яна Карцана ў 1592 г. Яшчэ ў экспазіцыі паэмы, у межах традыцыйнай інвакацыі (звароту да Муз), аўтар фармулюе сваю просьбу аб дапамозе ў справе ўзвелічэння подзвігаў гетмана Мікалая Радзівіла Рудога наступным чынам:

О Каліопа з Эратай, да нас павярніцеся тварам,
Слаўце шматгучна цяпер ваяводы літоўскага подзвіг,
Ззяе ён славай да неба: герой той і ў міры, і з Марсам
Дбаў пра айчыну сваю; прыгадайце яшчэ навальніцу,
Што праз шматводную Улу па землях Іванска ляцела
[Радзівіліяда I, 22–26][18].

[18] Тут і далей “Радзівіліяда” Яна Радвана цытуецца ў нашым паэтычным перакладзе, які публікаваўся ў часопісе “Маладосць”

Згодна з традыцыямі эпічнай паэзіі, галоўнай задачай Яна Радвана было не столькі апісаць саму бітву, колькі ўславіць галоўнага пераможцу ў ёй, натхняльніка войска, які ў межах эпічнага аповеду становіцца дасканалымі героем (*heros perfectus*), паводле Сарбеўскага. Калі ў Іагана Мюліуса гэта Грыгорый Хадкевіч, то ў Яна Радвана – Мікалай Радзівіл.

Гетман войскаў Вялікага Княства Літоўскага выступае яскравым антыподам маскоўскаму валадару Івану Жахліваму. Калі ў першай кнізе "Радзіваліяды" распавядаецца пра гады вучобы Мікалая Радзівіла (прычым роля духоўнага натхняльніка прыпісваецца антычнаму песняру Мусэю), то другая кніга паэмы адкрываецца разгорнутай прэзентацыяй Івана IV. Паэт не шкадуе пеяратыўных эпітэтаў і метафар для характарыстыкі маскоўскага цара, які паказаны жорсткім разбуральнікам і забойцам не толькі для суседніх народаў, але і ў адносінах да сваіх уласных падданых. На думку Яна Радвана, Іван Жахлівы пераўзышоў жорсткасцю душы ўсіх тыранаў былых часоў. Паэт з жахлівым натуралізмам выяўляе разнастайныя спосабы катавання, да якіх звяртаўся маскоўскі цар, бясконцыя бедствы, якія ён прыносіў як свайму, так і суседнім народам:

Што я магу прыгадаць? Нечуваныя зверствы тырана?
Як мардаваў грамадзян і саноўнікаў першых сената?
Мноства распусных піроў, гранне трубаў,
крывавыя стравы?
Што ж?.. Гарады без людзей, без аратага плодныя нівы,
Край неаглядны, які апусцеў ад бясконцых забойстваў?
Трупы на брамах сядзіб? Ён, шалёны,
на звязаных бэльках
Мёртвых, забітых людзей пры ўваходах развешваў…
Дык гэтай
Дзікай задумай сваёй ён тыранаў усіх пераплюнуў
[Радзівіліяда II, 23–30].

(2011. № 1–12; 2012. № 1–9). У дужках пазначаецца нумар часткі паэмы і паэтычных радкоў паводле навуковага перавыдання паэмы, падрыхтаванага С. Нарбутасам. Гл.: Joannes Radvanus. Opera = Jonas Radvanas. Raštai / iš lotynų kalbos vertė Sigitas Narbutas. Vilnius : Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas, 2009.

Апошні фрагмент даволі дакладна суадносіцца з гісторыяй, пераказанай Мікалаем Кастамаравым у ягонай "Рускай гісторыі". Адзначыўшы той факт, што Іван Жахлівы выкрадаў прыгожых замужніх жанчын, забаўляўся з імі, а потым забіваў іх, гісторык прыводзіць прыклады: "Ходил в его время рассказ, что у одного дьяка <…> он таким образом отнял жену, потом вероятно, узнавши, что муж изъявлял за это свое неудовольствие, приказал повесить изнасилованную жену над порогом его дома и оставить труп в таком положении две недели; а у другого дьяка была повешена жена по царскому приказу над его обеденным столом"[19].

Наогул, трэба адзначыць, што Ян Радван вельмі добра абазнаны ў падзеях палітычнай гісторыі памежнага паміж Масковіяй і ВКЛ рэгіёна. Вядомы літоўскі літаратуразнавец Сігітас Нарбутас, аўтар некалькіх кніг, прысвечаных "Радзівіліядзе", перакладчык паэмы на літоўскую мову, выявіў цесную фактаграфічную еднасць "Радзівіліяды" і "Хронікі" Мацея Стрыйкоўскага[20]. Заўважым, дарэчы, што сам аўтар "Хронікі" яшчэ раней уславіў перамогу 1564 г. у вершах: яго пяру належыць паэма на польскай мове "Пра паразу 30 000 маскоўцаў… над ракой Улай" (рукапіс гэтага неапублікаванага твора захоўваецца ў Пушкінскім Доме[21]). І ў першую чаргу сюжэтная блізкасць "Хронікі" Стрыйкоўскага і "Радзівіліяды" Радвана выяўляецца ў апісанні Ульскай бітвы. Так, у гістарыяграфічных крыніцах пададзена даволі разнастайная інфармацыя пра тое, дзе ж менавіта адбылася сутычка паміж войскам Шуйскага і войскам Радзівіла ды Хадкевіча[22]. Напрыклад, згодна з "Гісторыяй" Карамзіна, Мікалай Радзівіл "близ Орши, в местах лесных, тесных,

[19] Костомаров Н. И. Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Кн. 1. Москва, 1990. С. 473.

[20] Narbutas S. Tradicija ir originalumas Jono Radvano „Radviliadoje". Vilnius, 1998. P. 27–54.

[21] Гл.: Кавалёў С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага… С. 162.

[22] Гл.: Янушкевіч А. М. Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1158–1570 гг. Мінск, 2007. С. 78–83.

напал на россиян”[23]. У сувязі з названай бітвай звычайна згадваюцца рака Ула або мястэчка Чашнікі, адкуль і паходзяць два вядомыя ў гістарыяграфіі варыянты назвы гэтай баталіі (Ульская або Чашніцкая бітва). Аднак толькі Мацей Стрыйкоўскі паведамляе наступнае: *“Położył się tedy obozem Srebrny dwie mili od Orszej nad rzeką Kropiwną, a Sojski na Czasznickich polach w sielisku Iwańskim Burkołabowim”*[24]. Назва *Іванск* сустракаецца ў “Радзівіліядзе” двойчы: Ян Радван яшчэ ў экспазіцыі паэмы прыгадвае пераможную славу, якая праляцела *“per Evanscia rura”* (“па землях Іванска”, Радзівіліяда І, 26), а ніжэй пры непасрэдным апісанні Ульскай бітвы адзначае: *“Hac pugnata tenus sub Evansci limite bella”* (“Да яе [г. зн. ночы. – *Ж. Н.-К.*] доўжылася бітва ў раёне Іванска”; Радзівіліяда ІІІ, 594). У гэтым месцы тэкст арыгінала суправаджае глоса: *“In campo Iuanscio nunc ingens aceruus ossium humanorum”* (“На землях Іванска і цяпер [можна знайсці] вялізную колькасць чалавечых касцей”).

Калі мастацкая прэзентацыя Івана Жахлівага адрозніваецца імкненнем да гіпертрафіраванай дээстэтызацыі, то іншыя маскоўскія дваране выяўляюцца ў “Радзівіліядзе” зусім інакш. Ян Радван нідзе не супрацьпастаўляе гетману Радзівілу ваяводу Пятра Шуйскага, хоць менавіта апошні (а не Іван Жахлівы) быў рэальным правадыром маскоўскага войска ў Чашніцкай бітве. Гаворачы пра тое, што Пётр Шуйскі *“illustri ferrugine clarus”* (“вылучаўся выдатным рудым колерам”) [Радзівіліяда ІІ, 787], Ян Радван, хутчэй за ўсё, мае на ўвазе колер валасоў. Гэта адначасова сродак і супастаўлення, і супрацьпастаўлення Шуйскага з галоўным героем паэмы – рудавалосым гетманам Мікалаем Радзівілам. Адносіны Яна Радвана да Пятра Шуйскага неадназначныя: паэт паважае яго за ваенныя заслугі, аднак з вялікай доляй іроніі апісвае яго-ныя ўцёкі пасля паразы ў Чашніцкай бітве; яркімі фарба-

[23] Карамзин Н. М. История государства Российского: в 3 кн. Кн. III. Т. IX. 5-е изд. С.-Петербург, 1843. С. 32.

[24] Stryjkowski M. Która przed tym nigdy światła nie widziała Kronika Polska, Litewska, Żmodzka i wszystkiej Rusi… Warszawa, 1846. T. II. S. 414.

мі малюе этыкетную ў літаратурных адносінах сцэну забойства ваяводы адным з полацкіх сялян-лесарубаў, але глыбока лірычна, з выкарыстаннем вобразнага арсенала паэзіі Авідзія, выяўляе ягоны адыход з жыцця.

Сігітас Нарбутас лічыць пацыфісцкі настрой вызначальнай рысай мастацкай спецыфікі "Радзівіліяды"[25]. Так, легендарны пясняр Мусэй, выхавацель маладога Мікалая Радзівіла, не забываецца пажадаць свайму вучню:

Пільна не пніся, не лезь на вяршыні напышлівай славы:
Міру больш прагна жадай, чым трыумфаў
любой перамогі
[Радзівіліяда I, 360–361].

У канцы першай кнігі паэт дэкларуе немагчымасць прыпадобніць свайго героя да ваенных правадыроў былых часоў, бо апошнія не здабывалі *"nullos de pace triumphos"* ("ніякіх перамог мірным шляхам"), а гетману Радзівілу гэта ўдалося: злітаваўшыся з ворага, ён пераканаў лівонцаў на чале з магістрам Вільгельмам Фюрстэнбергам падпарадкавацца ўладзе Жыгімонта II Аўгуста і такім чынам захаваць жыццё сабе і сваім блізкім. У гэтых эпізодах закладзена антытэтычнае супастаўленне гетмана Радзівіла з царом Іванам Васільевічам. Супрацьлеглы бок гэтага супастаўлення (г. зн. неўтаймаваную прагу маскоўскага цара да ваеннай агрэсіі) паэт раскрывае ў другой кнізе. Ян Радван распавядае, што напярэдадні Чашніцкай бітвы ў душы Івана Жахлівага *"insania Martis inarsit"* ("разгарэлася шаленства Марса"; Радзівіліяда II, 744). Імкненне маскоўскага цара да вайны паэт выяўляе як сапраўднае вар'яцтва:

"Войнаў, – раве, – патрабую!" – аж крык па палацы
нясецца;
Спаць перастаў, ды адно ўсё забойствамі, бітвамі
трызніць,

[25] Narbutas S. Jonas Radvanas and his heroic epos Radivilias // Radvanas Jonas. Radviliada. Vilnius, 1997. P. LVI.

Зыркае дзіка вачыма, крывёю налітымі, гнеўна,
Аж задыхаецца сам, калі мусіць марудзіць з вайною
[Радзіваліяда II, 745–748].

Галоўнае злачынства Івана Жахлівага, вынік яго сувязі з інфернальнымі сіламі (фурыямі) – імкненне да бясконцых захопніцкіх войнаў. Паэт-гуманіст з жахам ацэньвае шматлікасць ваенных ахвяр як з аднаго, так і з другога боку. Ён шчыра аплаквае маскоўскіх ратнікаў, якія палеглі на чашніцкіх палях, – Іосіфа Фёдаравіча Быкоўскага, Давіда Скунтарава, братоў Івана і Сямёна Палецкіх, Мікіту Раманавіча Адоеўскага, Сілу і Мікіту Кунтаровічаў ды іншых. Напрыканцы гэтага скрушнага пераліку аўтар з жалем падсумоўвае:

Так загадалі багі. Вам бацькі не закрылі гаротна
Згаслых вачэй у вялікай тузе ды ў страшэннай жалобе;
Горкія слёзы з вачэй вашых дзетак не пырснуць
над вамі…
[Радзівіліяда III, 539–541].

У апісанні Чашніцкай бітвы дый іншых баталій Ян Радван імкнецца падкрэсліць неаднароднасць (а значыць, дрэнную арганізацыю) маскоўскага войска. Грамадзян суседняй дзяржавы аўтар “Радзівіліяды” не ўспрымае як адзіны народ: ідэнтыфікацыйны тэрмін *Moschi* (‘маскоўцы’) у паэме трэба ўспрымаць як палітонім. Ян Радван час ад часу прыгадвае назвы разнастайных плямёнаў (часцей за ўсё – мардву), прадстаўнікі якіх уваходзілі ў склад войска Івана Жахлівага. Абяцаючы каралю Жыгімонту II Аўгусту ўславіць ягонае імя шматлікімі перамогамі, Мікалай Радзівіл у сваёй прамове стварае своеасаблівы рэестр гэтых плямёнаў:

Вось на вачах у цябе ваяры пераможаных рацяў
Пройдуць даўжэзнай чаргой, непадобныя зброяй і мовай:
Племя казанцаў і пераяслаўцаў, пазбаўленых зброі,
Дужых разанцаў і мурамцаў, моцна пускаючых стрэлы;
З імі – растоўцы, свавольныя цверцы, сяверцы таксама,

Строй астраханскіх мужоў, што аж дыхаюць сілай;
з ускрайкаў
Людзі – яны ад Дзвіны да халоднага мора вандруюць, –
Словам, вялікіх народаў і іх ваяводаў шарэнгі!
[Радзіваліяда I, 507–514].

Варта адзначыць, што традыцыйны для гераічнага эпасу рэестр войскаў Ян Радван адмыслова арганізуе ў кампазіцыйным плане. Калі пералік войска ВКЛ паэт змяшчае ў апошняй, чацвёртай, кнізе "Радзіваліяды", то вышэй прыведзены рэестр маскоўскага войска – у першай кнізе. Хутчэй за ўсё, такім чынам аўтар на самым пачатку твора фармуе ў чытача ўяўленне пра маскоўцаў як разрознены, "рассеяны" народ. Успомнім, што адпаведнае этымалагічнае тлумачэнне назвы *Russia* (*Rosseja*) даецца ў трактаце Сігізмунда Герберштайна *"Rerum Moscovitarum commentarius"*: маскавіты, на думку аўстрыйскага дыпламата, *"asserentes Rossejam antiquitus appellatam, quasi gentem dispersam, seu disseminatam: id quod nomen ipsum indicat, Rosseja etenim, Rutenorum linguā, disseminatio, seu dispersio interpretatur"* («заяўляюць, што "Расея" – гэта старажытная назва, як бы "раскіданы" або "рассеяны" народ; гэта і ёсць тое, што азначае сама тая назва, бо слова "Расея" з мовы русінаў перакладаецца як "рассейванне" або "распырскванне"»)[26]. Аднак у Яна Радвана ўяўленне пра "рассеянасць" жыхароў Масковіі напоўнена палітычным сэнсам. Менавіта пра гэта пісаў і С. М. Салаўёў: "Во внешнем отношении земля была собрана, государство сплочено, но сознание о внутренней, нравственной связи человека с обществом было крайне слабо; в нравственном отношении и в начале XVII века русский человек продолжал жить особе, как физически жили отдельные роды в IX веке"[27].

У той самы час Ян Радван імкнецца падкрэсліць злучанасць войска Мікалая Радзівіла, аб'яднанага выса-

[26] Herberstein S. Rerum Moscoviticarum commentarii… Basileae, 1571. P. 5 n. n.

[27] Соловьев С. М. Сочинения: в 18 кн. Кн. IV. Т. 7–8. Москва, 1989. С. 378.

кароднай мэтай – вызваліць народы ад лютага тырана. Апісваючы шлях войска ВКЛ, якое мусіла прабірацца ляснымі сцяжынамі, паэт уводзіць міфалагічны план, які дапамагае сфармаваць уяўленне пра радаснае і светлае пачуццё, якое напаўняла душы ваяроў:

Німфы, багіні лясоў, пачынаюць збірацца імкліва.
Што за прывабнасць у іх! Бездарожжам бягуць Рубаніды
Проста праз самы гушчар і глядзяць
у вялікім здзіўленні. <…>
Сочаць цікаўныя панны, бо бачаць вялікае дзіва,
Прагна глядзяць на чужынцаў, узрушаных радасна.
Толькі
Самым прывабным здаваўся дрыядам ды ўсім арыядам
Мужны ваяр Радзівіл, быццам ён быў у свеце адзіны
[Радзівіліяда III, 211–217].

У ноч перад бітвай правадыр войска атрымлівае добрае прадвесце. У сне да яго з’яўляецца Вітаўт Кейстутавіч. Вялікі князь прадказвае прыход новага караля (Стэфана Баторыя), які пашырыць межы дзяржавы “ад Балтыкі аж да Эўксінскага Понта”, а таксама ў пазітыўным рэчышчы абмалёўвае найбліжэйшыя перспектывы:

Заўтрашні дзень мае ўбачыць на полі пагібель
маскоўцаў.
О як жа будуць тады спачываць мае косці прыемна!
Подзвігі вашы цяпер маю славу былую адродзяць,
Душы герояў пацешаць і продкаў хвалу узвялічаць
[Радзівіліяда III, 295–298].

Як Ягайла ў “Прускай вайне” (1516) Яна Вісліцкага, так і Мікалай Радзівіл у “Радзівіліядзе” – Боскі абраннік. Перад самым пачаткам Ульскай бітвы ён атрымлівае шчаслівы знак: калі прывялі схопленага шпіёна маскоўцаў, конь гетмана схапіў яго зубамі за валасы і, заіржаўшы, падкінуў у паветра, быццам мяч [Радзівіліяда III, 223–231]. Гучны заклік правадыра ўздымае войска на бітву:

Вось жа ён вораг, смялей! Зараз, зараз той час, да якога
Гэтак імкнуліся вы ды прасілі ў малітвах; дык Марса
Слаўце правіцай, не вуснамі! Гэй, памагай, сіла продкаў!
Мілую ўспомнім Айчыну, сыноў і пяшчотную жонку!
Вось поле нашае славы, адно тут патрэбна – адвага!
[Радзіваліяда III, 326–330].

Рэакцыя ратнікаў на гэты заклік апісана, бясспрэчна, рукою таленавітага вучня Вергілія:

Гэтак сказаў Радзівіл. Вось сугучным ды радасным спевам
Трубы гучаць пачалі, да нябёсаў панеслася гранне,
Тут жа крылатае войска ўзнялося імкліва на бітву
[Радзіваліяда III, 331–333].

Такім чынам, многія аўтары лацінамоўных ліра-эпічных твораў XVI ст. паказвалі перамогу пад Улай знакавай і доўгачаканай падзеяй, якая абвергла ўяўленне пра непераможнасць войска маскоўскага тырана Івана Жахлівага і дазволіла па-новаму ацаніць перспектывы цэлай ваеннай кампаніі. Падобныя ацэнкі паэтаў-эпікаў сугучныя з меркаваннямі сучасных гісторыкаў. Так, на думку Г. Сагановіча, “перамога над Улаю сарвала буйную наступальную аперацыю цара, і пасля яе ваенныя дзеянні набылі ў асноўным лакальны характар”[28].

Прапаную чытачам “Беларускага Гістарычнага Агляду” ліст Грыгорыя Хадкевіча да сыноў, змешчаны ў вышэй згаданым выданні Іагана Мюліуса, а таксама фрагмент з “Радзіваліяды” Яна Радвана з апісаннем Чашніцкай бітвы ў нашым перакладзе з лацінскай мовы.

[28] Сагановіч Г. Бітва на Уле // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 1. 2-е выд. Мінск: БелЭн, 2007. С. 335.

## Ліст
## яснавяльможнага Пана Грыгорыя Хадкевіча, кашталяна Віленскага і г. д. сынам Аляксандру і Андрэю, [якія знаходзяцца] пры каралеўскім двары, пра шчаслівую перамогу над маскоўцамі*

Найдаражэйшыя сыны! Хоць я ніколькі не сумняваюся, што з шырокага розгаласу вы, канечне, ужо даведаліся пра нашу перамогу над маскоўцамі, аднак, паколькі чутка, бывае, часам крыху адыходзіць ад праўды, я ахвотна выканаю вашы пажаданні і коратка распавяду вам больш дакладна пра гэтую бітву, бо на вас, думаем мы, у першую чаргу распаўсюджваецца слава бацькоўскага імя. У Масковію, як вы ведаеце, былі выпраўлены паслы ад Яго Каралеўскай Вялікасці: мой брат Георгій Хадкевіч, а таксама Георгій Валовіч, каб лагодна пераканаць вялікага князя ў неабходнасці вяртання Полацкай крэпасці, якую ў мінулым годзе ён падманным шляхам, праз хітрыкі, захапіў. Яшчэ тыя паслы хацелі дамовіцца наконт заключэння міру, каб не пралівалася больш надарма хрысціянская кроў. Маскоўскі ж князь аж да таго часу іх у сябе затрымліваў, пакуль не сабраў вялікае войска, ды нарэшце, не завяршыўшы справу, загадаў вяртацца дадому, і адразу ж выправіў супраць ліцвінаў 60 000 войска пад камандаваннем Пятра і Васілія Сярэбраных, ды яшчэ ім на дапамогу выступіў татарын Каібул з моцнай конніцай. З гэтай арміяй хацела аб'яднацца 25-тысячнае войска, якое засталося ў Полацку для аховы, а камандаваў ім Пётр Шуйскі ды іншыя маскоўскія князі. З гэтай мэтай яны павінны былі сабрацца ў мястэчку Баран[ь], каб усім разам уварвацца ў Літву ды на шырокіх абшарах спустошыць агнём і мячом Барысаў, Мінск, Наваградак ды іншыя мясцовасці, каб нарэшце, узбагаціўшыся крадзяжом, вярнуцца ў Старадуб. І вось, калі ад

* Mylius I. Divina gratia imperante Sigismundo Augusto Polonorum rege potentissimo, Magno Lithuaniae Duce etc. Victoria de Moschis reportata a Magnifico Domino Gregorio Chodcieuitio Castellano Vilnensi, Capitaneo Grodnensi, stipendiarii militis supremo gubernatore. <…> Authore Ioanne Mylio Libenrodensi. Viennae Austriae ex officinal Michaelis Zimmermani, 1564. [24] p.

разведчыкаў і паслоў стала вядома пра іх прыход, польская конніца вырашыла чакаць у Мінску. Я ж з наёмным войскам яшчэ далей вырушыў супраць ворага; на невялікай адлегласці ад мяне размясціўся ваявода Троцкі, гетман цэлай арміі, з літоўскімі войскамі. Між тым ад варожых разведчыкаў стала вядома, што войска, якое выступіла з Полацкай крэпасці, ужо стаіць паблізу. Для нападзення на яго я рушыў у той жа момант з маімі атрадамі 26 студзеня.

Паколькі дарога праз лес была больш вузкай, я паступова выправіў вершнікаў у мястэчка, і мы не мелі ў дарозе ніякіх благіх прыгодаў. Здавалася, што масковец паўсюдна перагарадзіў шляхі, заняў лепшыя месцы для бітвы, нахабна здзекаваўся з нашых вайскоўцаў ды з усіх бакоў расставіў конніцу і ў гэтым сэнсе меў перавагу. Вось так дзякуючы вялікім намаганням камандзіра конніцы Баркулаба Корсака спачатку 200 вершнікаў занялі месца ў полі, а следам за імі з такой жа колькасцю вершнікаў шчасліва прыйшоў Грыгорый Бака. Дзеля іх падтрымкі я тут жа выправіў князя Багдана Саламярэцкага з 250 вершнікамі, а таксама Мікалая Сапегу, ваяводзіча навагрaдскага, які ўзначальваў 300 вершнікаў. Нарэшце і я сам з астатняй дружынай і з некаторымі прыдворнымі Яго Каралеўскай Вялікасці выйшаў у поле ды крыху адкінуў маскоўцаў, што паўсюдна стаялі насупраць, учыніўшы напад з больш моцнай конніцай. Такім чынам, выставіўшы войска ў баявым парадку, я заўважыў, што колькасць ворагаў надзвычай вялікая, і хацеў, каб супраць іх з астатнімі сіламі выступіў таксама гетман цэлага войска Мікалай Радзівіл, ваявода Троцкі, які меў з сабою вялікую літоўскую раць. Аднак калі я зразумеў, што ён не зможа так хутка прыбыць да нас з-за вялікай колькасці перашкод у лесе, то адпаведна з часам звярнуўся з кароткім словам да войска, узрушыў усіх і павёў у бітву. Неўзабаве быў зроблены рашучы напад на ворага. Паколькі гарматы пры гэтым зусім на ўжываліся, вайскоўцы пайшлі ў атаку з дзідамі і мячамі. І ворагі не змаглі доўга даваць адпор націску літоўскага войска: атрымаўшы вялікую паразу, яны павярнуліся і кінуліся наўцёкі. Тады нашы вайскоўцы пачалі нападаць яшчэ больш актыўна, ціснулі ворага з тылу, паўсюдна сцінaлі ўцекачоў, тых, што засталіся, пераследавалі нават у цемрадзі ночы, так што і гукі трубы

не маглі іх прымусіць вярнуцца назад у лагер. Такім чынам, з Божай дапамогай разбілі мы маскоўскае войска; не больш за 500 ваяроў уратаваліся ўцёкамі ў Полацк з ліку гэтулькіх тысяч. На наступны дзень быў учынены трыумфальны марш на дзве мілі. Шмат было разнастайных трафеяў, якімі ўзбагаціліся ваяры. Сярод целаў забітых былі знойдзены Пётр Шуйскі, Аляксандр Правазоўскі, Давід Гундароўскі, Тэадор Палезій, знатныя маскоўскія вяльможы. Жывымі трапілі да нас у палон Захарыя Пляшчэўскі, Іван Азлябіна, Мікіта Адоеўскі – прадстаўнікі баярскіх фамілій. Разам з іншымі быў захоплены і Сямён Палецкі, аднак, паколькі ў сутычцы ён атрымаў вельмі моцную рану, то не мог доўга заставацца жывым. Вось такім чынам цяпер вы маеце апісанне бітвы настолькі сціслае, наколькі гэта магчыма.

А тое, што датычыць другой часткі маскоўскага войска, якое рушыла пад камандаваннем Сярэбранага на Оршу, то, як вы ведаеце, супраць іх я быў выправіў Пана Філона Кміту, майго зяця, з 3000 конніцы, каб ён, хоць і не роўны вайсковай сілай, перашкодзіў ім, аднак, у дарозе. Здабыўшы перамогу, я тут жа выправіў да яго пасланца з лістамі. Прызначэнне гэтых лістоў было ў тым, каб з іх дапамогай вораг цвёрда пераканаўся ў нашым далейшым наступленні. Прачытаўшы гэтыя лісты, Кміта адправіў іх адтуль далей, астатнім аднавайскоўцам. Калі вораг, перахапіўшы пасланца, даведаўся пра паразу маскоўскага войска, то, забыўшыся нават на абозы, яны кінуліся наўцёкі. Але паколькі Дняпро яшчэ не быў скаваны моцным ільдом, большая частка варожага войска загінула, патануўшы ў рацэ. Такім чынам, хаця мы не змаглі схапіць іх усіх з прычыны імклівасці іх уцёкаў, аднак ворагі былі настолькі моцна ўражаны паведамленнем аб паразе, што здавалася, быццам бы яны цалкам пераможаны. У гэтай сітуацыі дапамагла нам ва ўсіх адносінах шчодрая ласка Божая, падараваўшы даўно жаданую перамогу над вельмі жорсткім ворагам. За гэта належыць нам бясконца дзякаваць найвышэйшаму моцнаму Богу, да якога адзіную малітву ўзношу: каб калі-небудзь прынёс Ён і вам, найдаражэйшыя сыны, падобную перамогу ды каб, крочачы слядамі бацькоўскай славы, мелі вы ад Яго шчодрую падтрымку. Напісана ў Заблудаве, нашым маёнтку, у 1564 г.

# Ян Радван
## Радзіviліяда

(фрагмент з трэцяй часткі паэмы)*

Вечар пагоркі пакрыў, ды адкладу для бітвы не будзе[1].
Мужны Зяновіч звярнуўся да тых, хто сабраў свой рыштунак:
“Гэй, хто са мною, сябры? Хто на ворага першы памчыцца?
Прагну цяпер, каб мяне гэтым першым у бітве лічылі!”
Рушыла войска крылатых; сышліся – і лівень жалезны
Хлынуў адразу, наўкол чуцен трэск – так ламаюцца дзіды.
Гэткім жа строем вялікім імкнуцца насустрач маскоўцы.
Тысячы грозных жаўнераў вядуць і наперад кіруюць[2]
Грозны Захарын[3], Іосіф Быкоўскі[4], падобны аблічам
Сам да айчынных дубоў і да соснаў, пакрыты жалезам;
Голаў вялізны яго пышным пер’ем аздоблены ладна;
Марса ўва ўсіх абуджае, вышэйшы за ўсіх, апантана
Скача праз войска віхураю, ажно за спінай лунае
Грыва яго валасоў ды аздобы цяжкія на шлеме.
Гэтак раз’ятрана ён налятае на войска ліцвінаў;
Букавай дзідай, аднак, працінае магутны Зяновіч
Волата цела, наскрозь пратыкае яго – і з крывёю
Ён ванітуе жыццём праз адтуліну чорнае раны;
Валіцца зверху, як сноп, лямантуе, з каня апаўзае, –
Рухнуў нарэшце ён, шырака рукі свае распасцёршы.
Так, Аквілонам эдонскім адолены, падае ніцма
Ясень стары, што калісь красаваўся на полацкіх землях.
Кажа з дакорам Ліцвін: “Што ж, ляжы й памірай: раз хацеў ты
З Марсам Літвы паспытаць, перамер яе лежачы зараз!”
Многіх паклаў там Ліцвін, пасяліўшы ў саюзніках сполах:
Чыняць натоўпы ды дзіды кідаюць, бягуць… Пачалася
Марсава сеча між тых, хто адзін на другога ўзняліся.
Бачаць цяпер ваяводы маскоўцаў: зусім нечакана,

* Radvanus I. Radivilias sive De vita et rebus praeclarissime gestis, immortalis memoriae, illustrissimi principis Nicolai Radivili <…> libri quattuor Ioannis Radvani Lit[uani] <…> Vilnae metropoli Lituanorum: Ex officina Ioannis Kartzani, [1592]. [168] p.

1 Глоса: “Бітва пачынаецца пад вечар”.

2 Глоса: “Правадыры маскоўцаў”.

3 Паводле “Хронікі” Мацея Стрыйкоўскага, Іван Захарын.

4 Стрыйкоўскі называе яго “Іосіф Фёдаравіч Быкаў” і піша пра яго так: “муж вялікага росту, паўтара вялікія сажні”.

Нават бяспечна Зяновіч вялікія страты ўчыняе;
Гуртам яго акружаюць тады, абступаюць натоўпам,
Збіліся ў кучу, як быццам калі талакою вялікай
Людзі выходзяць на льва, што на выганах быдла плюндруе,
Ён жа крывавую пашчу і дзікія вочы адводзіць, –
Гэткім жа чынам юнак быў прыціснуты зброяй жалезнай,
Мноства атак ён адбіў у няроўнай, бязлітаснай бітве,
Грознай навалай прымушаны, кідаўся ўлева і ўправа.
Раптам масковец, прыкмеціўшы месца для трапнага ўдару,
Спрытна падняўся з мячом, секануў – і чароды маскоўцаў
З крыкам пабеглі, аднак быў Зяновіч не ў сэрца працяты;
Гнеўна прамовіў герой: “З маёй раны, о вораг, не цешся!”
Сам вокамгненна ўздымаецца, меч свой узносіць – і раптам
Моцна шыбае ў чало апантанаму крыкам маскоўцу.
Тут жа – пачварны мардвін, велізарны, магутны і дужы –
Люты Іван Шарамет, – гэткім імем ад продкаў празваўся,
Марсавай славай сваёй ён узняўся надзвычай высока;
Побач – і Леў[5] непахісны: ён часта змагаўся адважна
З дзікім ардынцам, – і вось смерць у вочы яму зазірае;
Трэба й Палецкіх назваць, і Давіда, нашчадка Скунтора:
Рухалі разам яны лёгкаўзброеных войскаў шарэнгі.
Што ж атрымалася? Глянь: яны разам з вялікаю сілай
Выйшлі на бітву, аднак іх бацькі не на шчасце прыдбалі.
Тыя здалёк забіваюць, а гэтыя б’юцца абеpуч;
Войскі змяшаліся разам, і коні ляцяць грудзі ў грудзі,
Поўныя сполаху. Муж усутыч насядае на мужа.
Гэткі вялізны натоўп закіпае гарачаю бітвай,
Быццам калі ўсе вятры ў пераменных кірунках шчыруюць,
Быццам ад гневу Вултурна[6] дубы векавечныя стогнуць,
Быццам густыя лясы пад парывамі ветру скрыгочуць.
Вось Шарамет нешчаслівы прыпаў да зямлі сваім тварам.
Тут паміраючы, ён пра Аку сваю родную ўспомніў.
Моцныя рукі яго не пацешацца болей ніколі
Дзюбаю вострай стралы чараміскай з айчынных сядзібаў:
Воіна палкага раптам спакойная куля спаткала.
Выпусціў хтосьці яе – а не спыняць браня, ні даспехі,
Шчыт не расплюшчыць; яна застанецца ў канаючым целе.

[5] У “Хроніцы” Мацея Стрыйкоўскага сярод маскоўскіх ваяводаў узгадваецца Якаў Леў.

[6] Вултурн – паўднёва-ўсходні вецер у антычнай міфалогіі.

Выйшлі ў атаку браты – два Хадкевічы, войнаў маланкі,
З імі Сангушка, адметны ў вайне, вельмі спраўны, каб хутка
Ворага знішчыць; пры іх – самых лепшых ліцвінаў кагорта.
Грукат узняўся, і вось прыступаюць да Марсавай бітвы
Новыя сілы, як быццам ніколі раней між народаў
Войнаў ліхіх не было і ніякіх нападнікаў звонку.
Чорныя войны жадаюць крыві, ды прыгожая мэта
Сэрца мацуе ў грудзях і падвойвае ратныя сілы.
Вось перад войскам ліцвінаў выводзіць вялізныя раці
Колічаў[7]: пырснуў свінцом па радах Радзівілава войска;
Зноў аднаўляе вайну, палымяны й раз'ятраны; зманна
Злая Фартуна цяпер несупынна спрыяе няшчасцю.
Хтосьці шчыруе мячом, проста косіць супернікаў, хтосьці
Чорныя кулькі свінца выпускае з пачварнай хелідры[8];
Іншыя маюць калчан, што пры боку цяжа́рам звісае:
Хмары бязлітасных стрэл зацямняюць высокае неба.
Колічаў носіцца скрозь на ліхім скакуне: выдыхае
Конь з растапыраных ноздраў падрэзаных полымя гневу[9];
Фыркае гучна, іржэ, уздымаючы голаў высока.
Мужны юнача, каму ж першы ўдар меч твой востры прызначыў?
Прагнучы подзвігаў ратных, ты горача ў бітву імкнешся…
Рушыў адважны Сангушка ў аздобе юначага веку,
Сіла магутнага войска яго адусюль атачае.
Болей не можа чакаць – насупор, велізарны, нясецца,
Кажучы: "Мноствам варожых трафеяў ці смерцю гвалтоўнай
Сёння магу ўзбагаціцца". Акінуўшы вокам адлегласць,
Выпусціў вёрткі снарад: ён праз пушчу імкліва пранёсся
З жудасным гукам – ажно дуб магутны разбіўся дашчэнту.
З целам варожым, аднак, ён нямала не судакрануўся.
    Храбры Сангушка тады з похваў меч без затрымкі вымае:
Востры, бліскучасты, праз шлем ён паўкруглым ударам праходзіць,
Чэрап рассёкшы, і вось – у адтуліне мозг паказаўся…
Стаў над забітым Сангушка і, мёртвае цела штурхнуўшы,

[7] Глоса: "Масковец Колічаў". Даніла Колічаў узгадваецца ў "Хроніцы" М. Стрыйкоўскага.

[8] Хелідра – від вадзяной змяі; тут – метафарычнае пазначэнне агнястрэльнай зброі.

[9] Глоса: "Коні маскоўцаў з падрэзанымі ноздрамі".

Гэтак прамовіў тады: “О ліхія маскоўцы, вазьміце
Гора-ваяку свайго!.. Што за лёс ён абраў ад нябёсаў?
Птушак драпежных карміць? Але ж цела прызначана глебе.
Гэтай правіцай яго аддаю для дастойных пагрэбаў”.
Потым ён валіць мячом і Сямёна, Васільева сына[10],
Фёдара-князя, ліхога Барыса, а з ім – Цімафея[11].

Раптам заўважыў: наперад вядзе авангард Паразоўскі[12].
“Ёсць у маскоўца адвага? Тады пачынайма!” Сангушка
Вострым бліскучым мячом валіць ніцма магутнага мужа:
Вочы яго патухаюць у жальбе смяротнай; спадае,
Валіцца вобзем – і кроў чужаземнае золата меціць.
Сполахам поўняцца душы маскоўцаў, паўсюдна на полі
Людзі няўцямна бягуць, але смерці выява – навокал,
Ногі зусім не даюць спадзявання на нейкі ратунак…
Шуйскі[13] глядзіць: уцякаюць маскоўцы ад грозных ліцвінаў,
Зломлена войска… І вось, падбухторыўшы злобаю сэрца,
Крыкнуў сваім: “Вы куды? Што ж, адзін за адным наўздагонку
Будзем цяпер уцякаць? Пабяжым у Іванавы землі?
Прымем ганебную кару ад нашага грознага князя?
Стой, люд маскоўскі, куды? Да жыцця ці да смерці хвалебнай
Сёння імкнешся, – здабудзь іх належна на Марсавым полі!
Ногі – ратунак благі: пераследуе лёс незваротны
Тых, хто ўцякае, шчэ горш. Павярніце ж сцягі і харугвы!
Вораг нас цісне!..” І вось супынілася войска маскоўцаў,
Шчыльна становяцца ў шыхт, падзяляюцца хутка на роты, –
Так ля збаноў з малаком мітусяцца імклівыя мухі, –
Гэтак імгненна маскоўцы злучыліся ў новае войска.
Шэпча ім страх: “Уцякай”, але гонар высокі спыняе.
Бачыць герой Радзівіл: павярнулі назад маскавіты,
Нават малая затрымка каштуе цяпер перамогі.
“Вы, дзеці Марса, – усклікнуў, – напружыўшы сілы й пачуцці,
Скончыце справу цяпер: хай адорыць маскоўцаў паразай

[10] С. Нарбутас ідэнтыфікуе яго паводле гістарычных крыніц як князя Сямёна Якаўлева.

[11] На думку С. Нарбутаса, пад Фёдарам аўтар мог мець на ўвазе Фёдара Палецкага, пад Цімафеем – Цімафея Цяцерына-Пухава. Ваявода маскоўцаў пад імем Барыс не згадваецца ў гістарычных крыніцах.

[12] М. Стрыйкоўскі згадвае правадыра маскоўскага войска Аляксандра Паразоўскага.

[13] Глоса: “Шуйскі аднаўляе бітву”.

Тая зямля, да якой так імкнуўся напышлівы вораг!”
Так ён сказаў – і, падобна вірлівым, віхурыстым водам,
Воіны крочаць з кіямі агністымі, градам пуляюць,
Шчодра кідаюць насенне – шчыруй, землеробе, да ночы!
Гэткі быў гнеў у душы ды нязгода ў нябёсах. Крылаты,
Рынуўся сам Радзівіл на суперніка; грукат пачуўся:
Кожны ўздымае цяпер гартаваны свой меч харалужны.
Зараз да трэцяй атакі ён цэлае войска збірае.
Ратнікі гібелі смак спазнаюць праз пякучыя раны –
Гэта звычайныя рэчы, жахлівай вайны пачастункі.
Трупы старых, юнакоў поле бітвы змяшала. У цэнтры –
Марс, упрыгожаны меддзю, жалезам, – забойца,
Толькі й руйнуе адно, ды сябе пакрывае крывёю
Многіх забітых, яго калясніца ляціць апантана,
Пырскае ўгору крывёй, а Дыскордыя[14] колы кіруе
Проста па трупах палеглых, крываваю пугаю хвошча –
Ляскат ляціць ад яе – ды пуляе лятучым жалезам.
Землі навокал спустошыў тыран гаманкі[15], у якога
Коні пачварныя ёсць – называюцца Страхам і Жахам[16];
Мчацца на гукі вайны, ад крывавага поту іх целаў
Пара шыбае; яны з дзікім ржаннем да пана нясуцца
Тою дарогай, дзе шчыльна натоўп ваяроў напірае:
Страх цісне тых, хто баіцца, руйнуе іх душы няшчадна,
Жах падпільноўвае сэрцы, з’яўляецца жудасным монстрам
Чорнага сполаху, прыкрых уцёкаў ды боязі слізкай.
Побач – пачварныя Фурыі, люты Падман ды Падступнасць –
Войнаў любых спадарожнікі – смела ды ўпэўнена крочаць.
Вунь Ахеронта, глядзі, выхаванка ляціць, Тызіфона[17],
З бледным аблíччам, а з ёю на пару – сястрыца Белона[18];
Вось Лібітына[19] (яна не шкадуе нікога) і Морта[20] –

[14] Дыскордыя – лацінская назва грэчаскай багіні звады Эрыды.
[15] Тыран гаманкі... – тут: Марс.
[16] С. Нарбутас лічыць створаныя Янам Радванам вобразы коней Марса – Страха і Жаха – аўтарскім наследаваннем Вергілію. Менавіта ў яго паэме “Георгікі” прыгадваюцца коні Марса, хаця і без імёнаў. Тым часам у Гамера сустракаецца згадка пра спадарожнікаў Марса Страха і Жаха, а ў “Тэагоніі” Гесіёда яны ўпамінаюцца як сыны Арэса і Афрадыты.
[17] Тызіфона – адна з эрыній.
[18] Белона – старажытнарымская багіня вайны.
[19] Лібітына – старажытнарымская багіня пахавання.
[20] Па звестках С. Нарбутаса, упамінанне Морты як багіні лёсу сустракаецца ў Лівія Андраніка і Цэцылія, а таксама ў Аўла Гелія.

Проста сапе ад забойстваў… Ну вось вам замест прыгажосці,
Праўды ды звычаяў добрых – смуродных багіняў аблiччы,
Мноства ваенных ліхотаў замест дабрадатнага міру…
Зброя шыбае, мігціць… Хто адрозніць – дзе смерць, дзе забойства?..
Раптам з нябесных вышыняў Вікторыя ясна заззяла
Пер’ем сваім залатым, стаўшы птушкай чароўна-прывабнай[21],
Хутка нясецца на крылах, прыгожа лунае ў паветры,
Плаўна й няспешна ляціць, між зямлёю ды зоркамі кружыць,
Шлях выбірае адвольна: спярша да адных падлятае,
Потым імкнецца да іншых; як быццам дае перавагу –
Потым ізноў забірае, ды хіліцца ўбок… І не ўцяміш:
Хто ж з-пад крыла добры знак атрымае ад гэтай багіні?
Разам сыходзяцца войскі, фалангі сціскаюцца шчыльна,
Першых не бачаць апошнія, з цэнтра назад адступаюць.
Б’юцца – нага пры назе, меч на меч, з мужам муж – апантана.
Войска жахлівае медным дажджом засявае палеткі.
Вось і заключная Марсава бітва: якая адвага,
Сіла ў душы, дасканаласць у ратным майстэрстве! Рукою
Ратнікі раны наносяць, і чуецца лямант паўсюдна.
Целы мужоў напаўмёртвых, траскучымі ўдарамі сцятых,
Горкім стагнаннем сваім пра пагібель ліхотную сведчаць.
Вось памірае Іосіф, сын Фёдара[22], слаўны масковец;
Скунтараў люты, Давід, разам падае скрушна да долу:
Страшны з аблічча, з вялізнай дубінай ды выгнутай дзідай,
Смела ён біўся, ды ў цэнтры, – аж куля натрапіла раптам,
Нават не свіснуўшы, гэтак знянацку, каб ён і не ўцяміў, –
Тут жа пранікла праз грудзі, спыніўшы адважнае сэрца.
Гэтак, Палецкія, й вы лежыцё на літоўскіх прасторах,
Мужны Іван разам з братам Сямёнам, падобныя з твару.
Лёс вас адрозніў гаротна: сармацкім мячом, о Сямёне,
Быў ты забіты, аднак галава твая з правага боку
Скрушна на шыі павісла; твая ж галава, о Іване,
Смерць напаткаўшы сваю, тваё цела гаротна згубіла…
Бачылі пушчы наўкола, як ты паміраў, о Мікіта,

[21] Глоса: “Старажытныя паэты справядліва назвалі Вікторыю народжанай у небе”.

[22] Іосіф Фёдаравіч Быкоўскі (або Быкаў) ужо прыгадваўся аўтарам вышэй (гл. Радзівіліяда III, 342).

Слаўны нашчадак Рамана[23]: здабыўшы смяротную кулю,
Падаеш сам на зямлю непрытомна, шаноўны баярын.
Стаўся цяпер ты здабычаю птушак, няшчасны Мікіта…
Ты, Селівон, да пачварных забойстваў прывычны, нязможны,
Ты, о Казьма, між маскоўцамі волат, магутнай правіцай
Вырваць у смерці душу не змаглі – ані вы, ані Дзмітрый[24]:
Моцным шырокім ударам адцята, яго галава спачывае…
Вас, Кунтаровы нашчадкі, Мікіта і Сіла магутны[25],
Слаўныя ў бітвах абодва, выключныя ў справах ваенных,
Скіфскія стрэлы не сцялі, цяпер жа ў Літве прычакалі
Вашыя целы сканчэння вайны – але й жыццяў сканчэння.
(Так загадалі багі.) Вам бацькі не закрылі гаротна
Згаслых вачэй у вялікай тузе ды ў страшэннай жалобе;
Горкія слёзы з вачэй вашых дзетак не пырснуць над вамі...
Хто б толькі выказаў словам бязлітаснасць дзікага Марса,
Хто б да чаго прыпадобніў раз’ятранасць жорсткай Белоны?
Марсавы коні тады на ахопленых страхам маскоўцаў
Фыркалі грозна, і Шуйскі быў першы, хто ў страху сумеўся:
Кінуўшы войска сваё, ён пусціўся, як сарна, наўцёкі[26].
Месяц празрысты святло выпускае спаміж вершалінаў,
Золатам конскае грывы гуляючы ў прыцемнай пушчы.
Ноч зацямняе, аднак, наваколле цяністай завесай:
Саван яна распасцёрла ахопленым страхам маскоўцам.
Тысячны раз прыгажуня-Селена ў лівійскія хвалі
Зноў апускаецца, прагнучы ўбачыць далёкія ўскрайкі;
Толькі ізноў надарма набывае карычневы колер,
Хочучы бегчы насустрач прывабнаму досвітку-брату,
Каб спачуваць разам з ім невымоўнаму гору людскому.
Німфы журботна бягуць, паўзвярыныя Паны імкнуцца,
Кроячы цемру лясную (глядзі, той, хто сэрцам відушчы!),
Потым далей пранікаюць пад покрывы шатаў зялёных.
Рэшткі маскоўскіх атрадаў, што хутка ад смерці марнелі,
Здацца жадалі ў палон, калі б лёс ім дазволіў такое.
Войска ліцвінаў цяпер праслед несупынна чыніла,
Групкі разрозненых ворагаў ціснула зброяй жалезнай.
З войскам адборным сваім Радзівіл, ваявода вялікі,

[23] Маецца на ўвазе Мікіта Раманавіч Адоеўскі.
[24] Імёны з гэтага фрагмента цяжка паддаюцца ідэнтыфікацыі.
[25] Мацей Стрыйкоўскі прыгадвае маскоўскіх князёў Сілу і Мікіту Кунтаровічаў.
[26] Глоса: “Следам за князем-аленем уцякаюць зайцы ў шлемах”.

Чыніць на полі жніво, хоць пры вельмі слабым асвятленні[27]:
Быццам бы жнец на раллі каласы, так сцінае жалезам
Целы хлапцоў-маскавітаў, прасекаю шлях сабе торыць.

<...>

Аж да начы пад Іванскам кіпела гарачая бітва.
Нават цяпер навакольныя землі крывёю ільсняцца,
Часам з-пад плуга аратая пырскаюць косці людскія –
Памятка даўніх падзей, падзіўлення вялікага вартых[28].
Шуйскі тым часам у пушчы густой і дрымучай хаваўся,
Блытаў сляды, уцякаў ад мячоў пераследнікаў спрытных,
Крочыў аблудна, праз стрэлы й клінкі прабіваўся, ды лёсам
Быў ён прызначаны стацца бясслаўнай ахвярай халопа.
Крочыў густым сасняком – чалавек туды рэдка заходзіў.
Церні, высокія дрэвы кругом разрасліся, і цяжка
Вызначыць нават дарогу між дзікіх сцяжынак: калісьці
Беднай сядзібы ўладар церабіў яе тут для патрэбы.
Шуйскі схаваўся сюды, прабіраўся маўкліваю пушчай,
Трэску галінкі любой ды павеву вятрыска баяўся.
Раптам пачуў недалёка людзей галасы, схамянуўся:
Падаў сякерамі ссечаны дуб велізарны дадолу.
Тут, асмялеўшы, звярнуўся і Шуйскі да тых лесарубаў:
“Добрыя людзі, прашу, пакажыце мне ў Полацк дарогу,
Шкоды жыццю не чыніце, бо ма́ю я грошай багата,
Срэбра ды золата ўдосталь, дык вам за жыццё заплачу я,
Толькі дазвольце бяспечна вярнуцца ў айчынныя землі,
Вам я жадаю ўраджаяў багатых ды шчодрых палеткаў;
З рога багацця няхай садавіна з гароднінай льюцца!”
Гэтак сказаў ён, аднак жа прамова не мела эфекту.
Хтосьці, зусім не звяртаючы ўвагі не гэтыя словы,
Зброю занёс абасечную, стаўшы на дыбачкі, кінуў,
Трапіўшы проста ў магутнае цела прамоўцы, каторы
Баяў прыгожа, ды й шчэ абяцанкамі сыпаў так шчодра[29].
“Бач ты, табе, ліхадзею, прычыне няшчасцяў, – вярнуцца
Зноў у Айчыну? А ты ж папаліў нам бацькоўскія хаты!
Колькі разоў паліваў ты крывёю літоўскія землі!

[27] Глоса: “Трыццаць тысяч маскоўцаў былі забітыя пяццю тысячамі ліцвінаў”.

[28] Глоса: “У полі пад Іванскам і цяпер [можна знайсці] вялікую колькасць чалавечых касцей”. Мацей Стрыйкоўскі называе гэтую мясцовасць “Іванскае Баркулабава”.

[29] Глоса: “Селянін забівае Шуйскага сякерай”.

Не, даражэнькі, пакінь сваім дзецям крывавыя грошы,
Зараз жа смерцю сваёй адплаці нам за ўсе папялішчы!"
Тут і другія сяляне наносяць удары, і Шуйскі
Падае; свежая кроў палілася… Вось гэтак
Большая сіла звычайна жахлівыя вынікі мае:
Гэта ліхая традыцыя, вопыт гаротны і стратны…
Гасне агонь у лампадах заўжды пры нястачы алею –
Шуйскі згасаў гэтаксама з аблічча ў смяротным зыходзе.
Бледна-мярцвяныя цені кладуцца на твар, і нарэшце
Вечны і жудасны змрок пакрывае рухавыя вочы.
З гонарам ды з пасмяротнай пашанай занеслі ліцвіны
Цела ў свой горад. Вось лёс: у Масковіі ён нарадзіўся,
Чашніцкі край захапіў, але ў Вільні спачыў назаўсёды[30].
Лютую жорсткасць тым часам паўсюль дэманструюць маскоўцы,
Сілай вялізнаю войска пустошаць прыгожыя землі,
Полацкай арміі Шуйскага рэшткі злучаюцца з імі,
Зноў да нападу гатовыя, зноў павярнулі харугвы
Проста ў краіну ліцвінаў, да крэпасцяў гожае Вільні[31].
    Хто ж адвядзе гэты жах ад літоўскай краіны, о Музы,
Гэткі шалёны агонь хто адгоніць ад замкаў высокіх?
Толькі адзіны герой – Радзівіл, вынаходлівы й спрытны,
Ён выпраўляе адважнага хлопца ў кірунку, дзе вораг
З войскам стаяў, каб нібыта паведаміць добрую вестку
(Гэта прыдумаў Філон), і, захоплены ворагам, хлопец
Гэтак усё распавёў: ён паразу маскоўцаў пацвердзіў,
Сілу ліцвінаў падкрэсліў, сказаў, што загінула войска[32].
Толькі дайшла тая чутка да слыху ахопленых страхам
Бледных маскоўцаў, што, бач, адбылася такая параза, –
Тут жа даюць лататы, уцякаюць куды толькі могуць:
Гэтак імклівa алень па пагорках спічастых імчыцца,
Чуючы рыканне льва, дзе Гірканскія стромкія горы;
Гэтак бягуць маскавіты: ні слава, ні гонар, ні нават
Страх перад лютым тыранам – ніштo іх цяпер не спыняе.
Гэта бязглуздасць, аднак, каб нагам давяраць паратунак.

[30] Глоса: "Шуйскі пахаваны ў праваслаўнай царкве Блаславёнай Марыі ў Вільні".

[31] Глоса: "Другое войска маскоўцаў пад Оршай".

[32] Загінула войска… – маецца на ўвазе армія Шуйкага. Глоса: "Ваенная хітрасць Радзівіла, праз якую войска Сярэбранага кінулася наўцёкі".

Вось Радзівіл згодна з планам тады ў непрыяцельскі лагер
Выслаў цябе, о Філон, з роду Кмітаў заможных, і разам
Госціка, спраўных дваіх у нападах ды марсавых войнах[33].
Б'юць не шкадуючы; частка маскоўцаў узбочныя сцежкі,
Добра знаёмыя ім, тэрмінова шукаюць, другія
Бераг рачны Барысфена запоўнілі: гэтыя воды
Сталіся водамі Леты, бо, вадкую смерць напаткаўшы,
Трапілі раптам маскоўцы ў блакітныя гроты Нептуна.
Хвалі вірлівым кружляннем ды пенай вады паглынулі
Вусны з апошняй мальбою. Зацягвае вірам пурпурным
Коней і разам мужоў – без належных пагрэбаў, без плачу.
Самі ліцвіны цяпер забіраюць багата здабычы,
Лепшы ж трафей – перамога: яна даражэй за багацці[34].
Будзь жа вітана, вялікая Маці, краіна ліцвінаў!
Мноствам трафеяў цябе пераможаны люд надзяляе.
Церпіць паразу маскоўскае войска, пыхлівае княства.
Гэта ўчыніў Мікалай: калі выйшла армада маскоўцаў
З лютай вайной на Літву, ён павёў ім насуперак войска –
Меншае толькі ўдвая... Пакараў ён пурпурнай крывёю
Ворагаў мноства... Таму Барысфен стаўся сведкам ды Ула,
Шчэ й берагі: іх паўсюль невычэрпная кроў аздабляла.

[33] Глоса: “Філон Кміта з Георгіем Госцікам забіваюць уцекачоў-маскоўцаў”. Мацей Стрыйкоўскі распавядае ўсю гэтую гісторыю так: “Другое, большае, войска [маскоўцаў], 50 000 якога стаяла з Сярэбраным за дзве мілі ад Оршы, Філон Кміта, сённяшні ваявода смаленскі, стрывожыў з дапамогай такой авантуры: выправіў да Дуброўна [пасланцоў] з лістамі, паведамляючы пра нядаўна здабытую перамогу над маскоўцамі і пра забойства Шуйскага ў Іванску. Пры гэтым ён наўмысна загадаў тым пасланцам ехаць туды, дзе, як ён разумеў, іх мелі перахапіць маскоўскія вартавыя. Менавіта так і сталася: маскоўцы схапілі іх з гэтымі лістамі. Калі маскоўскі гетман Сярэбраны прачытаў іх, ён так напалохаўся, што, кінуўшы ўсе абозы, намёты і справы, супольна з цэлым войскам кінуўся наўцёкі, а Філон Кміта, стараста Аршанскі, з Юрыем Осцікам, ваяводам Мсціслаўскім, маючы не больш за дзве тысячы вершнікаў, гналіся за імі з крыкамі, б'ючы, секучы і хапаючы”.

[34] Глоса: “Вялізны і багаты лагер быў захоплены ліцвінамі”. У Мацея Стрыйкоўскага чытаем: “Потым, калі маскоўцы былі такім чынам разгромлены, нашы захапілі 25 тысяч вазоў трафеяў ды вельмі вялікую здабычу: мноства шатаў, разнастайных убораў і фуражу, апроч гэтага, везлі за войскам зброі і даспехаў на 6000 асоб. І такім чынам тыя два маскоўскія войскі, якія меліся злучыцца на друцкіх палях, а потым супольнай сілай штурмаваць Вільню, былі тады расцярушаны дзякуючы дзівоснай сіле Божай і гераізму ліцвінаў, а тое другое [войска] было нагалаву разгромлена, разбіта і пазбаўлена абозаў”.

# The 1564 Ula battle in the monuments of Latin literature of the Grand Duchy of Lithuania

**Žanna Niekraševič-Karotkaja**

The article envisages the 16th century Latin monuments devoted to the description of the Ula (Čašniki) Battle on January 26, 1564 and its political consequences. The first of these monuments – epinicium "The victory over the Muscovites… gained by God's grace…" (*Divina gratia… victoria de Moschis…*) appeared as early as in 1564. Its author was a German humanist Iohannes Mylius, who worked as a court teacher in the court of Hryhory Chadkievič. In the 60-ies, when Muscovite troops resumed onsets on the Ula castle, Petrus Royzius wrote a series of epigrams in which he stressed the need for unification of all the military forces for the liberation of Ula and other GDL towns. The Ula battle was mentioned in a number of other distinctive military events of the 16th century in the "Eulogy of seizure of Polack" (*Panegyricus in excidium Polocense*) by Basilius Hyacinthius (Padua, 1580). However, the most detailed presentation of this art event was carried out in a heroic epic by Ioannes Radvanus "Radzivilliada or about the life and exploits of Mikalaj Radzivil" (*Radivilias sive De vita et rebus… Nicolai Radivili*) (Vilnius, 1592). In general, many authors of Latin lyric-epic works of the 16th century represented the victory at Ula as a landmark and long-awaited event, which denied the myth of the invincibility of the army of Ivan the Terrible and allowed to re-evaluate the prospects of the Livonian War.

# Ці сапраўды такімі падступнымі былі езуіты?

**Марыя Каламайска-Саед**

У 2002 г. у Маскве выйшла грунтоўная, цікавая, напісаная з выкарыстаннем вельмі багатага матэрыялу манаграфія Інэсы Слюньковай, прысвечаная гісторыі манастырскай архітэктуры Беларусі[1]. Раздзел пра выдатныя збудаванні езуітаў, якія часта сустракаюцца на гэтых землях, распачынаецца не гісторыяй Ордэна і не пералікам рысаў, уласцівых яго архітэктурнай спадчыне, а доўгай (аж на пяць друкаваных старонак) вытрымкай з дакумента пад назвай "Проект о уничтожении Грекороссийского Вероисповедания в отторженных от России областях, представленный 1768го года Государственным чинам одним ксендзом езуитским", знойдзенага аўтаркай у фондах Расійскага галоўнага архіва старажытных актаў у Маскве, які яна яўна палічыла аўтэнтычным і, насуперак даце, прапісанай у загалоўку, аднесла да пачатку XVIII ст.[2]. Яго змест падаўся мне такім дзіўным і адначасова сенсацыйным, што я вырашыла выправіцца ў маскоўскі архіў, каб пазнаёміцца з арыгіналам[3]. Першыя мае сумненні выклі-

[1] Слюнькова И. Н. Монастыри восточной и западной традиций. Наследие архитектуры Беларуси. Москва, 2002.

[2] Тамсама. С. 302–307. Поўны тэкст гэтага ж дакумента разам з яго абмеркаваннем гл. у: Слюнькова И. Н. Проект уничтожения грекороссийского вероисповедания, представленный государственным чинам Речи Посполитой иезуитом С. Жебровским // Вестник церковной истории. Москва, 2007, № 3 (7). С. 186–195 [Далей цыт. як Слюнькова, 2007].

[3] РГАДА. Фонд "Общество любителей духовного просвещения". Сигн. 626-1-88. Л. 1–5.

калі ўжо ўнутраныя асаблівасці дакумента, укладзенага на рускай мове, а каліграфічны характар недвухсэнсоўна паказваў на другую палову XIX ст. (гл. ілюстрацыю).

Больш блізкае знаёмства з рукапісам дазволіла ідэнтыфікаваць яго як пераклад тэксту, вядомага як "Праект знішчэння праваслаўя" або таксама "знішчэння рускага народа" (беларусаў і ўкраінцаў), які неаднаразова – хоць і з вялікай адвольнасцю ў датаванні і вызначэнні аўтарства – закідаўся ў віну палякам у расійскіх публікацыях[4]. Датаванне яго вагаецца ад канца XVII ст. да 1788 г.; аўтарства ж прыпісвалася розным людзям – езуіту Яну Алаізію Кулешу, які нібыта прадставіў яго на варшаўскім Сейме 1717 г. (што было б для яго не так проста, паколькі ён памёр 13 студзеня 1706 г.)[5], нейкаму ксяндзу Кубалю або С. Жаброўскаму – быццам бы езуіту і віленскаму каноніку[6], што, зрэшты, нідзе не знаходзіць пацвярджэння. Нават калі заплюшчыць вочы на яўную неpraўдападобнасць прыналежнасці манаха да асяроддзя канонікаў Віленскага кафедральнага капітула, ніводнага Жаброўскага з імем, якое пачыналася б на *С*, няма ані сярод польскіх езуітаў (хоць з такім прозвішчам іх было адзінаццаць, у тым ліку восем – у XVIII ст.)[7], ані сярод членаў Віленскага капітула[8].

У расійскай гістарыяграфіі гэты варожы план згадваўся з пачатку XIX ст. Першым пра яго напісаў Мікалай Бантыш-Каменскі ў працы пра Берасцейскую унію і пераслед

4 Марозава С. Праект аб знішчэнні аб'яднанай Русі // Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі. Т. 5. Мінск, 1999. С. 560.

5 Гл. біяграму ў: Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy 1564–1995 / opr. Grzebień L. i in. Kraków, 1996. S. 343.

6 Слюнькова, 2007. С. 187. Тут таксама прыводзяцца звесткі з календара пра тое, што памянёны кс. Жаброўскі выступаў на сойме ў Гародні ў 1718 г.

7 Encyklopedia wiedzy o jezuitach… S. 799, 875.

8 Kurczewski J. Kościół zamkowy. T. 3. Wilno, 1918. Тут у пераказе актаў капітула згадваюцца два Жаброўскія: адзін без імя, памерлы ў 1703 г. (с. 271 і 283), другі Аляксандр, прэлат і афіцыял віленскі, памерлы 19 красавіка 1742 г. (с. 285, 290, 293 і 295–314).


Проэктъ (езуитскій)

Объ уничтоженіи Грекороссійскаго Вѣроисповѣданія въ отторженныхъ отъ Россіи областяхъ, представленный 1768го г., Государственнымъ чинамъ однимъ Ксендзомъ Iезуитскимъ.

Есьли цѣлость и безопасность Государства основывается на взаимной любви, а любовь болѣе всего поддерживается единствомъ вѣры; то мы Поляки, желая цѣлости и безопасности своему Государству, всевозможно должны стараться съ особеннымъ усиліемъ о единствѣ вѣры между подданными. Поелику же сіе единство въ краяхъ Русскихъ, какъ коренныхъ, такъ и къ Великому Княжеству Литовскому принадлежащихъ, кажется (особенно простому народу) наиболѣе разрушается разностію вѣры: то Государственные чины и каждый Полякъ въ особенности, желающій сохранить цѣлость и безопасность своего отечества, долженъ поставить себѣ въ обязанность, чтобъ Греческое вѣроисповѣданіе, Латинскому противное, всячески выводить, то презрѣніемъ, то преслѣдованіемъ, то притѣсненіемъ тѣхъ, которые держатся онаго, и другими, сколько то возможно, дѣйствительными средствами. Будучи Полякомъ, въ жилахъ коего течетъ кровь древнихъ Поляковъ Латинскаго Вѣроисповѣданія, и желая отъ всего сердца счастія моему Отечеству и вмѣстѣ большаго распространенія Римско-Католической вѣры, я съ своей стороны почитаю средства слѣдующія дѣйствительнѣйшими къ искорененію

**Першая старонка дакумента. РГАДА. Ф. 626-1-88. С. 1.**

праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, выкананай у 1795 г. па даручэнні графа Аляксея Мусіна-Пушкіна, оберпракурора Найсвяцейшага сінода, і надрукаванай у 1805 г.[9]. Поўная версія тэксту "Праекта" (на польскай мове) была апублікавана ў 1848 г. у зборніку дакументаў, выдадзеным Дзяржаўнай археаграфічнай камісіяй[10]. У каментары выдаўцоў не прыводзіцца сігнатура рукапісу, які паслужыў асновай публікацыі, адзначаецца толькі, што яго экзэмпляры зберагаюцца ў архівах Львоўскай мітраполіі – "Перамышльскай епархіі, Львоўскай стаўрапігіі і іншых тамтэйшых манастыроў"[11]. Скарочаны пераклад дакумента на рускую мову пад назвай "Проект касательно искоренения руского народа в польских владениях, представленный на экстраординарном сейме 1717 г.", што захоўваецца ў фондах бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, мае прыпіску, якая пярэчыць загалоўку і сцвярджае, што гэта копія арыгінала 1788 г. з архіва Перамышльскай лацінскай кафедры[12].

Не будзем прыводзіць іншых заблытаных версій наконт датавання і аўтарства арыгінала, а звернем увагу на сам змест дакумента. Паспрабуем таксама прыблізна вызначыць асяроддзе, абставіны і час з'яўлення гэтага твора, які варта прызнаць досыць груба злепленай ананімным аўтарам фальсіфікацыяй, які ён, абліваючыся атрутным потам, сфабрыкаваў у часы праўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Гэты аўтар, відаць, паходзіў з ніжэйшага праваслаўнага духавенства, хутчэй за ўсё, з тэрыторыі Украіны або, што нават больш

[9] Бантыш-Каменский Н. Н. Историческое известие о возникшей в Польше Унии: С показанием начала и важнейших, в продолжение оной чрез два века, приключений, паче же о бывшем от римлян и униятов на благочестивых тамошних жителей гонении. Москва, 1805. С. 412.

[10] Дополнения к актам историческим относящимся к России собраний в иностранных архивах и изданы Археографической Комиссиею. С.-Петербург, 1848. № LXXXI. С. 221–226.

[11] Тамсама. С. 226.

[12] Бібліятэка Нацыянальнай акадэміі навук Украіны. Ф. 2. № 5964. Л. 1–6. Гл.: Слюнькова, 2007. С. 186 (загаловак рукапісу), а таксама спасылку 3 (тэкст прыпіскі).

верагодна, з самой Расіі, паколькі пастаянна дэманструе сваё поўнае няведанне палітычных рэалій і грамадскіх стасункаў позняй Рэчы Паспалітай. Ён таксама міжволі выяўляе сваю недастатковую адукаванасць, ужываючы паняцці і звароты, якія не маглі з'явіцца ў тэксце, напісаным польскім езуітам – прычым ні ў 1768, ні тым больш у 1788 г., калі Ордэн ужо 15 гадоў як не існаваў.

Прадметам нашага аналізу будзе зберага괅ны ў РГАДА рукапіс (як сцвярджаецца, 1768 г.), дзе ўжо ў загалоўку можна натрапіць на два наступныя перлы: па-першае, праваслаўе называецца "грэка-расійскім веравызнаннем", тады як гэты тэрмін стаў ужывацца толькі з пачатку XIX ст., прычым толькі на землях колішняй Рэчы Паспалітай; па-другое, усходнія ваяводствы Рэчы Паспалітай называюцца "адарванымі ад Расіі абласцямі", што яскрава сведчыць пра палітычную пазіцыю аўтара, а ўскосна – і пра яго нацыянальную прыналежнасць.

У першым сказе тэксту гаворыцца, што адна з умоў цэласці і бяспекі дзяржавы – еднасць веры паміж падданымі, а так мог заявіць толькі чалавек, які, не зведаўшы іншага ладу, апрача самадзяржаўя, магчыма, нават не ўсведамляў, што ў Рэчы Паспалітай прэвалявала паняцце "грамадзянін", і не ведаў, што яно азначала ў кантэксце палітычнага ўладкавання дзяржавы. (Тое самае ў польскім тэксце: "Zaczem stany królestwa i każdy w szczególności Polak, jeżeli chce ocalić i ubezpieczyć Oyczyznę, ten na siebie włożyć powinien obowiązek, ażeby obrządek grecki, obrządkowi łacińskiemu przeciwny, już to wzgardą, już prześladowaniem, już uciśnieniem tenże zachowujących, już innemi, ile być może najskuteczniejszemi znosił sposobami"[13].)

Палякі ў вачах аўтара выглядалі, відаць, не надта сімпатычна, калі да іх меўся быць звернуты заклік, каб «дзяржаўныя чыны [у польскім тэксце "stany królestwa"[14]] і кожны паляк, які хоча захаваць цэласць і бяспеку сваёй

[13] Дополнения к актам… С. 221.
[14] Тамсама.

айчыны, абавязаны, каб грэцкае веравызнанне, лацінскаму супрацiўнае, усяляк выводзіць, то пагардай, то пераследам, то прыцясненнем тых, якія яго трымаюцца, і іншымі, наколькі гэта магчыма, дзейснымі сродкамі».

Для паспяховага выкаранення грэцкай веры і замены яе лацінскім веравызнаннем былі прапанаваны наступныя сродкі.

1. Трэба намагацца захоўваць бачнасць сяброўства з Расіяй і дзеля гэтага выбіраць на трон такіх гаспадароў, да якіх яна была б прыхільная, а тым самым – на сваю шкоду – не сачыла б пільна за іх дзейнасцю.

*[Ці не было гэта рэхам агітацыі на карысць выбрання каралём яўна сімпатычнага Расіі Станіслава Аўгуста Панятоўскага?]*

2. Шляхта грэцкай веры, хаця б і належала да ўніяцтва, а тым больш дызуніты – не павінна дапускацца ні да якіх пасадаў.

*[Гэта поўная бяссэнсіца і сведчанне адсутнасці ў аўтара найменшага разумення сітуацыі, якія існавала ў Рэчы Паспалітай.]*

Кожны паляк павінен у кампаніях пазбягаць русінаў, не завязваць з імі прыязных суседскіх стасункаў, хіба што дзеля ўласнай карысці, а ў размовах, што вядуцца ў іх прысутнасці, заводзіць гаворку перш за ўсё пра рускія забабоны. Аўтар упэўнены, што тады кожны захоча хутчэй змяніць веру і вырачыся сваёй колішняй русінскасці, чым усё жыццё цярпець столькі непрыемнасцяў і засмучэнняў.

*[Тут фальсіфікатара выдае наіўная хітрасць гэтага быццам спосабу, заўважым – надзіва блізкая мысленню маскоўскіх праціўнікаў Польшчы і каталіцызму. Падобныя падазрэнні выклікаюць і наступныя пункты, дзе надта ж выяўляюцца таксама сляды народнага антысемітызму.]*

3. Заможныя абывацелі не могуць прымаць русінаў на службу, асабліва там, дзе яны маглі б атрымаць хоць

нейкую адукацыю, – хіба толькі маючы надзею, што дзякуючы гэтаму яны адступяцца ад сваёй веры.

4. Заможных рускіх мяшчан трэба даводзіць да галечы і цемры; уладальнікі прыватных гарадоў могуць вельмі проста загубіць русінаў засяленнем у горад яўрэяў, якія выцесняць ранейшых мяшчан, прымушаючы іх перайсці ў сялянскае саслоўе. У каралеўскіх гарадах urаднікі павінны змушаць і прывучаць мяшчан да паншчыны, а апрача засялення яўрэяў паклапаціцца таксама пра прыцягненне ў горад рыма-каталікоў. Прававыя акты, як магдэбургскія, так і іншыя, павінны выдавацца толькі па-польску.

5. Епіскапы (уладыкі) павінны быць шляхецкага саслоўя і прызначацца з тых, хто знаходзіцца ў сваяцкіх сувязях з родамі рымска-каталіцкага веравызнання, каб пры жыцці спрыялі апошнім, а пасля смерці спадчына дасталася не русінам, а палякам.

*[Гэта таксама байка родам з прымітыўнай расійскай прапаганды.]*

6. "Нашы" ж (г. зн. рымска-каталіцкія) біскупы павінны імкнуцца да таго, каб рускія епіскапы мелі толькі тытул вікарыяў, падлягалі нагляду нашых прэлатаў і іх публічна павучалі.

*[Перакладчык, хутчэй за ўсё, зусім не арыентаваўся ў іерархіі рымска-каталіцкай царквы, паколькі не адрознівае пасады суфрагана (біскупа-памочніка) ад вікарыя і нават не ведае правільнага гучання самога тэрміна, бо піша пра "вікарных". У польскай версіі гэты фрагмент гучыць так: "Ażeby władykowie sufraganów tylko tytuł mieli, pod taką dependencją i zwierzchnością zostając, ażeby oni i ich popi od naszych prałatów wizytowani, a w nieprzystojnościach publicznie karani i w zabobonach swych przestrzegani byli"[15].]*

[15] Тамсама. С. 223.

7. Няхай рускія святары назаўсёды застаюцца неадукаваныя і цёмныя, не ведаюць парадку сваіх абрадаў і не разумеюць прычын іх з'яўлення ў расійскай царкве. Для ўтрымання папоў у глыбокай цемры добры сродак – беднасць, а таму:

– землеўласнікі няхай нічога ім не ахвяруюць;

– кожны, хто хоча зрабіцца святаром, павінен выкупіць у папярэдніка зямлю для ўтрымання сябе і сваёй сям'і, за што абодва будуць абцяжараны грахом сіманіі;

– надзеленыя правам прадстаўляць кандыдата на пасаду святара павінны за выдачу такога прадстаўлення браць плату;

*[Тут перакладчык, які не арыентаваўся ў царкоўным праве, памылкова зразумеў тэрмін "ius praesentandi", што азначае прыналежны фундатару царквы прывілей рэкамендаваць епіскапу кандыдатуру будучага святара, і палічыў яго адпаведнікам рускага "право давать одобрение"; дый у лацінскай мове, відаць, цьмяна разбіраўся, бо ў яго версіі тэксту з'явіўся цалкам пазбаўлены сэнсу выраз "ius representandi".]*

– пры выдачы прадстаўлення нельга апісваць царкоўныя землі, бо такія дакументы могуць паслужыць заменнікам эрэкцыйных актаў, якімі карыстаецца наша (г. зн. лацінскае) духавенства;

– святарам не трэба дазваляць нідзе браць гарэлку, апрача як у яўрэяў-арандатараў, а калі яўрэй зловіць з ёю святара на дарозе або знойдзе ў яго дома, дык адразу можа забіраць з яго сялібы пару валоў. Нельга таксама малоць збожжа на якім-небудзь млыне, апрача вызначанага, а калі святар парушыць гэтае патрабаванне, то яўрэі няхай разбіраюць свіран і забіраюць сабе збожжа;

("Гэтымі і падобнымі сродкамі, – піша аўтар, – нашы продкі многіх схізматыкаў прымусілі вярнуцца да адзінай царквы, дык і мы такім чынам рэшту, з Божаю дапамогаю, пераробім на ўніятаў, каб з часам усіх перавярнуць на рыма-каталікоў.")

– святарам трэба забараніць узбагачацца за кошт нашых сялян: калі памрэ хто з падданых, то ўладальнікі і аканомы маёнткаў павінны выклікаць нашчадкаў па-

мерлага і сказаць ім, колькі заплаціць за хаўтуры. Калі ж святар не задаволіцца вызначанай платай і не захоча памерлага хаваць, дык мясцовая грамада мусіць узяць цела і занесці яму на двор. Строга лімітаваўшы паборы святароў, мы давядзём іх да такой нэндзы, што яны не будуць мець больш-менш прыстойнага адзення, а тым больш багацця і не змогуць даваць сваім дзецям добрую адукацыю.

Усе мы павінны старацца прапанаваць гэты праект на сейме нашым біскупам. Дзякуючы гэтаму мы здабудзем удзячнасць сялян і выклічам у іх нянавісць да святароў, а тым самым лягчэй схілім іх на свой бок.

8. Сем'і святароў павінны ва ўсім залежаць ад мясцовага пана і для большага прыніжэння мусяць сурова карацца за найдрабнейшую правіну. Папоўскія сыны, за выключэннем аднаго, які мае заняць месца бацькі, не павінны вызваляцца з сялянскага саслоўя.

Пад выглядам клопату пра асвету можна таксама зрабіць такім чынам, каб паповічы, якія не дасягнулі адпаведнага ўзроўню адукацыі, назаўсёды заставаліся сялянамі ў сваіх паноў. Паколькі яны маюць роўны са шляхтай доступ да нашых публічных школ, то вучні шляхецкага стану павінны іх цкаваць. Бацькі падкажуць спосабы, а настаўнікі будуць спрыяць гэтаму і самі іх пераследаваць. Шляхецкія дзеці, учыніўшы якую-небудзь правіну, змогуць спіхнуць адказнасць на русінаў, а русіны, калі ўсё ж атрымаюць добрую адукацыю, будуць тлумачыць свайму народу, што таемствы рымскай царквы нічым не горшыя за таемствы расійскай царквы, што рымска-каталіцкая і грэцкая вера – гэта адно і тое ж. З цягам часу ўсё гэта можа паслужыць лягчэйшаму навяртанню асабліва ўпартых праваслаўных.

*[Пасаж пра школы – чарговае сведчанне незнаёмства з рэальнасцю; да таго ж, у ім бракуе паслядоўнасці, бо, з аднаго боку, гаворка вядзецца пра вольны доступ да школ, а з другога – пра непераадольную перашкоду для атрымання адукацыі, якую робіць прыналежнасць да сялянскага стану.]*

9. Тых, хто захоча абраць духоўны сан, трэба ўгаворваць даваць зарок бясшлюбнасці; нашы намеры цалкам дасягнуць сваёй мэты, калі ўсе, хто збіраецца стаць святаром, будуць з ахвотай выбіраць бясшлюбнае жыццё, бо пасля смерці бясшлюбных папоў іх не будзе каму замяніць. Сялянскім дзецям забараніць вучыцца, паповічаў не будзе, рускай шляхты таксама мала, дый тая зусім неадукаваная – і так дойдзе да таго, што на гэтыя пустыя месцы мы пачнём прызначаць парафіяльных ксяндзоў (plebanos) нашай рымска-каталіцкай веры.

*[Дзівоснай наіўнасці прапанаванага спосабу спадарожнічае брак паслядоўнасці, бо адкуль жа набярэцца такая маса каталіцкіх ксяндзоў, калі паводле азначэння тыя мусяць трымацца цэлібату.]*

10. Дзецям сваіх сялян трэба забараніць вучыцца ў прыцаркоўных школах, бо вывучаны селянін уцякае ад свайго пана і шукае волі, на што скардзяцца Руска-Валынскае і Брацлаўскае ваяводствы.

*[Тут звернем увагу на назву Валынскага ваяводства, якая ў такой форме ніколі не ўжывалася ў Польшчы. Тэзу пра шкоднасць адукацыі для сялян, на жаль, нельга прызнаць выдумкай фальсіфікатара, бо ў XVIII ст. яе падзяляла большасць шляхты.]*

11. Каб лягчэй загубіць рускіх, трэба запісваць у асобнай кнізе ўсе непрыстойнасці, абразлівыя словы і ўчынкі супраць рыма-каталікоў. Трэба распускаць скіраваныя супраць іх плёткі і таемна падкідаць ад імя святароў, а яшчэ лепш – ад імя саміх епіскапаў творы, варожыя Рэчы Паспалітай, польскаму імені і рымска-каталіцкай веры, падбухторваць да забойстваў і бунтаў – усё дзеля таго, каб для духавенства і свецкіх асоб, для сенатараў і шляхты гэта стала падставай і нагодай для ажыццяўлення выратавальнай місіі знішчэння ў Польшчы грэцкай веры.

*[Цяжка паверыць у такую прасцяцкую і небяспечную шчырасць якога б там ні было польскага аўтара; затое дэманізацыя палякаў мае ўсе рысы прапагандысцкага запалу.]*

12. Калі ўдасца паклёпам, падманам ці ганьбаваннем перавярнуць рускіх на каталікоў, то з Божай дапамогай на ўсёй Русі расквітнее рымска-каталіцкая вера.

*[У гэтай фразе таксама хутчэй гучаць апасенні праваслаўнай Масквы, чым надзея грамадзяніна Рэчы Паспалітай, у якой большасць жыхароў належала да Усходняй царквы.]*

13. Трымаючыся сваёй веры, рускі народ гатовы падняць бунт, якога Рэч Паспалітая не здолее задушыць з-за малалікасці войска, але тады бунтаўнікоў для супакаення можна аддаць татарам, а на апусцелыя землі засяліць палякаў і мазаўшан. Расія не заступіцца за русінаў, калі яны зробяцца ўніятамі, бо ўніятаў Расія ненавідзіць больш, чым нас, і зычыць ім як найбольшых няшчасцяў.

*[Фальсіфікатар прытрымліваўся досыць дзіўнага перакanання, што палякі і мазаўшане – гэта два розныя народы. Выглядае, аднак, што ён быў надзелены прарочым дарам, бо ідэя наконт татараў і засялення рускіх земляў этнічна чужым насельніцтвам – прыгожая прэлюдыя да таго, што ў свой час удалося зрабіць Сталіну.]*

Робячы гэтак, мы, без сумнення, з часам дасягнем таго, што народ Польскага каралеўства стане жыць ва ўзаемнай любові, згодзе і еднасці; што Польшча здабудзе ўсеагульную павагу, узыдзе на найвышэйшую ступень магутнасці, перад якой будуць трымцець іншыя народы; што рымска-каталіцкая рэлігія распаўсюдзіцца больш як на 160 квадратных міль – словам, што мы ўратуем цэласць і бяспеку Айчыны і захаваем іх.

*[Невядома, для чаго спатрэбілася прыводзіць такую дакладную лічбу, тым больш калі ўлічыць, што ў маштабах Рэчы Паспалітай тэрыторыя ў 160 квадратных міль не выглядала надта вялікай.]*

Нарэшце адзначым, што Русь, захаваўшы сваю веру, – няважна, ці адыдзе яна ад схізмы, ці зноў далучыцца да яе, – можа пагражаць Польшчы нападам; затое, навярнуўшы яе ў рымска-каталіцкае веравызнанне, мы адбяром

у простага люду надзею на аднаўленне іх веры, а потым, цесна звязаўшы з сабою, зробім гэты люд непрыхільным да Расіі, у чым няхай нам Бог дапаможа. Амін.

Чытанне прыведзенага тэксту выклікае застрашэнне і глыбокую агіду. Такая, несумненна, і была задума аўтара. Варта, аднак, падрабязней спыніцца на часе, абставінах з'яўлення і прызначэнні гэтага дакумента, які толькі з выгляду мае дачыненне да сітуацыі ў Рэчы Паспалітай у 1768 г. Гэтаму пярэчаць шматлікія адзначаныя вышэй памылкі і няправільнае ці наогул перакручанае разуменне тагачасных рэалій. З гэтага вынікае, што аўтарам не мог быць чалавек, які жыў у тыя часы і ў тым грамадстве, і хоць ён і спрабуе выдаць сябе за паляка, заклапочанага дабрабытам сваёй краіны, уся яго аргументацыя надта яўна выдае расійскія фобіі. Калі прыгадаем, што адна з такіх фобій – дэманізаванне ролі езуітаў, дык робіцца зразумелым, чаму аўтар, які прапануе палякам такія падступныя спосабы барацьбы з праваслаўем, выдае сябе за прадстаўніка менавіта гэтага Ордэна. Бо вастрыё антыкаталіцкай і антыпольскай прапаганды заўсёды было скіравана найперш супраць езуітаў, у якіх бачылі хітрых эмісараў Ватыкана, ганіцеляў праваслаўя і ўсёй Святой Русі, якія інспіруюць і актыўна падтрымліваюць варожыя памкненні польскіх паноў і наогул з'яўляюцца служкамі сатаны. Наш аўтар жыўцом узяты з гэтай чорнай легенды, аднак яго подлыя нагаворы часам такія наіўныя і настолькі прасякнутыя рысамі народнага падання пра злога чараўніка, што робіцца відавочна: яны маглі нарадзіцца толькі ў абмежаваным і разлютаваным розуме стваральніка гэтага персанажа.

Тут, безумоўна, паўстае пытанне: хто і навошта намаляваў такога польска-каталіцкага монстра? Незразумелыя і яшчэ дзве акалічнасці: навошта гэты польскі езуіт у 1768 (ці 1788) г. звяртаўся да палякаў па-руску і якім цудам ён мог у сваёй падрыўной рабоце карыстацца каліграфічным пісьмом, тыповым для другой паловы XIX ст.?

Адказ на пытанне пра прычыны фабрыкацыі дадзенага дакумента не такі просты. Мова і час напісан-

# Were the Jesuits so insidious in reality?

**Maria Kałamajska-Saeed**

A mysterious document that allegedly was a detailed project of destruction of Orthodoxy in the Polish-Lithuanian State has been a household word among Russian historians since the end of the XVIII century. This text has been repeatedly published and, at the same time, the veracity of the project has been questioned. Recently the issue has been re-actualized by publications of Inessa Slyunkova who has treated the document as credible and has dated it by the beginning of the XVIII century. However, the analysis of this document enables to recognize its as propaganda fabrication to justify the repressive religious policy of the Russian authorities in the former lands of the Commonwealth. The article demonstrates inaccuracies, inconsistencies and many statements which provide strong evidence, that the anonymous author of the mentioned "Project" did not know the true relationship that prevailed in the Commonwealth.

# Беларускі незалежніцкі лагер на Захадзе пасля II сусветнай вайны вачыма польскай эміграцыі

**Юры Грыбоўскі**

Адна з маладаследаваных старонак гістарыяграфіі – палітычная дзейнасць беларускіх эмігрантаў пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Нягледзячы на тое, што апошнім часам зацікаўленасць дзейнасцю беларускай дыяспары ў XX ст. няўхільна расце, да сённяшняга дня асноўную гістарыяграфічную базу складаюць працы саміх эмігрантаў, у тым ліку – мемуарная літаратура. Яшчэ большая "белая пляма" – погляд эмігрантаў – прадстаўнікоў іншых народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы на працэсы, што адбываліся ў асяроддзі беларускай палітычнай эміграцыі на Захадзе. Шэраг дакументаў польскай пасляваеннай палітычнай эміграцыі, які захоўваецца ў архіве Польскага інстытута імя генерала Сікорскага ў Лондане, дазваляе даведацца, як беларускі незалежніцкі лагер на Захадзе выглядаў у вачах польскіх таварышаў па зброі, якіх лёс таксама закінуў на чужыну.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны на Захадзе апынулася значная колькасць беларускіх антыкамуністаў, што пад час нямецкай акупацыі ў рознай ступені супрацоўнічалі з нацыстамі, кіруючыся ідэяй адраджэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. У 1945–1951 г. асноўным асяродкам беларускага эміграцыйнага жыцця была Заходняя Нямеччына, на тэрыторыі якой у лагерах для перамешчаных асобаў (*Displaced Person* – DP) па стане на снежань 1946 г. знаходзілася каля 700 000 чал., а яшчэ некалькі тысяч жылі па-за лагерамі. Найбуйнейшую гру-

пу выгнанцаў складалі грамадзяне былой 2-й Рэчы Паспалітай (360 тыс. чал.). Менавіта сярод гэтай групы перадусім трэба шукаць беларускіх уцекачоў. Праўда, нельга выключаць, што пэўную колькасць беларусаў складалі і даваенныя жыхары БССР. Дакладную лічбу выгнанцаў беларускай нацыянальнасці сярод абедзвюх груп вызначыць немагчыма. У гістарыяграфіі найчасцей выказваецца меркаванне, што каля 75–100 тыс. жыхароў Беларусі засталося на эміграцыі[1]. У той самы час, паводле звестак Міжнароднай арганізацыі ўцекачоў (*International Refugee Organization* – IPO), у 1947–1951 г. беларусамі назвалі сябе толькі 5147 насельнікаў лагераў DP. Прычын такога стану рэчаў некалькі. Відавочна, што далёка не ўсе ўраджэнцы Беларусі лічылі сябе беларусамі. Акрамя таго, многія беларусы з-за страху перад прымусовай рэпатрыяцыяй у СССР не адважваліся называць сваю сапраўдную нацыянальнасць. Таму толькі невялікая колькасць уцекачоў-беларусаў не хавала сваёй сапраўднай нацыянальнасці і ўдзельнічала ў нацыянальным жыцці. На мяжы 1940–1950-х г. у Заходняй Нямеччыне дзейнічалі беларускі самаўрад, школьніцтва, камбатанцкія, рэлігійныя, моладзевыя і прафесійныя арганізацыі. З дазволу брытанскіх і амерыканскіх акупацыйных уладаў існавала некалькі беларускіх лагераў DP з уласным самакіраваннем і службай парадку[2].

У пачатку 1950-х г. лагеры для выгнанцаў у Заходняй Нямеччыне перасталі існаваць, а іх насельнікі эмігравалі ў іншыя краіны свету. У буйныя асяродкі беларускага жыцця ператварыліся Паўночная Амерыка, Аўстралія, Францыя, Вялікабрытанія, Бельгія.

Грамадска-палітычная дзейнасць беларускіх эмігрантаў ад самага пачатку зацікавіла польскую палітычную эміграцыю, якая пачала збіраць пра яе звесткі. Гэтае заці-

[1] Белорусские остарбайтеры: историческо-аналитическое исследование. Минск, 2001. С. 288; Кіпель В. Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993. С. 159.

[2] Шырэй гл.: Максімюк Я. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950. Нью-Ёрк – Беласток, 1994. С. 29–42; Вініцкі А. Матарыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Мінск, 1994. С. 73–217.

каўленне ў значнай ступені вынікала з тагачаснай міжнароднай сітуацыі. Эмігранты-антыкамуністы з Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў канцы 1940-х і пачатку 1950-х г. спадзяваліся на пачатак вайны паміж дэмакратычным светам і СССР, якая павінна была вызваліць ад камунізму паняволеныя народы. У такой атмасферы склаліся спрыяльныя ўмовы для развіцця сярод эмігрантаў федэрацыйных рухаў. Адзін з такіх рухаў кіраваўся канцэпцыяй “Міжмор’я”. Яна прадугледжвала стварэнне на балтыйска-чарнаморска-адрыятычным абшары супольнасці краін, якая стала б гарантам бяспекі і дабрабыту гэтых дзяржаў перад пагрозаю магчымай дамінацыі або агрэсіі як з Усходу, так і з Захаду. Польская эміграцыя брала велізарны ўдзел у фармаванні і развіцці згаданага руху, між іншым, шукаючы аднадумцаў і хаўруснікаў сярод антыкамуністаў-эмігрантаў з іншых краін рэгіёна, у тым ліку і беларусаў. У пачатку 1947 г. эмісары польскага эміграцыйнага ўрада ў Заходняй Нямеччыне падрыхтавалі грунтоўны даклад (рапарт) “Беларускія незалежніцкія выгнанцы”, дзе прыводзіліся досыць падрабязныя звесткі пра колькасны і арганізацыйны стан беларускай эміграцыі. Колькасць беларусаў у лагерах DP, паводле гэтага даклада, складала 30 тыс. чалавек, з якіх каля 20 тыс. мелі пачуццё нацыянальнай самасвядомасці і бралі ўдзел у беларускім арганізацыйным жыцці[3]. Асаблівая ўвага звярталася на польска-беларускія адносіны сярод уцекачоў. Падкрэслівалася, што шмат беларусаў месцілася ў польскіх лагерах DP, аднак у пэўны момант акупацыйныя ўлады пачалі закрываць беларускія школы, што прывяло да масавага перасялення беларускіх уцекачоў у беларускія лагеры. У разгляданым дакладзе згадваецца беларускі лагер у Ватэнштэце[4].

3 Не зусім зразумела, на падставе якіх крыніц польскі аглядальнік рабіў высновы пра колькасны склад беларускіх уцекачоў. Таму гэтыя звесткі трэба разглядаць як вельмі ўмоўныя. Instytut Polski i Muzeum im. gen. Sikorskiego (IPMS). Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe. Sygn.: A.11E.1110.

4 Лагер паўстаў у ліпені 1945 г. і праіснаваў да лютага 1950 г. Агульнай колькасцю праз яго прайшло каля 1,5 тыс. жыхароў.

Польскі друк адсочваў настроі ў асяроддзі насельнікаў польскіх і беларускіх лагераў DP. Так, часопіс праваслаўнага святарства польскіх узброеных сіл на Захадзе “Polski Żołnierz Prawosławny” інфармаваў, што Эмануіл Ясюк быў камендантам лагера для польскіх грамадзян у мясцовасці Равенсбург у французскай зоне акупацыі з колькасцю насельнікаў каля 5 тыс. чалавек[5]. Разам з тым, з успамінаў беларускіх уцекачоў вынікае, што польска-беларускія адносіны ў гэтых лагерах не заўсёды былі добрымі[6]. Напрыклад, эміграцыйны гісторык І. Касяк згадвае, што камендант Э. Ясюк быў вымушаны пакінуць пасаду з-за сваёй беларускасці[7]. Аднак праверыць гэтыя звесткі даволі складана. Захаваліся згадкі пра беларусаў у польскім лагеры ў мясцовасці Вільдфлекен, колькасць якіх складала 7 тыс. з 20 тыс. агульнага ліку насельнікаў. Даведаўшыся пра стварэнне беларускіх лагераў, частка з іх вырашыла далучыцца да суайчыннікаў. Першая група беларускіх выгнанцаў пакінула лагер разам з групай украінцаў і пераехала ў лагер, які размяшчаўся ў мясцовасці Ашафэнбург. Праз некаторы час польскі лагер пакінула беларуская група ў колькасці каля 120 асобаў і таксама пасялілася ў Ашафэнбургу[8]. Сярод беларускіх насельнікаў пашыраліся звесткі пра існаванне асобных беларускіх лагераў DP і расло жаданне туды перасяліцца. Захады беларускіх актывістаў, накіраваныя на стварэнне асобных лагераў для асобаў беларускай нацыянальнасці, былі непрыхільна сустрэты польскай адміністрацыяй лагера. Некаторыя беларусы – жыхары лагера сцвярджалі таксама, што лагерная адміністрацыя падрыхтавала і перадала ўладам Адміністрацыі аб’яднаных нацый па справах дапамогі і адбудовы (*United Nations Refief and Rehabilitation Administration* – UNRRA) “фальшывы” спіс сацыяльна непа-

[5] Polski Żołnierz Prawosławny (Rzym) 1945. Nr 2. S. 6.

[6] Алехнік А. Пад бел-чырвона-белым. Вільня, 1999. С. 55–58.

[7] Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора й сяньня. Мінск, 1993. С. 349.

[8] Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны (ББФС). Архіў а. Гарошкі, З жыцьця беларусаў у польскім лягеры Вільдфлекен – часткавае выдзяленьне і ад’езд у аддзельныя беларускія лягеры. С. 1–2.

жаданых асобаў беларускай нацыянальнасці (п'яніцы, злодзеі, рабаўнікі)[9]. Сярод насельнікаў розных нацыянальнасцяў стварылася вельмі нездаровая атмасфера. Пачасціліся выпадкі запалохванняў і непрыхаванай варожасці. У выніку на выезд у беларускія лагеры зарэгістравалася каля 600 асобаў, якія запісаліся беларусамі. Гэтыя людзі ў сярэдзіне траўня 1946 г. былі вылучаны ў асобную групу і перамешчаны ў лагер у мясцовасці Ашафэнбург, а ў лістападзе 1946 г. пераведзены ў беларускія лагеры ў Віндзішбергердорфе і Остэргофэне[10].

Згаданыя міжнацыянальныя сваркі не знаходзяць, аднак, адлюстравання ў польскіх крыніцах. Прадстаўнікі польскай палітычнай думкі ў Нямеччыне ў асноўным прыхільна ставіліся да жадання беларусаў вылучацца са складу іншаземных лагераў, перш за ўсё – расійскіх. У прыватнасці, польскі друк цікавіўся лёсам беларусаў, пераведзеных з ліквідаванага ў траўні 1947 г. лагера ў Алендорфе ў расійскі лагер у Мюнхендорфе, каля Касэля[11]. Акрамя таго, газета "Kronika" на сваіх старонках інфармавала пра культурныя і арганізацыйныя мерапрыемствы, якія адбываліся ў беларускіх лагерах у Остэргофэне і Віндзішбергердорфе[12].

У згаданым дакладзе эмісару польскага ўрада знаходзім інфармацыю пра дзейнасць савецкіх агентаў, якія агітавалі беларускіх выгнанцаў выехаць у СССР. Апроч таго, адзначалася, што ва ўмовах паступовай ліквідацыі лагераў DP многія беларусы намагаліся трапіць "за акіян", тым часам як эміграцыйныя лідары хацелі, каб як мага большая колькасць суродзічаў (прыкладна 20 тыс. чалавек) засталася ў Еўропе, перш за ўсё – у Францыі. Для прыкладу прыводзіцца ўрывак з газеты "Беларускія навіны" за студзень 1947 г. з заклікам да суайчыннікаў не шукаць шчасця за акіянам, а застацца жыць у Францыі. Аўтар даклада адзначае, што многія былыя польскія грамадзяне беларускай нацыянальнасці ўжо знайшлі сабе працу ў сельскай гаспа-

9 Тамсама. С. 5.
10 Тамсама. С. 4, 6.
11 Białorusini walczą o swoje prawa // Kronika (Paryż). 1947. Nr 28.
12 Z życia białoruskiego // Kronika (Paryż). 1947. Nr 37.

дарцы на поўначы Францыі. Асаблівая ўвага звярталася на настроі, якія панавалі сярод беларускіх эмігрантаў. Аўтар пісаў, што, нягледзячы на складаную гаспадарчую сітуацыю, беларусы годна змагаюцца за сваё існаванне: "Моц беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і Францыі ў тым, што яна гатовая да любой працы і бярэцца за любую работу"[13]. Разам з тым далей адзначаецца, што яе "слабасць <…> – у кепскім веданні замежных моў"[14].

Аўтар не абмінуў увагай і стан рэлігійнага жыцця беларусаў у Нямеччыне. Ён канстатаваў, што сярод выгнанцаў нестае "незалежніцкага праваслаўнага і каталіцкага духавенства". Пра першае адзначалася, што большасць праваслаўных святароў падпарадкоўваецца Маскве[15]. Безумоўна, гэта было звязана з далучэннем у траўні 1946 г. іерархаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) да Расійскай праваслаўнай царквы за мяжой, якое атрымала розгалас у эміграцыйных колах. Польскія дзеячы адмоўна ацэньвалі гэты крок, але не выказваліся адкрыта ў справе абвяшчэння беларускай аўтакефаліі. Адзначалася таксама, што, не маючы ўласных царкоўных будынкаў, у шэрагу выпадкаў праваслаўныя беларусы ўдзельнічаюць ва ўкраінскіх грэка-каталіцкіх набажэнствах[16].

Трэба адзначыць, што за рэлігійнымі справамі беларусаў пільна сачылі не толькі ўрадавыя колы, але і прадстаўнікі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (ПАПЦ). Паводле падлікаў апошняй, у некаторых польскіх лагерах DP у Нямеччыне праваслаўныя складалі каля 5% ад колькасці ўсіх насельнікаў. Падкрэслівалася, што актыўнасць беларусаў сярод іх была найменш заўважная ў параўнанні з расійцамі і ўкраінцамі. У рапарце кіраўніка ПАПЦ у эміграцыі архібіскупа Савы (Саветава), які ў снежні 1948 г. наведаў польскіх выгнанцаў у Заходняй Нямеччыне, адзначалася, што ў лагерах DP знаходзілася 29 пра-

[13] IPMS. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe. Sygn.: A.11E.1110.
[14] Ibidem.
[15] Ibidem.
[16] IPMS. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe. Sygn.: A.11E.1110.

васлаўных святароў, якія паходзілі з даваеннай Польшчы. Сярод гэтых асобаў быў і біскуп Філафей (Нарко)[17]. Духавенства ПАПЦ на эміграцыі намагалася забяспечыць праваслаўных вернікаў належнай духоўнай апекай, аднак адмоўна ставілася да росту нацыянальных рухаў сярод прадстаўнікоў гэтага веравызнання. Такую пазіцыю выразна адлюстроўвае ліст архібіскупа Савы да міністра ўнутраных спраў, міністра замежных спраў і міністра веравызнанняў ад 24 лютага 1949 г., дзе чытаем: "…падзел невялікай групы праваслаўных на нацыянальныя групы лічу супярэчным дзяржаўным інтарэсам у справе абароны ўсходніх крэсаў"[18]. Тым часам польскія палітычныя колы на эміграцыі турбаваліся, што праваслаўныя святары з 2-й Рэчы Паспалітай характарызуюцца "недахопам пачуцця прыналежнасці да польскай дзяржаўнасці і схільнасцю далучэння да сепаратысцкіх нацыянальных груп, што спавядаюць іншую дзяржаўную ідэалогію, якая часам тычыцца пытання межаў польскай дзяржавы"[19].

Варта, аднак, падкрэсліць, што вышэйзгаданы архібіскуп Сава і іншыя святары, якія знаходзіліся ў ягонай юрысдыкцыі, адыгралі істотную ролю ў рэлігійным жыцці польскіх эмігрантаў праваслаўнага веравызнання, у тым ліку беларусаў. У сітуацыі, калі сярод эмігрантаў адчуваўся востры недахоп святароў, а нешматлікая па-незалежніцку настроеная іх частка была паглынута ўнутранымі сваркамі і непаразуменнямі, многія шараговыя вернікі, імкнучыся забяспечыць сабе духоўную апеку, далучыліся да ПАПЦ. Архібіскуп Сава добра разумеў усю складанасць сітуацыі. З аднаго боку, як высокапастаўлены іерарх ПАПЦ, а да таго ж член палітычных структур польскага эміграцыйнага ўрада, ён мусіў захоўваць лаяльнасць да польскага боку і абараняць яго інтарэсы. З іншага боку, ён быў чалавекам, глыбока адданым ідэям сваёй царквы, таму шчыра дапамагаў сваім вер-

[17] Ibidem.

[18] IPMS. List arcybiskupa Sawy (Sowietowa) do MSW, MSZ, MWR z 24 lutego 1949 r. Sygn.: A11.1483.

[19] IPMS. Protokół konferencji w sprawie unormowania zagadnień Autokefalicznej Cerkwi Prawosławnej w Polsce. Monachium, 20 października 1949 r. Sygn.: A11.1483.

нікам незалежна ад іх нацыянальнага паходжання. Неўзабаве беларускія эмігранты ў Нямеччыне і Англіі склалі значную частку прыхаджан у тамтэйшых парафіях ПАПЦ. Архібіскупа Саву нават запрашалі на розныя грамадскія мерапрыемствы беларусаў. Многія эмігранты-беларусы, якія не прызнавалі Раду БНР, далучыліся да парафій, створаных пад эгідай ПАПЦ. Прыкладам можа паслужыць парафія ў Лондане, якая складалася з прыхільнікаў БЦР[20].

У згаданым вышэй дакладзе эмісару польскага эміграцыйнага ўрада апісваўся і стан беларускага каталіцкага жыцця. У прыватнасці, расказвалася пра адкрыццё каталіцкай місіі ў Парыжы і пра прыезд ксяндза Льва Гарошкі з Рыма ў Парыж. Звярталася ўвага на неабходнасць вяртання беларускіх каталіцкіх святароў з Азіі (Маньчжурыі) у Еўропу, каб яны працавалі на карысць уласнага народа. Трэба адзначыць, што польскі эмісар вельмі прыхільна паставіўся да дзейнасці беларускіх святароў, у першую чаргу па прычыне іх прыналежнасці да "прапольскага" лагера ў беларускім эміграцыйным руху і ўдзелу ў працы клубаў "Міжмор'я". Не пазбаўлены пэўных стэрэатыпаў аўтар рэферата наступным чынам характарызаваў рэлігійныя справы беларусаў: "Калі часам, як, напрыклад, у Парыжы, каталіцкі ксёндз здолее надаць сваёй працы выразна нацыянальнае аблічча, заахвоціць людзей казаннем і малітвай на беларускай мове, то да яго злятаюцца ўсе беларусы, нават праваслаўныя. Цяпер існуюць добрыя ўмовы для распаўсюджання каталіцкіх уплываў сярод беларускіх выгнанцаў. Гэта трэба рабіць у сувязі з нацыянальнай працай беларускіх святароў і без выразнай вайны з праваслаўем, для чаго неабходна дапамога і рашучая падтрымка Ватыкана"[21].

Аналізаваны даклад адсочвае тэндэнцыі, якія адбываліся ў арганізацыях беларускіх эмігрантаў у Францыі, Нямеччыне і Вялікабрытаніі. Так, гаворачы пра беларусаў у Францыі, аўтар згадвае дзейнасць рэдакцыі газеты "Беларускія навіны", якая выдавалася ў Парыжы. Многа

[20] Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора… С. 373.

[21] IPMS. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe. Sygn.: A.11E.1110.

ўвагі аддавалася асвятленню дзейнасці Хаўрусу беларускай рабочай эміграцыі ў Францыі і яго студэнцкай секцыі, што налічвала 17 студэнтаў. Апроч таго, аналізавалася становішча ў Згуртаванні беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ), якое выдавала часопіс "На шляху". Аўтар вялікую ўвагу аддаў пастанове кіраўніцтва ЗБВБ адносна запісу польскіх жаўнераў беларускага паходжання ў Польскі корпус прыстасавання і размяшчэння[22].

Агульныя высновы польскага эмісара былі надзвычай прыхільныя да беларускай эміграцыі. У прыватнасці, палітычныя перакананні беларускіх выгнанцаў ацэньваліся як высокаідэйныя, адзначалася іх адданасць справе. З пункту погляду аўтара нататкі, у будучыні беларускія эмігранты мелі шанец стаць істотным чыннікам у адбудове незалежнай беларускай дзяржавы і ў кшталтаванні яе палітычнага аблічча. Адзначалася, што "беларускі незалежніцкі рух на чужыне ў сваёй большасці выдатна ставіцца да саюзаў з іншымі народамі Міжмор'я. Не варожы да Польшчы. Можна сцвярджаць, што найлепшыя яго прадстаўнікі хочуць шчыльнага саюзу з польскім народам. Не ставяцца негатыўна да гістарычных польска-літоўскіх уній. Могуць стаць вельмі важным чыннікам для шырэйшага польска-літоўска-беларуска-ўкраінскага паразумення, здольным злагодзіць украінскі і літоўскі шавінізмы"[23]. Вялікі шанец паразумення з беларусамі прывёў аўтара даклада да пераканання падтрымліваць беларускае жыццё пачынаючы з практычнага супрацоўніцтва са Згуртаваннем беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Перш за ўсё, прапанавалася наладзіць кантакты паміж галоўным камандаваннем Польскіх узброеных сіл на Захадзе (ПУСЗ) і гэтай беларускай арганізацыяй. Бяс-

[22] Ibidem. Гаворка ішла пра камунікат ЗБВБ № 10 ад 22 верасня 1946 г., у якім быў надрукаваны заклік да беларусаў, што служылі ў Польскіх узброеных сілах на Захадзе, каб тыя ўступалі ў Польскі корпус прыстасавання і размяшчэння, што быў часткай брытанскіх узброеных сіл. Гл.: Grzybowski J. Białorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918–1945. Warszawa, 2007. S. 303.

[23] IPMS. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe. Sygn.: A.11E.1110.

спрэчным аўтарытэтам пры тым быў тагачасны старшыня ЗБВБ Вінцэнт Жук-Грышкевіч. На думку польскага эмісара, менавіта яго трэба было прыцягнуць да дзейнасці клуба федэралістаў у Лондане[24]. Прыхільнікі палітыкі польска-беларускага збліжэння ў межах “Міжмор’я” не былі адзінай сілай на польскай палітычнай арэне ў эміграцыі ў адносінах да беларускай эміграцыі. Іншы пункт погляду мела Нацыянальная партыя (НП), якая падтрымлівала канцэпцыю уніі Цэнтральнай Еўропы як канструктыўнага саюзу з прыдунайскімі народамі, ставячыся з насцярогай да шырэйшага “Міжмор’я”. НП разглядала беларускую справу як унутранае пытанне Польшчы. Так, некаторыя правадыры НП трактавалі ўсходнюю мяжу 2-й Рэчы Паспалітай як польска-расійскую, лічачы беларусаў і ўкраінцаў фактарамі, якія толькі ўскладняюць стасункі паміж Польшчай і Расіяй[25]. Да груповак у эміграцыі, якія адмоўна ставіліся да кантактаў з беларускімі эмігрантамі, належаў і Саюз усходніх земляў (СУЗ), сябры якога досыць хваравіта рэагавалі на любыя стасункі прадстаўнікоў польскага ўрада з беларускімі эмігрантамі. Сведчыць пра гэта нават дэкларацыя, выдадзеная Саюзам 24 лютага 1950 г. у Лондане. У гэтым дакуменце рэзка крытыкавалася падпісанне Дэкларацыі правоў чалавека міністрам замежных спраў Мечыславам Сакалоўскім, намеснікам старшыні Нацыянальнай рады Юліушам Лукасевічам і прадстаўнікамі ўкраінскай і беларускай эміграцыі (М. Абрамчык, Л. Рыдлеўскі). Сябры Саюза разглядалі гэты крок як здраду польскім дзяржаўным інтарэсам, якая пагражала тэрытарыяльнай цэласнасці Польшчы[26]. Заўважым, што беларуская праблематыка найчасцей з’яўлялася ў польскай эміграцыйнай прэсе ў кантэксце дыскусіі пра дзяржаўную прыналежнасць земляў “за Бугам”. У якасці прыкладу прывядзем публікацыю Станіслава Дыгата ад 27 сакавіка 1954 г. у лонданскім “Дзённіку польскім”. Гэта быў своеасаблівы адказ на выступленне М. Абрамчыка з на-

[24] Ibidem.
[25] Myśl polska (Londyn) 1947, nr 11.
[26] IPMS. Deklaracja Związku Ziem Południowo-Wschodnich z dn. 24 lutego 1950 r. Sygn.: A. 11E.1174.

годы 36-й гадавіны абвяшчэння БНР, дзе беларускі лідар згадаў пра лінію Керзана, адзначыўшы, што яна не была кепскай для беларусаў. Польскі аўтар крытычна паставіўся да заявы М. Абрамчыка, сцвярджаючы, што беларускае стаўленне да лорда Керзана цалкам неабгрунтаванае, паколькі, вызначаючы сваю лінію, брытанскі палітык перадусім бачыў у ёй польска-расійскую мяжу, а пра існаванне беларусаў нічога нават і не ведаў[27].

У 1947–1948 г. у беларускай антысавецкай эміграцыі адбыўся палітычны раскол, які ўвайшоў у гісторыю пад папулярнай назвай падзелу на "крывічоў" і "зарубежнікаў". Коратка разгледзім, што стала прычынай гэтага расколу. На момант капітуляцыі ў Трэцім Райху існавала адзіная беларуская палітычная арганізацыя – Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР) на чале з прэзідэнтам Радаславам Астроўскім. Пасля капітуляцыі Нямеччыны БЦР яшчэ непрацяглы час ажыццяўляла сваю дзейнасць. У перыяд з траўня да верасня 1945 г. адбыліся дзве сесіі чарговага (XI) пленума Рады (23–24 траўня 1945 г.). Паколькі БЦР была створана пад патранажам акупантаў, а яе сябры актыўна супрацоўнічалі з нацыстамі, дзеячы гэтай арганізацыі вырашылі прыпыніць дзейнасць Рады. Адпаведная ўхвала была прынята на паседжанні XI пленума БЦР уначы з 23 на 24 верасня 1945 г. у Эшэрсбэкен (Заходняя Нямеччына). Там Р. Астроўскі абвясціў пра часовае спыненне дзейнасці арганізацыі. Без сумнення, на гэтае рашэнне паўплывала агульная міжнародная атмасфера пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Савецкі бок распачаў сапраўднае паляванне на "здраднікаў Айчыны", якія заплямілі сябе супрацоўніцтвам з акупантамі, а заходнія саюзнікі намагаліся прытрымлівацца ўмоў Ялцінскага пагаднення і рупіліся пра рэпатрыяцыю былых савецкіх грамадзян[28]. Адзначым, што паводле Ялцінскай дамовы прымусоваму вяртанню ў СССР не падлягалі асобы, якія да верасня 1939 г. былі грама-

27 IPMS. Artykuł St. Dygata "Czyja granica" z dn. 27 marca 1954 r. Sygn.: A.11.E.1110.

28 Рэферат Ю. Сабалеўскага "Стратэгія і тактыка БЦР" ад 28 сакавіка 1953 г. // Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады. 1954. № 1. С. 21–22.

дзянамі 2-й Рэчы Паспалітай. А менавіта гэтая катэгорыя была найбольш значная сярод беларускіх антыкамуністаў, якія знаходзіліся ў лагерах для ваеннапалонных і лагерах DP. Дадзеная акалічнасць, аднак, не заўсёды ратавала іх ад гвалтоўнага вывазу ў Савецкі Саюз. У пасляваенны час, асабліва ў першыя месцы пасля заканчэння баявых дзеянняў, здараліся выпадкі перадачы заходнімі саюзнікамі савецкаму боку непадлеглых прымусоваму вяртанню антыкамуністаў з Усходняй Еўропы, якія апынуліся на тэрыторыі Нямеччыны. У такой атмасферы некаторыя беларускія эмігранты палічылі за лепшае "перачакаць неспрыяльныя часы", спыніць палітычную і грамадскую дзейнасць і ўзяць іншае прозвішча[29].

У гэты час на палітычнай сцэне беларускай эміграцыі з'явіўся Мікалай Абрамчык. У міжваенны час гэты чалавек быў вядомы як адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў беларускай эміграцыі ў Францыі. У гады Другой сусветнай вайны М. Абрамчык быў кіраўніком Беларускага камітэта самапомачы (БКС) у Берліне, з 1943 г. жыў у Парыжы. Ён быў вельмі здольны палітык. Яшчэ ў перыяд існавання БЦР М. Абрамчык планаваў узнавіць працу Рады БНР на чужыне. У час, калі адзіная рэальная палітычная арганізацыя беларусаў на эміграцыі – БЦР – у верасні 1945 г. спыніла сваё існаванне, планы М. Абрамчыка набылі рэалістычны характар. Узнаўленне Рады БНР стала фактам 28 снежня 1947 г. у мясцовасці Остэргофэн, у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, дзе было абвешчана пра яе адраджэнне і абраны новы склад. У Раду БНР увайшлі 72 асобы, а М. Абрамчык быў абраны яе старшынёй і прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі. У выдадзенай з гэтай нагоды 29 снежня 1947 г. дэкларацыі адзначалася, што галоўная мэта Рады БНР – кансалідацыя ўсіх беларускіх сіл і іх мабілізацыя для змагання за адраджэнне дзяржаўнасці на дэмакратычнай глебе. Такім чынам, узноўленая Рада БНР стала правамоцным спадкаемцам дзяржаўных структур БНР, абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. у Мінску. Прыхільнікі М. Абрамчыка аб-

[29] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 205–206.

грунтоўвалі легальнасць свайго лідара тым, што в. а. старшыні Рады БНР Васіль Захарка ў сваім перадсмяротным тастаменце ад 6 сакавіка 1943 г. передаў яму свае паўнамоцтвы[30]. Вакол гэтага дакумента дасюль не сціхае дыскусія, бо да канца Другой сусветнай вайны пра існаванне тастамента Захаркі не было звестак. Ён быў апублікаваны на Захадзе ўжо ў пасляваенныя гады. Тастамент стаў істотным аргументам, які дазволіў узнавіць Раду БНР на чужыне пасля Другой сусветнай вайны. Разам з тым варта адзначыць, што частка эмігрантаў выказвала сумненне ў аўтэнтычнасці гэтага дакумента, лічачы, што Абрамчык ужо пасля смерці Захаркі сфальшаваў яго, каб захапіць уладу ў пасляваенным беларускім незалежніцкім лагеры. Цяпер немагчыма ані пацвердзіць сапраўднасць тастамента, ані давесці яго фальшывасць. Аднак няма сумнення, што Захарка яшчэ пры жыцці давяраў Абрамчыку і, цалкам магчыма, мог разглядаць яго ў якасці свайго спадкаемцы[31].

Не робячы спробаў вызначыць сапраўднасць тастамента Захаркі, вернемся да перадумоваў палітычнага расколу ў беларускай эміграцыі. Неўзабаве пасля ўзнаўлення Рады БНР у Еўропу вярнуўся Р. Астроўскі, які пасля расфармавання БЦР вырашыў перачакаць небяспеку ў Аргенціне. Гэты надзвычай амбітны і харызматычны чалавек не збіраўся адмаўляцца ад палітыкі. Зарыентаваўшыся ў сітуацыі, Р. Астроўскі паставіў на БЦР, дэкрэт пра ўзнаўленне якой быў выдадзены 25 сакавіка 1948 г. у мясцовасці Браншвіг (Заходняя Нямеччына). У склад Рады маглі ўвайсці, між іншым: 1) делегаты 1-га і 2-га Усебеларускіх кангрэсаў, 2) сенатары і паслы парламента 2-й Рэчы Паспалітай, абраныя з ліку беларускай меншасці, 3) прадстаўнікі святарства і палітычных партый[32].

30 ББФС. Тастамент В. Захаркі ад 6 сакавіка 1943 г.; Максімюк Я. Беларуская гімназія… С. 98–99.

31 Увосень 1943 г. Абрамчык звярнуўся з заклікам да беларускіх арганізацый з просьбай дасылаць на яго адрас сваю выдавецкую літаратуру з мэтай стварэння беларускага архіва ў Празе. Archiwum Akt Nowych (AAN). Informacja narodowościowa nr 3, 30 września 1943 r. Sygn.: 202-III-123. K. 165.

32 Беларускае Слова. 1950. 25 сакавіка. С. 8–10.

Паколькі М. Абрамчык не браў такога актыўнага ўдзелу ў беларускай дзейнасці пад час Другой сусветнай вайны, як прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі, ён апынуўся ў значна больш выгаднай за яго сітуацыі. М. Абрамчык намагаўся рэпрэзентаваць сябе як асобу, не заплямленую супрацоўніцтвам з немцамі. Актыўная ж супраца Р. Астроўскага з нацысцкімі акупантамі стала найслабейшым бокам прэзідэнта БЦР у палеміцы са сваімі нядобразычліўцамі. Аднак сярод прыхільнікаў і Р. Астроўскага, і М. Абрамчыка не бракавала асобаў, якія пад час акупацыі Беларусі актыўна супрацоўнічалі з немцамі. Напрыклад, у склад Рады БНР увайшло нямала былых сяброў БЦР, якая існавала ў 1944–1945 г. У прыватнасці, Яўген Калубовіч (Каханоўскі) стаў першым прэм’ерам урада БНР[33]. У сітуацыі, калі БЦР ужо фармальна не існавала, гэтыя людзі лічылі Раду БНР аптымальным варыянтам палітычнай дзейнасці ў паваенных рэаліях. Яшчэ адным слабым месцам адноўленай у 1948 г. БЦР было яе паходжанне. Яе прыхільнікі заяўлялі, што Рада “мае мандат ад беларускага народа” як адзіная легітымная беларуская ўлада ў эміграцыі, якая атрымала свае паўнамоцтвы ад делегатаў 2-га Усебеларускага кангрэса. Аднак паколькі кангрэс, скліканы у чэрвені 1944 г. у Мінску, адбыўся пад нямецкай пратэкцыяй, то гэты аргумент у пасляваеннай рэчаіснасці быў вельмі хісткі. Каб пазбыцца “плямы калабарантаў”, дзеячы БЦР на XII пленуме арганізацыі на паседжанні 8–9 траўня 1948 г. зацвердзілі новую рэдакцыю статута, больш прыстасаваную да новых рэалій. Падкрэсліваўся той факт, што БЦР – адзіны правамоцны працяг дзейнасці БНР, абвешчанай у сакавіку 1918 г.[34]. Але ў бязлітаснай палітычнай барацьбе нават гэты крок не выглядаў надта пераканаўча ў дыскусіі з прыхільнікамі Рады БНР.

Палітычнае змаганне паміж двума лагерамі часам набывала вельмі востры характар. Ні адны, ні другія не грэбавалі ніякімі сродкамі. У прыватнасці, былі распаўсюджаны абвінавачванні апанентаў у варожай дзейнасці на карысць

[33] Максімюк Я. Беларуская гімназія… С. 98.
[34] Беларускае Слова. 1950. 25 сакавіка. С. 8–10.

іншаземных дзяржаў. Дзеячы Рады БНР ставілі ў віну Астроўскаму і яго паплечнікам антыбеларускія дзеянні, ініцыяваныя знешнімі сіламі. "Бэцээраўцаў" абвінавачвалі ў тым, што за іх плячыма стаяць савецкія агенты. "Астроўшчыкам" прыпісвалі русафільства. Падставай для такіх абвінавачванняў было адмоўнае стаўленне БЦР да ідэі аднаўлення прыхільнікамі Рады БНР БАПЦ. Прапаганда БЦР прыпісвала паплечнікам М. Абрамчыка спробу пашырэння каталіцтва сярод праваслаўных эмігрантаў. Раду БНР абвінавачвалі ў схільнасці да перамоваў з Ватыканам. Часам М. Абрамчыка абвінавачвалі ў тым, што ён ставіў пад пытанне правы беларускага народа на Заходнюю Беларусь. Нярэдка яго параўноўвалі з вялікім князем літоўскім Ягайлам, роля якога ў гісторыі беларусаў разглядалася адмоўна[35].

Як ставілася беларуская палітычная эміграцыя да Польшчы і палякаў? Адзначым, што да супрацоўніцтва з польскім бокам была гатовая Рада БНР. Ідэя польска-беларускіх супольных інтарэсаў не была чужая яе старшыні М. Абрамчыку. Пра гэта сведчыць той факт, што прэзідэнт БНР не раз у сваіх працах казаў пра важнаць польска-беларускіх кантактаў, падкрэсліваючы супольнасць палітычных і эканамічных мэтаў абодвух народаў. У прыватнасці, пра гэта гаворыцца ў неапублікаваным артыкуле, прысвечаным пасляваеннаму польска-беларускаму супрацоўніцтву. Абрамчык лічыў, што цеснае польска-беларускае ўзаемадзеянне павінна стаць апорай для незалежніцкіх рухаў народаў Усходняй Еўропы і супрацьвагай уплыву расійскай эміграцыі. Ён быў перакананы, што пасля заканчэння Другой сусветнай вайны надышоў час згоды палякаў і беларусаў. Прэзідэнт БНР планаваў распачаць польска-беларускія перамовы, якія мусілі стаць зыходнай кропкай для новых адносінаў паміж абодвума народамі. На думку Абрамчыка, чыннікі, якія дзейнічалі супраць супрацоўніцтва Беларусі і Польшчы, былі мізэрнымі ў параўнанні з тым, чаго можна было дасягнуць пры ўзаемадзеянні або-

[35] Рэферат Ю. Сабалеўскага "Стратэгія і тактыка БЦР" ад 28 сакавіка 1953 г. // Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады. 1954. № 1. С. 21–22.

двух народаў. Прэзідэнт БНР меркаваў, што асноўная адказнасць у гэтым пытанні ляжыць на паляках, якія павінны былі прыняць або адпрэчыць беларускія прапановы[36]. У адным з інтэрв'ю Абрамчык, між іншым, казаў: "Сярод польскіх палітычных дзеячаў сустракаецца ўжо нямала асобаў, якія не толькі не пярэчаць нашаму законнаму праву на дзяржаўную незалежнасць у нашых этнаграфічных межах, але нават бачаць у гэтым большую гарантыю незалежнасці і свайго народу. Нажаль, людзі гэтыя яшчэ складаюць меншасць сярод сваіх суграмадзянаў. Беларуская дыпламатыя павінная дапамагчы ім стаць большасцю"[37].

Упершыню польска-беларускія перамовы ў эміграцыі адбыліся ў 1946 г., а потым – у траўні 1947 г. у Парыжы[38], калі міністр замежных спраў польскага ўрада ў эміграцыі Адам Тарноўскі сустрэўся з прэзідэнтам БНР. 27 траўня 1947 г. бакі ўзгаднілі праект польска-беларускай дэкларацыі (гл. дадатак)[39]. Пад час парыжскіх перамоваў вясной 1947 г. Абрамчык вызначыў тэмы, якія трэба было ўзгадніць: 1) справа прэсавага пагаднення, 2) справа беларускіх кніжных выдавецтваў, 3) справа амерыканцаў беларускага паходжання[40]. Польска-беларускія перамовы працягваліся летам 1947 г. у Лондане. Візіт М. Абрамчыка ў Лондан доўжыўся з 10 ліпеня да 6 жніўня 1947 г. За гэты час быў праведзены шэраг афіцыйных і неафіцыйных сустрэч з міністрамі А. Тарноўскім і Т. Гвяздоўскім, дырэктарам С. Папроцкім. Асабліва важнымі сталі кан-

[36] Машынапіс артыкула М. Абрамчыка пад назвай "Польска-беларускія адносіны ў мінулым і ў цяперашні час" (арыгінал па-расійску). Арыгінал знаходзіцца ў зборах Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (БІНІМ); копія ў распараджэнні аўтара.

[37] Інтэрв'ю М. Абрамчыка // Бацькаўшчына. 1950. № 1(61). С. 3.

[38] Больш падрабязна пра польска-беларускія стасункі ў эміграцыі ў 1946–1950 г. гл.: Grzybowski J. Stosunki polsko-białoruskie na emigracji w latach 1946–1950 // Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej. 2007. Nr 1. S. 35–47.

[39] IPMS. Deklaracja polsko-białoruska z 27 maja 1947 r. (projekt). Sygn.: A.11E. 1110.

[40] IPMS. Notatka F. Królikowskiego o rozmowach z M. Abramczykiem z dn. 19.6.1947 r. Sygn.: A.11E.1110.

такты Абрамчыка са старшынёй Рады міністраў ген. Т. Борам-Камароўскім, а таксама з ген. С. Капаньскім, ген. У. Андэрсам і ген. А. Вісьнеўскім[41]. Пад час сустрэчы М. Абрамчыка і В. Жук-Грышкевіча з міністрам унутраных спраў Зыгмунтам Беразоўскім беларускі бок прасіў у палякаў фінансавай дапамогі для беларускіх эмігрантаў у Нямеччыне. У выніку міністр Беразоўскі згадзіўся на: 1) выдаткаванне крэдыту памерам 350–400 фунтаў; 2) перадачу Камітэту беларускіх эмігрантаў у Нямеччыне 30 000 цыгарэт; 3) перадачу матэрыяльнай і тэхнічнай дапамогі вызначанаму Абрамчыкам беларускаму эмісару, які павінен быў быць накіраваны на тэрыторыі, населеныя беларусамі ў Польшчы і СССР, і вярнуўся назад[42]. Нягледзячы на шматабяцальны пачатак, перамовы не мелі працягу, і карэннага пералому ў польска-беларускіх стасунках не адбылося[43].

Спынімся на тым, як гэтыя палітычныя непаразуменні, якімі былі прасякнуты практычна ўсе галіны жыцця беларускіх эмігрантаў, выглядалі ў вачах палякаў на Захадзе. За ходам расколу і яго наступствамі для справы польска-беларускіх кантактаў сачылі многія польскія палітычныя дзеячы, якія, па сутнасці, глядзелі на гэтую з'яву праз прызму Рады БНР. Прэса і друк "бэнээраўцаў" былі, бадай, асноўнай крыніцай, з якой староннія назіральнікі маглі сачыць за сваркамі ў беларускім лагеры. У справаздачах і рапартах польскіх дзеячоў нярэдка можна знайсці цэлыя фрагменты з выданняў прыхільнікаў Рады БНР – газет "Беларускія навіны" (Парыж), "Беларус на чужыне" (Таронта, Канада), "Бацькаўшчына" (Мюнхен). Пры гэтым пазіцыя Р. Астроўскага і яго паплечнікаў цалкам адсутнічала. Уяўленне пра яго палітычныя погляды і дзейнасць фармавалася фактычна пад уплывам інфармацыі, якую падавалі прыхільнікі М. Абрамчыка. Польскі прадстаўнік,

41 IPMS. Notatka z pobytu Prezydenta BRL Mikołaja Abramczyka w Londynie od 10.7.47 do 6.8.1947 r. Sygn.: A.11E.1110.

42 IPMS. Notatka w sprawie 30.000 papierosów dla organizacji białoruskich w Niemczech z 29 września 1948 r. Sygn.: A.11.E.1110.

43 Tarka K. Emigracyjna dyplomacja. Polityka zagraniczna Rządu RP na Uchodźstwie 1945–1990. Warszawa, 2003. S. 105–106.

якi браў удзел у паседжаннi Мiжнароднага камiтэта выгнанцаў лагераў DP (6 чэрвеня 1948 г.), паведамляў наступнае: «Беларуская група вядзе цяжкую ўнутраную барацьбу з русафiльскай дыверсiяй, якой кiруюць былы нямецкi калабарант Астроўскi, вiленскi дырэктар гiмназii i праваслаўны клер, якi вырваўся з-пад улады Аўтакефальнай царквы, падпарадкаваўшы яе Маскве. Прыхiльнiкi гэтага руху здолелi ў некаторых беларускiх лагерах ахапiць сваiм уплывам да 30% насельнiкаў. Прэзiдэнт "Беларускай Нацыянальнай Рады" М. Абрамчык, якi знаходзiцца пад польскiм уплывам, назваў гэтую з'яву пераходнай, але, тым не менш, звяртаецца да палякаў з просьбаю пра ўзаемадзеянне i дапамогу ў польскiх лагерах, дзе жывуць i беларусы»[44].

Падобнае стаўленне польскiх палiтыкаў да канфлiкту памiж "крывiчамi" i "зарубежнiкамi" назiралася не толькi ў Еўропе, але i ў Паўночнай Амерыцы. Прадстаўнiк польскага эмiграцыйнага ўрада ў ЗША ў 1951 г. паведамляў: "Сярод беларусаў адбываецца барацьба памiж урадамi Абрамчыка i Астроўскага. Гэты ўнутраны раскол беларусаў прывёў да таго, што паездка Абрамчыка ў 1950 г. у ЗША, у арганiзацыйным плане зусiм не безвынiковая, не прынесла большага плёну, паколькi амерыканскiя лiтоўцы падтрымлiваюць кантакт з Астроўскiм"[45]. Тым часам прадстаўнiкi Рады БНР сустрэлi добры прыём польскiмi эмiгрантамi ў Амерыцы. Першыя беларусы, якiя прыбывалi з Еўропы ў ЗША, былi вельмi зацiкаўленыя ў дапамозе палякаў, якiя даўно жылi тут. Беларуская дыяспара ў ЗША, сфармаваная перад Другой сусветнай вайной, не была ахоплена беларускiм нацыянальным рухам i трапiла пад польскiя i расiйскiя ўплывы. Адным з паплечнiкаў М. Абрамчыка, якi наладзiў кантакты з амерыканскiмi палякамi, быў Станiслаў Станкевiч. З дапамогай польскага святарства ў асобе ксяндза Друцкага-Любецкага яму ўдалося наладзiць вельмi карысныя кантакты з уплывовымi

[44] IPMS. Raport z posiedzenia Międzynarodowego komitetu uchodźców politycznych i DP w Niemczech z 6 czerwca 1948 r. Sygn.: A.11.E.1158.

[45] IPMS. Ref. "Zagadnienie Środkowo-Wschodniej Europy na Emigracji (wrzesień 1949 – kwiecień 1951)". Sygn.: A.11.E.1174.

каталіцкімі коламі ў ЗША. Беларускі дзеяч быў ацэнены тамтэйшымі польскімі дзеячамі як "прадстаўнік польскай інтэлігенцыі" і "адзін з найбольш інтэлігентных беларусаў". Прычынай такіх станоўчых ацэнак сталі выхаванне Станкевіча і яго мінулае, цесна звязанае з даваеннай польскай дзяржавай. Такія факты біяграфіі, як вучоба ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя, а таксама знаёмствы ў асяроддзі даваеннай польскай навуковай эліты стваралі ў людзей, якія добра памяталі часы 2-й Рэчы Паспалітай, вобраз Станкевіча як часткі польскага культурніцкага свету. Праўда, гэта не значыла, што паміж польскімі і беларускімі эмігрантамі не было палітычных разыходжанняў. Пра гэта сведчыць ліст С. Папроцкага ў Міністэрства замежных спраў ад 13 кастрычніка 1948 г., дзе чытаем: «Вельмі непрыемную пазіцыю займаюць беларусы, а найбольш Станкевіч, які падымае шырокі розгалас вакол этнаграфічнага прынцыпу, акрамя таго, ён ілжыва заявіў у "Бацькаўшчыне", быццам бы дэкларацыя Мюнхенскага клуба не была прынятая аднагалосна і з яго згоды, а другая частка дэкларацыі была адтэрмінаваная. Я напісаў яму наконт гэтага ліст, але не ведаю, чаму ён такі заўзяты»[46].

Прыхільнікі Рады БНР па зразумелых прычынах пад час перамоваў з польскім бокам спрабавалі паказаць польскім перамоўцам фігуру Астроўскага і БЦР у як мага найгоршым святле. Прадстаўнікі Рады БНР, жадаючы выглядаць у вачах міжнароднай думкі адзіным законным беларускім палітычным прадстаўніцтвам у эміграцыі, стваралі вобраз сваёй арганізацыі як сілы, якая супрацьстаіць дзеянням "расійскіх дыверсантаў і камуністычных агентаў", накіраваным супраць цэласнасці беларускага руху ў эміграцыі. Пад уплывам звестак, якія польскі бок атрымліваў з крыніц Рады БНР, у палякаў склалася думка пра БЦР як пра "зацяты антыпольскі элемент", "беларускіх квіслінгаў" і "калабарантаў з нямецкімі ўладамі"[47]. Нярэдка можна

[46] IPMS. List S. Paprockiego do MSZ z dn. 13 października 1948 r. Sygn.: A.11.E.873.

[47] IPMS. Ref. "Naczelne organizacje polityczne wśród emigracji z krajów Środkowo-Wschodniej Europy". Sygn.: A.11.E.873.

сустрэць таксама меркаванне пра БЦР як пра “дыверсію на карысць чырвоных і белых расійцаў”. У якасці доказу дзейнасці “астроўшчыкаў” на карысць расійцаў найчасцей рабіўся закід пра тое, што БЦР не хацела падтрымаць рэактывацыю ў 1948 г. Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якая ўзнікла пры дапамозе прыхільнікаў Рады БНР[48]. Пад уплывам Абрамчыка ў свядомасці польскіх палітыкаў умацавалася перакананне, што Астроўскі – гэта “русафільскі дыверсант”, які імкнецца да беларуска-расійскага збліжэння[49]. Трэба прызнаць, што вышэйзгаданыя абвінавачанні былі беспадстаўнымі і не мелі нічога агульнага з рэчаіснасцю. Астроўскаму і яго прыхільнікам не былі ўласцівы ані прапольскія, ані прарасійскі настроі. Па сутнасці, прадстаўнікі Рады БНР свядома ўводзілі ў зман сваіх польскіх партнёраў па перамовах, прыпісваючы БЦР прарасійскія погляды і дыструктыўныя намеры.

Варта задаць пытанне: чаму, у адрозненне ад М. Абрамчыка, яго палітычны апанент Р. Астроўскі не здолеў дасягнуць даверу польскай эміграцыі на Захадзе? Адказ просты: паспяховыя кантакты паміж польскім бокам і БЦР былі немагчымыя ў прынцыпе. Пра стаўленне дзеячаў БЦР да польскай эміграцыі красамоўна сведчыць пастанова 13-й сесіі Пленума БЦР (сакавік 1953 г.), дзе ідзе гаворка пра “польскую імперыялістычную палітыку ў эміграцыі ў дачыненні да Беларусі”[50]. Аднак ці тэрытарыяльныя разыходжанні сталі прычынай варожасці? Непрыманне рыжскай мяжы 1921 г. было ўласціва як “крывічам”, так і “зарубежнікам”. Абодва беларускія лагеры ні за што не хацелі прызнаць права палякаў на землі на ўсход ад Буга. Тым не менш у выпадку Рады БНР удалося дасягнуць хоць нейкай згоды і сесці за стол перамоваў. У адрозненне ад гэтага

[48] IPMS. Sprawozdanie S. Paprockiego z przebiegu rozmów z M. Abramczykiem w Paryżu z 12 maja 1948 r. Sygn.: A.11.E.1110.

[49] IPMS. Notatka M. Grabińskiego do Ambasady RP w Paryżu z dn. 20 listopada 1948 r. Sygn.: A.11.E.874; Ibidem, Sprawozdanie S. Paprockiego z przebiegu rozmów z M. Abramczykiem w Paryżu z 12 maja 1948 r. Sygn.: A.11.E.1110.

[50] Пастанова 13-га пленума БЦР у справе стратэгіі й тактыкі БЦР // Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады. 1954. № 1. С. 23.

Астроўскі і яго акружэнне не бачылі патрэбы ў кантактах з польскім урадам у эміграцыі. Квінтэсенцыяй замежнай палітыкі лагера БЦР стала нежаданне любой магчымасці перамоваў з палякамі. Палітыкі ад БЦР з пагардай ставіліся да праектаў “Міжмор’я”, называючы іх “папяровымі”. Жэсты некаторых польскіх палітыкаў у эміграцыі ў адносінах да беларусаў успрымаліся выключна як своеасаблівы наркоз, які павінен быў усыпіць чуйнасць і актыўнасць беларускага боку. Адным з галоўных бэцээраўскіх абвінавачанняў на адрас Рады БНР была і прыпісаная камандзе Абрамчыка падатлівасць і ўступлівасць перад палякамі. Прыхільнікі Астроўскага лічылі, што пагадненне Рады БНР з палякамі магчымае толькі коштам беларускіх інтарэсаў. Таму прапаганда БЦР кпіла з палітыкі Абрамчыка, накіраванай на паразуменне з польскай эміграцыяй, а сам прэзідэнт БНР разглядаўся як пешка ў чужой гульні. Любыя кантакты старшыні Рады БНР з прадстаўнікамі польскага боку ўспрымаліся БЦР як здрада беларускім дзяржаўным інтарэсам. У колах “астроўшчыкаў” хадзіла нават плётка, якая прыпісвала прэзідэнту БНР выказванне, быццам ён “не збіраецца змагацца з палякамі за два ці тры беларускія паветы”. Астроўскі прыкладаў усе магчымыя намаганні, каб давесці сваім прыхільнікам, што палякі нічым не лепшыя за расійцаў па ступені пагрозы для беларусаў. Што стала прычынай такога пункту погляду? Рызыкнем выказаць меркаванне, што такая скрайне антыпольская пазіцыя ў пэўнай ступені тлумачылася непрыемным досведам прэзідэнта БЦР з ранейшага супрацоўніцтва з палякамі. Усе спробы перамоваў як у міжваенны перыяд, так і пад час Другой сусветнай вайны скончыліся нічым. У многіх польскіх дзеячоў прозвішча Астроўскага атаясамлівалася перадусім з бясслаўнымі палітычнымі авантурамі ў міжваенны час. З пункту погляду польскага боку Астроўскі быў здраднікам, паколькі паказаў сябе як бальшавіцкі, а потым нямецкі калабарант[51]. Таму можна зра-

[51] IPMS. Referat oficera – kierownika ekspozytury wileńskiego oddziału II generalnego (głównego) sztabu WP, marzec 1944 r. Sygn.: A.9.V.18.

біць выснову, што Астроўскі ўсведамляў, што не мае добрай рэпутацыі ў лагеры польскай палітычнай эміграцыі, а таму палічыў за лепшае не рабіць новых спробаў паразумецца з ёю. Апроч таго, на стаўленне БЦР да Польшчы паўплывала і тое, што Абрамчык першы пачаў супрацоўнічаць з польскімі эмігрантамі і для Астроўскага на гэтым полі дзейнасці замежнай палітыкі папросту не было месца.

З сярэдзіны 1950-х г. паміж польскімі і беларускімі эмігрантамі паступова знікла ўзаемнае зацікаўленне. Гэты працэс быў выкліканы агульнай міжнароднай сітуацыяй: надзея на хуткае вяртанне на радзіму як для палякаў, так і для беларусаў стала прывіднай. У роспачы многія эмігранты адышлі ад актыўнай палітычнай дзейнасці, а снаваннне планаў на будучыню пасля вызвалення Усходняй Еўропы ад камунізму зрабілася неактуальным. Адпаведна, паступова страцілася і цікавасць да таго, што адбывалася ў лагеры суседзяў. Гэта можна заўважыць на прыкладзе польскіх і беларускіх эмігрантаў-антыкамуністаў. У другой палове 1950 г. польска-беларускія кантакты мелі характар амаль выключна прыватных знаёмстваў.

Праект Лондан, дня 27 траўня 1947 г.

**Польска-беларуская дэкларацыя**

Зважаючы на тое:

1. што, досвед абодвух народаў у перыяд нямецкай і савецкай акупацыі, а таксама цяперашняя сітуацыя пад савецкім ярмом, паказалі як ніколі раней у гісторыі, якой небяспекай не толькі для волі і незалежнасці абодвух народаў, але і самога іх існавання, ёсць нямецкі і маскоўскі імперыялізм;

2. што, абодва народы маюць глыбокую свядомую сувязь з прынцыпамі хрысціянскага свету, у абароне якіх перад нямецкім варварствам і расійскім усходам, неслі і надалей гатовыя несці найвышэйшыя ахвяры крыві і жыцця;

3. што, абодва народы згаджаюцца ў тым, што будучыя формы грамадскага быту і прынцыпы дзяржаўнага ладу павінны забяспечыць грамадзянам істотны ўплыў на фармаванне супольнага жыцця;

урачыста заяўляецца:

1. што будуць імкнуцца ўзаемна падтрымліваць адзін аднаго ў цяперашнім змаганні за волю і незалежнасць абодвух народаў, да канчатковай перамогі;

2. што будуць шукаць на чужыне найшчыльнейшага і найбольш мэтазгоднага кантакту ў супольна ажыццяўляемай палітычнай акцыі;

3. што будуць узаемадзейнічаць у акцыі, якая мае на мэце стварэнне палітычных, культурніцкіх і гаспадарчых паразуменняў паміж народамі Міжмор’я балтыйска-чарнаморска-адрыятычнага, якія ёсць гарантыяй нацыянальнай свабоды і спакою ў гэтай частцы Еўропы перад савецкім і нямецкім імперыялізмам;

4. што будуць аказваць сабе ўзаемную дапамогу ў галіне выгнанцаў, якая будзе датычыць як канкрэтных матэрыяльных, грамадскіх і нацыянальных патрэбаў, так і абароны супольных пастулатаў выгнанцаў на тэрыторыі адпаведных міжнародных суб’ектаў;

а таксама сцвярджаецца,

што яны поўныя рашучасці вырашыць усе спрэчныя справы, якія могуць паміж імі ўзнікнуць мірным шляхам у духу сяброўства, слушнасці і справядлівасці беручы пад увагу як інтарэсы паасобных бакоў, так і інтарэсы той галоўнай палітычнай супольнасці, якую маюць намер супольна стварыць пасля вяртання поўнай волі і незалежнасці.

**Крыніца**: IPMS, sygn. A.11E. 1110.

# Belarusian Independence Adherents' Camp in the West after World War II in the Eyes of Polish Emigrants

**Jury Hryboŭski**

After the end of World War II a definite number of Polish and Belarusian anti-communists found themselves in the West. In spite of certain difficulties, both among Polish and Belarusian emigrants there were people who were conscious of necessity to settle disputable issues. Soon, at the edge of 1940–50s, it came up to attempts to establish close contacts and achieve political cooperation in the fight against communism. The appearance of Belarusian political camp in emigration was not uniform in the eyes of Polish emigrants. According to certain political reasons, the representatives of Polish emigrant government quite positively estimated the activity of the Council of BPR (Belarusian People's Republic) headed by Mikola Abramčyk but negatively took the emigration united around BCC (Belarusian Central Council) and Radaslaŭ Astroŭski.

# Гісторыя Беларусі ў люстэрку рассакрэчаных дакументаў ЦК УКП(б) / КПСС
(другая палова 40-х – першая палова 60-х г.)

**Ян Шумскі**

Мэта дадзенага артыкула – аналіз ролі палітычнага асяродка ўлады – Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (да 1952 г. – Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў)) у фармаванні савецкага бачання гісторыі беларускіх земляў, а таксама механізму прыняцця рашэнняў па пытаннях гістарычнай мінуўшчыны ў Крамлі ў два першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі. Храналагічныя рамкі абумоўлены ў першую чаргу даступнасцю рассакрэчаных архіўных крыніц – матэрыялаў асобных аддзелаў ЦК, Палітбюро / Прэзідыума ЦК, Сакратарыята і Ідэалагічнай камісіі.

Вядома, у рамках аднаго артыкула такую шырокую праблему грунтоўна прааналізаваць немагчыма. Таму адразу падкрэслім, што аб'ектамі даследавання не з'яўляюцца канцэпцыі гісторыі, узоры інтэрпрэтацыі і тэксты, створаныя гісторыкамі. Аўтар не збіраецца таксама разглядаць пытанні перыядызацыі, этнагенезу беларускага народа, аналізаваць асобныя плыні, звязаныя з імёнамі вядомых гісторыкаў, ці, як іх называлі ў той час, “вядучых спецыялістаў”. Мы плануем разгледзець закранутую праблему зусім з іншага пункту погляду – з перспектывы ЦК КПСС, тагачаснага найвышэйшага ў СССР асяродка ўлады, дзе прымаліся ключавыя рашэнні ў галіне гісторыяпісання, і паказаць механізмы з'яўлення дырэктыўных інтэрпрэтацыйных схем. Аўтар прапануе прааналізаваць канцэпцыю гісторыі Бела-

русі больш комплексна – у кантэксце агульнаславянскай гісторыі, а таксама знаходжання Беларусі як часткі СССР у лагеры сацыялістычных краін. Дагэтуль абмежаванасць доступу да крыніц, якія захоўваюцца ў цэнтральных / федэральных архівах Расійскай Федэрацыі, не дазваляла даследчыкам рэалізаваць такі падыход.

У сваіх разважаннях аўтар мае намер абапірацца ў першую чаргу на матэрыялы асобных аддзелаў ЦК УКП(б) / КПСС, а таксама на дакументы навукова-даследчых асяродкаў, якія знаходзіліся ў цесных стасунках з Крамлём (Інстытут славяназнаўства Акадэміі навук СССР) і іншымі палітызаванымі ўстановамі (Усесаюзнае таварыства культурных сувязяў з замежжам, Славянскі камітэт).

Матэрыялы, якія адлюстроўваюць гістарычную палітыку ЦК, захоўваюцца ў фондах РДАСПГ[1] і РДАНГ[2]. Першы архіў зберагае матэрыялы Камуністычнай партыі ад пачатку XX ст. да 1952 г. Другі – Расійскі дзяржаўны архіў найноўшай гісторыі, утвораны ў Маскве ў 1991 г. – адзін з наймалодшых федэральных архіваў, дзе знаходзяцца пераважна дакументы, звязаныя з дзейнасцю ЦК КПСС з 1952 да 1991 г. Большасць дакументаў фондаў дагэтуль не рассакрэчана і выкарыстоўваецца толькі ў службовых мэтах. На працягу апошніх некалькіх гадоў рассакрэчванне дакументаў адбывалася ў асноўным у рамках рэалізацыі сумесных міжнародных праектаў і тычылася асобных даследчыцкіх праблем, а не ўсяго гістарычнага перыяду[3]. У якасці дапаможнага матэрыялу ў дадзеным артыкуле

1 РДАСПГ – Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (РГАСПИ).

2 РДАНГ – Расійскі дзяржаўны архіў найноўшай гісторыі (РГАНИ).

3 Гл.: Чехословацкий кризис 1967–1969 гг. в документах ЦК КПСС: Статьи, исследования, документы, Составители: Величанская Л. А. (отв. сост.), Джалилов Т. А., Кишкина-Иваненко М. Ф., Прозуменщиков М. Ю. Москва, 2010. У сакавіку 2010 г. кіраўніцтва РДАНГ падпісала міжнароднае пагадненне з польскім Інстытутам нацыянальнай памяці, якое прадугледжвала рассакрэчванне і публікацыю дакументаў найвышэйшых органаў ЦК КПСС па пытаннях савецка-польскіх адносінаў у перыяд 1953–1964 г.

будуць выкарыстаны таксама дакументы з фондаў Архіва Расійскай акадэміі навук[4].

Было б труізмам сцвярджаць, што цэнтральнае месца ў пірамідзе палітычнай улады і партыйнай іерархіі ў краіне Саветаў займаў Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, які перадусім выконваў функцыі кіраўніка эканамічнага і грамадскага жыцця дзяржавы. Вакол гэтай таямнічай і амаль што ўсёмагутнай структуры ўзнікла шмат ненавуковых і не праверaных крыніцамі міфаў. Аднак апошнія навуковыя публікацыі расійскіх і заходніх даследчыкаў, а таксама адносная адкрытасць былых партыйных архіваў дазваляюць нам у пэўным сэнсе дэміфалагізаваць і сканкрэтызаваць "сакральны" бок працэсу асабістага ўдзелу партыйнага чыноўніка ў прыняцці таго ці іншага рашэння. Улада ўпершыню пачынае атаясамлівацца не толькі з першымі асобамі савецкай дзяржавы, якія непасрэдна ўплывалі на фармаванне гістарычнай палітыкі (у першую – чаргу з Іосіфам Сталіным, Міхаілам Суславым, Пятром Паспелавым), але і з мноствам функцыянераў: загадчыкамі аддзелаў, сектараў, інструктарамі, рэферэнтамі[5].

У наменклатуры ЦК УКП(б) / КПСС справы, звязаныя з навукай і, у прыватнасці, з гістарычнай навукай, у розныя часы належалі да кампетэнцыі розных адміністрацыйных адзінак. Большасць рашэнняў у гэтай сферы разглядаў Сакратарыят ЦК КПСС пасля атрымання дакладных запісак з асобных аддзелаў. Палітбюро ў сталінскія часы займалася справамі Акадэміі навук СССР і міжнароднымі кантактамі[6]. Яно санкцыянавала

4 АРАН – Архив Российской академии наук; далей АРАН.

5 Гл.: Красовицкая Т. Ю. Идеологические комиссии ЦК КПСС. 1958–1964: Документы; Аппарат ЦК КПСС и культура. 1953–1957: Документы; "А за мною шум погони…" Борис Пастернак и власть. 1956–1972 гг.: Документы; Аппарат ЦК КПСС и культура. 1958–1964: Документы // Отечественные архивы. 2006. № 3. С. 102–106.

6 Академия наук в решениях Политбюро ЦК РКП(б) – ВКП(б). 1922–1952. Председ. редкол. Осипов Ю. С., составитель Есаков В. Д. Москва, 2000. С. 19.

заснаванне або закрыццё навуковых часопісаў, у тым ліку і "Исторического архива"[7], ініцыявала з падачы "правадыра" псеўданавуковыя дыскусіі па філасофіі, мовазнаўстве, фізіялогіі і г. д. У хрушчоўскія часы функцыі Палітбюро перайшлі да Прэзідыума, змяніліся таксама і кампетэнцыі. І калі ў папярэднія гады большасць рашэнняў прымалася асабіста Сталіным, то хрушчоўскі перыяд, асабліва 1954–1957 г., быў часам актыўных дыскусій у найвышэйшым партыйным асяроддзі.

Пытанні гістарычнай навукі, і шырэй – гуманітарных навук, уваходзілі ў сферу адказнасці Аддзела агітацыі і прапаганды, рэфармаванага пазней ва Упраўленне прапаганды і агітацыі. На мяжы 40 і 50-х г. адбылося некалькі рэарганізацый апарату ЦК, у выніку чаго з'явіўся самастойны Аддзел навукі, які на працягу 50-х г. адказваў то за культуру, то за вышэйшыя навучальныя ўстановы і школы. Гэты калейдаскоп зменаў доўжыўся да 1965 г., калі структура кантролю ЦК КПСС над навукай была ў асноўным сфармаваная[8].

Супярэчлівая і непаслядоўная палітыка новага савецкага лідара Мікіты Хрушчова прывяла да паслаблення сістэмнага ідэалагічнага кантролю, з'яўлення надзеі на змены, на захаванне пазацэнзурнай прасторы для творчых і навуковых эліт. Аднак партыя хутка пачала аднаўляць свае страчаныя пазіцыі. Утварэнне ў 1958 г. Ідэалагічнай камісіі ЦК КПСС (Комиссия по вопросам идеологии и культуры и международных партийных связей) на чале з Міхаілам Суславым было спробай вярнуць назад quasi-сталінскія метады кантролю над грамадскім жыццём у СССР і ў

[7] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 17. Спр. 470. Арк. 159. Запіска загадчыка Аддзела культуры і навукі ЦК КПСС адносна заснавання часопіса "Исторический архив", 22.VII.1954 г.

[8] Падрабязней пра аддзел навукі гл.: Шумскі Я. Аддзел навукі ЦК УКП(б).КПСС і фарміраванне гістарычнай свядомасці "народаў СССР" на прыкладзе БССР // Вяртанне ў Еўропу: мінулае і будучыня Беларусі, рэд. С. Дусэт, А. Дынько, А. Пашкевіч. Варшава, 2011. С. 119–127.
Гл. таксама: Отдел науки ЦК КПСС 1953–1966 гг. Аннотированные описи. Научн. ред. Прозуменщиков М. Ю., сост. Киселев М. Ю., Казарина И. В., Величанская Л. А., Чарская Л. В., Москва, 2006. С. 6–9.

сацыялістычным лагеры. Апрача Суслава, у склад гэтай Камісіі ўваходзілі Пётр Паспелаў, Нурытдзін Мухітдзінаў, Кацярына Фурцава і фармальна ўсе члены і кандыдаты ў члены Прэзідыума ЦК. Рашэнні Камісіі, якія часта тычыліся пытанняў гістарычнай навукі, у прыватнасці архіўных дакументаў, у партыйнай тэрміналогіі праходзілі як “по комиссии” і мелі сілу пастановаў ЦК КПСС[9].

Распрацоўка падставовых інтэрпрэтацыйных схем, “правільных” падыходаў і ўзораў, падзел на “перадавых” ці “рэакцыйных” асоб у гісторыі так ці інакш адбываліся ў кабінетах аддзелаў ЦК КПСС. У пэўныя перыяды гэтыя пытанні вырашаў асабіста савецкі дыктатар, Іосіф Сталін. На гэтым аспекце больш падрабязна мы спынімся ніжэй. А цяпер разгледзім, якім чынам адбывалася выпрацоўка рашэнняў, што тычыліся праблем гістарычнай навукі.

Звычайна ЦК даручаў апрацоўку асобных пытанняў аднаму з аддзелаў ЦК, перш за ўсё – Аддзелу навукі (пасля 1953 г. – Аддзел культуры і навукі), які часта выкарыстоўваў прафесійную дапамогу спецыялістаў канкрэтнай галіны ведаў. Гэтыя асобы, у партыйнай тэрміналогіі named “кансультантамі”, падзяляліся на групы на чале з партыйным функцыянерам (звычайна загадчыкам сектара, радзей – аддзела). Кансультанты ў галіне гісторыі працавалі ў розных установах: асобных інстытутах АН СССР, Інстытуце Маркса – Энгельса – Леніна (ІМЭЛ). Сярод найбольш вядомых тагачасных гісторыкаў-кансультантаў можна згадаць Б. Грэкава, У. Пічэту, П. Траццякова, А. Удальцова, М. Ціхамірава. Для ацэнкі найбольш “далікатных” перыядаў і “гарачых” тэм (міжваенны перыяд, пакт Молатава – Рыбентропа) выкарыстоўваліся ацэнкі і экспертызы Галоўнага архіўнага ўпраўлення МУС СССР, а таксама гісторыка-дыпламатычнага ўпраўлення МЗС СССР.

Асаблівае месца ў выпрацоўцы інтэрпрэтацыйных схем гісторыі славянскіх народаў пасля вайны займаў Інстытут славяназнаўства АН СССР, заснаваны ў адпаведнасці з ра-

[9] Идеологические комиссии ЦК КПСС. 1958–1964: Документы. Сост. Афанасьева Е. С., Афиани В. Ю., Величанская Л. А. Москва, 1998. С. 25.

шэннем Палітбюро ЦК УКП(б) ад 31 жніўня 1946 г. у складзе Аддзялення гісторыі і філасофіі АН СССР[10]. Інстытут славяназнаўства разам з Інстытутам гісторыі АН СССР быў у пэўным сэнсе лабараторыяй, дзе ў цесным супрацоўніцтве з аддзеламі ЦК УКП(б) / КПСС каваліся савецкія схемы і канцэпцыі гісторыі славянскіх народаў і дзяржаў Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Югаславіі і саюзных рэспублік СССР – Беларусі і Украіны. Рэалізацыя большасці інспіраваных ЦК міжнародных праектаў – напісанне марксісцкіх версій гісторыі славянскіх дзяржаў, выданне некалькіх тамоў гісторыі паўстання 1863 г. і іншае – адбывалася пад навуковым патранатам Інстытута славяназнаўства.

Нагадаем, што пасля ліквідацыі ў сярэдзіне 30-х г. у Ленінградзе Інстытута славяназнаўства і рэпрэсій у асяроддзі славістаў (г. зв. "справа славістаў" М. Дурнаво, Р. Ільінскага і інш.) адраджэнне гэтага кірунку адбылося з інспірацыі Крамля і пад знакам "ліквідацыі шкоды, нанесенай школай Міхаіла Пакроўскага". У красавіку 1939 г. у структуры Інстытута гісторыі АН СССР быў створаны новы Сектар славяназнаўства[11]. 21 красавіка ў "Известиях" быў апублікаваны артыкул "рэабілітаванага" ўладамі Пічэты, у якім гісторык абгрунтоўваў неабходнасць <u>даследавання гісторыі славян у спалучэнні з гісторыяй Расіі</u> [sic!] на падставе марксісцкай метадалогіі. 23 чэрвеня 1939 г. Пічэта дакладаў на навуковай радзе Інстытута гісторыі АН СССР пра даручанае яму заданне стварыць новую, марксісцкую версію гісторыі Польшчы ў супрацоўніцтве з вучонымі Ленінграда. Знамянальныя час і абставіны прыняцця гэтага рашэння: роўна праз два месяцы Рыбентроп і Молатаў падпішуць пакт, які прывядзе да II сусветнай вайны, распачатай Сталіным і Гітлерам.

Дарэчы, Сталін асабіста паклапаціўся пра тое, каб менавіта яго аўтарская версія была пазней узятая за аснову пры распрацоўцы афіцыйнай савецкай парадыгмы падзей

[10] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 125. Спр. 552. Арк. 204. Дакладная запіска сакратару ЦК УКП(б) М. Суславу, 21.VI.1947 г.

[11] Досталь М. Ю. Как Феникс из пепла. Отечественное славяноведение в период Второй мировой войны и первые послевоенные годы. Москва, 2009. С. 163.

верасня 1939 г.[12]. У студзені 1948 г. Дзяржаўны дэпартамент ЗША апублікаваў зборнік дакументаў “Nazi-Soviet Relations 1939–1941: Documents from the Archives of The German Foreign Office”. У адказ на гэта Сталін уласнаручна апісаў сваё бачанне міжнародных адносінаў напрыканцы 30-х г., абгрунтоўваючы неабходнасць хаўрусу з Гітлерам. Дакладна вядома, што ён карыстаўся таксама прафесійнымі парадамі іншых кансультантаў ЦК УКП(б) – тагачасных гісторыкаў-міжнароднікаў Уладзіміра Хвастова і Барыса Штэйна[13]. На стол “правадыра” траплялі нарыхтоўкі і матэрыялы іншых гісторыкаў-прафесіяналаў.

Сталін, рэдагуючы тэкст, замяніў назву “Ответ клеветникам”[14] на “Фальсификаторы истории” і асабіста напісаў некалькі дзясяткаў старонак брашуры, якая была перакладзена на большасць замежных моў і распаўсюджана шматмільённымі тыражамі за межамі СССР – у Францыі, Канадзе, ЗША, Англіі, Швецыі і іншых краінах[15]. З таго часу ў лексікон савецкай прапаганды трывала ўвайшло слова *фальсіфікатар*, якое, дарэчы, актыўна выкарыстоўваецца і сёння расійскай і беларускай дзяржаўнай прапагандай адносна даследчыкаў, якія ў сваіх працах выказваюць погляд, што “не супадае з генеральнай лініяй партыі”. Цікава, што аўтарства брашуры доўгі час было таямніцай, бо ў канцы рукапісу “правадыр” сціпла падпісаўся *Совинформбюро*. Пяру Сталіна належаць, між іншым, наступныя цытаты:

12 Гл.: Roberts G. Stalin, the Pact with Nazi Germany, and the Origins of Postwar Soviet Diplomatic Historiography // Journal of Cold War Studies. 2002. Vol. 4. S. 93–103.

13 Lipinsky J. Das Geheime Zusatzprotokoll zum deutsch-sowjetischen Nichtangriffsvertrag vom 23. August 1939 und seine Entstehungs- und Rezeptionsgeschichte von 1939 bis 1999. Frankfurt am Main, 2004. S. 375.

14 Назва верша А. Пушкіна, напісанага ў адказ на прапанову дэпутатаў французскага парламента пра сумесную збройную барацьбу разам з паўстанцамі супраць расійскіх войскаў пад час паўстання 1830–1831 г.

15 РДАСПГ. Ф. 558. Воп. 11. Спр. 244. Арк. 9–14. Даведка Вышынскага А. Я. наконт распаўсюджвання брашуры “Фальсіфікатары гісторыі” за мяжой, дасланая Сталіну, 22.IV.1948 г.

«…Поэтому первая задача Советского Правительства состояла в том, чтобы создать “восточный” фронт против гитлеровской агрессии, построить линию обороны у западных границ белорусских и украинских земель и организовать таким образом барьер против беспрепятственного продвижения немецких войск на Восток. Для этого нужно было воссоединить Западную Белоруссию и Западную Украину, захваченные панской Польшей в 1920 году, с Советской Белоруссией и с Советской Украиной и выдвинуть сюда советские войска. С этим делом нельзя было медлить, так как плохо снабжённые польские войска оказались неустойчивыми, польское командование и польское Правительство находились уже в бегах, и гитлеровские войска, не встречая серьёзного препятствия, могли занять белорусские и украинские земли раньше, чем придут туда советские войска»[16].

“…Советскому Союзу удалось умело использовать советско-немецкий пакт в целях укрепления своей обороны, что ему удалось раздвинуть свои границы далеко на запад и преградить путь беспрепятственному продвижению немецкой агрессии на Восток, что гитлеровским войскам пришлось начать своё наступление на Восток не с линии Нарва – Минск – Киев, а с линии, проходившей на сотни километров западнее, что СССР не истёк кровью в Отечественной войне, а вышел из войны победителем”[17].

Менавіта сталінская версія верасня 1939 г. на доўгія гады стала дамінаваць у савецкай гістарыяграфіі, а пэўныя яе канцэпты, як падаецца, дагэтуль кананічныя ў сучаснай афіцыйнай беларускай і расійскай гістарыяграфіі[18].

[16] РДАСПГ. Ф. 558. Воп. 11. Спр. 244. Арк. 86.

[17] РДАСПГ. Ф. 558. Воп. 11. Спр. 243. Арк. 55. Рукапіс (праўка І. Сталіна) тэксту брашуры “Ответ клеветникам”. Гл. фота 1.

[18] Пра ролю і ўдзел І. Сталіна ў напісанні гісторыі СССР гл.: Самарина Н. Г. Историческая концепция И. В. Сталина и ее влияние на развитие отечественной исторической науки // Московский государственный университет культуры и искусств. Москва, 2000; Медведев Р. Сталин и “Краткий курс истории ВКП(б)” // Высшее образование сегодня: Реформы. Нововведения. Опыт. 2003. № 9. С. 48–54; Шеин И. А. Сталин и Отечественная война 1812 года: опыт изучения советской историографии 1930–1950-х годов // Отечественная история. 2001. № 6. С. 97–108.



IV

Редакция И. Сталина

86

Создание „восточного" фронта, нападение Германии на СССР, антигитлеровская коалиция и вопрос о межсоюзнических обязательствах.

Заключая советско-немецкий пакт о ненападении в августе 1939 года, Советский Союз ни на минуту не сомневался, что рано или поздно Гитлер нападет на СССР. Такая уверенность Советского Союза вытекала из коренных политических и военных установок гитлеровцев. Она подтверждалась практической деятельностью гитлеровского правительства за весь предвоенный период.

Поэтому первая задача Советского правительства состояла в том, чтобы создать „восточный" фронт против гитлеровской агрессии, построить линию обороны у западных границ Белорусских и украинских земель и организовать таким образом барьер против беспрепятственного продвижения немецких войск на Восток. Для этого нужно было воссоединить Западную Белоруссию и Западную Украину, отторгнутые панской Польшей в 1920 году, с Советской Белоруссией и с Советской Украиной и двинуть туда советские войска. Это дело нельзя было медлить, так как плохо снабженные польские войска оказались нестойкими, польское командование и польское правительство находились уже в бегах, и гитлеровские войска, не встречая серьезного препятствия, могли занять белорусские и украинские земли, раньше чем придут туда со-

**Фота 1. Рукапіс брашуры “Ответ клеветникам” з праўкамі І. Сталіна.**

Савецкая гістарыяграфія, якую накіроўвала і кантралявала партыя, пайшла яшчэ далей, абвінавачваючы Польшчу ў падрыхтоўцы "ў 1939 г. вайны супраць СССР" і "жаданні атрымаць ад немцаў зброю" ізноў жа такі для нападу на Савецкі Саюз[19]. Дарэчы, гэты стары савецкі тэзіс пра "віну" Польшчы ў развязанні II сусветнай вайны ці падрыхтоўцы тайнай змовы з немцамі супраць СССР зусім нечакана, а можа і зусім лагічна, атрымаў "другое жыццё" ў пэўных колах у сучаснай Расіі і быў падняты ў шматлікіх публікацыях на гэтую тэму якраз у 70-ю гадавіну падпісання пакта[20].

Але вернемся да асобы іншага кансультанта ЦК – Уладзіміра Пічэты – і спынімся на яго ролі ў выпрацоўцы савецкай трактоўкі "вызваленчага паходу" 1939 г. і вызначэнні межаў Заходняй Беларусі.

Рыхтуючы восенню 1939 г. вялікі прапагандысцкі наступ, Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) замовіла напісанне скарочанай версіі гісторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны колішняму кіраўніку Сектара славяназнаўства Інстытута гісторыі АН СССР Уладзіміру Пічэту. Адпаведна адрэдагаваныя ЦК і апрацаваныя Пічэтам працы на тэму "гістарычнага лёсу народаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны" атрымалі "пуцёўку ў жыццё" і сталі падставай для шматлікіх прац прапагандысцкага характару[21].

З парадаў Пічэты скарыстаўся ў першай палове 1944 г. Дзяржаўны камітэт абароны (ДКА), які з 1941 да 1945 г. быў дэ факта найвышэйшым органам улады ў СССР і на чале якога стаяў зноў-такі Сталін. ДКА даручыў Інсты-

[19] АРАН. Ф. 1965. Воп. 1. Спр. 173. Арк. 75. Пратакол нарады ў ЦК КПСС, 22.VI.1956 г.

[20] Гл.: Секреты польской политики. 1935–1945 годы. Составитель Соцков Л. Ф. Москва, 2009; Дюков А. Р. "Пакт Молотова – Риббентропа" в вопросах и ответах. Москва, 2009. Партитура Второй мировой. Кто и когда начал войну? (ред.) Нарочницкая Н. А., Фалин В. М. Москва, 2009, і г. д.

[21] Пичета В. И. Западная Украина и Западная Белоруссия // Советская наука. 1939. № 12. С. 155–170; Пичета В. И. Основные моменты в исторических судьбах Западной Украины и Западной Белоруссии // Историк-марксист. 1939. № 10–11. С. 67–98. Гл. таксама: Шумскі Я. Аддзел навукі… С. 122.

туту гісторыі АН СССР падрыхтаваць спецыяльную працу памерам 4 аркушы па праблеме вызначэння гістарычных межаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Выкананне загаду даручылі Пічэту[22]. Ёсць усе падставы меркаваць, што пры вызначэнні новай заходняй мяжы БССР і УССР у 1944 г. Сталін карыстаўся пічэтаўскімі матэрыяламі. Так ці інакш, дакладны адказ можа даць паглыбленае даследаванне матэрыялаў фонду 644 ДКА (рабочых матэрыялаў), якія захоўваюцца ў РДАСПГ. Вядома толькі, што пасля азнаямлення ў ДКА з працай Пічэту даручылі напісанне афіцыйнага тэксту на 7 аркушаў для Саўінфармбюро, дзе абгрунтоўвалася новая заходняя мяжа БССР – без Беласточчыны.

Адносна моцную пазіцыю Пічэты (у той час усё было адносным, бо “давер” партыі можна было хутка страціць) у Маскве ў якасці кансультанта ЦК УКП(б) пацвярджаюць дакументы Палітбюро ЦК УКП(б). Толькі ў 1946 г. у адпаведнасці з рашэннямі Палітбюро Пічэту двойчы даручалі адказныя заданні. Летам 1946 г. ЦК прызначыў яго старшынём камісіі, якая выбрала ў архівах і бібліятэках савецкай акупацыйнай зоны ў Нямеччыне (Берлін, Дрэздэн, Гале, Ляйпцыг і інш.) каля 20 тыс. экзэмпляраў каштоўных прац у галіне славяназнаўства[23]. Восенню таго ж года Аддзел прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) накіраваў Пічэту ў Будзішын з заданнем высвятлення “политической физиономии Лужичан”. Цікава, што калі Андрэй Жданаў запытаўся ў намесніка міністра замежных спраў СССР Уладзіміра Дзеканозава, якую кандыдатуру ён прапануе, той адказаў, што “полагал бы целесообразным ко-

[22] Документы к истории отечественного славяноведения 40-х годов XX века [Отчет о деятельности сектора славяноведения за 1944 год], сост. Горянов А. Н., Досталь М. Ю. // Славистика СССР и дальнего русского зарубежья 20–40-х годов XX века. Сборник статей, под ред. М. Робинсона. Москва, 1992. С. 115, 141.

[23] Фрагмент письма секретаря Славянской комиссии АН СССР Валентина Дитякина Николаю Державину от 25 октября 1946 г. // Славистика СССР и дальнего русского зарубежья 20–40-х годов XX века. Сборник статей, под ред. М. Робинсона. Москва, 1992. С. 133–134.

мандировать в г. Будишин представителя АН СССР, но не академика"[24]. У Аддзеле навукі адказным прызначылі Пічэту, які пасля камандзіроўкі ў сваёй надзвычай грунтоўнай справаздачы ў ЦК абмаляваў перпектывы стварэння самастойнай дзяржавы лужыцкіх сербаў і магчымасці прызнання яе ААН, што якраз найбольш цікавіла партыйнае кіраўніцтва[25].

Тут мы падыходзім да канцэптуальнага пытання пра планы найвышэйшага партыйнага кіраўніцтва СССР наконт стварэння сінтэтычнай марксісцкай гісторыі славянскіх дзяржаў. Ужо ў 1939 г. у Крамлі лунала новая-старая ідэя ўтварэння славянскай федэрацыі краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы пад кіраўніцтвам Расіі-СССР, якая ў канцы II сусветнай вайны здавалася ўсё больш блізкай да рэалізацыі. Пад лозунгам "адзінства славян" – савецкага неапанславізму – Масква планавала праводзіць сваю імперыялістычную палітыку пашырэння жыццёвай прасторы і сфер уплыву. Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) рыхтавала глебу для стварэння Міністэрства славянскіх спраў пры Саўмінах славянскіх дзяржаў, якое каардынавала б "новы славянскі рух" і спрыяла саветызацыі краін г. зв. "народнай дэмакратыі"[26]. Трэба было, каб аўтарытэтныя навукоўцы абгрунтавалі супольнасць лёсаў усіх славян на працягу стагоддзяў і гістарычную місію Расіі і Савецкага Саюза ў якасці "збіральніка" земляў усіх славян. Для паступовай саветызацыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы партыі былі неабходныя выканаўцы, якія маглі б рэалізаваць канцэпцыі Крамля ў розных галінах.

Палітычныя планы ўлады ператвараліся ў дырэктыўныя ўказанні адпаведным навуковым установам і спецыялістам. Невыпадкова Пічэту ў 1943 г., пасля вяртання

[24] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 125. Спр. 362. Арк. 106. Запіска Уладзіміра Дзеканозава, накіраваная Андрэю Жданаву. 16.IX.1946 г.

[25] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 125. Спр. 362. Арк. 106. Короткий "Очерк истории сербов-лужичан", составленный В. Пичетой для Отдела пропаганды и агитации ЦК ВКП(б). 16.X.1946 г.

[26] Досталь М. Ю. Славянский конгресс в Белграде 1946 г. // Славянские съезды XIX–XX вв. Под ред. Аксеновой Е. П., Горянова А. Н., Досталь М. Ю. Москва, 1994. С. 131–133.

ў Маскву з эвакуацыі з Ташкента, было даручана ўключыць у склад Сектара славяназнаўства і навучаць будучых гісторыкаў-марксістаў з Балгарыі (Р. Караколаў), Харватыі (Д. Гусцініч), Македоніі (Д. Влахаў), Польшчы (Ж. Корман, Ц. Бабінская)[27]. Большасць з іх вярнуліся пасля вайны дадому, дзе ўключыліся ў працэс будаўніцтва гістарыяграфій сваіх краін па савецкім узоры. Пічэта ў той час працаваў над двухтомнікам "Гісторыя Польшчы", працу "Гісторыя Балгарыі" распачаў Мікалай Дзяржавін, а "Гісторыю Чэхаславакіі" пісаў Здэнэк Неедлы.

На апошнім у жыцці Пічэты (памёр 23 чэрвеня 1947 г.) паседжанні навуковай рады кафедры заходніх і паўднёвых славян Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта 20 траўня 1947 г. якраз абмяркоўвалася пытанне стварэння супольнай гісторыі Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі і Югаславіі. Сыход з жыцця вучоных такога фармату, як Пічэта, Дзяржавін, Тарле ці Грэкаў, сведчыў пра канец эпохі індывідуальных і надыход часу "коллективных" прац. Гэта быў скон эры "мудрацоў". "Тварэнні жыцця" былі заменены працамі "на тэму"...

У канцы 40-х г. партыйнае кіраўніцтва звяртала пільную ўвагу на праблемы стварэння сінтэтычных марксісцкіх версій гісторый славянскіх народаў. Нагадаем сцісла сутнасць марксісцкага метадалагічнага падыходу, які панаваў у савецкіх навуковых даследаваннях. Ён будаваўся на падставе гістарычнага матэрыялізму як тэорыі і метаду гістарычных даследаванняў у ленінска-сталінскай інтэрпрэтацыі. Асноўным заданнем гістарычнай навукі было "вывучэнне найважнейшых заканамернасцяў у гісторыі". А паколькі гістмат іх ужо дакладна акрэсліў, даследаванне "заканамернасцяў" зводзілася, па сутнасці, да напаўнення зместам, канкрэтным фактаграфічным матэрыялам схемы змены грамадска-эканамічных фармацый. Паводле гэтай схемы, развіццё сацыялізму і перарастанне яго

[27] Документы к истории отечественного славяноведения 40-х годов XX века [Отчет о деятельности сектора славяноведения за 1943 год]. Сост. Гориянов А. Н., Досталь М. Ю. // Славистика СССР и дальнего русского зарубежья 20–40-х годов XX века, сборник статей под ред. М. Робинсона. Москва, 1992. С. 100.

ў камунізм было передвызначана хадою гісторыі. У дачыненні да гісторыі асобных дзяржаў і народаў новы лад разумеўся як безальтэрнатыўны, адзіны слушны вынік гістарычнага працэсу.

У бачанні гісторыі славянскіх народаў на Старой плошчы дамагаліся, каб марксісцкі падыход спалучаўся з асноўнымі ідэямі панславізму і кіраўнічай роляй Расіі. Аб'ектам крытыкі некалі разоў рабіўся Інстытут славяназнаўства АН СССР, прымаліся нават спецыяльныя рашэнні Палітбюро (1947 і 1949 г.) наконт нездавальняльнай працы гэтай установы. Пагроза навісла над вучнямі Пічэты, якія працавалі над гісторыяй Польшчы, Чэхаславакіі і Югаславіі. Праца над гісторыяй Югаславіі ў сувязі з асабістым канфліктам Сталіна з Ціта была прыпынена яшчэ ў 1946 г.

У Мінску і Кіеве адбылося некалькі інспіраваных Масквой разгромных дыскусій па праектах лакальных "Гісторый". Звернем увагу на праблему ролі і ўплыву ЦК УКП(б) і асобных партыйных функцыянераў у Маскве на стварэнне "Гісторыі Беларускай ССР". Нямецкі даследчык Райнэр Лінднэр у грунтоўнай працы, прысвечанай суадносінам гістарыяграфічнай навукі і палітыкі ў Беларусі, апісваючы праблему стварэння "Гісторыі Беларускай ССР", абапіраўся на беларускія архіўныя крыніцы і апублікаваныя матэрыялы[28]. Аналіз крыніц іншага ўзроўню паказвае, што дыскусіі, сесіі, абмеркаванні макетаў працы, якія праводзіліся па ініцыятыве ЦК КП(б)Б у Мінску, мелі другараднае значэнне. Прынцыповыя ацэнкі і падставовыя інтэрпрэтацыйныя схемы для гісторыі БССР рабіліся ў Маскве, менавіта там адбывалася рэцэнзаванне працы маскоўскімі гісторыкамі, якія карысталіся даверам партыі. Толькі ў сталічных навуковых цэнтрах можна было знайсці аўтарытэты, якія ў межах савецкай рэчаіснасці манапалізавалі пэўныя кірункі і храналагічныя перыяды і пад пільным кантролем партыі распрацоўвалі

[28] Гл.: Ліндנэр Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. / пер. з ням. Л. Баршчэўскага; нав. рэд. Г. Сагановіч. С.-Пецярбург, 2005. С. 327–329.

тую ці іншую тэму. Уласна кажучы, у правінцыі на той час ужо не існавала ані нацыянальнай, ані нацыянал-камуністычнай перспектывы гісторыі, бо паўсюль панаваў сталінскі гістарыяграфічны догмат.

Межы гэтай публікацыі не дазваляюць падрабязна апісаць працэс стварэння "Гісторыі Беларускай ССР". Таму ў якасці прыкладу прывядзем толькі адзін з эпізодаў, які дазволіць прасачыць механізм прыняцця рашэнняў уладамі. Нагадаем, што на працягу 30-х і першай паловы 40-х г. усе спробы стварыць на марксісцкай метадалагічнай глебе сінтэтычную версію гісторыі беларускіх земляў, якая да таго ж адпавядала б бягучым патрабаванням партыі, не прынеслі поспеху. Пасля разгромнай крытыкі чарговай версіі ў 1946 г. і з'яўлення летам 1948 г. сумнавядомых "Тэзісаў да асноўных пытанняў гісторыі БССР"[29] партыйнае кіраўніцтва Беларусі ў 1950 г. даслала ў Маскву першы варыянт новай, напісанай у рэчышчы згаданых "Тэзісаў..." "Гісторыі Беларускай ССР". Макет быў накіраваны для рэцэнзіі маскоўскім гісторыкам з Інстытута гісторыі АН СССР і адасланы ў Мінск на дапрацоўку, бо, на думку масквічоў, "книга нуждалась в серьезной переработке"[30].

У сярэдзіне 1952 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Патолічаў даслаў у ЦК УКП(б) Георгію Малянкову дакладную запіску, дзе інфармаваў пра заканчэнне працы над другой версіяй двухтомніка і прасіў кіраўніцтва накіраваць у Мінск на абмеркаванне макета ("внесение необходимых поправок, изменений, уточнений") у верасні групу маскоўскіх гісторыкаў, якая складалася з дванаццаці асобаў на чале з Барысам Грэкавым. Перад вынясеннем гэтага пытання на паседжанне Сакратарыята

[29] Тэзісы зводзіліся да наступных момантаў: 1) знаходжанне беларускіх земляў у складзе літоўска-рускай, а пазней польска-літоўскай дзяржавы было часам нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту; 2) прагрэсіўны характар "уз'яднання" з Расіяй; 3) спрадвечная цяга і сімпатыя беларусаў да "старэйшага брата".

[30] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 133. Спр. 220. Арк. 242. Запіска, дасланая сакратару ЦК УКП(б) Г. Малянкову з нагоды абмеркавання макета па "Гісторыі Беларускай ССР".

ЦК УКП(б) Малянкоў даручыў падрыхтаваць яго Міхаілу Суславу, які разам з Пятром Паспелавым адказваў у ЦК за гістарычную навуку. На дакладной запісцы Патолічава Малянкоў пакінуў наступную рэзалюцыю: "Т. Суслову. Следовало бы предварительно ознакомиться с макетом, а затем уже решать этот вопрос"[31].

Непасрэдна падрыхтоўкай гэтага пытання займаўся намеснік загадчыка Аддзела навукі ЦК УКП(б) А. В. Ліхалат, які па прадстаўленні Інстытута гісторыі АН СССР склаў групу маскоўскіх гісторыкаў з дзесяці асобаў для экспертызы макета па гісторыі БССР. Цікава, што ў іх склад не былі ўключаны такія гісторыкі, як Уладзімір Пашута, Барыс Рыбакоў, Пётр Траццякоў, Мікалай Дружынін і Леў Чарапнін, якіх згадваў у сваёй нататцы Патолічаў. Групу, у якую, сярод іншых, уваходзілі Міхаіл Ціхаміраў, Ганна Панкратава і Аркадзь Сідараў, узначаліў акадэмік Барыс Грэкаў[32].

Неўзабаве Георгій Малянкоў атрымаў падпісаную Міхаілам Суславым, Юрыем Жданавым (сын Андрэя Жданава, у той час узначальваў Аддзел навукі ЦК УКП(б)) і Міхаілам Якаўлевым (намеснік загадчыка Аддзела навукі) дакладную запіску з інфармацыяй пра распачатыя захады. Перш за ўсё макет разаслалі згаданым вышэй маскоўскім гісторыкам, якія мусілі пакінуць наконт яго свае заўвагі. На іх падставе Аддзел навукі ЦК УКП(б) павінен быў прыняць рашэнне пра "целесообразность командирования группы историков в г. Минск и проведения сессии, посвященной обсуждению книги по истории Белоруссии". У гэтай дакладной Суслаў ад рукі дапісаў, што даручыў Якаўлеву "решить вопрос в оперативном порядке"[33].

[31] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 133. Спр. 220. Арк. 239–240. Дакладная запіска першага сакратара ЦК КП(б)Б М. Патолічава ў ЦК УКП(б) на імя Г. Малянкова 11.VI.1952 г. Гл. фота 2.

[32] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 133. Спр. 220. Арк. 241. Дакладная запіска, дасланая ў Аддзел навукі ЦК УКП(б) з Інстытута гісторыі АН СССР. 21.VI.1952 г.

[33] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 133. Спр. 220. Арк. 242. Запіска, дасланая сакратару ЦК УКП(б) Г. Малянкову з нагоды абмеркавання макета па "Гісторыі Беларускай ССР". 29.VII.1952 г.



Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Цэнтральны Камітэт Комуністычнай Партыі (большэвікоў) Беларусі

№ 612/ос 11. июня 1952 г.

СЕКРЕТАРЮ ЦЕНТРАЛЬНОГО КОМИТЕТА ВКП(б)

товарищу МАЛЕНКОВУ Г.М.

ЦК КП(б)Белоруссии решил провести в сентябре с.г. совещание историков, экономистов, литераторов, партийных и советских работников республики в количестве 80 человек по обсуждению макета "Истории БССР" в двух томах, представленного Институтом истории Академии наук Белорусской ССР.

Стремясь подготовить и издать марксистско-выдержанную монографию по истории Белорусской ССР, ЦК КП(б)Белорусии просит ЦК ВКП(б) направить в Минск группу историков из научно-исследовательских учреждений и высших учебных заведений города Москвы для оказания практической помощи в проведении на высоком научно-теоретическом уровне обсуждения макета "История БССР" и внесения в него необходимых поправок, изменений и уточнений.

Было-бы желательно, чтобы приняли участие в обсуждении макета "Истории Белоруссии" следующие товарищи:

1. Греков Б.Д. – директор Института истории АН СССР.
2. Панкратова А.М. – член-корреспондент АН СССР
3. Шекун О.А. – ст.научный сотрудник Института истории АН СССР.
4. Сидоров А.Л. – проректор Московского Университета.
5. Новосельский А.А. – зам.директора Института истории АН СССР.
6. Яцунский – ст.научный сотрудник Института истории АН СССР.
7. Бережков Н.Г. – ст.научный сотрудник Института истории АН СССР.
8. Дружинин Н.М. – зав.сектором института истории АН СССР.
9. Черепнин Л.В. – ст.научный сотрудник института истории АН СССР.

**Фота 2. Дакладная запіска М. Патолічава.**

Нарада ў Мінску адбылася не ў верасні, як прасіў першы сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Патолічаў, а ў снежні 1952 г., калі масквічы падрыхтавалі свае рэцэнзіі. Макет, напісаны ў адпаведнасці са згаданымі “Тэзісамі…”, атрымаў станоўчую ацэнку.

Смерць Сталіна, унутрыпартыйная барацьба за ўладу, рэарганізацыя апарату ЦК КПСС у першай палове 1953 г. адцягнулі ўвагу партыйнага кіраўніцтва ў Маскве ад кантролю над стварэннем савецкай канцэпцыі гісторыі славянскіх народаў ненадоўга. Ужо ў лістападзе 1953 г. на паседжанні Прэзідыума АН СССР са справаздачным дакладам пра дзейнасць Інстытута славяназнаўства выступілі П. Траццякоў і М. Дружынін. Яны паведамілі пра заканчэнне працы над “Гісторыяй Балгарыі”, “Гісторыяй Польшчы” і пра заключны этап работ па “Гісторыі Чэхаславакіі”. Справаздачу Інстытута славяназнаўства разам са сваімі прапановамі кіраўніцтва Акадэміі даслала тагачаснаму першаму сакратару ЦК КПСС Мікіту Хрушчову[34]. Прапановы тычыліся падрыхтоўкі ў 1954 г. дыскусіі па шырокіх праблемах гісторыі славянскіх дзяржаў. Пры гэтым асаблівая ўвага звярталася на яшчэ не скончаныя працы. Дыскусія прадугледжвала ўдзел замежных гісторыкаў. Прапановы былі зацверджаны тагачасным кіраўніком Аддзела навукі і культуры ЦК КПСС Аляксандрам Румянцавым і высланы да азнаямлення Мікіту Хрушчову[35].

З 1954 г. пачалі адбывацца паступовыя змены ў працэсе выпрацоўкі рашэнняў па “гісторыях” славянскіх дзяржаў. Па-першае, усё часцей да дыскусіі сталі дапускаць не толькі партыйных гісторыкаў, але і палітычна незаангажаваных спецыялістаў у галіне розных гістарычных эпох і праблем. Па-другое, што было з’явай дагэтуль неверагоднай, да кансультацый сталі прыцягваць не толькі маскоўскіх гісторыкаў, але і даследчыкаў з рэгіяналь-

[34] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 17. Спр. 421. Арк. 34–35. Запіска, накіраваная першаму сакратару ЦК КПСС М. Хрушчову “Пра навуковую дзейнасць Інстытута славяназнаўства АН СССР”. 4.XII.1953 г.

[35] Тамсама. Арк. 44.

ных савецкіх навуковых асяродкаў: Мінска, Кіева і Вільні. Па-трэцяе, палітычныя змены ў СССР пасля смерці Сталіна змушалі да пошуку сумесных вектараў гісторыі і новага рэчышча дыскусій. І калі ў сітуацыі з беларускай і ўкраінскай гісторыяй асноўным такім вектарам было "спрадвечнае жаданне аб'яднацца з Расіяй", то ў выпадку іншых славянскіх дзяржаў сацыялістычнага блока, асабліва Польшчы, справа выглядала больш складана. Паміж патрыятычна-прагрэсіўнымі і савецка-марксісцкімі катэгорыямі трэба было шукаць кампраміс.

У канцы 1954 г. ЦК зацвердзіў распрацаваныя Аддзелам навукі спецыяльныя планы (тэматыка гістарычных даследаванняў), паводле якіх гісторыкі павінны былі шукаць пункты сутыкнення. Пры стварэнні гэтых планаў былі выкарыстаныя прапановы Акадэміі навук СССР, Галоўнага архіўнага ўпраўлення МУС, Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС і ІМЭЛ. Аддзел навукі прапаноўваў, між іншым, правесці наступныя мерапрыемствы:

для АН СССР – "разрабатывать темы о дружбе русского, белорусского и польского народов – Президиуму АН внести предложения";

для Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры МУС СССР – "выявить архивные фонды по истории рабочего движения конца XIX – начала XX века, передать информацию на рассмотрение в ЦК";

для Аддзела прапаганды ЦК КПСС "в оперативном порядке решать вопрос о публикациях, освещающих дружбу и сотрудничество между прогрессивными деятелями России, Белоруссии и Польши и совместную борьбу против своих угнетателей"[36].

Гэтыя прапановы былі зацверджаны сакратаром ЦК КПСС Пятром Паспелавым[37]. На пачатку лютага 1955 г. у адпаведнасці з рашэннем ЦК КПСС у Маскве адбылася сустрэча з удзелам гісторыкаў Польшчы, Украіны, Беларусі (Уладзімір Перцаў і Лаўрэнцій Абэцэдарскі),

[36] Шумскі Я. Аддзел навукі… С. 124.

[37] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 17. Спр. 470. Арк. 130–133. Дакладная запіска ў ЦК КПСС. 5.VII.1954 г.

Літвы і Расіі[38]. У гэты час ужо былі апублікаваны савецкія версіі гісторыі беларускага і ўкраінскага народаў да 1917 г. (том I). У 1955 г. выйшла новае, папраўленае пасля смерці Сталіна, выданне "Гісторыі Украінскай ССР"[39]. Першы том "Гісторыі Літоўскай ССР" быў апублікаваны ў 1953 г.

У лютым 1955 г. у ЦК КПСС адбылося абмеркаванне марксісцкай "Гісторыі Польшчы", над якой паралельна працавалі савецкія (у лютым 1955 г. быў апублікаваны том I) і польскія гісторыкі. Асноўнай прычынай сустрэчы быў скандал, звязаны з выхадам першага тома "Гісторыі Польшчы" ў 1954 г. у Маскве. Як выявілася, савецкі бок праігнараваў заўвагі і каментары польскіх спецыялістаў, у выніку чаго савецкая версія падручніка была перапоўнена памылкамі фактаграфічнага характару. Скандал набыў міжнародны маштаб, бо распаўсюджванне і пераклад такой працы сталі б сорамам для савецкай гістарычнай навукі. Было відавочна: у Маскве ў той час не было спецыялістаў па гісторыі Польшчы кшталту памерлых у 40-х г. Уладзіміра Пічэты ці Міхаіла Джэрвіса-Бродскага[40].

Менавіта таму Аддзел навукі і культуры ЦК КПСС прыняў рашэнне правесці абмеркаванне I тома "Гісторыі Польшчы" з удзелам беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх гісторыкаў. Гэтую прапанову зацвердзіў сакратар ЦК КПСС Міхаіл Суслаў[41]. Маскоўская лютаўская сустрэча стала першай з такім шырокім прадстаўніцтвам гісторыкаў, хоць і верных "генеральнай лініі партыі", але, прынамсі, не толькі з Масквы і Ленінграда, а з розных нацыянальных акадэмічных асяродкаў. З таго часу ЦК рэгулярна

[38] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 17. Спр. 518. Арк. 49. Дакладная запіска ў ЦК КПСС «Пра абмеркаванне з польскімі вучонымі першага тома "Гісторыі Польшчы"». 5.III.1955 г.

[39] Лінднэр Р. Гісторыкі… С. 339.

[40] Гл.: Горизонтов Л. Е. "Методологический переворот" в польской историографии на рубеже 1940–1950-х годов и советские историки // Славяноведение. 1993. № 6. С. 51–52.

[41] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 17. Спр. 470. Арк. 255. Дакладная запіска загадчыка Аддзела навукі і культуры ЦК КПСС А. Румянцава, дасланая М. Суславу. 9.XII.1954 г.

накіроўваў у Польшчу сваіх прадстаўнікоў. Ужо ў сакавіку 1955 г. у Варшаве савецкі гісторык Ілля Мілер пад час сустрэчы з гісторыкамі мастацтва ўважліва выслухаў і запісаў каментары польскіх спецыялістаў, пераконваючы іх, што перадасць усе заўвагі савецкаму боку[42].

Удзел у маскоўскай сустрэчы прадстаўнікоў марксісцкай гістарычнай навукі з Украіны, Літвы і Беларусі спрыяў навязванню асабістых кантактаў. Польскі кіраўнік праекта I тома "Гісторыі Польшчы да 1764 г." прафесар Тадэвуш Мантойфель абяцаў літоўцам дапамогу ў карыстанні польскімі архіўнымі матэрыяламі і літаратурай і прапанаваў павялічыць абмен навуковымі выданнямі. Цікава, што перапіска палякаў з літоўцамі адбывалася наўпрост, абмінаючы Маскву[43].

Былі ўсталяваны таксама першыя кантакты з АН БССР[44]. Але тут заўсёды апошняе слова належала Маскве, якая рознымі спосабамі абмяжоўвала ўдзел беларускага боку ў кантактах з палякамі. Калі ў 1958 г. ЦК КПБ звярнуўся з просьбай зацвердзіць пастанову пра накіраванне 5 беларускіх навукоўцаў (гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, этнографаў) у Польшчу, у Маскве далі зразумець, што такая паездка несвоечасовая. У выніку "дополнительного рассмотрения вопроса тов. Горбунов снял просьбу"[45].

Што тычыцца навуковай дзейнасці вакол пытання "славянства", то калі раней гэтай праблемай займаліся розныя палітызаваныя ўстановы і "грамадскія" арганізацыі кшталту ВОКСа (Всесоюзное общество культурных связей с заграницей), Славянскага камітэта, Саўінфармбюро, то цяпер роля навуковага каардынатара ў галіне

[42] АРАН. Ф. 1965. Воп. 1. Спр. 151. Арк. 21–59. Пратакол нарады ад 11 сакавіка 1955 г. у Варшаве наконт абмеркавання II тома "Гісторыі Польшчы".

[43] Wyszomirska-Kuźmińska O. Więzi humanistów polskich i radzieckich: (1944–1980). Wrocław, 1998. S. 44.

[44] Гл..: Tołstoj W.S. Współpraca kulturalna Białorusi z Poską (1945–1965) // Z dziejów stosunków polsko-radzieckich. Studia i Materiały. 1968. № 3. S. 258.

[45] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 35. Спр. 75. Арк. 72. Ліст ЦК КПБ у ЦК КПСС наконт накіравання ў Польшчу беларускіх навукоўцаў. 25.XI.1958 г.

гістарычных даследаванняў у славянскіх краінах цалкам перайшла да Інстытута славяназнаўства.

Адзін з каардынаваных Інстытутам славяназнаўства міжнародных праектаў, што праводзіліся ў межах “сацыялістычнага лагера” з удзелам беларускага боку, дадаў нямала галаўнога болю чыноўнікам са Старой плошчы. Маецца на ўвазе праект выдання крыніц па гісторыі паўстання 1863 г., рэалізаваны ў 1957–1980 г. пад пільным кантролем з боку Аддзела навукі ЦК КПСС. Удзел у сустрэчы ўзялі гісторыкі з Расіі, Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы. Забягаючы наперад, можна сказаць, што ў межах гэтага праекта за 23 гады было апублікавана агульнай колькасцю 15 тамоў дакументаў[46].

Настойлівасць польскага боку (Інстытут гісторыі Польскай акадэміі навук), які на працягу 1955–1956 г. некалькі разоў заяўляў пра сваю зацікаўленасць праектам выдання крыніц, а таксама змена агульных палітычных настрояў у сацлагеры прымусілі ЦК КПСС запатрабаваць меркаванне Інстытута славяназнаўства і ІМЭЛ. На падставе экспертыз гэтых устаноў у Аддзеле навукі была складзена дакладная сакратару ЦК КПСС Дзмітрыю Шапілаву. У запісцы сцвярджалася, што, нягледзячы на “несвоечасовасць” такіх даследаванняў, трэба, аднак, пагадзіцца з прапановай палякаў, каб “нейтрализовать возможные попытки со стороны отдельных польских учёных использовать издание документов в националистическом духе”[47]. Гэтую прапанову падтрымалі АН СССР і Аддзел ЦК па сувязях з замежнымі кампартыямі. Але апошняе слова належала Дзмітрыю Шапілаву, які зацвердзіў праект[48].

[46] Былі апублікаваны дакументы, якія тычыліся не толькі ўласна Польшчы, але і беларускіх земляў. Гл.: Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: материалы и документы. Гл. ред. С. Кеневич. Москва, 1964; Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: материалы и документы. Гл. ред. С. Кеневич. Москва, 1965.

[47] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 35. Спр. 56. Арк. 11. Дакладная запіска ў ЦК КПСС з Аддзела навукі, вышэйшых навучальных устаноў і школ. 14.III.1957 г.

[48] Тамсама.

Аддзел навукі распрацаваў дакладны план працы адказных з савецкага боку. Навуковую каардынацыю праекта ажыццяўляў Інстытут славяназнаўства АН СССР. У Мінск і Вільню накіравалі Уладзіміра Каралюка, у Кіеў і Львоў – Іллю Мілера, якія давялі да ведама рэгіянальных гісторыкаў "меркаванне ЦК". У Інстытуце славяназнаўства былі распрацаваны адмысловыя інструкцыі і планы для правядзення даследчыцкіх прац. У БССР пошук матэрыялаў ажыццяўляўся ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР і яго філіяле ў Гродне[49].

Праблема паўстання 1863 г. у тагачаснай савецкай гістарыяграфіі адносілася, хутчэй, да тэм з ліку "табу". Даследаванне У. Ігнатоўскага "1863 год у Беларусі", выдадзенае ў 1930 г., было бязлітасна раскрытыкавана і выкраслена з навуковага ўжытку. У вельмі спрошчанай форме сутнасць "ерасі" Ігнатоўскага заключалася ў частковай адмове ад паняцця "польскае паўстанне" і адмаўленне яго "сялянскага характару". Абраная ў Аддзеле навукі ЦК база для распрацоўкі тэматыкі паўстання шмат у чым абапіралася на дарэвалюцыйную гістарычную расійскую мадэль, дзе яно вызначалася як "польскі мяцеж". Акрамя выразнага падкрэслівання "сялянскага" характару паўстання, само "сялянскае пытанне" было рэінтэрпрэтавана з перспектывы "аграрнай рэвалюцыі", а патрыятычныя і антырасійскія выступленні разглядаліся як "рэвалюцыйны рух". Паўстанне на тэрыторыі Літвы і Беларусі разглядалася не ў агульнай панараме падзей, а ў адарванасці ад польскага кантэксту.

Зусім іншым кірункам супрацы "славянскіх" гістарыяграфій, кантраляваных Масквой у межах савецкага блоку, была распрацоўка пытанняў, звязаных з міжнародным камуністычным рухам. Пасля 1954 г. у ЦК КПСС масава пачалі дасылаць свае прапановы навукова-даследчыя ўстановы кшталту савецкага ІМЭЛ з Польшчы і Чэхаславакіі.

[49] АРАН. Ф. 1965. Воп. 1. Спр. 187. Арк. 8, 65. Дакладная запіска з Інстытута славяназнаўства АН СССР пра рэалізацыю праекта публікацыі крыніц да паўстання 1863 г. Снежань 1957 г. Гл. таксама: Шумскі Я. Аддзел навукі… С. 126.

Гэтыя прапановы тычыліся не толькі магчымасці рэалізацыі сумесных праектаў, але і каардынацыі гістарычных намаганняў на міжнароднай арэне. Нагадаем, што больш за 20 гадоў савецкая гістарычная навука знаходзілася ў стане самаізаляцыі: апошні раз савецкія гісторыкі бралі ўдзел у VII Міжнародным кангрэсе гісторыкаў у Варшаве (у наступных кангрэсах – у Цюрыху ў 1938 г. і ў Парыжы ў 1950 г. – савецкі бок не быў прадстаўлены). Адна з такіх прапаноў паступіла ад першага сакратара Камуністычнай партыі Чэхаславакіі, Антаніна Новатнага, пад час сустрэчы ў траўні 1954 г. у Празе спецыялістаў навукова-даследчых установ, якія займаліся праблематыкай "гісторыі камуністычных і рабочых партый краін народнай дэмакратыі".

Для рэалізацыі праекта, прысвечанага "развіццю капіталізму ў Аўстра-Венгрыі", планавалася задзейнічаць гісторыкаў з Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі і Аўстрыі. Прапанову падалі Міхаілу Суславу, які даручыў Аддзелу навукі ЦК КПСС разабрацца ў пытанні. Станоўчую рэцэнзію па праекце ў ЦК напісалі спецыялісты па гісторыі Аўстра-Венгрыі, савецкія гісторыкі Я. І. Рубінштэйн[50] і У. М. Турок[51], а таксама дырэктар ІМЭЛ Генадзь Абічкін[52]. Але ў Аддзеле навукі вырашылі інакш. На пачатку лістапада 1954 г. яго загадчык Аляксей Румянцаў у дакладной запісцы, пададзенай у ЦК, пастуляваў "нецелесообразность вхождения в редколлегию в случае, если нам будет неизвестно содержание разделов, написанных историками из других стран". Адмоўнае рашэнне зацвердзілі сакратары ЦК Міхаіл Суслаў, Пётр Паспелаў і Мікалай Шаталін[53]. Гэта было даведзена да ведама Новат-

[50] Аўтар працы "Политика германского империализма в западных польских землях в конце XIX – начале XX века". Москва, 1953. 253 с.

[51] Гл.: Турок В. Очерки истории Австрии 1918–1929. Москва, 1955. 586 с.

[52] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 17. Спр. 470. Арк. 210–211. Экспертныя заключэнні Інстытута гісторыі АН СССР (13.X.1954) і ІМЭЛ (22.X.1954), дасланыя ў ЦК КПСС.

[53] РДАНГ. Ф. 5. Воп. 17. Спр. 470. Арк. 214. Нататка з Аддзела навукі і культуры ў ЦК КПСС. 4.X.1954 г.

нага. Дадзены выпадак добра ілюструе спосаб вырашэння такіх пытанняў і матывацыю, якой кіраваліся партыйныя функцыянеры. Роля "руководящей і направляющей силы" (азначэнне І. Сталіна) павінна была нязменна належаць толькі аднаму асяродку – Камуністычнай партыі.

Апошні аспект, які аўтар прапануе закрануць у межах гэтага артыкула, тычыцца праблемы вывучэння гісторыі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). Нагадаем, што КПЗБ і Камуністычная партыя Заходняй Украіны (КПЗУ) як часткі Камуністычнай партыі Польшчы (КПП) былі распушчаны ў 1938 г., а большасць кіраўнічага апарату рэпрэсавана. Яшчэ ў 1949 г. польскае камуністычнае кіраўніцтва (Якуб Берман) асцярожна спрабавала закрануць магчымасць атрымання копій дакументаў па гісторыі КПЗБ і КПЗУ ў ЦК УКП(б) (Міхаіл Суслаў) у кантэксце прац над стварэннем гісторыі Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП). Берману ў Варшаву патэлефанаваў Ян Дзяржынскі (сын Фелікса Дзяржынскага), рэферэнт Замежнапалітычнай камісіі ЦК УКП(б), і пасля кароткай "объяснительной" размовы тав. Берман "снял просьбу"[54].

Тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны разглядаліся крамлёўскім кіраўніцтвам як абшар выключных інтарэсаў СССР, нават калі справы тычыліся ўнутраных пытанняў польскага камуністычнага руху. Дадатковай праблемай быў факт, што большасць членаў кіраўніцтва КПП, КПЗБ і КПЗУ супрацоўнічала з органамі бяспекі, часта выконваючы функцыі рэзідэнтаў савецкай разведкі. Вельмі паказальны прыклад такога супрацоўніцтва з службай савецкай бяспекі – асоба венгерскага камуніста Імрэ Надзя, агента "Валодзі", завербаванага органамі АДПУ ў 1930 г.[55].

Рэабілітацыя КПП, на якой так настойваў польскі бок, адбылася ў выніку асабістага рашэння Мікіты Хрушчо-

[54] РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 137. Спр. 80. Арк. 14. Нататка, дасланая сакратару ЦК УКП(б) М. Суславу ў сувязі з лістом Я. Бермана ад 1 лютага 1949 г. 16.VI.1949 г.

[55] Дакументы (копіі), якія тычыліся супрацы Імрэ Надзя з савецкай бяспекай, цяпер захоўваюцца ў фондзе 89 ("Коллекция рассекреченных документов") РДАСПГ.

ва, які на пачатку 1955 г. даручыў старшыні КДБ Івану Сярову і генпракурору СССР Пятру Баранаву падрыхтаваць неабходныя дакументы[56]. У 1956 г. пра рэабілітацыю КПП было афіцыйна заяўлена ў наступнай форме: КПСС, кампартыі Балгарыі, Італіі, Фінляндыі і Польшчы прызналі роспуск КПП у 1938 г. беспадстаўным. У ЦК на працягу 1956 г. пачалі атрымліваць масу зваротаў не толькі персанальнага характару, пераважна звязаных з рэабілітацыяй, але і прапановы пачаць навуковае даследаванне гэтай праблемы. Такія просьбы дасылаліся ў асноўным з Польшчы і Украіны. Што цікава, падрабязны прагляд дакументаў РДАНГ (фонды Прэзідыума, Сакратарыята, Аддзела навукі) па гэтай праблеме не выявіў наяўнасці такіх зваротаў з боку камуністычных уладаў Беларусі.

Цікава, што ў чэрвені 1956 г. Мікалай Арэхва, былы дзеяч КПЗБ і гісторык, звярнуўся спачатку да дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, а пасля і да першага сакратара ЦК КПБ Мікалая Патолічава з прапановай пачаць вывучэнне гісторыі КПЗБ. Арэхва прапанаваў, між іншым, падрыхтаваць зборнік дакументаў і матэрыялаў па гэтай тэме, пачаць апрацоўку архіваў у Мінску, Брэсце, Гродне, Пінску, а таксама выкарыстаць матэрыялы, якія захоўваліся ў варшаўскім архіве Аддзела гісторыі партыі ПАРП[57]. Была нават праведзена кароткая нарада былых членаў КПЗБ, пра якую паведаміў у адным са сваіх нумароў “Коммунист Белоруссии”[58]. Але, відавочна, партыйнае кіраўніцтва ў Мінску асцерагалася закранаць гэтую тэму ў Маскве і спусціла справу “на тармазах”.

56 Гл.: Реабилитация: как это было. Документы Президиума ЦК КПСС и другие материалы: в 3 т. Т. 1. Март 1953 – февраль 1956. Сост. Артизов А. Н., Сигачев Ю. В., Хлопов В. Г., Шевчук И. Н. Москва, 2000. С. 189–190.

57 “Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі…”. Верасень 1939 г. – 1956 г.: дакументы і матэрыялы: у 2 кн. Кн. 2. Ліпень 1944 г. – 1956 г. Склад.: Адамушка У. І. [і інш.]. Мінск, 2009. С. 259–263.

58 Гл.: Совещание по вопросам истории Коммунистической партии Западной Белоруссии // Коммунист Белоруссии. 1956. № 8. С. 66–72.

Дарэчы, у самой Маскве пасля кароткага перыяду адлігі і “валюнтарызму” ў даследаваннях па гісторыі партыі хуценька вярнуліся да тактыкі абмежавання доступу да архіўных матэрыялаў. У беларускай правінцыі стараліся асабліва не згадваць пра КПЗБ, баючыся “как бы чего не вышло”. Барыс Клейн, гродзенскі гісторык, сябар В. Быкава і А. Карпюка, які з канца 50-х г. займаўся архіўнымі даследаваннямі па гісторыі КПЗБ і лёсам яе членаў, у сваіх успамінах згадвае, як цяжка было данесці матэрыял да чытачоў: «В редакциях часто не хотели даже упоминать имена принадлежавших к “партии-призраку”, домогались заверений, что этот деятель не был репрессирован, а если был, то обвинения с него сняты, а если даже сняты, то… стоит ли вообще ворошить прошлое?»[59].

Кароткі агляд праблематыкі ролі Цэнтральнага камітэта спачатку Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў, а пасля 1952 г. – Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ў вызначэнні кірункаў гісторыяпісання і механізмаў прыняцця рашэнняў, які быў разгледжаны на фоне стварэння агульнаславянскай гісторыі народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, дазваляе зрабіць некалькіх высноў.

Па-першае, інтэрпрэтацыйныя схемы, “правільнае” бачанне асобных праблем, вызначэнне прагрэсіўных ці рэакцыйных дзеячоў так ці інакш нараджаліся ў “цэкоўскіх” кабінетах Масквы. Гістарычная навука знаходзілася пад пільным наглядам з боку ЦК КПСС. Працай навуковых і даследчыцкіх устаноў кіравалі са Старой плошчы з дапамогай спецыяльных аддзелаў ЦК, без санкцыі якіх не вырашалася ні адно пытанне. Нават тэксты публікацый у цэнтральных гістарычных савецкіх часопісах павінны былі прайсці працэдуру зацвярджэння ў ЦК. У аддзелах ЦК дэталёва распрацоўваліся новыя пастулаты і канцэпцыі гістарычнай навукі, кірункі якіх вызначаліся вышэйшым партыйным кіраўніцтвам, спачатку Сталіным, а пазней – М. Суславым і П. Паспелавым, і дапрацоўваліся мноствам партыйных функцыянераў меншага рангу, адказных за “гістарычны фронт”.

[59] Клейн Б. Недосказанное (воспоминания). Имена. http://kackad.com/kackad/?p=1835 [доступ з 15.01.2013]

Па-другое, партыйныя чыноўнікі са Старой плошчы карысталіся экспертызамі і ацэнкамі вузкай групы маскоўскіх гісторыкаў, якіх у той час называлі "вядучымі спецыялістамі" і "кансультантамі ЦК" і якім давярала партыя. Частка з іх паходзіла яшчэ з дарэвалюцыйнай расійскай гістарычнай школы (Тарле, Грэкаў, Траццякоў, Дзяржавін, Пічэта і інш.) і прыстасоўвалася да патрэб марксісцкага гісторыяпісання. Другая частка кансультантаў – выхаванцы сталінскай "гістарычнай школы", гісторыкі новай генерацыі (Сідараў, Панкратава). Гэтыя гісторыкі фармавалі савецкую гістарычную канцэпцыю славянскіх народаў, у тым ліку беларусаў, менавіта іх прафесійнымі парадамі карысталіся ў ЦК. У адносінах да беларускага і ўкраінскага народаў прымянялася ўніверсальнае паняцце – "спрадвечная цяга да аб'яднання з брацкім рускім народам", якое стала стрыжнем для версіі гісторыі гэтых народаў.

Па-трэцяе, на падставе экспертыз "кансультантаў" чыноўнікі са Старой плошчы складалі адмысловыя тэматычныя планы, дзе акрэсліваліся "перспектыўныя" з партыйнага пункту погляду кірункі даследаванняў. Вялікае значэнне аддавалася архіўным матэрыялам, з дапамогай якіх фармаваўся пантэон "прагрэсіўных" дзеячоў, герояў, антыгерояў, а таксама адпаведныя перакананні і светапогляд. Невыпадкова рэдакцыйная калегія часопіса "Исторический архив" уваходзіла ў склад наменклатуры Аддзела культуры і навукі ЦК КПСС. У ЦК зацвярджаліся таксама планы публікацыі архіўных дакументаў, якія штогод падавала на разгляд Галоўнае архіўнае ўпраўленне пры МУС СССР (з 1960 г. – пры Саўміне СССР).

Архіўныя даследаванні ў СССР увесь час знаходзіліся пад кантролем Камуністычнай партыі. Пажаданы і ідылічны вобраз беларуска-расійскіх адносінаў цалкам ствараўся ў Маскве і грунтаваўся ў значнай ступені на дакументах, якія захоўваліся ў цэнтральных савецкіх архівах. Для гэтага ўжываліся ўсялякія хітрыкі, нацягванне фактаў, а нярэдка і іх фальсіфікацыя. У савецкіх архівах увесь час панаваў адзін няпісаны прынцып – выдаваць даследчыкам толькі тыя матэрыялы, якія будуюць бесканфліктную версію стасункаў. Гэта пацвердзіў у 1959 г. пад час

сустрэчы з польскімі гісторыкамі кіраўнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры МУС СССР Генадзь Бялоў: “У нас признано правилом не выдавать те документы, которые не являются достоверными либо могут внести разлад в дружбу [?!], не выдавать студентам и молодым исследователям. Кстати, это общее правило для всех архивов”[60].

І апошняе. Ідэя стварэння сумеснай славянскай гісторыі для палякаў, чэхаў, балгараў, славакаў, народаў Югаславіі, беларусаў, украінцаў і рускіх пацярпела паразу. Ужо ў першай палове 50-х г. (адчувальнай была “страта” Югаславіі ў 1946 г.) ідэя “адзінства славян” пачала страчваць прывабнасць. Канцэпцыя, якая падкрэслівала славянскую місію на чале з Расіяй, не прыжылася ў межах сацыялістычнага лагера, у якім да таго ж пасля падзей 1956 г. у нацыянальных гістарычных канцэпцыях з'явіліся новыя прыярытэты.

У сваю чаргу, у межах Савецкага Саюза ў галіне нацыянальных адносінаў на пачатку 60-х г. паволі крышталізаваўся тэзіс пра збліжэнне нацый і народнасцяў, у выніку чаго паўставала новая супольнасць – савецкі народ. Аднак і тут можна было назіраць пэўную раздвоенасць “савецка-патрыятычных і неанацыянальных ідэалагем”. Як пісаў у сваім даследаванні Райнэр ЛіндНэр, “пракламаванаму” з усіх бакоў “збліжэнню і зліццю нацый”, а таксама ўтварэнню “савецкага народа” процістаяў інтарэс індывідуальнага развіцця “сацыялістычных нацый”[61]. Але гэта ўжо тэма для асобнага даследавання, якое патрабуе далейшай руплівай працы ў цэнтральных расійскіх архівах. Феномен гісторыяпісання ў Савецкім Саюзе немагчыма зразумець толькі на падставе аналізу гістарычных тэкстаў, створаных у тыя часы. Гістарычная палітыка была і застаецца важным інструментам афіцыйнай ідэалогіі, канстантай у міжнароднай палітыцы савецкай / расійскай дзяржавы, незалежна ад зменлівых ідэалагічных вектараў.

[60] АРАН. Ф. 1965. Воп. 1. Спр. 221. Арк. 21. Стэнаграма нарады савецкіх і польскіх гісторыкаў па праблеме выдання зборніка па гісторыі савецка-польскіх адносінаў. 20.V.1959 г.

[61] Ліндэр Р. Гісторыкі… С. 370–371.

# History of Belarus in the mirror of the declassified documents of the Central Committee of the CP(B)B / CPSU

## (The second half of the 40th – the first half of the 60s.)

**Jan Szumski**

The article focuses on the role played by the Central Committee of the CPSU in perception of the Belarusian history as well as the mechanism of decision-making in various aspects of historical past in the USSR from 1945 to 1964.

The problem of the elaboration of the Belarusian history conception is considered comprehensively – in the context of Common Slavic history as well as context of Belarus as part of the USSR in the camp of socialist countries.

As is generally known, the locus of power in the Soviet Union was owned by the Central Committee of the Communist Party. Total political power was carried out by the ruling Party and state elite that controlled all the institutions within the Soviet society, including scientific research as well.

The main interpretive schemes of the history of Belarus were born in the offices of the Central Committee in Moscow. Without the sanction of this body it was really impossible to develop new areas of historical research.

Party officials often turned to professional historians-consultants for assistance. They were both pre-revolutionary experts and scholars brought up in the Soviet historical school tradition. On the basis of their expertise conclusions new research plans were drawn up and promising research directions were determined. The use of archival materials was of the great importance, with their help the image of idyllic Russian – Belarusian relations was formed. For this purpose various methods were implemented, for example manipulation with facts is evident as well as outright falsification of documents took place sometimes.

The idea of creation of the Common Slavic history for countries within the socialist bloc and the Soviet Union had failed. The concept of “unity of the Slavs” had not found any sufficient support in the socialist camp; as after the events of 1956 new priorities in the historiography occurred.

# Новыя Шэйпічы: нічыйная зямля ці шэльмаўскі раман?

## Беларуская штодзённасць у часы Хрушчова*

**Томас М. Бон**

28 жніўня 1955 г. у беларускай штодзённай газеце "Советская Белоруссия" з'явіўся матэрыял з някідкай назвай "Новые Шепичи". Цікавасць чытачоў артыкул мусіў абудзіць тым, што быў пазначаны як фельетон. У савецкім друку гэты жанр на мяжы мастацкай прозы і рэпартажу з'явіўся з пачаткам "адлігі" пасля смерці Сталіна. У лірычным уступе аўтар апісвае наступную кафкіянскую сітуацыю. Маладая пара, што намерылася была зарэгістраваць нованароджанага, сутыкаецца з нечаканымі перашкодамі. Каб спраўдзіць свой намер, яны мусяць здзейсніць сапраўдную адысею. Ніводная ўстанова – ані ў горадзе, ані на вёсцы – не лічыць сябе адказнай. У якасці абгрунтавання ўсе кажуць, што маладыя людзі, маўляў, жывуць у "ничейном посёлке". Далей аўтар знаёміць чытачоў з абставінамі, у якіх магла ўзнікнуць гэтая незвычайная сітуацыя, удала мяшаючы фантазію і рэальнасць. Ён расказвае, як нейкі "першаадкрывальнік" пасля нядзельнага шпацыру трапляе на нераспрацаваную дзялянку зямлі і засноўвае там паселішча, не турбуючыся пра правілы сацыялістычнага горадабудаўніцтва. Калонія атрымлівае назву Новыя Шэйпічы. Узнікшы як бы ніадкуль, яна прыцягвае ахвотных да

* Першая публікацыя: Bohn, Thomas M. "Industrialisierung und Landflucht in der Sowjetunion. 'Eigenmächtige Bautätigkeit' als Antwort auf die Wohnungsfrage in Minsk nach dem Zweiten Weltkrieg" // Informationen zur modernen Stadtgeschichte. 2 (2007). S. 10–21.

авантураў. Людзі, што раней жылі ў галечы, прыходзяць сюды з вялікімі надзеямі. Але даволі хутка невыносныя ўмовы жыцця ў "Новым свеце" прыводзяць да таго, што бацька-заснавальнік сутыкаецца з абурэннем сваёй маладой суполкі. "Мараль той байкі" сфармуляваць вельмі проста: паколькі паселішча Новыя Шэпічы ізалявалася ад навакольнага свету з-за сваёй "несавецкасці", яно не магло карыстацца заваёвамі сацыялізму з практычнага пункту погляду – яго жыхары не былі забяспечаны камунальнымі ды іншымі выгодамі. Да такой высновы прыходзіць, прынамсі, "Советская Белоруссия"[1].

Крытычныя ноткі можна рэтраспектыўна патлумачыць паслабленнем цэнзуры і палічыць іх за прыкметы дэсталінізацыі. Нагадаем, што на Усесаюзнай нарадзе будаўнікоў у Маскве ў снежні 1954 г. Хрушчоў раскрытыкаваў марнатраўства ў архітэктуры часоў Сталіна і выступіў за індустрыялізацыю будаўніцтва шляхам выкарыстання тыпавых праектаў, зборных дэталяў і канструкцый[2]. Але, паспрабаваўшы зразумець артыкул з пазіцый "духу эпохі", нельга адначасова не заўважыць, што культурным кодам, на якім ён грунтуецца, ёсць так званы "сталінскі клопат пра чалавека". Размова тут пра два выказванні Сталіна: наконт знікнення трушчобаў у "сацыялістычным горадзе" і стварэння нармальных умоў жыцця ў варунках аднаўлення краіны пасля вайны[3]. Як бы там ні было, на фоне толь-

1 Михонов Н. Новые Шепичи // Советская Белоруссия. № 204. 28.08.1955. С. 2.

2 Параўн.: Всесоюзное совещание строителей, архитекторов и работников промышленности строительных материалов, строительного и дорожного машиностроения, проектных и научно-исследовательских организаций. 30 ноября – 7 декабря 1954 г. Сокращенный стенографический отчет. Москва, 1955. С. 162–168.

3 Сталин И. 26-я годовщина Великой Октябрьской социалистической революции. Доклад Председателя Государственного Комитета Обороны на торжественном заседании Московского Совета депутатов трудящихся с партийными и общественными организациями г. Москвы 6 ноября 1943 года // яго ж. О Великой Отечественной войне Советского Союза. Изд. 5-ое. Москва, 1950. С. 218; яго ж. Отчетный доклад XVII съезду партии о работе ЦК ВКП(б) // яго ж. Сочинения. Т. 13. Москва, 1951. С. 334–335.

кі што праведзенага радыкальнага павароту ў будаўнічай галіне фельетаніст “Советской Белоруссии” здолеў закрануць за жывое мясцовых партыйных кіраўнікоў, адказных за тое, што ў цэнтры беларускай сталіцы ўзнік своеасаблівы музей “сацыялістычнага рэалізму” пад адкрытым небам. Справа ў тым, што Новыя Шэйпічы (або, як у фельетоне, Шэпічы), паўсталыя на паўднёва-ўсходняй мяжы горада на выгіне ракі Свіслач, былі выпадкам “самавольнай забудовы”, а значыць, уяўлялі сабой заганную з’яву, якую, уласна кажучы, трэба было ліквідаваць. Але развязаць праблему хірургічным умяшальніцтвам, гвалтоўнымі сродкамі – гэта, здавалася, апрыёры выключалася. Прынамсі, у гэтым хоча пераканаць чытача “Советская Белоруссия”: «“Зачыняць” Новыя Шэпічы, бадай, позна», – такім адназначным сказам канчаецца фельетон[4]. Як зрэагавалі ўлады горада на ініцыятыву афіцыйнага ўрадавага штодзённіка? Якія захады зрабілі дзяржаўныя і партыйныя органы, каб узнавіць дзеянне савецкіх законаў у Новых Шэйпічах? Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба спачатку разгледзець спецыфічныя варункі жыцця сталіцы БССР Мінска пасля Другой сусветнай вайны і агульныя горадабудаўнічыя канцэпцыі, якіх трымаліся ў маскоўскім Крамлі. Потым будзе зроблена спроба рэканструяваць гісторыю Новых Шэйпічаў. Нарэшце, карціну “самавольнай будоўлі” дапоўніць экскурс у працэс легалізацыі часовых пабудоў-баракаў у іншых раёнах беларускай сталіцы.

## I. Адбудова Мінска і прыток насельніцтва ў горад пасля Другой сусветнай вайны

Для Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР) стадыя імклівай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі распачалася толькі ў рамках савецкай праграмы адбудовы краіны пасля Другой сусветнай вайны. Пры гэтым усе рэсурсы рэспублікі былі сканцэнтраваны для развіцця яе сталіцы. У 1947–1950 г. тут былі пабудаваны завод грузавых аўтамабіляў, мотавелазавод і трактарны завод, так

[4] Михонов Н. Новые Шепичи. С. 2.

што Мінск стаў адным з цэнтраў вытворчасці транспартных сродкаў у СССР. Гэта забяспечыла рост колькасці жыхароў горада ўдвая – з прыкладна 250 тысяч у 1950 г. да паловы мільёна ў 1959 г. Гэты працэс быў звязаны з карэннымі зменамі ў складзе насельніцтва. З аднаго боку, Мінск страціў праз Халакост характар яўрэйскага штэтля, які ён захоўваў яшчэ і ў 1920-я гады, з другога – прыцягванне рабочай сілы з сельскай мясцовасці ды прыток навучэнцаў з правінцыі прывялі да "асяляньвання" гарадскога грамадства. Пабудова ў Мінску "сацыялістычнага горада", да чаго імкнуліся да сярэдзіны 1950-х г., суправаджалася разнастайнымі супярэчнасцямі: у той час як на tabula rasa, пакінутай у выніку Другой сусветнай вайны ў цэнтры горада, паўстаў неакласіцыстычны ансамбль архітэктуры пераможцаў, у жылых раёнах інфраструктура заставалася неразвітая. Прадпрыемствы былі вымушаны гнаць вал, наладжваць масавую вытворчасць для выканання дзяржаўных планавых паказчыкаў, нават не надта зважаючы на якасць, і таму не маглі выконваць свае абавязкі ў жыллёвым будаўніцтве. У гэтых варунках маса насельніцтва сутыкнулася з сацыяльнымі праблемамі, якія нагадвалі становішча ў "капіталістычным горадзе", апісаным Марксам і Энгельсам. У 1960 г. было зарэгістравана каля 80 тыс. чалавек, што не мелі ніякага жытла, і яшчэ 42 тыс. чалавек мелі менш за 4 м$^2$ жылой плошчы[5].

З-за вострага недахопу жытла прыезджыя з вёскі нярэдка траплялі ў сітуацыю, калі яны мусілі будаваць сваё шчасце літаральна ўласнымі рукамі. Феномен "самавольнай забудовы", ці то незаконнага будавання жылых дамоў, ахапіў у 1940-я г. пусткі ў горадзе, а ў 1950-я – яго ўскраіну. Паходжанне гэтай з'явы звязана з тым, што да 1963 г. дзяржава не толькі дапускала, але і падтрымлівала індывідуальнае будаўніцтва жытла ў межах горада. Праўда, адразу пасля вайны прыватныя драўляныя дамы будавалі досыць марудна, бо, з аднаго боку, затрымлівалася зацвярджэнне ге-

[5] Параўн.: Bohn T. M. Minsk – Musterstadt des Sozialismus. Stadtplanung und Urbanisierung in der Sowjetunion nach 1945. Köln – Weimar – Wien, 2008.

неральнага плана забудовы, а з другога – бракавала матэрыялу. У гэтых варунках на дзялянках, запланаваных пад шматпавярховыя жылыя дамы, на ўласную ініцыятыву ўзнікалі цэлыя паселішчы з нізкаякасных будынін. Пасля таго як 28 кастрычніка 1950 г. саюзнае міністэрства будаўніцтва, кіруючыся эканамічнымі меркаваннямі, даручыла Савету міністраў БССР перагледзець планы павелічэння тэрыторыі Мінска ў мэтах размяшчэння большай колькасці жыхароў на меншай плошчы ў шматпавярховых дамах[6], працэсы на ўскраінах горада пачалі выходзіць з-пад кантролю. Але выканаўчы камітэт гарадскога савета распачаў контрзахады толькі 6 верасня 1951 г., дый тыя абмяжоўваліся, па сутнасці, перадачай адказнасці раённым саветам. Апошнія мусілі ва ўзаемадзеянні з галоўным архітэктарам і міліцыяй забяспечваць парадак, у тым ліку арганізуючы знос незаконна пабудаваных дамоў[7]. Але, зважаючы на агульны хаос, які панаваў пры адбудове горада, ёсць падставы сумнявацца, што такія брутальныя сродкі калі-небудзь ужываліся. Прынамсі, у дакументах мінскага абласнога архіва не было выяўлена звестак пра ніводны прэцэдэнт.

## II. Кантроль над міграцыяй у Савецкім Саюзе

Але аб’ектам пільнай увагі разрастанне “дзікіх” паселішчаў на ўскраінах Мінска стала толькі пасля таго, як Хрушчоў на XX з’ездзе КПСС у лютым 1956 г. не толькі абвясціў пераадоленне культу асобы Сталіна, але і запатрабаваў абмежаваць рост буйных гарадоў, спыніўшы перацягванне рабочай сілы з іншых рэгіёнаў[8]. Каб рэгуляваць унутраную міграцыю, палітычнае кіраўніцтва Савецкага Саюза мела ў сваім распараджэнні два механізмы: сістэму прапіскі і дэцэнтралізацыю прамысло-

[6] Цэнтральны дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі (ЦДАНТД). Ф. 3. Воп. 4. Спр. 529. Арк. 2–3.

[7] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (ДАМВ). Ф. 6. Воп. 4. Спр. 346. Арк. 114–115.

[8] XX съезд Коммунистической партии Советского Союза. 14–25 февраля 1956 г. Стенографический отчёт. Т. I. Москва, 1956. С. 9–120, асабліва с. 79.

васці. У адносінах да першага з іх трэба згадаць, што ўвядзенне ўнутраных пашпартоў у гарадах і памежнай зоне Савецкага Саюза ў канцы 1932 – пачатку 1933 г. было наўпрост звязанае з пераследам “кулакоў” – буйнога і сярэдняга сялянства. Штамп прапіскі ў пашпарце, які пачалі ставіць з 1933 г., павінен быў служыць мэтам суцэльнай рэгістрацыі насельніцтва, а таксама прывязкі грамадзян да іх месца жыхарства. На практыцы гэта дазволіла стрымаць уцёкі з вёскі ў горад, але не зрабіла іх немагчымымі. Дзейсным інструментам абмежавання росту гарадоў г. зв. пашпартны рэжым стаў толькі пасля смерці Сталіна. Паводле пастановы ад 21 кастрычніка 1953 г., дазвол на пражыванне ў буйных гарадах прыезджым выдавалі толькі пры наяўнасці жылой плошчы, адпаведнай санітарнай норме, што складала 9 м$^2$ на чалавека ў жылых дамах, 6 м$^2$ у студэнцкіх інтэрнатах і 4,5 м$^2$ у інтэрнатах для рабочых[9]. Адносна другога механізму зазначым, што пасля абвяшчэння дзяржавай курсу на фарсіраваную індустрыялізацыю з 1932 г. у некаторых буйных гарадах паступова ўводзілі забарону на пашырэнне заводаў і фабрык ды будаўніцтва новых. Калі пры Хрушчове савецкаму насельніцтву вярнулі скасаванае ў 1940 г. права звальняцца і магчымасць свабоднага выбару месца працы, узнікла патрэба ў далейшых захадах, што мусілі забяспечыць рацыянальнае размеркаванне рабочай сілы насуперак прывабнасці ядраў агламерацый. Адпаведна, у 1956 г. цягам выканання пастановаў XX з’езда ўсе гарады з насельніцтвам больш за 200 тыс. чалавек фактычна абавязалі абмяжоўваць спектр наяўных вытворчасцяў[10]. У выніку дзеяння абодвух чынні-

[9] У Мінску паказчык агульнай жылой плошчы (да яе, у адрозненне ад індывідуальнай жылой плошчы, якая вызначалася санітарнай нормай, залічваліся таксама кухні, калідоры і ванныя) на чалавека з 1950 да 1965 г. павялічыўся, паводле афіцыйных звестак, усяго з 5,8 да 9,6 м$^2$. Гл.: Народное хозяйство города Минск в 1978 г. Минск, 1979. С. 152.

[10] Параўн.: Бон Т. М. Савецкая сістэма “закрытых гарадоў”. Прапіска і недахоп жылля як паказчыкі сацыяльнай няроўнасці // Беларускі Гістарычны Агляд. 2011. Т. 18. С. 187–204.

каў – увядзення пашпартнага рэжыму і стрымлівання развіцця індустрыяльных магутнасцяў цэнтраў агламерацый для змяншэння іх прыцягальнасці – склалася сістэма "закрытых гарадоў"[11]. З гэтай прычыны 31 ліпеня 1957 г. была прынята праграма жыллёвага будаўніцтва, скіраваная, як было абвешчана, на тэрміновае рашэнне жыллёвага пытання ў Савецкім Саюзе[12]. Цяпер сэрца "сацыялістычнага горада" білася не ў яго цэнтры, а на перыферыі, дамінантай яго развіцця стала не рэпрэзентацыя моцы ўлады, а будаванне мікрараёнаў.

Але ў беларускай сталіцы новыя дырэктывы пачалі працаваць толькі ў шасцідзясятыя гады. Калі 12 красавіка 1956 г. выканаўчы камітэт Мінскага гарсавета разглядаў функцыянаванне сістэмы прапіскі ў горадзе, нельга было не адзначыць памяркоўны тон прадстаўнікоў міліцыі, якія былі знаёмыя са становішчам на месцах і самі зведалі, што такое адсутнасць жылля. Урэшце наконт выпадкаў самавольнай будаўнічай дзейнасці дасягнулі кампрамісу: пасялішчаў не чапаць, але ў будучыні душыць у зародку любую несанкцыянаваную будоўлю на ўскраіне горада[13]. Пра бездапаможнасць гарсавета сведчыць той факт, што прыняцце адпаведных інструкцый адсунулі да 11 кастрычніка 1956 г., хоць скрозь фіксаваліся выпадкі, калі перасяленцы разбіралі свае дамы ў вёсцы і хуценька ставілі іх у горадзе. Паколькі самавольная будоўля, як зазначалася, набыла "масавы характар", статус-кво быў прыняты як дадзенае, а контрзахадам надалі цяпер прэвентыўны характар. Як бы там ні было, а прадпрыемствы былі зацікаўленыя мець у распараджэнні значны рэзерв рабочых рук[14].

[11] Параўн.: Хорев Б. Проблемы городов. (Урбанизация и единая система расселения в СССР). Изд. 2-е, доп. и перераб. Москва, 1975. С. 78–87; Zaslavsky V. "Closed Cities and the Organized Consensus" // яго ж (ed.). The Neo-Stalinist State. Class, Ethnicity and Consensus in Soviet Society. With a New Introduction. Armonk, N. Y., 1994. S. 130–164.

[12] Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК (1898–1986). Изд. 9-ое, доп. и исправл. Т. 9. 1956–1960. Москва, 1986. С. 193–208.

[13] ДАМВ. Ф. 6. Воп. 4. Спр. 582. Арк. 22–43.

[14] ДАМВ. Ф. 6. Воп. 4. Спр. 597. Арк. 23–25.

## III. Развіццё незаконнага паселішча Новыя Шэйпічы на ўскраіне Мінска

Апісаныя вышэй факты дазваляюць лягчэй зразумець рэакцыю "бацькоў горада", органаў партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва на такія феномены, як Новыя Шэйпічы. Хоць – або якраз таму што – грамадства было зверху данізу арганізавана на ўзор войска, адказнага не знайшлося. Уладныя абавязкі і паўнамоцтвы кожнага ахоплівалі толькі дакладна вызначаны яму абсяг. Выпадкаў "нічыйнай зямлі" не было прадугледжана. Таму, нягледзячы на згаданую вышэй ініцыятыву "Советской Белоруссии" ў нумары ад 28 жніўня 1955 г., з развязаннем праблемы не спяшаліся. Справа зрушылася з мёртвай кропкі толькі 4 студзеня 1956 г., калі Мінскі раённы савет хадайнічаў аб падпарадкаванні Новых Шэйпічаў у адміністрацыйным дачыненні гораду Мінску[15]. Тады пачалося падрабязнае вывучэнне абставін, што цягнулася з ліпеня 1956 да студзеня 1957 г. і пад час якога свае меркаванні выказалі не толькі ўпраўленне міліцыі, але і міністэрствы фінансаў і абароны[16]. Як і можна было чакаць, ведаючы савецкую бюракратыю, іх заключэнні ў асобных пунктах супярэчаць адно аднаму. Але ў агульных рысах гісторыя Новых Шэйпічаў рэканструюецца наступным чынам.

У кастрычніку 1947 г. калгас імя П. К. Панамарэнкі перадаў Міністэрству ўнутраных спраў 25,5 га зямлі ў непасрэднай блізкасці да гарадской мяжы Мінска. Тут стварылі філіял лагера для нямецкіх ваеннапалонных, якія павінны былі здабываць жвір і пясок. Адпаведна, Мінскі раён з 1948 г. больш не ўлучаў гэтую дзялянку ў свой кадастар. Але лагер праіснаваў не даўжэй за два гады: да канца 1949 г. усе нямецкія ваеннапалонныя, што знаходзіліся ў Беларусі, былі рэпатрыяваны, а тыя, каго прызналі ваеннымі злачынцамі, – перавезены ва ўсходнія

[15] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 7. Воп. 4. Спр. 725. Арк. 60–61.

[16] НАРБ. Ф. 7. Воп. 4. Спр. 725. Арк. 62–63.

часткі Савецкага Саюза[17]. Нягледзячы на гэта, лагер, здаецца, не быў афіцыйна ліквідаваны. Праўдападобна, што спачатку ў бараках пасяліліся ахоўнікі. У кожным выпадку, увесну 1950 г. на тэрыторыі былога лагера для ваеннапалонных пачалося незаконнае будаўніцтва драўляных дамоў. З гэтага часу пачалі дзейнічаць "гандляры нерухомасцю", якія забяспечвалі прыватным жытлом тых, хто не дастаў яго ў горадзе. Такім чынам паўстала паселішча, названае ў гонар вёскі Шэйпічы (або Шэпічы), што ляжала за 200–300 м ад яго. Да пачатку 1957 г. у "Новых Шэйпічах" было пабудавана каля 200 дамоў, у якіх жыло прыкладна 1500 чалавек, збольшага работнікі суседняга велазавода. Разам з тым, у дакументах шматкроць згадваюцца таксама асобы, якія "нідзе" не працавалі. Назавем іх капіталістамі: у свой час яны здолелі атрымаць доступ да будаўнічых матэрыялаў, а пасля зараблялі, здаючы ў наймы свае дамы. І нарэшце, у Новых Шэйпічах знайшлі прытулак яшчэ 60 міліцыянераў са сваімі сем'ямі[18] – катэгорыя асоб, якая дзякуючы свайму статусу і належнай прапісцы ў Мінскім раёне надавала паселішчу пэўнае адценне легальнасці. У цэлым удзельнікі суполкі вызначаліся добрай арганізацыяй. Яны падвялі сабе электрычнасць ад гарадской сеткі, наладзілі радыё і размеркавалі нумары дамоў.

Тым не менш, кожны разумеў, што гэтая прастора знаходзілася па-за законам, а можа нават і па-за юрысдыкцыяй дзяржаўнай улады. У адміністрацыйным плане паселішча, як пісалі на канцылярскай рускай мове, "никому не подчинялось", яго насельнікі "никому не были подотчетные и не

[17] Параўн.: Шарков А. Военнопленные и интернированные на территории Беларуси. Роль органов внутренних дел в их содержании и трудовом использовании (1944–1951 гг.). Монография. Минск, 1997. Параўн. таксама: яго ж. Архипелаг ГУПВИ на территории Беларуси. 1944–1951 гг. Минск, 2003.

[18] 17 сакавіка 1948 г. кіраўнік Мінскага ўпраўлення міліцыі звярнуў увагу сакратара гаркама КП(б)Б і старшыні выканкама Мінскага гарсавета на тое, што для яго 1300 супрацоўнікаў вельмі востра стаіць праблема дэфіцыту жылля. Паводле яго слоў, 400 міліцыянтаў давялося з-за іх сем'яў парассяляць за межамі горада. ДАМВ. Ф. 69. Воп. 1. Спр. 251. Арк. 49.

имели ни перед кем никаких обязанностей"[19]. Паколькі ні Мінскі раённы савет, ні савет Сталінскага раёна горада Мінска не лічылі сябе адказнымі, жыхары Новых Шэйпічаў не былі зарэгістраваныя ні ў якім пашпартным стале. Мужчыны прызыўнога веку не былі прыпісаныя да ваенкамата. Не было і фінансавага аддзела, на рахунак якога плацілі б падаткі і зборы. Таму 28 снежня 1958 г. упраўленне камунальнай гаспадаркі са спасылкай на тое, што некантраляванае будаванне прымітыўных драўляных баракаў стварае пагрозу выкананню генплана забудовы Мінска і вядзе да праблем з інфраструктурай для насельніцтва, рэкамендавала Савету міністраў БССР падвысіць штраф за незаконнае карыстанне зямлёй ад 130 да 3000 рублёў (г. зн. да памеру трох сярэднямесячных заробкаў) ці разгледзець магчымасць пакарання злачынцаў адным годам папраўчых работ[20]. У той жа час было абсалютна ясна, што і больш жорсткі кантроль не мог даць плёну ва ўмовах той колькасці насельніцтва, якая бесперапынна расла за кошт уцекачоў з вёскі. Хоць прадугледжаны грашовы штраф быў заканадаўча ўведзены з 1 верасня 1959 г.[21], рашэнне праблемы знайшлося толькі дзякуючы таму, што публікацыя працытаванага намі на пачатку фельетона супала ў часе з паваротным пунктам у развіцці горадабудаўніцтва ў Савецкім Саюзе: 23 і 24 жніўня 1955 г. маскоўскае кіраўніцтва прыняло пастановы, згодна з якімі саюзным рэспублікам перадавалася адказнасць за гарадское планаванне і загадвалася прымяняць у будаўніцтве індустрыяльныя метады[22]. Такім чынам, дзяржаўнае і партыйнае кіраўніцтва ў БССР пазбавілася неабходнасці выконваць заданні, атрыманыя з Масквы 28 кастрычніка 1950 г. Цяпер яму больш не трэба было стрымліваць рост плошчы Мінска дзеля кампактнай забудовы[23], таму ў сувязі з пераглядам ген-

[19] НАРБ. Ф. 7. Воп. 4. Спр. 725. Арк. 62.
[20] НАРБ. Ф. 7. Воп. 4. Спр. 2241. Арк. 376–380.
[21] Жилищное законодательство. Минск, 1961. С. 225–228.
[22] Параўн.: Постановления ЦК КПСС и Совета Министров СССР по вопросам строительства от 23, 24 августа и 4 ноября 1955 г. Москва, 1956. С. 3–22, 160–162.
[23] ЦДАНТД. Ф. 3. Воп. 4. Спр. 529. Арк. 2–3.

плана пастанавілі пашырыць межы горада. З улучэннем Новых Шэйпічаў і яшчэ 18 паселішчаў у тэрыторыю беларускай сталіцы 8 жніўня 1959 г. адначасова адбылася легалізацыя самавольнай забудовы[24]. Гэтак апошні “вольны горад” у Беларусі стаў “савецкім” і з пункту гледжання права.

## IV. Легалізацыя часовых пабудоў у іншых раёнах Мінска

Пра выгоды, якія атрымалі некаторыя жыхары незаконных або паўзаконных паселішчаў на ўскраіне горада ад іх уваходжання ў склад Мінска ў 1959 г., можна даведацца з даклада ўпраўлення міліцыі ад траўня 1961 г. У ім гаворыцца, што пры пашырэнні мяжы горада Сталінскі раён атрымаў дзесяць паселішчаў з 600 “часовымі” баракамі. Паводле распараджэння Мінскага гарсавета і гаркама партыі, а таксама ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 18 чэрвеня 1958 г., у мэтах санітарнага ўпарадкавання горада 150 баракаў былі знесены. У якасці кампенсацыі іх уладальнікі, як паведамляецца, атрымалі кватэры або дзялянкі зямлі для індывідуальнага будавання жылля. У 64 выпадках грамадзяне перапрадалі свае баракі, прызначаныя пад знос[25]. Пра вынаходлівасць мігрантаў, якія імкнуліся атрымаць дазвол на пражыванне, сведчаць паводзіны 86 сямей, што з 1955 г. засяліліся ў 78 бараках у паселішчы Дражня. Пасля таго як выканкам Мінскага гарсавета 30 чэрвеня 1960 г. перадаў тэрыторыю, на якой размяшчаліся гэтыя будынкі, Мінскаму маторнаму заводу ў якасці будпляцоўкі і распарадзіўся забеспячыць жыхарам кампенсацыю, тыя, як даведваемся са справаздачы дырэктара прадпрыемства ад 24 траўня 1961 г., здзейснілі круцельства, вартае Тыля Уленшпігеля. Па-першае, уласнікі баракаў імгненна паўладкоўвалі

[24] Сборник законов Белорусской ССР и указов Президиума Верховного Совета Белорусской ССР. 1938–1973 гг. Т. 1. Минск, 1974. С. 378.

[25] ДАМВ. Ф. 6. Воп. 3. Спр. 223. Арк. 311–313.

да сябе асоб без прапіскі, каб дазволіць тым прэтэндаваць на пражыванне ў горадзе, а таксама парабілі ў сваіх бараках дадатковыя дзверы, удаючы, што ў дамах жывуць па некалькі сем'яў. Па-другое, для атрымання кватэр у новабудоўлях жыхары спехам бралі шлюбы, каб павялічыць колькасць гаспадарак, якія мелі быць забяспечаны жытлом. Апрача таго, у справаздачы выказвалася абурэнне з нагоды таго, што сярод уласнікаў баракаў нібыта ёсць людзі, якія не маюць ніякай сталай працы, а зарабляюць маклерствам[26]. Праблема баракаў была вырашана 12 траўня і 20 ліпеня 1961 г., калі выканкам Мінскага гарсавета распарадзіўся зарэгістраваць 162 аб'екты нерухомасці як прыватную ўласнасць[27]. Так статус-кво атрымаў прызнанне. Пасля таго як у 1962–63 г. будаванне ўласных дамоў у межах горада было забаронена або заменена на будаванне кааператыўных кватэр, тэма самавольнай забудовы больш не ўзнікала[28].

## V. Рэзюмэ

Калі ў 1930-я г. у Магнітагорску існаваў, цытуючы Стывена Коткіна, "сталінізм як цывілізацыя" ("stalinism as a civilization")[29], дык пасля Другой сусветнай вайны, на схіле дзён "вялікага правадыра", у Новых Шэйпічах ды іншых месцах узнікла контркультура, заснаваная "бацькамі-пілігрымамі". Гэта быў свет прыватных прадпрымальнікаў і сялян-уцекачоў. Яны самахоць абралі жыццё на мяжы легальнасці і здолелі весці такі лад жыцця, бо знайшлі прастору, на якую не распаўсюджвалася дзе-

[26] Тамсама. Арк. 300–303.

[27] Размова тут ішла пра дамы, пабудаваныя пераважна ў пасляваенныя часы. ДАМВ. Ф. 6. Воп. 3. Спр. 137. Арк. 16–19; тамсама. Спр. 142. Арк. 18–24.

[28] Параўн. пастанову Цэнтральнага камітэта КПБ і Савета міністраў БССР ад 17 ліпеня 1962 г. і рэзалюцыю выканкама Мінскага гарсавета ад 29 чэрвеня 1963 г. Жилищное законодательство. Минск, 1968. С. 91–94; ДАМВ. Ф. 6. Воп. 3. Спр. 256. Арк. 282.

[29] Параўн.: Kotkin S. Magnetic Mountain. Stalinism as a Civilization. Berkeley – Los Angeles – London, 1995.

янне законаў. Дзяржаўнае і партыйнае кіраўніцтва ў Мінску выявіла сваю бездапаможнасць перад працэсам “асяляньвання” гарадоў і, адпаведна, фактычна талеравала прынцып “гарадское паветра робіць вольным”. Выпадак “Новых Шэйпічаў” быў не выняткам, а нармальнай з’явай. У ім сімвалічна ўвасобілася пакутлівае нараджэнне “сацыялістычнага горада” ў перыяд паміж рэканструкцыяй і дэмаграфічным выбухам[30]. Калі ў перыяд росквіту сталінізму адбывалася ператварэнне класаў у аморфную масу або атамізацыя грамадства, дык беларускі варыянт позняга сталінізму паказаў няздольнасць апарату вытрымаць міграцыйны рух, выкліканы супярэчнасцямі паміж горадам і вёскай. Таму ў адносінах да часу пасля Другой сусветнай вайны не выпадае больш гаварыць пра пазіцыю “лічыць сябе камуністам” (“speaking Bolshevik”) ці пра энтузіязм у пабудове сацыялізму[31]. “Нармалізацыя ўмоў жыцця” – вось лозунг-мантра позняга сталінізму. У рэальнасці хрушчоўская праграма жыллёвага будаўніцтва прывяла да кансалідацыі новых іерархій у грамадстве і “сыходу ў прыватнасць”.

Як сёння расказваюць мясцовыя жыхары, у 1960-я г. у Новых Шэйпічах пераважна сяліліся цыганы. І пры ўпарадкаванні раёна на пачатку сямідзясятых нібыта якраз іх сем’ям першым пашчасціла атрымаць асобныя кватэры ў толькі што пабудаваным раёне – Серабранцы. Рэшткі вёскі Шэйпічы на паўднёва-заходнім баку адтокі Свіслачы захаваліся дагэтуль. Яны знаходзяцца пасярэдзіне горада-мільянера Мінска, ад цэнтра сюды можна дайсці пешкі за паўгадзіны.

[30] Параўн.: Бон Т. М. “Супраціў” і “сваволя” ў Менску. Адпорныя паводзіны ў Савецкім Саюзе // Arche. 2008. № 6. С. 140–157.

[31] Kotkin S. Magnetic Mountain. P. 198–237.

# Novye Šejpiči – Niemandsland oder Schelmenroman?
## Belarussischer Alltag in der Chruščev-Zeit

**Thomas M. Bohn**

Um dem Wachstum der Großstädte entgegenzuwirken, forderte Chruščev auf dem 20. Parteitag der KPdSU 1956 eine rationelle Verteilung der Industrie und eine Regulierung der Migrationsströme. Das System der „geschlossenen Städte“ (*zakrytye goroda*) schob dem unbegrenzten Zuzug in die urbanen Zentren zwar einen Riegel vor, indem eine Aufenthaltsgenehmigung vom Nachweis eines der sanitären Norm entsprechenden Wohnraums abhängig gemacht wurde. Wie das Beispiel Minsk zeigt, wurden die Restriktionen jedoch in der Praxis auf mannigfache Weise unterlaufen. Schlupflöcher resultierten aus dem latenten Dauerkonflikt zwischen dem Sowjet und den Betrieben. Während die Industriebosse auf die extensive Nutzung von Arbeitskräften setzten, ging es den Stadtvätern darum, die Bevölkerung mit Wohnraum zu versorgen und die Lebensbedingungen zu verbessern. Allerdings geriet der Wohnungsbau erst 1961 zur Gänze unter staatliche Kontrolle. Weil die Betriebe ihren diesbezüglichen Verpflichtungen nur ungenügend nachgekommen waren, verblieb der Bevölkerung in den 1950er Jahren mitunter als einziger Ausweg aus der Wohnungsmisere nur die „eigenmächtige Bautätigkeit“ (*samovol'noe stroitel'stvo*). Auf diese Weise wurden auf den Grundstücken von Privathäusern „Schuppen“ (*vremjanka*) errichtet und an Arbeitsmigranten vermietet oder am Stadtrand in quasi rechtsfreien Räumen „Barackensiedlungen“ (*šanghajki*) errichtet.

# Да пытання пра ўнутраную эміграцыю беларускіх інтэлектуалаў у БССР (1964–1985)

**Антон Лявіцкі**

З 1990-х г. перад гісторыкамі паўсталі многія новыя даследчыя праблемы, сярод якіх не апошняе месца заняла неабходнасць вывучэння ўнутранай (г. зн. невідавочнай) структуры самога савецкага грамадства. Паколькі гістарычная навука – гэта перш за ўсё набор пытанняў, якія мы ставім перад мінулым (вядомы тэзіс М. Блока), нядзіўна, што працэс пабудовы грамадзянскай супольнасці ў колішніх савецкіх рэспубліках звёўся да пошуку прыкмет самаарганізацыі ў савецкім грамадстве[1] – дысідэнцтва і пад.

Аднак акадэмічны інтарэс да з'явы дысідэнцтва (як і ўвогуле мінулага інтэлігенцыі) у БССР застаецца недастатковым. Савецкая спадчына, асабліва другой паловы XX ст., знаходзіцца на перыферыі ўвагі навуковай супольнасці. Зразумела, існуюць асобныя цікавыя працы, выкананыя на высокім узроўні. Але да асэнсавання праблемы яшчэ далёка, пра што выразна сведчыць і выдадзены нядаўна заключны том 6-тамовай "Гісторыі Беларусі"[2].

Мэта дадзенай работы – высветліць, як сістэмныя інтэлектуалы-іншадумцы ў БССР успрымалі сваё месца ў культуры і грамадстве. Бо зразумела, што, з аднаго боку, іх роля

[1] Самаарганізацыя – адзін з найважнейшых параметраў грамадзянскай супольнасці (Левин И. Б. Гражданское общество на Западе и в России // Полис. 1996. № 5. С. 115).

[2] Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 6. Беларусь у 1946–2009 гг. Мінск, 2011. (Хоць гэтае выданне, безумоўна, з'яўляецца ўнушальным і карысным тэзаўрусам фактычнага матэрыялу.)

вызначалася партыйнымі інстанцыямі як ідэалагічны інструмент культуры[3], дзе разважанні на тэмы кшталту "Задачы беларускай літаратуры ў святле рашэнняў XXVI з'езда КПСС і XXIX з'езда КПБ"[4] былі не толькі натуральныя, але і ўнутрана неабходныя. Індыферэнтнасць беларускай інтэлігенцыі ў савецкі час даўно ўжо пераўтварылася ў даследчыцкае клішэ. Так, І. Котляр параўноўвае інтэлектуальную супольнасць з флюгерам[5], І. Шамякін бэсціць "рэнегатаў", якія аддана служылі партыі, а з пачаткам перабудовы сталі на бок яе ворагаў[6]. Інакш на гэты конт выказаўся Я. Запруднік, які адпрэчыў падобныя стэрэатыпізаваныя трактоўкі[7]. На неабходнасць узважана ставіцца да змены ідэалагічных арыенціраў ва ўмовах несвабоднага грамадства звяртае ўвагу і парыжскі даследчык А. Бераловіч[8]. Ніжэй мы паслядоўна спынімся на трох спосабах існавання інтэлектуалаў-іншадумцаў у БССР, што, як уяўляецца, дазволіць наблізіцца да асвятлення згаданай праблематыкі.

Але напачатку трэба вызначыцца з ключавымі паняццямі. Тэрміны "інтэлігент" і "інтэлектуал" часта ўспрымаюцца як ацэначныя. Апроч таго, існуюць складанасці і з

[3] Гл. у якасці прыкладу самаапісання: Антановіч І. Развіты сацыялізм і прагрэс духоўнай культуры // Мастацтва Беларусі. 1983. № 1. С. 5, а таксама даследаванні: Соколов К. Б. Художественная культура и власть в постсталинской России: союз и борьба (1953–1985). С.-Петербург, 2007; Vaškevič J. Sowjetische Kultur in Belarus // Annus Albaruthenicus. 2009. Bd. X. S. 7–24 і інш.

[4] Танк М. Збор твораў: у 13 т. Т. 13. Публіцыстыка. Мінск, 2012. С. 507–517.

[5] Котляр И. И. Взгляд изнутри: Общественно-политический процесс на Беларуси. Лунинец, 1993. С. 45.

[6] Шамякін І. Летапісец эпохі: успаміны, інтэрв'ю, эсэ. Мінск, 2010. С. 340.

[7] Запруднік Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск, 1996. С. 123

[8] Берелович А. Интеллектуалы и перестройка // Bulletin des Deutschen Historischen Instituts Moskau. 2011. Nr 5. S. 43. Але не выпадае цалкам спісваць з рахункаў магчымасць і іншых матывацый. Пар., напрыклад: «"Крыху іншадумцам" лічаць сябе вельмі і вельмі многія. Такая гульня з самім жа сабой, блізка знаёмымі…» (Уліцёнак А. Іншадумцы = Мыслящие иначе. Мінск, 1991. С. 155).

дакладным вызначэннем іх сэнсу. Тут мы наўмысна ўхіляемся гэтай, па вялікім рахунку, бясплённай палемікі[9], дзеля зручнасці прымаючы сэнсавы змест катэгорый "інтэлектуал" і "інтэлігент" і іх вытворных за раўназначны (паводле Ж. Ле Гофа, гэта тыя, "чыё рамяства – выкладанне думак"[10]) пры перавазе першай.

Найбольшай увагі заслугоўваюць метадалагічныя пытанні. Многія высновы могуць быць аспрэчаныя, па-першае, зыходзячы з агульнага сцверджання пра суб'ектыўнасць выкарыстаных крыніц[11], а па-другое, з факта іх нешматлікасці, што дазваляе сумнявацца ў правамернасці зробленых высноваў. Аўтар зыходзіў не толькі з агульнай гістарыяграфічнай тэндэнцыі пры вывучэнні індывідуальнага ў гісторыі (у беларускай гістарыяграфіі пра гэта ўжо вядзецца гаворка, у тым ліку ў адносінах да разгляданай праблематыкі[12]), але таксама з факта нераспрацаванасці праблемы (гэты артыкул у пэўнай ступені мае характар уводзінаў у праблему). З іншага боку, нельга не згадаць, што ўнутрыдысцыплінарная традыцыя інтэлектуальнай гісторыі ведае прыклады менавіта такога спосабу гісторыяпісання – праз аналіз тэкстаў, якія "найбольш паслядоўна адлюстроўваюць свядомасць сацыяльных груп" (працы Л. Гольдмана)[13].

[9] Падрабязней пра гэта гл.: Грыцак Я. Гульні з качаргою: усур'ёз і па-ўкраінску // ARCHE-Пачатак. 2004. №1. С. 62. Варты ўвагі аналіз таго, якім чынам змянялася семантыка слова *інтэлектуал*, пададзены тут: Bering D. "Intellektueller": Schimpfwort – Diskursbegriff – Grabmal? // Aus Politik und Zeitgeschichte. 4.10.2010. Nr 40. S. 5–12.

[10] Ле Гофф Ж. Интеллектуалы в средние века. С.-Петербург, 2003. С. 4.

[11] Неабходна мець на ўвазе, што гаворка будзе ісці перадусім пра рэпрэзентацыі інтэлектуалаў. Гэта, як уяўляецца, у пэўнай ступені выбачае суб'ектыўнасць многіх выкарыстаных крыніц.

[12] Вирская В. П. Интеллигенция Беларуси как исследовательская проблема: историографический аспект // Образы прошлого в историографии: белорусско-французский диалог. Минск, 2008. С. 38.

[13] Шартье Р. Интеллектуальная история и история ментальностей: двойная переоценка? // Новое литературное обозрение. 2004. № 66. С. 30–31.

***

Такім чынам, гаворка будзе тычыцца феномена ўнутранай эміграцыі, пад якой мы будзем разумець стратэгію адаптацыі да (пост)таталітарнай рэчаіснасці, калі інтэлектуал, знаходзячыся ва ўмовах жорсткай ідэалагічнай зададзенасці культуры, прымае навязаныя яму дырэктывы, але пакідае за сабой права на “раскошу прыватнасці”[14] – магчымасць быць іншадумцам “у сабе”. Умоўна вызначым тры тыпы ўнутранай эміграцыі: (1) “выпадак Дубянецкага” – імкненне выкарыстаць займанае становішча ў інтарэсах несавецкай культурнай традыцыі; (2) памяркоўны – засяроджанасць на сваёй прафесійнай дзейнасці і імкненне быць як мага далей ад ідэалогіі; (3) радыкальны (максімальна магчымая адстароненасць ад афіцыйнай культуры), які судакранаецца з дысідэнцкімі практыкамі. Безумоўна, гэтыя ідэальныя тыпы прадугледжваюць і рознае разуменне дачыненняў паміж культурай (перш за ўсё літаратурай і мастацтвам) і грамадствам.

Адзін з найбольш яскравых прыкладаў атаясамлівання з несавецкай культурнай традыцыяй і яснага мэтавызначэння сваёй працы на карысць гэтай традыцыі падаў у дзённіках М. Дубянецкі. На вялікі жаль, яны дагэтуль не выйшлі асобнай кнігай (публікаваліся ў 1999–2002 і 2008–2010 г. у часопісах “Полымя” і “Дзеяслоў”). Гэта адзіны ў сваім родзе помнік самаапісання беларускага савецкага інтэлектуала.

Працуючы дырэктарам аднаго з найбуйнейшых беларускіх выдавецтваў, М. Дубянецкі “эксперыментаваў”, спрабуючы дзейнічаць паводле ўласных уяўленняў пра культуру і яе місіі, а не тых, якія спускаліся яму як даволі важнаму функцыянеру з ЦК КПБ і іншых кіраўнічых установаў. Гэтая дзейнасць ажыццяўлялася ў межах некалькіх “ня-

[14] Мілаш Ч. Скуты розум. Менск – Вільня, 2000. С. 69–70. Практычная арыентаванасць работы засцерагае і ў гэтым выпадку ад разгляду занадта адцягненых разважанняў пра фундаментальны падмурак гэтага культурнага феномена, як, напрыклад, у вядомага рускага мысляра, перакладчыка і г. д. С. Харужага (Хоружий С. Блеск и нищета внутренней эмиграции // Знамя. 2002. № 8. С. 211–215).

добранадзейных" напрамкаў (зразумела, што павелічэнне ў некалькі разоў аб'ёму выдавецкай дзейнасці не было сярод іх самым небяспечным); важна тое, што ў ёй М. Дубянецкі здолеў дасягнуць пэўных практычных вынікаў.

Сваю мэту ён бачыў у змаганні з партыйнымі абмежаваннямі, навязанымі сферы культуры: "Усё, што я рабіў, у асноўным было накіравана на вызваленьне беларускай літаратуры ад цэнзуры"[15]. Уласную дзейнасць М. Дубянецкі разумеў не як гульню (так прапануе апісваць поле культурнага жыцця ў СССР Н. Казлова[16]), а як змаганне (з выразным мілітарысцкім адценнем: "жудасныя баі", "да зброі!" і г. д., або як эксперымент на выжыванне ў "беспаветранай прасторы"[17]). У зместавым напаўненні гэтай дзейнасці выразна вылучаюцца тры асноўныя кірункі намаганняў выдаўца.

Па-першае, ён імкнуўся спрыяць з'яўленню твораў, якія б не мелі адбітку "бязмозглага тупога сацрэалізму". Да аўтараў такіх твораў належаў, напрыклад, Л. Дранько-Майсюк, якім фактычна апекаваўся М. Дубянецкі. Яго паэзію артадаксальныя крытыкі вінавацілі ў містыцызме, рэлігійнасці, невыразнасці грамадзянскай пазіцыі[18]. Дырэктар "Мастацкай літаратуры" адыграў вырашальную ролю і ў друкаванні гістарычна-папулярнай кнігі К. Тарасава "Памяць пра легенды"[19] (1984), якая выклікала негатыўную ацэнку акадэмічнай гістарыяграфіі[20]. Апроч таго, ён спрычыніўся да выхаду кнігі А. Глобуса "Парк", наклад якой быў арыштаваны цэнзурай у верасні 1984 г.[21].

[15] Дубянецкі М. "Трэба рызыкаваць...": Дзёньнікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. 2009. № 42. С. 243. Гэта была практычная мэта. Увогуле ж М. Дубянецкі праз сваё служэнне культуры бачыў магчымасць прынесці карысць "народу" (Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць... // Полымя. 2001. № 10. С. 164).

[16] Козлова Н. Н. Согласие, или Общая игра // Новое литературное обозрение. 1999. № 40. С. 200.

[17] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць... // Полымя. 2002. № 2. С. 231.

[18] Дубянецкі М. "Трэба рызыкаваць...": Дзёньнікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. 2008. № 37. С. 231.

[19] Тарасов К. Память о легендах. Минск, 1984.

[20] Залесский А. И. Не в ладах с фактами истории // Коммунист Белоруссии. 1986. № 5. С. 91–94.

[21] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць... // Полымя. 2002. № 2. С. 198.

Па-другое, кнігавыдавец імкнуўся да рэтрансляцыі занядбанай нацыянальнай традыцыі, значны пласт якой быў пад строгай забаронай або проста забыты. «Наогул была звернута мною ўвага адпаведных рэдакцый на літаратурную спадчыну беларускага народа, на тую спадчыну, што недаспадобы шматлікім “куратарам”»[22]. Так, ён “горача” падтрымаў ідэю І. Чыгрынава надрукаваць зборнік маладнякоўскага апавядання[23], выдаць творы Я. Дылы (якія апошні раз выходзілі ў 1926 г.)[24], В. Каратынскага[25], апублікаваць нізку вершаў А. Гаруна[26] (апошні раз у БССР яны выйшлі ў 1946 г.[27]). Пачалася падрыхтоўка перавыдання твораў У. Галубка і М. Гарэцкага[28]. Да гэтага шэрагу трэба аднесці аповесць В. Быкава “Мёртвым не баліць”, якую ўдалося ўключыць у збор твораў пісьменніка пасля доўгага і напружанага процістаяння з цэнзурай[29]. У амбітных планах выдаўца было перавыданне “Бібліі Рускай” Ф. Скарыны і “Матчынага дара” А. Гаруна[30].

Нарэшце, немалаважным кірункам яго дзейнасці стала імкненне забяспечыць паўнацэнную (наколькі магчыма) сувязь беларускай культуры з сусветнай (у першую чаргу – заходнееўрапейскай). Добра вядомы факт, што адной з найважнейшых адзнак культуры БССР была яе амаль поўная ізаляванасць нават ад літаратур краін са-

[22] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 165.
[23] Тамсама. С. 163.
[24] Дыла Я. Творы. Мінск, 1981.
[25] Каратынскі В. Творы. Мінск, 1981.
[26] Гарун А. Вершы // Дзень паэзіі–81. Мінск, 1981. С. 243–251.
[27] Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўн.: у 6 т. Т. 2. Мінск, 1993. С. 144. У 1962 г. кніга А. Гаруна фігуравала ў спісе “варожай антысавецкай літаратуры”, надрукаванай у ФРГ (Vaškevič J. Sowjetische Kultur in Belarus… S. 13–14).
[28] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 166. Творы У. Галубка выдадзены ў 1983 г., гл.: Галубок У. Творы. Мінск, 1983; збор твораў М. Гарэцкага – у 1984–1986 г., гл.: Гарэцкі М. Збор твораў: у 4 т. Мінск, 1984–1986.
[29] Дубянецкі М. Злое вогнішча. Да гісторыі выдання аповесці В. Быкава “Мёртвым не баліць” // Полымя. 1999. № 2. С. 160–191.
[30] Дубянецкі М. “Трэба рызыкаваць…”: Дзённікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. 2009. № 42. С. 247.

цыялістычнага блоку, не кажучы ўжо пра “буржуазны Захад”, чые набыткі прыходзілі ў тагачасную Беларусь амаль выключна праз пасярэдніцтва рускай культуры[31]. Ужо ў студзені 1982 г., падводзячы вынікі папярэдняга года, М. Дубянецкі запісаў: “…палепшаны ўмовы выдання перакладной літаратуры” (створана дадатковая рэдакцыя перакладной літаратуры і новы альманах “Братэрства”)[32]. У 1982 г. у беларускім друку з’явіліся творы У. Шэкспіра[33], Р. М. Рыльке[34] і некаторых іншых замежных аўтараў. Не зусім добранадзейна выглядала імкненне М. Дубянецкага да наладжвання кантактаў з замежнымі выдавецтвамі (напрыклад, з англійскім “Macdonald Education Ltd.”). Першая спроба выдаць па-беларуску шэраг кніг гэтага выдавецтва была зроблена яшчэ папярэднім дырэктарам “Мастацкай літаратуры” М. Ткачовым і фактычна заблакавана ў кантрольных інстанцыях. Тым не менш, у 1981 г. М. Дубянецкі ўзнаўляе ранейшую дамову[35]. У цэлым жа больш за палову ўсіх кнігавыдавецкіх пагадненняў у БССР, дзякуючы яго актыўнасці, прыпадала на долю “Мастацкай літаратуры”.

Супярэчыла партыйным устаноўкам і кадравая палітыка М. Дубянецкага. Справа не толькі ў тым, што ён прыняў на пасаду загадчыка рэдакцыі В. Рабкевіча, аднаго з фігурантаў справы г. зв. “Акадэмічнага асяродку”[36]. Ён не звяртаў увагі на неабходнасць прытрымлівацца належнай колькасці членаў КПБ сярод усіх супрацоўнікаў выдавецтва, а некаторых новых работнікаў характарызаваў як “зацятых беспартыйцаў” (С. Букчын, Г. Кісялёў, Я. Лецка, А. Ліс, Р. Семашкевіч, М. Тычына, Я. Шабан)[37].

[31] Гл. падрабязней: Шадурский В. Культурные связи Беларуси со странами Центральной и Западной Европы (1945–1990-е гг.). Минск, 2000.

[32] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 164.

[33] Шэкспір У. Антоній і Клеапатра. Мінск, 1982.

[34] Рыльке Р. М. Санеты Арфею. Мінск, 1982.

[35] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 176–179.

[36] Тамсама. С. 179–180.

[37] Тамсама. С. 181.

Абысці цэнзуру ўдавалася далёка не заўсёды. І калі аповесць В. Быкава пасля доўгіх намаганняў усё ж з'явілася ў яго зборы твораў, то п'еса Я. Купалы "Тутэйшыя", запланаваная да друку ў 1982 г. у складзе новага альманаха "Спадчына", была своечасова заўважана ў Галоўліце і ўвесь альманах забаронены[38]. Нягледзячы на намер усё ж "дамагацца выдання п'есы"[39], яе так і не ўдалося надрукаваць да канца 1980-х г. Не дайшлі да чытача ў запланаваны год таксама выбраныя творы У. Галубка, быў выдалены з выдавецкіх планаў Ф. Скарына[40].

У тапаграфіі беларускай савецкай культуры, як яна падаецца ў М. Дубянецкага, выразна прысутнічае падзел па лініі "свой – чужы". Ён неаднаразова выказвае пачуццё салідарнасці з А. Разанавым, В. Быкавым, А. Адамовічам, У. Караткевічам, М. Улашчыкам і некаторымі іншымі. У гэтым сэнсе сімптаматычныя яго развагі пра магчымасць стварэння беларускімі пісьменнікамі аналагу "Салідарнасці"[41], або дыферэнцыяцыя членаў рэдакцыйна-выдавецкага савета, дзе ён вылучыў групу "дваран" (І. Шамякін, Г. Бураўкін, А. Макаёнак, І. Навуменка, П. Панчанка і інш.) і проціпастаўленую ім "пяцёрку" (В. Быкаў, А. Адамовіч, Я. Брыль, Р. Барадулін, Р. Сабалеўскі) – творцаў, яшчэ не ўганараваных афіцыйнымі званнямі і пасадамі ці ўганараваных, але "няшчыра", з мэтай іх "прыручэння"[42]. Крытэрыі маглі быць і іншыя (напрыклад, калі І. Чыгрынаў расказаў М. Дубянецкаму пра тое, што ў сваіх раманах паказаў эмігранцкага паэ-

[38] Дубянецкі М. "Трэба рызыкаваць…": Дзённікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. 2009. № 42. С. 244; Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 165. Пра гэты факт стала вядома і на Захадзе (Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 11. С. 126).

[39] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 11. С. 120.

[40] Тамсама. С. 131.

[41] Дубянецкі М. "Трэба рызыкаваць…": Дзённікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. 2009. № 38. С. 248.

[42] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 182.

та М. Сяднёва як станоўчага героя, то "ён адразу вырас у маіх вачах"[43]).

Што тычыцца лагера апанентаў, у дзённіках М. Дубянецкага апісаны вельмі паказальны ў гэтым дачыненні выпадак – перадача выдавецкіх спраў у красавіку 1986 г. новаму дырэктару А. Бутэвічу. Наступнік М. Дубянецкага не зразумеў яго планаў публікацыі твораў А. Гаруна, спасылаючыся на яго антысавецкасць і цэнзурную забарону. "Я вучу яго, як абысьці цэнзуру, а ён толькі ведае, што ёй мусова падпарадкоўвацца", – расчаравана адзначае М. Дубянецкі[44].

Яшчэ адзін момант, на які варта звярнуць увагу (ён тычыцца не толькі М. Дубянецкага, але і постацяў, разгледжаных ніжэй), – асаблівасці ўспрымання маштабу ідэалагічных парушэнняў, дапушчаных М. Дубянецкім. Сёння мы міжволі параўноўваем іх з узорамі маскоўскага ці кіеўскага дысідэнцтва і не лічым здабытак мінскіх культурнікаў-іншадумцаў вартым увагі. Але ў самім Мінску 1980-х г. дзейнічала іншая оптыка, абумоўленая агульным кантэкстам "паслухмянай рэспублікі". Праз яе С. Паўлаў, напрыклад, мог цалкам сур'ёзна параўноўваць "Спадчыну" М. Дубянецкага і знакаміты "Метрополь" групы маскоўскіх аўтараў[45] (трэба думаць, менавіта па такой логіцы высілкі Н. Гілевіча адносна абароны беларускай мовы дазвалялі трактаваць яго як "нацыяналіста нумар адзін" у БССР і пад.).

Аналіз дзейнасці М. Дубянецкага выклікае пытанне пра ўнутраную логіку функцыянавання савецкай культуры, якая часта няслушна ўспрымаецца як эманацыя ўлады[46]. Гэтае ўяўленне цалкам ігнаруе ролю асобы ў ажыццяўленні культурнай вытворчасці. Між тым, прыклады культурніцкай інжынерыі (гаворка ідзе перш за ўсё пра беларускі кантэкст), накіраванай супраць падставовых ідэй-

[43] Дубянецкі М. "Трэба рызыкаваць…": Дзёньнікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. 2008. № 37. С. 227.

[44] Дубянецкі М. "Трэба рызыкаваць…": Дзёньнікавыя запісы 1985–1988 гадоў // Дзеяслоў. 2009. № 42. С. 247.

[45] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 11. С. 124.

[46] Козлова Н. Н. Согласие, или Общая игра. С. 192.

ных і эстэтычных складнікаў савецкай культуры, не абмяжоўваюцца толькі асобай М. Дубянецкага. Іншы прыклад, які нельга не прывесці, – М. Ермаловіч і роля, якую ён адыграў у савецкай культуры. Звычайна ён успрымаецца як адзін з найбуйнейшых беларускіх дысідэнтаў. А між тым ён часта друкаваўся ў афіцыйным друку. Асаблівае значэнне мае яго артыкул у часопісе “Нёман”[47], які разглядаўся аўтарам і блізкімі да яго коламі як юбілейны матэрыял – да святкаванага тады часткай інтэлігенцыі “Тысячагоддзя Беларусі”[48]. Звярнуўшыся да гэтага вельмі важнага тэксту, можна пераканацца, напрыклад, што тэзіс Ю. Вашкевіча – “не толькі словы кантраляваліся, але і вобразы, інтэрпрэтацыі, самі інтанацыі ці іншыя параметры выказвання”[49] – патрабуе пэўных удакладненняў. Відавочна, многае залежала ад кожнага асобнага функцыянера, як у выпадку з артыкулам М. Ермаловіча: яго адмовіліся друкаваць у “Полымі”, але дзякуючы А. Кудраўцу апублікавалі ў перакладзе ў “Нёмане”[50].

У кантэксце, звязаным з намаганнямі М. Дубянецкага надаць беларускай культуры большую разнастайнасць, выкарыстоўваючы дапушчальныя сродкі, неабходна разглядаць і постаць У. Караткевіча. Яго адметнае становішча сярод беларускіх пісьменнікаў шырокавядомае. Першы этап творчага шляху творцы (прыблізна 1958–1974 г.) адзначаны непрыняццем з боку афіцыйных ідэолагаў, асуджэннем у друку яго твораў[51], якія займалі маргінальнае становішча ў беларускай савецкай літаратуры. Так, восенню 1963 г.

[47] Ермалович М. “…Нареклися кривичи и дреговичи…” // Неман. 1980. № 9. С. 183–188.

[48] Крукоўскі У. Тысяча плюс дваццаць (з нагоды малога юбілею) // Наша Ніва. 21.02.2000. № 8. С. 7.

[49] Vaškevič, J. Sowjetische Kultur in Belarus… S. 9.

[50] Крукоўскі У. Па сьлядах Ермаловіча // Наша Ніва. 28.02.2000. № 9. С. 7. Пазней А. Кудравец успамінаў пра свае планы стварэння ў “Нёмане” адмысловай пляцоўкі – рэтранслятара беларускай нацыянальнай культуры для рускамоўных жыхароў БССР: Кудравец А. Я не баяўся слова “сьмерць” (гутарка) // ARCHE-Пачатак. 2002. № 1. С. 6–11.

[51] Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека. Мінск, 2010. С. 20–21, 25–26, 117–118.

быў рассыпаны набор яго аповесці “Дзікае паляванне караля Стаха”[52]; дваццаць гадоў чакаў выхаду асобнай кнігай раман “Леаніды не вернуцца да Зямлі”[53]. Між тым, У. Караткевіч меў вялікі поспех як літаратар. Яго дзейнасць, як і дзейнасць М. Дубянецкага, падпарадкоўвалася ўяўленню пра сацыяльнае значэнне літаратуры ў прыватнасці і культуры наогул. “Раман… прачытае ну дзесяць, ну дваццаць тысяч чалавек. А добры фільм паглядзяць мільёны”[54], – абгрунтоўваў У. Караткевіч сваю ангажаванасць у кінематограф. Як і іншым пісьменнікам, У. Караткевічу даводзілася згаджацца з цэнзарамі, рэдагаваць свае творы, каб яны трапілі ў друк[55]. Заўважым таксама, што прыклад У. Караткевіча выяўляе ўласцівую вылучанаму вышэй другому тыпу ўнутранай эміграцыі асаблівасць: ён фактычна адмовіўся ад спробаў заняць якую-небудзь уплывовую пасаду ў іерархіі савецкай культуры.

Магчымасць супастаўлення У. Караткевіча і М. Дубянецкага палягае ў выключнай папулярнасці яго раманаў, якія былі выразна адчужаныя калі не ад эстэтыкі, то ад праблематыкі астатняй часткі беларускай сацрэалістычнай літаратуры. Творчасць У. Караткевіча даволі дакладна суадносіцца з несавецкай нацыянальнай культурнай традыцыяй (творчы даробак пісьменніка справядліва характарызуецца як “нестандартны”[56] на агульным фоне). Сам ён успрымаўся грамадствам (побач з В. Быкавым) як галоўны парушальнік спакою ў рэспубліцы[57], але, тым не

[52] Брыль Я. – Адамовіч А. “У большым мы не саступім…”: Перапіска 1960–1980-х гадоў // Дзеяслоў. 2010. № 3. С. 262.

[53] М. Дубянецкі, які высока цаніў гэты твор і быў галоўным ініцыятарам яго выдання, кажа пра дваццацігадовую “забарону”, гл.: Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 167–168.

[54] Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча… С. 82.

[55] Тамсама. С. 69–70. Напрыклад, з цэнзурных меркаванняў была зменена назва рамана “Леаніды не вернуцца да Зямлі” (Vaškevič J. Sowjetische Kultur in Belarus… S. 13).

[56] Макмілін А. “Быў. Ёсць. Буду…”: Гісторыя і культура як тэмы паэзіі Уладзіміра Караткевіч // Тэрмапілы. 1999. № 2. С. 112.

[57] Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча… С. 86.

менш, заставаўся цалкам лаяльным савецкім грамадзянінам, пра што спецыяльна гаворыць А. Мальдзіс[58]. Гэта ж пацвярджае і С. Дубавец, які ўспамінаў, што ўдзельнікі студэнцкіх суполак пачатку 1980-х г. так і не знайшлі агульнай мовы з У. Караткевічам[59]. Далейшы лёс творчай спадчыны гэтага творцы (напрыклад, прызнанне яго як "прарока" з боку таварыства "Тутэйшыя") яшчэ раз сведчыць, што культурныя артэфакты не маглі мець адназначнага прачытання і лёгка пераасэнсоўваліся, набываючы новае гучанне і змяняючы культурную лакалізацыю. Так У. Караткевіч, адэкватны (з пэўнымі агаворкамі) савецкі класік, быў ператвораны ў прарока новай, прынцыпова нонканфармісцкай (ці нават варожай у дачыненні да класічнай савецкай спадчыны) літаратуры[60].

Крыху іншую, хоць і тыпалагічна блізкую мадэль паводзінаў, наколькі можна папярэдне сцвердзіць, спрабаваў ажыццяўляць Н. Гілевіч. Ён быў прадстаўніком акадэмічных колаў (у 1960–1980 г. працаваў выкладчыкам БДУ) і не толькі выяўляў цікавасць да "сумніўнай" літаратуры (як, напрыклад, Ю. Віцьбіча[61], І. Дзюбы[62], Л. Геніюш[63]), але і імкнуўся да публічнага выказвання сваіх крытычных поглядаў на моўнае становішча ў БССР. Так, у 1965 г. ён выступіў з крытыкай моўнага становішча ў Беларусі на нарадзе перакладчыкаў у Мінску[64]. Гэтай жа праблеме былі прысвечаны яго прамовы на V з'ездзе Саюза пісьменнікаў (1966)[65] і ў час абмеркавання справы студэнтаў

[58] Тамсама. С. 118
[59] Залоска Ю. Версіі. Шлях да храма "idea sui": дзённік, дыялогі, эсэ. Мінск, 1995. С. 395.
[60] Пра адносіны "Тутэйшых" да творчай спадчыны У. Караткевіча гл.: Бязлепкіна А. Літаратурныя дыскусіі на мяжы XX–XXI стст. у СМІ і інтэрнэце: нацыянальная спецыфіка // Веснік БДУ. Сер. 4. 2010. № 3. С. 61.
[61] Гілевіч Н. Збор твораў: у 23 т. Т. 23. Між роспаччу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў сьвятле адной мары. Вільня, 2008. С. 168.
[62] Тамсама. С. 194 і далей.
[63] Тамсама. С. 205.
[64] Тамсама. С. 169.
[65] Тамсама. С. 173–175.

А. Разанава і В. Ярца ў 1968 г.[66]. Нягледзячы на гэта, у 1980 г. Н. Гілевіч па прапанове П. Машэрава становіцца сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў[67]. Сваю згоду быць чыноўнікам у сферы культуры ён абгрунтоўвае ў тым ліку і спадзяваннем на новыя магчымасці ўплыву.

Нельга не адзначыць, што Н. Гілевіч быў не ізаляваным у рэчышчы асцярожнага іншадумства, а належаў да досыць шырокага кола незадаволеных. "Балела многім"[68], – заўважае аўтар, маючы на ўвазе не толькі "лёс роднай мовы", але і ўвогуле "долю-нядолю беларускую".

Трэба падкрэсліць, што іншадумства Н. Гілевіча мела гранічна "рафінаваны" характар. Ставячы "небяспечныя" пытанні, ён ухіляўся ад адказаў на іх[69]. Стрыманая крытыка культурнай сітуацыі магла ажыццяўляцца і ў апоры на рашэнні партыйных з'ездаў[70] (падобным чынам на марксізм абапіраліся многія дысідэнты, як, напрыклад, І. Дзюба). У той жа час у друку ён выступаў і з належным чынам вытрыманымі тэкстамі[71]. Аднак нават такое стрымана-крытычнае стаўленне да асобных праяваў савецкай рэчаіснасці не магло перасягаць дакладна вызначаных межаў. Менавіта таму згаданыя вышэй прамовы 1960-х г. былі апублікаваныя ў канцы 1970-х г. з купюрамі, а цалкам – толькі ў 1996 г.[72], застаючыся набыткам вузкага кола інтэлігенцыі.

"Сказ пра Лысую гару" (які, па ўсім відаць, належыць Н. Гілевічу[73]) тут не абмяркоўваецца, паколькі пра яго пераканальна і вычарпальна выказаўся С. Дубавец: "Паэма, у якой няма ні кроплі антысаветчыны ці хоць бы

[66] Тамсама. С. 189–191.
[67] Тамсама. С. 238–246.
[68] Тамсама. С. 200.
[69] Гл., напрыклад, яго выступ на перакладчыцкай нарадзе ў 1964 г.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая: Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове. Мінск, 1996. С. 23–27.
[70] Тамсама. С. 36.
[71] Гилевич Н. "А писать есть много о чем…" // Нёман. 1986. № 4. С. 144–146.
[72] Гілевіч Н. Між роспаччу і надзеяй… С. 224–225.
[73] Гл. асобную публікацыю з пазначаным аўтарам: Гілевіч Н. Сказ пра Лысую гару. Мінск, 2003.

нонканфармізму"[74]. Зрэшты, такі прысуд не павінен уводзіць у зман. Сама па сабе паэма надзвычай добра ілюструе магчымыя шляхі камунікацыі паміж розным тыпамі творчасці і існавання ў культуры. Бо, нягледзячы на адсутнасць у паэме рысаў дысідэнцтва, яна выразна адрозніваецца ад твораў, паўсталых у рамках "нармальных" культурных практык. У гэтым сэнсе яе памежны статус цалкам адпавядае выказванню М. Жбанкова: «Аднолькава абжытыя і камфортныя былі і афіцыйны, і альтэрнатыўны пласты ("Капітал" на заліку, "Архіпэляг Гулаг" пад падушкай)»[75]. Тыпалагічна тоесная паэме Н. Гілевіча, напрыклад, логіка публічнага прадстаўлення М. Дубянецкім згаданага вышэй рамана "Нельга забыць": на агульным сходзе выдавецтва ён азначыў яго ў першую чаргу як "прасякнуты духам інтэрнацыяналізму"[76]. Гаворка не ідзе пра нейкую хлусню выдаўца: успрыманне рамана залежала, натуральна, ад чытача, а не ад першапачатковай аўтарскай інтэнцыі, і ўсім вядома, што прадукаванне сэнсаў абумоўлена чытацкім светапоглядам. Для М. Дубянецкага раман быў каштоўны зусім не інтэрнацыяналізмам, на што адназначна паказвае яго дзённік. Але, прамаўляючы перад высокапастаўленым кіраўніком з ЦК, ён мусіў адпаведным чынам падаць ключавую думку мастацкага тэксту, вылучыўшы на першы план менавіта інтэрнацыяналізм.

Наступны спосаб суіснавання з савецкай ідэалогіяй грунтуецца не на процістаянні з сістэмай праз стварэнне неарганічнага ў яе кантэксце культурнага прадукту (гэта быў, натуральна, пратэст – абмежаваны, пасіўны, але пратэст супраць знешняй рэчаіснасці культуры), а пошук магчымасці існавання ў рамках гэтай культуры пры адмаўленні яе ідэалагічных складнікаў. Такая ідэалагічная незаангажаванасць сама па сабе ўжо выклікала падазрэнні: вядома, што савецкая культура будавалася такім чынам, што не магла існаваць сама для сябе, па-за

[74] Дубавец С. Вострая брама. Б.м., 2005. С. 81.
[75] Жбанкоў М. "Культура сьмецьця" і "сьмецьце культуры" // Фрагмэнты. 1999. № 3–4. С. 133.
[76] Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 11. С. 105.

сацыяльным і палітычным кантэкстамі (ні ў якім разе не магла “мець нейкай сваёй этыкі ці тэлеалогіі развіцця”)[77]. Вышэй ужо прыводзіўся прыклад Л. Дранько-Майсюка, на адрас якога гучала ў тым ліку абвінавачванне ў адсутнасці выразнай грамадзянскай пазіцыі. Таму творцы, якія адмаўляліся забяспечваць патрэбную функцыянальнасць культуры, *a priori* не мелі вялікіх кар’ерных шанцаў у сістэме і мусілі задавольвацца маргінальным становішчам (хоць іх набытак, зразумела, мог мець вялізнае значэнне).

Такім чынам, першасная прыкмета гэтага тыпу ўнутранай эміграцыі – тое, пра што Р. Барадулін сказаў: “Не прымяраў мундзіраў”. За ім, на думку А. Сямёнавай, гэта маглі з поўным правам паўтарыць У. Караткевіч, В. Сёмуха, А. Ліс, М. Стральцоў[78]. Выпадак У. Караткевіча ўжо разглядаўся вышэй – сапраўды, ён не меў ніякіх афіцыйных пасад. З іншага боку, да яго думкі прыслухоўваўся П. Машэраў, а многія яго творы маюць ідэалагічнае гучанне. У. Караткевіча цяжка параўноўваць з тым жа М. Стральцовым – пісьменнікам, засяроджаным амаль што на “чыстым мастацтве”: лірычнай паэзіі, кароткай прозе, літаратурнай крытыцы (“тут было выратаванне”[79]). Такім чынам, гэтыя асобы цалкам свядома далучаліся да савецкай культуры і фактычна працавалі на яе карысць, але спрабавалі пры гэтым вынесці за дужкі навязлівыя прынцыпы партыйнасці і сацрэалізму.

Вельмі паказальны ў гэтым сэнсе творчы лёс вядомага графіка Б. Заборава. Жадаючы ўнікнуць абавязковай марксісцка-ленінскай індактрынацыі сваіх твораў, ён свядома замкнуўся ў межах кніжнай ілюстрацыі, якая ўяўлялася найбольш далёкай ад камуністычнай ідэалогіі сферай выяўленчага мастацтва. «Я жыў у краіне ўзорнага таталітарнага рэжыму, для якога ягоная заганная ідэалогія была ўмоваю існавання. Яна пранізвала ўсё

[77] Казакевіч А. Пра калёнію // Палітычная сфера. 2001. № 1. С. 45.

[78] Сямёнава А. Бэзавы попел // Крыніца. 1994. № 9. С. 43.

[79] Тамсама. Пар.: Макмілін А. Міхась Стральцоў – паэт у прозе і паэзіі // Тэрмапілы. 2002. № 6. С. 121–133.

жыццё, і мастацтва – у першую чаргу. Кніжная графіка была адносна “бяспечнаю зонай”, якая хавалася ў цені літаратурнага тэксту»[80]. Як вядома, у 1980 г. Б. Забораў выехаў з БССР (спачатку ў Вену, пасля – у Парыж). Прычыны ад’езду зразумелыя, але нялішне ўсё ж іх назваць – спашлемся на В. Тараса (падабенства метафар у яго і ў М. Дубянецкага наўрад ці выпадае тлумачыць толькі іх адноснай простасцю): «…не хапала яму – паветра! І абрыдла жыць ізгоем, абрыдла жыць ва “ўнутраным гета”, куды яго старанна заганялі некаторыя калегі… жаданне стаць свабодным мастаком»[81]. Здзейсненая Б. Заборавым “фізічная” эміграцыя не магла мець шырокіх перспектываў: так ці інакш, савецкая культура (чытай – ідэалогія) залучала іншадумцаў у абсягі сваіх уплываў.

З іншых дзеячоў, блізкіх да падобнага спосабу адказваць на выклікі рэчаіснасці савецкай культуры, варта назваць паэта А. Разанава. Пасля выключэння з БДУ ў 1968 г. ён не ўваходзіў у адкрытыя канфлікты з ідэалогіяй і ўладай, але захоўваў сувязі з (напаў)дысідэнцкімі коламі (напрыклад, студэнцкімі)[82]. У той жа час яго існаванне ў рамках савецкай культуры было складанае. Зборнікі паэта выходзілі з цяжкасцю[83]. І нягледзячы на тое, што ў некаторых з іх можна адшукаць і ідэалагічна вытрыманыя вершы[84], у цэлым яны так і засталіся непрынятыя ў “беларускую савецкую паэзію”, перш за ўсё з-за рэфлексіўнага супраціву крытыкі, якая так і не здо-

80 Цыт. паводе: Барадулін Р. Аратай, які пасвіць аблокі: Сяброўскае слова, эсэ і некананізаваныя ўспаміны. Мінск, 1995. С. 230.

81 Тарас В. На высьпе ўспамінаў. Вільня, 2007. С. 53–54.

82 Залоска Ю. Версіі… Мінск, 1995. С. 395.

83 У М. Танка: “А. Разанаў зноў ублытаўся ў нейкую гісторыю. Ну і дзівак! Выдавецтва забракавала яго зборнік. Трэба ісці за дапамогай да А. Т. Кузьміна” (Танк М. Збор твораў: у 13 т. Т. 10. Дзённікі (1960–1994). Мінск, 2012. С. 419). М. Дубянецкі вяртаў у выдавецкі план выкінуты адтуль яшчэ ў 1978 г. зборнік А. Разанава “Шлях-360” (Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 10. С. 169, 185).

84 Разанаў А. Адраджэнне. Мінск, 1970. У прыватнасці, вершы “Радзіме” і “Ленін – гэта мы”.

лела дапасаваць эстэтыку А. Разанава да сацыялістычнага рэалізму[85]. Прыкладам яго культурнай арыентаванасці можа быць укладзены ім невялікі збор твораў Я. Купалы, куды ўвайшла забароненая паэма “На Куццю”[86]. Нельга знайсці праяваў марксісцка-ленінскай метадалогіі (ці светапогляду) у крытычных выступленнях А. Разанава ў друку[87]. Таму ён быў культавай постаццю ў моладзевым асяроддзі, адыграўшы выключную ролю ў абуджэнні нацыянальных пачуццяў студэнтаў-гараджан і далучэнні іх да нацыянальна-дэмакратычнага руху[88].

Найбольш яскрава разанаўскае іншадумства выявілася ў тэатральнай пастаноўцы “Клеменса”, якая была перакладам з літоўскага драматурга К. Саі. Аднак у беларускі варыянт былі ўведзены арыгінальныя тэксты песень з выразным падтэкстам:

*І гэты час, і гэта лад*
*Не назаўсёды…*
*Я клічу гром, я клічу град…*
*Жыві, нязгода!*[89]

У дадзеным выпадку ізноў жа трэба мець на ўвазе, што пасыл гэтых паэтычных тэкстаў вызначаўся перш за ўсё іх чытацкім успрыманнем. Выкарыстаная тут эзопава мова дазваляла А. Разанаву, а таксама рэжысёру і ўсім, хто быў задзейнічаны ў спектаклі, захоўваць лаяльнае аблічча. У той жа час уздзеянне гэтай п’есы, наколькі можна мер-

[85] Бабкоў І. Каралеўства Беларусь: вытлумачэньне ру(і)наў. Мінск, 2005. С. 55, 60. Гл. таксама прадмову П. Панчанкі і пасляслоўе В. Бечыка ў: Разанаў А. Шлях-360. Мінск, 1981.

[86] Купала Я. Выйдзі з сэрцам, як з паходняй!..: Выбранае. Мінск, 1982. С. 101–108.

[87] Гл., напрыклад: Вобраз-83: Літ.-крыт. артыкулы. Мінск, 1983. С. 151–163. У далейшым, як сведчыць М. Дубянецкі, гэты зборнік браўся на разгляд у Галоўліт у тым ліку з увагі на эсэ А. Разанава (Дубянецкі М. Трэба рызыкаваць… // Полымя. 2001. № 11. С. 124).

[88] Дубавец С. Вершы. Мінск, 2007. С. 56–65.

[89] Сая К. Клеменс. Народная камедыя-прыпавесць у дзвюх дзеях / пер. А. Разанава // Крыніца. 1996. № 4. С. 73.

каваць па ўспамінах непасрэдных удзельнікаў, было велізарным. Аднак гэта даволі рэдкі выпадак, калі ў творчасці паэта адлюстраваліся (каля)палітычная лозунгі; галоўная рыса яго культурнай дзейнасці – выразная апалітычнасць, паэтычны "герметызм", імкненне знайсці "выратаванне" ў сваёй паэзіі.

Апошні вызначаны намі тып унутранай эміграцыі найбольш набліжаецца да дысідэнцкіх практык. Тут мы ізноў сутыкаемся з прынцыповай немагчымасцю звесці культуру да спрошчаных схем і мадэляў. Правесці дакладную і пэўную мяжу наўрад ці магчыма. І гэтая справа робіцца тым больш няпростай, калі ўлічыць складанасць самога вызначэння паняцця "дысідэнт"[90] (параўнаем са сцверджаннем, што ў БССР быў толькі адзін сапраўдны дысідэнт – М. Кукабака). Да гэтага тыпу ўнутранай эміграцыі можна аднесці К. Хадзеева[91], які надрукаваў усяго некалькі артыкулаў[92], В. Стрыжака, першая паэтычная кніга якога з'явілася ўжо ў 1990-я г.[93], Л. Геніюш, якая працягвала заставацца "грамадзянкай БНР" і прынцыпова не прымала савецкай рэчаіснасці (хоць дзякуючы намаганням М. Танка ў БССР усё ж былі выдадзены некалькі яе паэтычных кніг, некалькі разоў яе вершы з'яўляліся ў афіцыйным друку)[94], як і савецкая рэчаіснасць не прымала паэтку (яна, напрыклад, так і не ўвайшла ў СП БССР). У кантэксце разгляданай праблематыкі вялікай цікавасці дадзены тып з-за яго невялікай ролі ў прасторы культуры не ўяўляе. Можна адсочваць, якім чынам у гэтых колах канструявалася ўласная ідэнтычнасць, якое месца ў ёй вызначалася для знешняй савецкай культуры. Так, у "Хадзееўскай акадэміі", як успамінае А. Кулон,

[90] Даніэль А. Дысыдэнцтва: культура, якая ўхіляецца ад азначэньняў // Шуфляда. 2001. Т. 2. С. 98–114.

[91] Кулон А. Сіняя кніга беларускага алкаголіка. Менск, 2012. С. 133–161. Гэты ўрывак даступны таксама ў інтэрнэце.

[92] Кім Хадзееў [In memoriam] // Наша Ніва. 10.09.2001. № 37. С. 11. Гл. адзін з яго артыкулаў: Хадеев К. Уроки самопознания // Дружба народов. 1975. № 3. С. 277–280.

[93] Кулон А. Сіняя кніга беларускага алкаголіка. С. 112–122.

[94] Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўн.: у 6 т. Т. 2. Мінск, 1993. С. 174.

друкавацца ў афіцыйных выданнях лічылася ганебным, непрыстойным заняткам[95]. Для Л. Геніюш выданне ў савецкіх умовах было натуральным чынам знітаванае з небяспекай ("...было б добра, калі б У. Калеснік у сваёй прадмове не зрабіў з мяне таго, чым я не ёсць..."), таму паэтка не згаджалася на публікацыі сваіх вершаў нават пад ціскам сяброў[96]. Відаць, гэтым жа – імкненнем адмежавацца ад савецкай культуры – варта тлумачыць і актыўнае ліставанне Л. Геніюш з беларускай дыяспарай, перш-наперш з культурнымі дзеячамі, якім яна дасылала, у тым ліку, свае вершы, рэалізуючы такім чынам жаданне быць пачутай[97].

Неабходна яшчэ раз падкрэсліць умоўнасць прапанаванай класіфікацыі, якая мае характар хутчэй працоўнай гіпотэзы і, як і кожную мадэль, яе цяжка суадносіць з жыццём (Ю. Лотман). Працэс ідэнтыфікацыі інтэлектуала з той ці іншай традыцыяй (шырэйшае дастасаванне паняцця "традыцыя" да вывучэння савецкай культуры таксама выглядае вельмі перспектыўным) быў складаным і наўрад ці жорстка абумоўленым працэсам. Адна з добрых ілюстрацый – радкі з мемуараў В. Тараса, дзе апісваецца шлях адмаўлення аўтара ад "ілюзій наконт сталінскага казарменнага сацыялізму"[98]. Гэты працэс, які пачаўся, паводле В. Тараса, яшчэ ў партызанскім атрадзе, быў вельмі доўгі і складаны і працягваўся каля сямі гадоў, калі аўтар працаваў у рэдакцыі галоўнага партыйнага выдання – газеты "Звязда" (1955–1962). «У "звяздоўскай" школе жыцця я зразумеў механізм таго ладу, які завецца таталітарнай сістэмай, зразумеў, убачыў увачавідкі механізм яе прапаганды, злавесны механізм цэнзуры»[99].

[95] Кулон А. Сіняя кніга беларускага алкаголіка. С. 148. І, разам з тым, "...усякі верш, надрукаваны хоць у раёнцы, хоць у самвыдаце, выклікаў вялікую ўвагу і зайздрасць" (тамсама).

[96] Геніюш Л. Збор твораў: у 2 т. Т. 2. Проза. Лісты. Мінск, 2010. С. 259, 261.

[97] На гэты конт гл.: Юрэвіч Л. Камэнтары: літаратуразнаўчыя артыкулы. Мінск, 1999. С. 281–288.

[98] Тарас В. На высьпе ўспамінаў. Вільня, 2007. С. 367.

[99] Тамсама. С. 126.

Паказальна, што нават у самым асяродку партыйнай прапаганды маглі працаваць беспартыйныя асобы, а тэмай гутарак сярод іншага была граматыка Б. Тарашкевіча[100]. Больш за тое, у 1959–1961 г. В. Тарас узначальваў аддзел літаратуры і мастацтва ў рэдакцыі "Звязды", але мусіў сысці з-за нежадання ўступаць у партыю. Вельмі цікавы эпізод, у якім ідзе гаворка пра ваганні В. Тараса наконт уступлення ў партыю. Яго разважанні прыблізна адпавядалі тэзісам, якімі Н. Гілевіч абгрунтоўваў сваё рашэнне стаць сакратаром СП СССР – магчымасці, якія адкрываў гэты кампраміс. Такую магчымасць вельмі жорстка асудзіў А. Адамовіч. У выніку В. Тарас у 1962 г. сышоў са "Звязды", бо "ідэйна гэта ўжо была не мая газэта"[101].

Сутыкненне з уладамі адбылося пазней, у 1968 г., калі В. Тарас быў прыцягнуты да допытаў у КДБ па справе Л. Вакулоўскай. Яшчэ да гэтага ён мусіў звольніцца з рэдакцыі "Нёмана", каля васьмі гадоў яго не друкавалі ў БССР[102].

Валянцін Тарас уваходзіў у кола даволі "ненадзейных" асобаў, да якога належалі А. Адамовіч, М. Крукоўскі, а таксама "група Л. Вакулоўскай". Ён быў блізка знаёмы з В. Быкавым. Разам з тым у яго творчасці наўрад ці можна адшукаць дысідэнцкія рысы. Асаблівасці светаўспрымання В. Тараса былі абумоўлены відавочна незадавальняльнай сітуацыяй у савецкім грамадстве наогул і ў савецкай культуры ў прыватнасці. Цэнзура ўзмацнялася і ўсё часцей ператваралася ў недарэчнасць; нарастала партыйнае ўмяшанне ў жыццё інтэлігенцыі (напрыклад, ЦК КПБ мог прызначаць функцыянераў у часопісныя рэдакцыі, абмінаючы СП БССР). Нарэшце, не мог не ўплываць на інтэлігенцыю застой у культурным жыцці (адзначаны і ў дзённіках таго ж М. Танка).

Са сказанага вынікае, што да даследчыцкага падзелу культурнага жыцця трэба ставіцца з належнай асцярожнасцю.

[100] Тамсама. С. 154.
[101] Тамсама. С. 125.
[102] Тамсама. С. 415–437.

* * *

Вывучаючы гісторыю інтэлектуалаў як у БССР, так і ў СССР, даследчыкі звычайна імкнуцца пазбягаць ацэначных меркаванняў. Хоць сама неабходнасць шырокага вывучэння сацыяльна-культурных перадумоваў становішча інтэлектуалаў наўрад ці можа быць аспрэчаная. Зразумела, асаблівую каштоўнасць уяўляюць сабой наватарскія пошукі, напрыклад, такіх навукоўцаў, як Н. Казлова, якая, абапіраючыся на ідэі П. Бурдзье, вылучае ў якасці перспектыўнага гнасеалагічнага інструмента метафару гульні[103]. Разам з тым трэба разумець, што тэзіс пра жорсткі падзел савецкай культуры як з'явы і, такім чынам, пра "жорсткую дыверсіфікацыю" інтэлектуальнай супольнасці паводле яе культурніцкай тоеснасці не вытрымлівае крытыкі. І ў навуковай літаратуры ўсё часцей з'яўляюцца публікацыі, заснаваныя на ўзважанасці і далікатнасці ў адносінах да класіфікацыі з'яў культуры[104]. Так, Р. Шарцье вылучае тэзіс "класіфікацыі пад пытаннем"[105], а С. Харужы засяроджваецца на іншым, але блізкім аспекце існавання ўнутранай эміграцыі: "Пастулова выспа разбуралася. Працэс быў дваісты: меншалі і выразнасць адрозненняў, і энергія абароны гэтых адрозненняў"[106]. Галоўнае практычнае наступства такога падыходу – адсутнасць цэласнага вобразу культуры і рэдукцыя культурных з'яваў да той формы, якая дазваляе зручна дапасоўваць іх да зададзенай схемы. Як заўважыла Н. Казлова, «калі М. Зошчанка лічыцца па ведамстве "гнаных", то перастаюць згадваць пра тое, што ён пісаў "Аповеды пра Леніна"»[107]. У адносінах да Беларусі ў асноўным засяроджваюцца на раскрыцці іншай дыхатаміі – нацыянальнае vs

[103] Козлова Н. Н. Согласие, или Общая игра. С. 198–199. Гл. таксама: Козлова Н. Советские люди. Сцены из истории. Москва, 2005. С. 373–404.

[104] Современная российская историография: в 2 ч. Ч. 2. Минск, 2009. С. 178–179.

[105] Шартье Р. Интеллектуальная история и история ментальностей. С. 36–44.

[106] Хоружий С. Блеск и нищета внутренней эмиграции. С. 213.

[107] Козлова Н. Н. Согласие, или Общая игра. С. 198.

савецкае, а такі спосаб пісаць гісторыю савецкай культуры, здаецца, яшчэ ў большай ступені выяўляе сваю ўнутраную нязграбнасць.

Гаворка павінна весціся пра арганічнае адзінства розных сфер, іх унутраную ўзаемасувязь, існаванне складаных каналаў камунікацыі і запазычанняў, пераймання культурнага прадукту (савецкі класік У. Караткевіч як прарок нонканфармістаў, нацыяналістка Л. Геніюш і яе кнігі ў дзяржаўным, г. зн. падцэнзурным, выдавецтве). Лад беларускай культуры савецкага перыяду з яе іманентнай адсутнасцю разгалінаванай інфраструктуры іншадумства можа разглядацца як найбольш удалая ілюстрацыя гэтага тэзіса: іншадумства не знаходзілася недзе ў ізаляцыі, яно існавала ў якасці арганічнага складніка сістэмы афіцыйнай культуры.

Разгледжаныя намі спосабы ўнутранай эміграцыі дазваляюць крыху па-іншаму зірнуць на структуру культуры і культурных эліт у БССР, чым гэта звычайна робіцца ў беларускай гуманітарнай навуцы[108]. Бо нам дагэтуль вядомы пераважна яе вонкавы бок, ледзь не справаздачная статыстыка за кожную пяцігодку[109]. Між тым відавочна, што па-за межамі нашай увагі застаецца вялізная колькасць мікрапрактык культурнай вытворчасці. Нездарма першасны эмпірычны матэрыял назапашаны менавіта ў дзённіках і ўспамінах – творах, напісаных жывымі свед-

[108] Гл. у якасці прыкладу адпаведныя раздзелы: Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 6. Беларусь у 1946–2009…; Навіцкі У., Лыч Л. Гісторыя культуры Беларусі. Мінск, 1997; Голубев В. Культура Беларуси в годы советской власти // Электронны рэсурс – рэжым доступу: *http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/filamaty/07/06.htm*, дата доступу: 3.06.2012. Спецыяльна адзначым апошні артыкул, аўтар якога спрабуе паказаць “дзве тэндэнцыі” ў культуры Беларусі савецкага перыяду, але наўрад ці гэтую спробу можна назваць паспяховай, асабліва ў адносінах да другой паловы XX ст.

[109] “Для музеяў, тэатраў і іншых культурніцкіх устаноў у БССР дзейнічалі планы, якія яны павінны былі выконваць. У якасці параметараў вызначаліся колькасць прадстаўленняў, “абслужаных” гледачоў ці наведвальнікаў (Vaškevič J. Sowjetische Kultur in Belarus… S. 20).

камі і ўдзельнікамі падзей. Таксама зразумела, што і простай фіксацыі ўжо недастаткова. Усё яшчэ цяжка ўявіць сабе велізарную сістэму беларускай савецкай культуры, абагулены вобраз, які быў бы індукцыйна складзены менавіта з гэтых ачалавечаных фактаў культурнай гісторыі, з гэтага побыту, са штодзённасці культуры, а не з "літаратурна-мастацкіх хронік".

З іншага боку, мусім падкрэсліць, што праведзены аналіз – толькі чарговы фрагмент уступу да далейшых даследаванняў праблемы. Наколькі, напрыклад, былі пашыраны "ўнутрысістэмныя" практыкі іншадумства? Ці можна знайсці іншыя прыклады сістэматычнай рэфлексіі пра сваё становішча, акрамя дзённікаў М. Дубянецкага? Зразумела, па-за нашай увагай засталіся многія цікавыя праблемы, сярод якіх найбольш абяцальная – пытанне пра сферу ўплываў стоеных іншадумцаў на культурную палітыку, стварэнне і развіццё савецкай культуры памяці ў Беларусі, і г. д.

Сацыяльнае становішча інтэлектуалаў у савецкім грамадстве не дапускала вялікіх магчымасцяў уплыву на канстытуцыю культуры – яна дыктавалася агульнымі палажэннямі дактрыны марксізму-ленінізму. Як мы вышэй паспрабавалі паказаць, у гісторыі БССР былі прыклады спробаў "латэнтнай інжынерыі", як гэта было ў выпадках М. Дубянецкага і У. Караткевіча. Аднак апошнія належаць да розных тыпаў унутранай эміграцыі: першы арыентаваўся на кар'ерны рост у прапанаваных умовах, другі прынцыпова ўхіляўся ад іерархіі афіцыйнай культуры. З іншага боку, культурніцкае бяспраўе тых асоб, якія, паводле агульнапрынятай логікі, і мусілі вызначаць ключавыя прынцыпы і кірункі развіцця культуры, спараджала імкненне да іх замыкання на прыватных момантах прафесійнай дзейнасці, што дазваляла ўхіліцца ад уздзеяння паноўнай ідэалогіі. Нарэшце, зусім блізка ад дысідэнцтва размяшчалася стратэгія радыкальнай самаізаляцыі ад культуры савецкага тыпу, яе "спакус і прывілеяў".

# On Inside Emigration of Belarusian Intellectuals in BSSR (1964–1985)

**Anton Liavicki**

The conditions of the development of Belarusian culture in the period of stagnation provided for acceptance of socialist realism method and Marxism-Leninism ideology by intellectuals as producers of culture. Though it is generally considered that Belarusian intellectual elite was quite conformist, far not all its representatives agreed at heart with imposed ideological schemes. Accepting them outwardly they aspired to follow other way, dissociate themselves from official culture. This was how the situation of inside emigration had been being created. According to the degree of integration into official culture and their aims three types of inside emigrants are defined. In the article, the author characterizes the persons of Michail Dubianecki, Uladzimir Karatkievič, Nil Hilievič, Aleś Razanaŭ and tries to correlate them with possible variants of inside emigration.

# Безуладдзе і праўладнасць беларускіх гісторыкаў

## Генадзь Сагановіч

*Гістарычная навука*
*функцыянуе толькі тады,*
*калі даюць сказаць іншаму,*
*чуюць яго і лічацца з яго словам.*
Штэфан Ёрдан

Гадоў сем таму, калі адзін з маіх калег, чыя прафесійная дзейнасць раней таксама была звязана толькі з акадэмічным Інстытутам гісторыі і які гэтаксама стараннямі новай дырэкцыі апынуўся па-за яго сценамі, у размове сказаў: “Пачакай, прыйдзе час, і мы вернемся на ранейшую працу”, то сама ўяўная магчымасць працы ў, здавалася б, той самай установе яшчэ не выклікала ўнутранага пярэчання, хоць я і не падзяляў падобнага аптымізму. Затое цяпер такое ўжо і ўявіць немагчыма, бо гэта было б не толькі прафесійнай дэградацыяй, але і маральным суіцыдам, – настолькі перарадзіўся той жа інстытут! Толькі справа не ў адной названай установе – моцна змянілася, па-мойму, асяроддзе гісторыкаў наогул. Што адбываецца з беларускімі гісторыкамі, як трансфармуецца іх прафесійная ідэнтычнасць – гэта тыя непрыемныя пытанні, якія даўно неабходна ставіць і шукаць адказы. І найперш – што мы сёння з сябе ўяўляем, ці з’яўляемся мы наогул яшчэ нейкай супольнасцю. Ніжэй дзялюся сваімі суб’ектыўнымі меркаваннямі на гэты конт.

Як вядома, паняцце “навуковай супольнасці” (*scientific community*) увёў Томас Кун[1]. Амерыканскі гісторык навукі лічыў, што такую супольнасць утвараюць навукоўцы, якія атрымалі падобную адукацыю і прафесійныя навыкі, маюць адзін прадмет даследавання і якіх яднае “дысцыплінарная матрыца” – сімвалічная камунікацыя, агульнапрызнаныя прадпісанні, каштоўнасці і прыклады таго, як “робіцца” навука[2]. Знешне істотнай прыкметай прыналежнасці да такой карпарацыі ён назваў таксама членства ў прафесійных таварыствах і чытанне дысцыплінарных часопісаў, г. зн. зацікаўленасць яе членаў не толькі прыватнымі даследаваннямі, але і больш агульнымі праблемамі пазнання. І ўрэшце, што сёння падаецца асабліва важным, зарыентаванасць на ацэнку сваёй працы ў межах прафесійнай карпарацыі: вучоны “працуе для аўдыторыі калег” і яго рашэнні павінны быць прымальныя ў прафесійнай групе, члены якой – “адзіныя знаўцы правілаў гульні”, у той час як на зварот па навуковых пытаннях да дзяржаўных уладаў і да шырокіх масаў, згодна з няпісанымі правіламі такой супольнасці, павінна накладвацца забарона[3].

Паспрабуем цяпер суаднесці з названымі прыкметамі рэаліі сучаснага асяроддзя беларускіх гісторыкаў.

Раней усё ж былі такія часы, калі беларускія гісторыкі, здаецца, маглі адчуваць сябе адной навуковай карпарацыяй. Напрыклад, калектыў акадэмічнага Інстытута гісторыі з канца 80-х (з ранейшымі практыкамі жыцця гэтай установы я проста не знаёмы) і прынамсі да сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Пры пэўных агаворках ён мог лічыцца навуковай супольнасцю і ў Кунавым азначэнні. У познесавецкую эпоху гісторыкаў яшчэ яднала як адзіная парадыгма, так і цэлая сістэма дысцыплінарных нормаў і практык.

1 Kuhn T. The structure of scientific revolutions. Chicago, 1970; У перакладзе на рускую: Кун Т. Структура научных революций. Пер. с англ. И. З. Налетова. Москва, 1977. Хоць мадэль навуковай супольнасці распрацавана Т. Кунам на прыкладзе прыродазнаўчых і дакладных навук, у цэлым падобны падыход уяўляецца актуальным і для гістарыяграфіі, калі яна прэтэндуе на статус навукі.

2 Кун Т. Структура научных революций. С. 230, 231, 237, 242–244.

3 Тамсама. С. 215, 220.

Хоць дагматызм савецкай версіі гістарычнага матэрыялізму як метадалогіі і партыйнае кіраванне яшчэ доўга абмяжоўвалі навуковую свабоду гісторыкаў, аднак на працу даследчыкаў Сярэднявечча і асабліва археолагаў гэта не мела істотнага ўплыву, а з перабудовай і галоснасцю сталі магчымымі жывыя дыскусіі, перагляд непарушных раней догмаў і дэмакратызацыя жыцця навукоўцаў. У кожным разе, пры ўсіх тагачасных недахопах агульнае адчуванне было такое, што прафесійныя інтарэсы і навыкі яднаюць большасць супрацоўнікаў установы незалежна ад пакалення і палітычных арыентацый.

З распадам СССР і ў Мінску рабіліся захады па дэідэалагізацыі гістарычнай навукі, а таксама першыя крокі па яе мадэрнізацыі – найперш праз развіццё сувязяў з замежнымі інтэлектуальнымі цэнтрамі і адаптацыю новых метадалагічных падыходаў. Гэты працэс адбываўся натуральна, бо гісторыкі ў сваёй большасці ўсведамлялі галоўныя недахопы савецкай гістарыяграфіі. У гэтай сувязі паказальна, што першая ў Беларусі нацыянальная канцэпцыя гістарычнай навукі і адукацыі ў якасці неабходнай перадумовы навуковасці гістарыяграфіі прадугледжвала яе дэпалітызацыю, дэпартызацыю і дэідэалагізацыю, метадалагічны плюралізм і шмат іншых сапраўды важных для станаўлення сучаснай гістарыяграфіі прынцыпаў[4]. Істотна таксама, што асноўныя палажэнні гэтай канцэпцыі былі кансалідавана прынятыя на I Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў, якая прайшла на гістфаку БДУ ў пачатку 1993 г. На гэтым жа форуме адбыўся ўстаноўчы сход "Беларускай асацыяцыі гісторыкаў", якая з'яднала большасць прафесійных гісторыкаў краіны[5]. Гэта былі важныя спробы кансалідацыі шматлікага корпуса спецыялістаў на аснове агульнай канцэпцыі, якую тады на-

[4] Нацыянальная канцэпцыя гістарычнай навукі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь // Беларускі гістарычны часопіс (далей БГЧ). 1993. №1. С. 17–18.

[5] Пра адметную ролю гістарычнага факультэта БДУ ў складаных працэсах станаўлення беларускай гістарыяграфіі гл.: Шупляк П. А., Яноўскі А. А. Гістарычны факультэт БДУ ў працэсах нацыянальнага адраджэння 1990-х гг. (першы вопыт успамінаў і асэнсавання пераломнага часу) // Российские и славянские исследования. Вып. 4. Мінск, 2009. С. 356–366.

звалі нацыянальна-дзяржаўнай[6]. Неабходным крокам для такой кансалідацыі і шматабяцальнай перспектывай развіцця гістарычнай навукі (хоць апошняе і не спраўдзілася) выглядала заснаванне ў тым жа 1993 г. профільнага агульна-дзяржаўнага перыёдыка "Беларускі гістарычны часопіс".

Лішне нагадваць, што пасля ўсталявання ў Беларусі прэзідэнцкага рэжыму гістарычная навука краіны прыкладна з 1995 г. аказалася зноў ва ўмовах дзяржаўна-адміністрацыйнага кантролю, паступовага ўмацавання цэнзуры і палітызацыі гістарычнага дыскурсу. У гістарыяграфіі да гэтых пераменаў мала што ўдалося змяніць, пагатоў за такі кароткі час не паспелі вырасці новыя прафесійныя кадры, якія авалодалі б сучаснымі метадалагічнымі падыходамі[7]. Толькі ва ўмовах дэмакратыі можна было навучыцца навуковай свабодзе, пра якую пісаў Ганс Георг Гадамер, – свабодзе і адвазе фармуляваць уласныя пазіцыі, супрацiўляцца ідэалагічным маніпуляцыям і спекуляцыям начальнікаў. Але новыя ўлады Беларусі паставілі кропку на дэмакратычных пераменах, што давалі такія магчымасці. Практычна адразу артыкуляваная антызаходняя пазіцыя дзяржаўных уладаў стрымлівала развіццё кантактаў і наладжванне супрацы беларускіх гуманітарыяў з еўрапейскімі навуковымі цэнтрамі, так што пачатая інтэлектуальная мадэрнізацыя штучна затармазілася. Праўда, калі ў гістарычнай адукацыі ўжо ўводзіўся кантроль, які пачаўся з сумна вядомай кампаніі па перагляду падручнікаў (1995/96), то навукова-даследчыцкія

[6] Назву можна лічыць у пэўным сэнсе ўмоўнай: яна падкрэслівала, што ў фокусе новай гістарыяграфіі будзе мінулае Беларусі як нацыянальнай дзяржавы, а эпістэмалагічныя праблемы, звязаныя з нацыянальным наратывам і пераносам канцэпту нацыі ў данацыянальныя эпохі тады яшчэ не маглі ўсведамляцца.

[7] Польскі сацыёлаг Рышард Радзік, які прысвяціў даследаванню Беларусі не адно дзесяцігоддзе, сярод слабасцяў беларускай гістарыяграфіі трапна адзначыў успадкаваную ёю з савецкай эпохі схільнасць да ідэалагізацыі, паколькі ў Беларусі "выраслі цэлыя пакаленні гісторыкаў (у тым ліку прафесараў), якія не трымалі ў руках ніводнага падручніка па метадалогіі гістарычных навук". Radzik R. Dwie interpretacje dziejów: między sowieckością a wizją narodową // ён жа, Białorusini – między Wschodem a Zahodem. Lublin, 2012. S. 160–181, тут s. 161.

ўстановы і ў другой палове 1990-х г. маглі яшчэ дазваляць сваім супрацоўнікам аўтаномную навуковую творчасць.

Вехамі пераходу да горшага перыяду існавання беларускай гістарыяграфіі можна лічыць навязванне т. зв. "новай канцэпцыі" гісторыі аўтарства Я. Трашчанка (2002), увядзенне дзяржаўнай ідэалогіі (2003), што абярнулася вяртаннем практычна савецкай формы ідэалагічнага дыктату, і змену кіраўніцтва ў акадэмічным Інстытуце гісторыі (2004–2005). Апошняя падаецца асабліва прыкметнай, бо менавіта з ёю атаесамляецца пачатак важных наступстваў. Новы дырэктар гэтай установы А. Каваленя, які не меў аніякага ўяўлення пра акадэмічную гістарычную навуку, хутка ажыццявіў тое, на што не замахнуўся б, здаецца, ніводзін з яго папярэднікаў: увёў аўтарытарны стыль кіравання, "прачысціў" кадры супрацоўнікаў па прынцыпе палітычнай лаяльнасці, змяніў структуру, а ў цэлым і саму атмасферу акадэмічнага інстытута: замест прывычных этычных нормаў, уласцівых людзям навукі, запанаваў грубы, камандны тон, навязванне адзінага погляду і пагрозы.

Праўдападобна, такія "навацыі" адпавядалі шырэйшым планам дзяржаўных уладаў, бо пасля ўвядзення абавязковага курсу ідэалогіі ў вышэйшай школе нешта падобнае чакала таксама прафесійную гістарыяграфію, і менавіта новае кіраўніцтва ўзялося за ажыццяўленне патрэбнай палітыкі. Прыкметай такой змены клімату ў гістарыяграфіі падаецца тое, што кіраўнікі дзяржаўных устаноў гістарычнай навукі і адукацыі зладжана абвясцілі навайважнейшай справай гісторыі ідэалагічную функцыю, "выхаванне патрыятызму", "стварэнне нацыянальных герояў" і да т. п.[8]. Відавочна, зверху была атрымана дырэктыва ствараць такі вобраз мінулага,

[8] "Задача гістарычнай навукі – выхоўваць у грамадстве патрыятызм, гонар за сваю Айчыну, грамадзянскасць". Цыт. па: Идеологические аспекты государствообразующих процессов истории Беларуси / А. Коваленя и др. Минск, 2005. С. 7; Пар.: Историческая наука в Беларуси (1991–2000): современные проблемы и кадры. Науч. ред. Г. Корзенко. Минск, 2005. С. 3; Пар.: Ходзін С. Гістарычная навука і адукацыя ва ўмовах глабалізацыі // Новейшая история (1991–2006): государство, общество, личность. Минск, 2006. С. 678; Смяховіч М. Сучасны стан гістарычнай навукі ў Рэспубліцы Беларусь і актуальныя праблемы метадалогіі гісторыі // Проблемы методологии исследований истории Беларуси. Минск, 2008. С. 95.

якім можна было б ганарыцца. Відаць, менавіта так прызначэнне гістарычнай навукі зразумеў дырэктар Інстытута гісторыі, які з трыбуны І з'езда вучоных Беларусі заклікаў гісторыкаў "стварыць свой нацыянальны Пантэон – Пантэон гонару і славы беларускай нацыі" (прычым – у "фундаментальных працах" па гісторыі!)[9].

Згаданы вышэй прынцып дэідэалагізацыі і дэпалітызацыі гістарычнай навукі, уключаны ў першую ў Беларусі нацыянальную канцэпцыю гістарычнай навукі і адукацыі, прынцыпова пярэчыў звядзенню гісторыі да такой ролі, таму новае кіраўніцтва абвясціла яго "разбуральнай канцэпцыяй", якую "падкінулі заходнія саветолагі"[10]. Падобныя заявы былі адкрытым прызнаннем таго, што гісторыя вяртаецца на ідэалагічныя рэйкі, што перад гістарычнай навукай зноў ставіцца задача ідэалагічнага абслугоўвання палітычнага рэжыму. У літаральным сэнсе так яе ролю ўяўляў прынамсі сам кіраўнік акадэмічнага інстытута, які не саромеўся выступаць у друку з ідэалагічна-прапагандысцкай рыторыкай, імкнучыся "гістарычна" паказаць шкоднасць усіх рэвалюцыйных зменаў, да якіх імкнуцца "дэструктыўныя сілы" краіны, што падбухторваюцца Захадам, і абяцаў "канструктыўную падтрымку гісторыкамі дзяржаўнага курсу, які абрала Беларусь". Перад гісторыкамі ён паставіў адказную задачу: "гісторыкі павінны… на канкрэтных прыкладах ілюстраваць (падкрэслена мною. – *Г. С.*) дасягненні беларускага народа, паказваць ролю першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі, іншых лідэраў дзяржавы ў фарміраванні беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця"[11]. Больш за тое, кіраўнік акадэмічнага інстытута ўжо і без даследаванняў ведаў і публічна абвяшчаў, што палітычны курс А. Лукашэнкі "адпавядае… векавым спадзяванням беларусаў"[12].

9 Каваленя А. Дзяржаўнасць Беларусі: гісторыя і сучаснасць // БГЧ. 2007. №12. С. 21.

10 Гл.: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь. Матэрыялы "круглага стала" // БГЧ. 2006. №10. С. 8.

11 Цыт. па: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь. Матэрыялы "круглага стала" // БГЧ. 2006. №11. С. 9–10.

12 Каваленя А. Дзяржаўнасць Беларусі: гісторыя і сучаснасць // БГЧ. 2007. №12. С. 20.

На падобную падмену гісторыі ідэалогіяй і дэкларацыю сервілізму прафесіі гісторыкаў так і не прагучала ніякіх публічна артыкуляваных галасоў нязгоды ці пратэстаў з боку прафесуры. Наадварот, некаторыя калегі ў сваіх працах узяліся цытаваць выступленні А. Лукашэнкі, не раўнуючы як у савецкія часы творы У. Леніна[13]. Так у Беларусі быццам пераблыталіся эпохі. У акадэмічнае жыццё вярнуўся бальшавіцкі стыль палемікі – грубы і агрэсіўны (дастаткова пачытаць тэксты Я. Новіка), з ярлыкамі і эпітэтамі замест аргументаў, з непрымірымасцю да апанента, пазіцыя якога адразу абвяшчаецца “ненавуковай”. Гістарычны тэкст афіцыйнага дыскурсу стаў прыпадабняцца да палітычнага як інструменту ідэалогіі.

У практычным плане пры згаданых праявах выразнай ідэалагізацыі дысцыпліны флагман гістарычнай навукі пад новым кіраўніцтвам звязаў сваю дзейнасць з “прыстасаваннем да камерцыйна-рыначных адносінаў” – навукова-папулярным апісаннем гістарычных мясцін, удзелам у раённых і мястэчковых канферэнцыях, мясцовых чытаннях і гістарычных святах, – у гэтым дырэкцыя па-свойму зразумела “інавацыйную дзейнасць” Інстытута гісторыі[14]. Як ні дзіўна, але кіраўніцтва галоўнай установы, абавязанай прафесійна займацца гістарычнай навукай, сапраўды лічыла дасягненнем правядзенне па 15–17 раённых канферэнцый за год. Новы дырэктар называў перамены ў падначаленай яму ўстанове сваёй “рэвалюцыяй” і ганарыўся дасягненнямі[15]. Яшчэ параўнальна нядаўна ён сцвярджаў, што ўсё развіваецца і ўмацоўваецца, а “творчы калектыў Інстытута гісторыі НАН Беларусі сёння ўпэўнена глядзіць у будучыню”[16].

[13] Гл.: Ходзін С. Гістарычная навука і адукацыя ва ўмовах глабалізацыі. С. 679; Сяменчык М. Гісторыя Беларусі: курс лекцый для студэнтаў I курса ўсіх спецыяльнасцей. Мінск: БДТУ, 2010. С. 3.

[14] Каваленя А. Дзяржаўнасць Беларусі: гісторыя і сучаснасць. С. 18; Смяховіч М. Сучасны стан гістарычнай навукі… С. 96–97.

[15] Гл.: “Мы – язычники?», інтэрв’ю з А. Каваленем у газеце “Советская Белоруссия”, 14.09.2007. С. 4–5.

[16] Каваленя А. Гістарычная навука ў Беларусі на пераломе эпох: выклік часу // Гістарычна-археалагічны зборнік. Вып. 25. Мінск, 2010. С. 12.

У кожнага, хто прафесійна далучаны да беларускай гістарыяграфіі і ведае яе рэальную сітуацыю, такая ўпэўненасць чыноўніка, адказнага за развіццё акадэмічнай гуманітарнай навукі, магла выклікаць, мякка кажучы, адно недаўменне. Што ж за дасягненні ён меў на ўвазе і чым жа, як ён лічыць, сапраўды можна было б ганарыцца? Можа тым, што яму як дырэктару ўдалося за кароткі час выжыць чараду спецыялістаў з інстытута, разбурыць калектыў і працоўны клімат акадэмічнай установы? Ці тым, што ў кантэксце канфрантацыі з Захадам адміністрацыя пастаралася адгарадзіць беларускіх гісторыкаў ад кантактаў з замежнымі цэнтрамі і паглыбіць ізаляцыю? Факт, што гэтыя кантакты сталі адсочвацца, а стыпендыі замежных фондаў, фінансаваныя імі канферэнцыі і семінары вуснамі самога дырэктара абвяшчаліся шкодным уплывам Захаду на беларускіх гісторыкаў[17]. Да сёння патэнцыял маладых навукоўцаў, якія атрымалі адукацыю ці навуковыя ступені на Захадзе, дома застаецца не запатрабаваны – зноў жа з ідэалагічных матываў. Але ж самаізаляцыя – гэта горшае, на што можна было асудзіць постсавецкую гістарыяграфію, якая не перажыла мадэрнізацыі.

Яшчэ параўнальна нядаўна ў БГА закраналася пытанне стандартаў навуковай працы і прафесійнай этыкі гісторыкаў у сённяшняй Беларусі[18]. На гэты конт вядомыя навукоўцы выказалі нямала крытыкі, адзначаючы, у прыватнасці, страту механізмаў экспертызы, вялікую шкоду ад палітызацыі, ізаляванасці і шмат іншага. Гэта ўжо не здзіўляе, бо пры ідэалагічных прыярытэтах стандарты навуковасці непазбежна зніжаюцца, крытэрыі ацэнак размываюцца, нават калі не адбываецца яўнай падмены навуковага падыходу ідэалагічным, да якой заклікаў А. Каваленя. Нагул, калі гістарычная навука функцыянуе па прынцыпах адміністрацыйнага апарату, то незалежная экспертыза ёй не патрэбна, яна толькі замінае. Ужо даўно абароны дысертацый, якія амаль ніхто не чытае, праходзяць па сцэнары,

[17] Гл.: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь. Матэрыялы “круглага стала” // БГЧ. 2006. № 10. С. 7.

[18] Гл. адказы беларускіх гісторыкаў на анкету часопіса ў БГА, Т. 17 (2010), с. 230–254.

загадзя вызначаным адміністрацыяй, і з прадвызначанымі вынікамі, якія могуць зусім не адлюстроўваць рэальных навуковых дасягненняў. Навуковыя ступені нярэдка атрымліваюць асобы, якія не маюць адносінаў да рэальнай навукі[19]. У гэтай сувязі пашыраецца з'ява, калі факт атрымання навуковай ступені яшчэ не азначае аўтаматычнага прызнання ў асяроддзі гісторыкаў. А ў цэлым такая практыка безумоўна спрыяе далейшай дэвальвацыі навуковых ступеняў і званняў.

Варта, аднак, прызнаць, што цяперашняму кіраўніцтву гістарычнай навукай удалося прынамсі адно рэальнае дасягненне: у навязванні адзінадумства (найперш – фармальнай лаяльнасці) яно пайшло далей за практыкі савецкіх часоў. Калі тады ў Інстытуце гісторыі БССР працавалі гісторыкі, якія маглі адкрыта выказваць нязгоду з дырэкцыяй, адважваліся спрачацца і канфліктаваць з ёю ў пытаннях, звязаных з вырашэннем навуковых праблем (дастаткова згадаць М. Спірыдонава з яго годнай павагі самастойнай пазіцыяй), і падобная ж практыка была характэрная для акадэмічных інстытутаў у Маскве[20], то сёння гэтага проста не можа быць. Для цяперашніх кіраўнікоў гістарычнай навукі носьбіт іншых поглядаў ці проста незалежны гісторык, які не дэманструе лаяльнасці і мае замежныя сувязі, аўтаматычна трапляе ў катэгорыю “чужых”, якога імкнуцца любымі шляхамі выдаліць з установы. Паколькі лёсы гісторыкаў пры сённяшняй кантрактнай сістэме цалкам у руках адміністратараў ад навукі, то выжываць непажаданых лёгка, і дзяржаўныя інстытуты паспяхова пазбаўляюцца як ад рэальных, так і ад патэнцыйных апанентаў. Апошнім часам па колькасці ідэалагічна матываваных звальненняў з Інстытутам гісторыі спаборнічае гістфак Гродзенскага дзяржаўна-

[19] На адзін з прыкладаў навуковага жульніцтва, якое без адпаведнай экспертызы ў Інстытуце гісторыі было ўганаравана навуковай ступенню, мне даводзілася звяртаць увагу. Гл.: БГА. Т. 16 (2009). С. 561–580.

[20] Соколов Б. Нравы современных российских историков: предпосылки к падению и надежды на возрождение // Научное сообщество историков России: 20 лет перемен. Под ред. Г. Бордюгова. Москва, 2011. С. 325–329.

га ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Пры гэтым “забракаваныя” кадры па-ранейшаму цалкам выкрэсліваюцца з афіцыйнага гістарыяграфічнага працэсу, – амаль як у сталінскую эпоху, калі адносна ўключаных у спіс гісторыкаў выконвалася патрабаванне “исключить всяческие упоминания”. Звольненым беларускім гісторыкам, прычым лепшым, бо яны вылучаліся сваёй пазіцыяй, ведалі мовы і былі інтэграваныя ў заходнюю *акадэмію* ці мелі добрыя кантакты з замежнымі навуковымі цэнтрамі, цяпер звычайна даводзіцца прымяняць свае веды на практыцы за межамі краіны, а не дома. І хто ад гэтага выйграе? Калі сучасныя дзяржавы ўсё вастрэй канкуруюць у змаганні за кадры навуковых спецыялістаў, то ў нас ад іх бяздумна пазбаўляюцца. Запомнілася пытанне літоўскіх калег, якія ў свой час прапанавалі мне працу пасля звальнення з Інстытута гісторыі: “Няўжо Беларусь настолькі багатая, каб вось так раскідвацца кваліфікаванымі кадрамі?” На жаль, у нас чыноўнікі ад навукі кіруюцца не рэальнымі дзяржаўнымі інтарэсамі, а хімернымі ідэалагічнымі канструктамі або і проста прыватнай карысцю.

Уздзеянне палітычна-ідэалагічнага фактара на прафесійную гістарыяграфію апошніх дзесяцігоддзяў і сам яго механізм неабходна спецыяльна даследаваць, паводле ж папярэдніх назіранняў яно ўяўляецца ў найвышэйшай меры разбуральным для навукі. Пры цяперашнім палітычным рэжыме, які не пакінуў месца аўтаномнай навуковай творчасці, перарадзілася сама сістэма практык прафесійнага гісторыяпісання і змяніліся адносіны паміж гісторыкамі – новыя ўмовы спараджалі разлад і сталі выклікам для маральных нормаў вучонага. Яшчэ ў другой палове 1990-х г. згаданае вышэй увядзенне ідэалагічнага кантролю за гістарычнай адукацыяй і навукай абярнулася расколам і палярызацыяй паміж гісторыкамі нацыянальнай арыентацыі і прадстаўнікамі плыні мадэрнізаванага “заходнерусізму” – ідэйных саюзнікаў сённяшняй афіцыйнай улады. Пункты прымірэння паміж імі і не праглядваюцца: паколькі “заходнярускі” наратыў у сваёй сутнасці з’яўляецца расійскім, яго прынцыпова немагчыма злучыць з беларускім нацыянальным наратывам. Гэты сістэмны канфлікт, які ўсё глыбей абцяжарвае гістарыяграфію, стаў першым вялікім расколам,

а далейшыя рэпрэсіўныя захады ў дачыненні да нелаяльных гісторыкаў абумовілі, вобразна кажучы, іх "партызаншчыну". Сама сітуацыя аўтарытарнага рэжыму ўсяляе разлад. Пры фактычнай адсутнасці недзяржаўных акадэмічных установаў і альтэрнатыўных магчымасцяў прафесійнай рэалізацыі прыярытэтным для гісторыкаў аказалася захаванне ўласнага працоўнага месца, і гэта ўспрымалася хутчэй як нармальнасць, але выпадкі, калі тую ж палітычную кан'юнктуру, да якой адны мусілі прыстасавацца, каб застацца на працы, іншыя спрытна выкарысталі для імклівай уласнай кар'еры, зусім не салідарызавалі калектывы навукоўцаў.

Распад і фрагментацыя асяроддзя гісторыкаў (феномен, пра які даўно не без трывогі загаварылі на Захадзе[21], указваючы на звязаную з гэтым фрагментацыю гістарычнай свядомасці і немагчымасць адзінага "вялікага наратыву") у нашых умовах набылі асаблівыя вымярэнні і свае спецыфічныя формы. Адбываецца татальная "парцэлізацыя" асяроддзя гісторыкаў і самой гістарычнай навукі. Супольныя навуковыя форумы, даклады з абмеркаваннямі, якія калісь былі нормай у тым жа Інстытуце гісторыі, даўно адышлі ў мінулае. Цяпер гісторыкі, як правіла, не чытаюць нават публікацый калег – у тым ліку тых, што працуюць над блізкімі тэмамі, або і не ведаюць пра іх. Грамадскія інтэлектуальныя пляцоўкі і праекты, нефармальныя ініцыятывы, як і інтэрнэт-форумы і да т. п., хоць яны прысвячаюцца гісторыі, не здольныя злучаць раздробленыя групы гісторыкаў у нешта большае, у вялікую супольнасць, а ў пэўным сэнсе могуць яшчэ далей раздзяляць іх, паколькі не абцяжарваюць сябе агульнымі правіламі і нормамі *акадэміі*. Няма прафесійных дыскусій, таму не выпрацоўваецца, а наадварот, дэградуе культура палемікі, і рэцэнзіі з крытычнымі заўвагамі, якія мусілі б вітацца ў навуковай супольнасці, выклікаюць, як правіла, крыўду ды імкненне расквітацца.

[21] Гл.: Novick P. That Noble Dream: The "Objectivity Question" and the American Historical Profession. New York, 1988, ч. 4. Пар.: Megill A. Fragmentation and the Future of the Historiography // The American Historical Review. Vol. 96. 1991. P. 693–698; Мегилл А. Историческая эпистемология / пер. Кукарцевой М., Катаева В., Тимонина В. Москва, 2007. С. 255–264.

Увогуле, адмірае, відаць, сама патрэба ў супольнасці кампетэнтных калег па цэху. Калі для навукоўца, зноў жа ў класічным варыянце, па Т. Куну, "адзіным арбітрам прафесійных дасягненняў" мусіла б заставацца навуковая карпарацыя[22], то ў нас цяпер для большасці куды важнейшай стала арыентацыя на шырокую публіку (у гэтай сувязі паказальна, што некаторыя гісторыкі сталі запісвацца ў пісьменнікі), а меркаванні калег па цэху калі і цікавяць, дык толькі ў межах сваёй тусоўкі. Гэта зноў жа звязана з агульнай сітуацыяй гістарыяграфіі – калі не засталося ніякіх агульнапрызнаных інстытуцый ці выданняў, якія б уплывалі на легітымнасць навукоўца, калі ранейшыя акадэмічныя нормы і практыкі навуковай працы дыскрэдытаваны, а кар'ера, статус гісторыка і яго даход як галоўны рэсурс сталі вызначацца не навуковымі дасягненнямі, а блізкасцю да ўлады. Сапраўды, у сённяшняй Беларусі адзінае, што можа забяспечваць перспектывы гісторыка, гэта яго праўладнасць. Не дзіўна, што ў такіх умовах пашыраецца практыка, пры якой навуковец задавальняецца легітымнасцю, атрыманай у межах мікрагрупы аднадумцаў, так бы мовіць, у сваёй "тусоўцы" (прыкметная з'ява, якая пашыраецца і сярод гісторыкаў Расіі[23]). Цяпер і ў нас "кожная група – сама сабе гісторык", і такіх груп ды групак усё большае, так што, карыстаючыся азначэннем П. Новіка, можна сказаць, што беларускія гісторыкі знаходзяцца ў стане поўнай "індывідуалістычнай анархіі", а па-простаму – у бязладдзі.

Калі зноў вернемся да класічных прыкмет навуковай супольнасці, вызначаных Томасам Кунам, а найперш згадаем зацікаўленасць яе членаў праблемамі пазнання і зарыентаванасць на ацэнку сваёй прафесійнай групы, то не застанецца ніякіх ілюзій. Словам, тое, у што яшчэ гадоў пяць-шэсць таму не хацелася верыць, цяпер стала відавочным – прафесійнай супольнасці гісторыкаў у сённяшняй Беларусі не існуе. Няма карпарацыі, якую ядналі б агульныя практыкі,

[22] Кун Т. Структура научных революций. С. 221.

[23] Бордюгов Г. Сообщество историков России: от прошлого к будущему. Введение // Научное сообщество историков России: 20 лет перемен. Под ред. Г. Бордюгова. Москва, 2011. С. 13.

нормы прафесійнай этыкі і каштоўнасці[24]. Бо няма нічога, што аб'ядноўвала б беларускіх гісторыкаў – ні фармальнай арганізацыі, ні камунікацыі, ні прынцыпаў, ні аднаго ўяўнага “поля”, якое з розных бакоў абрабляюць працаўнікі адной вялікай грамады, удзельнікі адной справы[25]. Адсутнасць жа інстытуцыялізаванай супольнасці тых, хто прафесійна займаецца гісторыяй, са свайго боку толькі аблягчае далейшы распад і глыбейшую фрагментацыю гісторыі. Больш за тое, становішча, у якім знаходзяцца беларускія гісторыкі, іх інстытуцыйная ізаляванасць ад Еўропы, навязванне этычных нормаў і каштоўнасцяў дыктатам дзяржаўнай ідэалогіі, вымушанае прыстасоўванне да сістэмы, у якой усё па камандзе – такія ўмовы наогул робяць амаль немагчымым іх прафесійны занятак як аўтаномную навуковую творчасць, як служэнне чыстаму даследаванню. У такім стане адміраюць дысцыплінарныя традыцыі гістарыяграфіі, адбываецца трансфармацыя прафесійнай ідэнтычнасці гісторыкаў, у тым ліку губляецца роля і перспектыва традыцыйных акадэмічных часопісаў – знікае сама патрэба ў падобным форуме кампетэнтных. Прафесійная гістарыяграфія ўсё менш уплывае на гістарычную свядомасць грамадства, і мы ўстрывожана назіраем, як набірае моц тое, што Сігурд Шмідт назваў “інтэрвенцыяй агрэсіўнага дылетанцтва”. Журналісты пішуць “сенсацыйныя” гісторыі Беларусі, што захапляюць шырокую аўдыторыю, аматары мінулага ствараюць інстытуты і ладзяць “навуковыя” канферэнцыі, а найбольш амбітным невукам удаецца нават публічна выступаць у ролі “прафесараў гісторыі” – і не без поспеху!

[24] У адваротным выпадку, калі б існавалі агульныя нормы прафесійнай этыкі, то (нягледзячы на рызыку трапіць “у спіс”) салідарнасць гісторыкаў у падтрымку калег, што страцілі працу ў выніку палітычна матываваных звальненняў, праявілася б выразней.

[25] Падобную несуцяшальную выснову сустракаем і ў расійскіх калег, якія прызнаюць адсутнасць гістарычнай супольнасці гісторыкаў Расіі, гл.: Соколов Б. Нравы современных российских историков. С. 334–335. Не настолькі катэгарычныя, але таксама скептычныя меркаванні наконт карпаратыўнай еднасці і салідарнасці гуманітарыяў Украіны гл. у: Механізми контролю за якістю наукової продукції в Україні // Україна модерна. 2007. №1 (12). С. 12–50.

Менш за ўсё хацелася даводзіць, што беларуская гістарыяграфія на тупіковых шляхах. Іншыя калегі нашага расцярушанага цэху могуць ацэньваць яе з іншай перспектывы. Затое, думаю, для ўсіх відавочным даўно стала тое, што любыя перамены, зрухі да лепшага і пачаткі нармалізацыі навуковага жыцця ў нас можна звязваць толькі з іншым палітычным кліматам – з дэмакратызацыяй краіны і яе вяртаннем у свет, да агульных еўрапейскіх стандартаў і практык навуковага жыцця. Для развіцця гістарычнай навукі патрэбны перадусім адкрытасць і дэмакратычныя структуры, у якіх наяўнасць іншадумства – з'ява натуральная. Свабодны і адкрыты абмен меркаваннямі – падставовая ўмова паўнавартаснага гістарыяграфічнага працэсу[26]. Можна сказаць, гістарычная навука жывіцца дыскусіямі! Ва ўсе часы пры таталітарных або аўтарытарных рэжымах развіццё гістарычнай навукі было праблематычным. Творы гісторыкаў, напісаныя з арыентацыяй на нацыянал-сацыялісцкую ідэалогію ці ў парадыгме гістарычнага матэрыялізму, як правіла, страчвалі вартасць адразу пасля ўсталявання дэмакратыі і хутка пераатвараліся ў анахранізм. У гэтым сэнсе лішне казаць, наколькі палітычная несвабода і абавязковасць афіцыйнай ідэалогіі шкодзяць беларускай гістарычнай навуцы. Як свабода дае рух грамадству, так разнастайнасць падыходаў і ацэнак рухае гісторыю.

Найважнейшы імпульс да руху і перамен ляжыць, аднак, ва ўсведамленні самімі гісторыкамі таго, што наяўнасць апанентаў – неабходная ўмова ўласнага ж прафесійнага росту, бо яны дазваляюць удакладняць свае аргументы, абдумваць тэзісы і ўдасканальваць пазіцыі. Так што калег-іншадумцаў трэба не звальняць, забараняючы ім прафесійную дзейнасць у Беларусі, а ўцягваць у працу і падтрымліваць, нават калі ў іх іншая палітычная арыентацыя. Бо, як справядліва зазначыў цытаваны вышэй Штэфан Ёрдан, супрацьпастаўленне пазіцый і дыскусіі прыносяць болей, чым любыя індывідуальныя дасягненні.

[26] Jordan S. Theorien und Methoden der Geschichtswissenschaft. Padeborn, 2009. S. 215–218.

# Anarchy and pro-authoritativeness of Belarusian historians

**Hienadź Sahanovič**

The author tries to comprehend the changes taking place with Belarusian historians under the authoritarian regime of Lukashenka. If you start from Thomas Kuhn's model of "scientific community" one should admit that the community of Belarusian historians does not exist. Nothing binds their fragmented small groups in one community – there is neither a common organization nor principles nor communication. The historians found themselves in a complete parcelization. After the introductions of Soviet-type dictate ideology in Belarus (2003) historiography functions as an administrative apparatus and undergoes to increasing politicization, whereas scientific standards are falling rapidly. At the same time, blind obedience to power promises a career and prospects to loyal historians. The "dissidents" are being consistently removed from public institutions and cooperation with western scientific centers is considered sedition. The author has a strong conviction that comeback to common European standards and practices of scientific creativity can start only with the democratization of the country.

# Да стандартаў савецкай эпохі?*

## Войцех Матэрскі

Дадзены зборнік дакументаў разлічаны, як паведамляе рэдактар, на "профессиональных историков и широкий круг общественности". Ён адлюстроўвае на аснове арыгінальных архіўных матэрыялаў "различные аспекты польско-белорусских отношений в 1921–1953 гг." (423).

Улічваючы значныя змены ў статусе абедзвюх краін і народаў, якія адбыліся ў гэты перыяд, зборнік павінен ахопліваць, прынамсі, чатыры розныя віды адносінаў: квазіміждзяржаўныя ў перыяд да снежня 1923 г. (спачатку Рэчы Паспалітай з Беларускай Народнай Рэспублікай, потым Рэчы Паспалітай з Беларускай ССР); нерэгулярныя кантакты Другой Рэчы Паспалітай з СССР па беларускіх пытаннях пасля снежня 1923 г.[1] (рэпатрыяцыя, аптацыя, суднаходства на прымежных рэках, спрэчкі пра мяжу, праблемы нацыянальных меншасцяў, рэлігіі і г. д.); адносіны паміж двума народамі ў перыяд Другой сусветнай вайны, ва ўмовах акупацыі тэрыторыі польскай дзяржавы; квазіміждзяржаўныя адносіны ў перыяд з верасня 1944 г. – ва ўмовах фармальнага вяртання БССР у лютым 1944 г. юрыдычнага статусу міжнароднага суб'екта[2]. Гэта мноства важных пытанняў

* Польша – Беларусь (1921–1953): сб. документов и материалов / сост.: А. Н. ВАБИЩЕВИЧ [и др.]. Минск: Беларуская навука, 2012. 423 с.

[1] Пасля прызнання Рэччу Паспалітай савецкай федэрацыі (13.12.1923) і тым самым уключэння ў міжнародныя дыпламатычныя адносіны паміж Варшавай і Масквой таксама беларускіх пытанняў.

[2] Улады Савецкай Беларусі на аснове рашэння Вярхоўнага Савета СССР ад 1 лютага 1944 г. вярнулі сабе магчымасць непасрэдна праводзіць знешнюю палітыку, г. зн. кампетэнцыі, перададзеныя ў снежні 1922 г. уладам СССР. Гэта мела непасрэдныя адносіны да падрыхтоўкі заснавання Арганізацыі

рознага характару, найперш дыпламатычных, консульскіх, эканамічных, а таксама датычных выканання ўмоў Рыжскай мірнай дамовы, якія на працягу многіх гадоў цікавяць гісторыкаў абедзвюх краін, што пацвярджаюць навуковыя канферэнцыі (яны рэгулярна праходзяць ва ўніверсітэтах у Торуні[3], Гомелі[4], Горадні[5] і Мінску[6]). Аспектам узаемаадносінаў, якія на іх абмяркоўваюцца, прысвечана шырокая польская гістарыяграфія[7], у меншай ступені беларуская

Аб'яднаных Нацый і імкненне Масквы атрымаць у ёй больш чым адно месца (голас). Падрабязней у: W. Materski, Question of "Multiple Membership" of the USSR in the new system of global security (1944–1945), [у:] United Nations Organization and the International Security System, ed. by W. Michowicz, J. Symonides and R. Łoś, Łódź 2010, s. 151–163.

3 Пар., напрыклад, матэрыялы канферэнцыі: Białoruś w XX stuleciu. W kręgu kultury i polityki, pod red. D. Michaluk, Toruń 2007.

4 Пар., напрыклад, матэрыялы канферэнцыі: Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы, рэд. Р. Р. Лазько, В. А. Міхедзька, М. М. Мязга, Гомель 2006.

5 Тэзісы IV навуковай канферэнцыі беларускіх і польскіх гісторыкаў, Гродна 1994; Шлях да ўзаемнасці, рэд. І. Крэнь, Гродна 2004.

6 Пар., напрыклад, матэрыялы канферэнцыі: Матэрыялы з гісторыі польска-беларускіх узаемаадносін у XX ст., пад. рэд. Е. Расоўскай і А. Вялікага, Мінск 2011; XX wiek w historii Polaków i Białorusinów, pod red. W. Michniuka i innych, Mińsk – Warszawa 2001.

7 Гл., напрыклад: J. Turonek, Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi, Warszawa 1992; Polska – Białoruś 1918–1945, pod red. W. Balceraka, Warszawa 1994; O. Łatyszonek, Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923, Białystok 1995; A. Bergman, Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu, Warszawa 1977; A. Bergman, Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej, Warszawa 1984; K. Gomółka, Białorusini w II Rzeczpospolitej, Gdańsk 1992; Z. Boradyn, A. Chmielarz, H. Piskunowicz, Z dziejów Armii Krajowej na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1941–1945). Studia, Warszawa 1997; Europa nieprowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej (Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodnie pogranicze III Rzeczypospolitej Polskiej) w latach 1772–1999, pod red. K. Jasiewicza, Warszawa – Londyn 1999; M. Wierzbicki, Polacy i Białorusini w zaborze sowieckim; stosunki polsko-białoruskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939–1941, Warszawa 2000; Polacy – Żydzi – Białorusini – Litwini na północno-wschodnich ziemiach Polski a władza radziecka (1939–1944). W kręgu mitów i stereotypów, pod red. M. Gnatowskiego i D. Boćkowskiego, Białystok 2005.

гістарыяграфія савецкага перыяду і перыяду пасля распаду СССР[8]. У выданнях канферэнцый утрымліваецца цэлы шэраг дакументаў, якія датычацца, хутчэй, польска-савецкіх адносінаў з улікам кантэксту Беларусі, чым непасрэдна польска-беларускіх узаемадачыненняў[9]. Такім чынам, ідэя падборкі і выдання дакументаў, прысвечаных польска-беларускім адносінам XX ст. у шырокім разуменні, мела пад сабой грунт. Іншая справа – яе рэалізацыя, але пра гэта крыху ніжэй.

Зборнік выдадзены на рускай мове – мове большасці змешчаных у ім дакументаў, што, без сумневу, пашырыць

[8] Пар., напрыклад: W. Kusznier', Niektóre zagadnienia białorusko-polskich stosunków z lat 1920–1930 we współczesnej historiografii białoruskiej, [у:] Polska – Białoruś 1918–1945, s. 180–189. Гл. таксама: Я. Сямашка, Армія Краёва на Беларусі, Мінск 1994; В. Барабаш, Поляки в антифашистской борьбе на территории Беларуси (1941–1944), Гродно 1998; Праблемы ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР: гісторыя і сучаснасць, Мінск 2000; Ю. Вашкевіч, Беларуска-польскія культурныя сувязі ў 1945–1991 гадах, Мінск 2004; С. Ситкевич, С. Сильванович, В. Барабаш, Н. Рыбак, Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954 гг.), Гродно 2004; L. Mikhailik, Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956, Warszawa 2008. Напэўна, да абедзвюх гістарыяграфій варта аднесці працу Юрыя Грыбоўскага; апошняя: Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy 1939–1956, Warszawa 2011.

[9] Гл., напрыклад: Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования СССР, Москва 1954; Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich, t. I–XI, Warszawa 1962–1987; Okupacja sowiecka (1939–1941) w świetle tajnych dokumentów. Obywatele polscy na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką w latach 1939–1941, pod red. T. Strzembosza, Warszawa 1996; Armia Krajowa na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1942–1944) w świetle dokumentów sowieckich, pod red. A. Chmielarza, Warszawa 1997; Polacy – Sowieci – Żydzi w regionie łomżyńskim w latach 1939–1941, t. II: Dokumenty, oprac. M. Gnatowski, Łomża 2004; Документы по истории Беларуси в "особой папке" И. В. Сталина, ред. С. В. Жумарь и др., Минск 2004; Walka instytucji państwowych z białoruską działalnością dywersyjną (1920–1925). Dokumenty do dziejów kresów północno-wschodnich II Rzeczypospolitej, Białystok 2004.

круг карыстальнікаў, але гэта прыкмета саветызацыі беларускай навукі і культуры (на рускай мове па-ранейшаму выдаецца шмат публікацый) – асабліва з улікам таго, што з моманту абвяшчэння незалежнай Беларусі прайшло больш за дваццаць гадоў.

У падборку ўвайшло 146 дакументаў з беларускіх архіваў, Асобнага архіва Літвы і “Дыпламатычнага архіва Францыі”[10]. Няма дакументаў з расійскіх архіваў і, перш за ўсё, польскіх. Для складальнікаў, відавочна, гэта не было праблемай, хоць пры разглядзе (пра гэта ніжэй) пытанняў палітыкі Другой Рэчы Паспалітай у дачыненні да беларускай меншасці адсутнасць матэрыялаў, прынамсі, з Цэнтральнага архіва Міністэрства ўнутраных спраў і Архіва новых актаў непазбежна прыводзіць да абуральнай аднабаковасці даследавання. Не былі скарыстаны нават польскія зборнікі дакументаў, што дзіўна, паколькі “Прадмова” сведчыць пра нядрэннае веданне польскай гістарыяграфіі. Пры гэтым шырока выкарыстоўваюцца матэрыялы беларускіх зборнікаў, асабліва ненавуковага характару[11].

Часавыя рамкі апублікаваных дакументаў нетыповыя – як для Беларусі, так і для Польшчы. Іх абралі выключна па палітычных прычынах. Зборнік адкрывае Рыжская мірная дамова, што было б прымальна толькі ў выпадку пазіцыі, якая разглядае дыпламатычныя адносіны паміж Другой Рэччу Паспалітай і Беларускай ССР. Такім чынам, не прымаюцца да ўвагі вельмі важныя для дадзенай тэмы ад-

[10] Дакументы не з першакрыніц (звесткі фонду “Историческая память”) – гэта дзве дакладныя запіскі пасла Францыі ў Польшчы Жуля Ляращэ: ад 16 лютага 1930 г. аб савецкай прапагандзе, якая датычылася палітыкі Варшавы ў дачыненні да славянскіх меншасцяў (дак. 37), і ад сакавіка 1931 г. аб агульнай сітуацыі ў Польшчы (дак. 42). Абедзве даволі агульнага характару, не змяшчаюць важных заўваг па тэме, бо звязваюць становішча нацыянальных меншасцяў з агульнай сітуацыяй ва ўмовах крызісу. Прозвішча пасла складальнікам, вядома ж, высветліць не ўдалося.

[11] Інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у Польскі сойм. 1922–1926 гг. Зборнік дакументаў аб панскіх гвалтах, катаваньнях і зьдзеках над сялянамі і рабочымі ў Заходняй Беларусі. Мінск 1927.

носіны Варшавы і Беларускай Народнай Рэспублікі[12], якая лічыцца першай, хоць і нядоўгачасовай сучаснай беларускай дзяржаўнасцю, а таксама стаўленне адроджанай Польшчы да т. зв. Літбела[13] і Беларускай ССР[14] у пачатковы перыяд яе існавання. Завяршае зборнік 1953 год – момант ліквідацыі апошняга польскага фармавання ўзброенага падполля (адзінкавыя акцыі працягваліся да 1954 г.) на тэрыторыі Беларускай ССР, г. зн. факт, які не мае нічога агульнага з польска-беларускімі міждзяржаўнымі сувязямі і зусім мала – з характарам адносінаў паміж двума народамі.

Кніга складаецца з дзвюх асобных частак з агульнай "Прадмовай", падзеленых храналагічна наступным чынам: 18 сакавіка 1921 г. – 29 чэрвеня 1939 г.[15] і 29 кастрычніка 1939 г. – 26 красавіка 1953 г.[16]. Кожная частка мае асобныя паказальнікі (імянны і геаграфічны) і асобныя спасылкі на вылучаныя, асобна пранумараваныя ў рамках дадзеных частак, дакументы. Ствараецца ўражанне, што выданне планавалася як двухтамовае, але ў апошні момант было аб'яднана ў адну кнігу – з уклеенымі ілюстрацыямі ў якасці элемента, які падзяляе дзве часткі.

Амаль у кожным абзацы ананімнай "Прадмовы" да зборніка дакументаў змяшчаецца яе асноўная ідэя пра злоснага, агрэсіўнага суседа, прывязаная да сучаснасці. Вось што можа даведацца з "Прадмовы" чытач, узяўшы ў рукі кнігу.

[12] Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана ў Мінску 25 сакавіка 1918 г. Пасля красавіка 1919 г. яе ўлады апынуліся ў эміграцыі.

[13] Літоўска-Беларуская ССР праіснавала з 27 лютага да 8 жніўня 1919 г. (захоп Мінска польскімі войскамі). У яе ўваходзілі ранейшыя Мінская і Віленская губерні, а таксама частка Ковенскай, Гродзенскай і Сувалкаўскай губерняў.

[14] Абвешчана 1 студзеня 1919 г., 27 лютага таго ж года аб'яднана з Літоўскай ССР у т. зв. Літбел і ўзноўлена 11 ліпеня 1920 г. пасля таго, як у Мінск увайшла Чырвоная Армія.

[15] Канец перыяду. У той час як дакументы першай часткі дапаўняюць тры фрагменты ўспамінаў вязняў Бярозы-Картузскай, датаваных чэрвенем – жніўнем 1964 г.

[16] Пасля дакумента с гэтай датай дададзены яшчэ адзін, ад 30 снежня 1959 г.: дакладная запіска КДБ аб дзейнасці Групіроўкі АК "Поўнач" (1944–1945), якая мае характар інфармацыйнай даведкі для палітычных мэтаў.

“Успешное развитие Республики Беларусь” спрыяе вызначэнню ў сучаснай перспектыве “места и роли белорусского народа в европейской и мировой истории”. Для гэтага неабходна “введение в научный оборот первоисточников, которые помогают объективно рассматривать прошлое Беларуси”. Польшча, як Старшыня Еўрапейскага Саюза, мела шанец “вовлечь Беларусь в общеевропейские процессы”. Гэтак зрабіў бы “каждый добрый сосед”, але “никоим образом” Польшча, якая праводзіць палітыку “активного вмешательства во внутренние дела Беларуси”. На гэтым фоне “самое время вспомнить историю, задуматься об истинных причинах, корнях проблем польско-белорусских отношений”. Інакш сучаснікі не змогуць усвядоміць “степень опасности ситуации для национальной безопасности белорусского государства”, падрыхтавацца да “комплексного и своевременного реагирования”. Гэты сучасны кантэкст – злоснага суседа, які замахваецца на суверэнітэт Беларусі – прысутнічае ва ўсім тэксце “Прадмовы”, да апошняга абзаца[17]. Наступныя дакументы заклікаiны праілюстраваць ці нават даказаць на адмыслова падабраных “исторических примерах”, што баяцца сапраўды ёсць чаго, што варта рыхтавацца да абароны.

Гвалт палякаў над беларусамі пачаўся яшчэ ў XIV ст., калі замест таго, каб развіваць адносіны з Вялікім Княствам Літоўскім, “Польское королевство мечтало о подчинении своим интересам его социально-экономических ресурсов”. Гэтага ўдалося дасягнуць у 1569 г. у Люблінскай уніі, якая “выкрутила ВКЛ руки”, стварыла базу для “окатоличивания и полонизации его православного населения”, асіміляцыі беларускай шляхты. Праведзеная палякамі “социальная дезинтеграция ВКЛ”, як і знішчэнне больш за палову беларускага этнасу ў войнах XVII–XVIII ст., “привели к упадку белорусской культуры и существенно замедлили процесс национального развития белорусского народа”. Сёння відавочна, што “только благодаря включению белорусских земель в состав Российской империи процесс окатоличивания и полонизации их населения был

[17] Пар. с. 27.

остановлен" і "сформировалась независимая белорусская нация".

Пасля сусветнай вайны "БНР как государство не состоялась". Толькі Савецкая Беларусь стала "прецедентом создания политико-территориальной единицы с атрибутами белорусской государственности". Урад Савецкай Расіі "обеспечил реальное решение вопроса о самоопределении белорусов в форме создания белорусской советской государственности – национального дома нашего народа". Гэта адбылося нягледзячы на гегеманістычныя высілкі польскіх палітыкаў, якія, фарсіруючы федэратыўныя планы, "не замедлили испортить отношения со всеми национальными движениями в Восточной Европе". Нягледзячы на мірныя імкненні бальшавікоў, "экспансионистские претензии польской элиты привели к войне". У гэтай вайне польскія войскі "сжигали и разрушали жилища, осуществляли зверства, насилия и убийства". Ваеннапалонных, у тым ліку беларусаў, "истребляли голодом и холодом", а "коммунистов, комсостав и евреев расстреливали без суда и следствия". Мяжа, вызначаная ў Рызе, была "определена произвольно по случайно составленной конфигурации линии фронта, никакого другого обоснования она не имела, да и не могла иметь", што ў наступныя гады прывяло да "глубинных антагонистических межгосударственных противоречий". Кіруючыся ідэалогіяй "прометеизма", польскія спецслужбы стваралі ў Беларусі "небольшие хорошо законспирированные группы с целью осуществления актов террора и диверсий".

У Польшчы міжваеннага перыяду праводзілася "последовательная, наступательная и бескомпромиссная ассимиляторская политика", якая ажыццяўлялася "с помощью жестоких репрессий и преследований". Нічога дзіўнага, што на землях пад яе кіраваннем "за менее чем 100 лет (да 2002 г. – *Заўвага аўтара*) произошло десятикратное уменьшение численности белорусов". Палітыку знішчэння народа мы назіраем і ў сучаснай Польшчы, якая фарсіруе ненатуральны феномен "православных поляков".

Асабліва агіднай у "Прадмове" здаецца заява пра тое, што польскія спецслужбы стварылі ў міжваенны перыяд "сеть агентов влияния в политическом руководстве нацио-

нальных республик и автономий СССР, в военных кругах, а также в среде интеллигенции" (13). Такім чынам, па меркаванні аўтараў "Прадмовы", забойствы вялікай колькасці беларускай палітычнай і культурнай эліты, судовыя працэсы і масавыя рэпрэсіі ў 30-я г., калі арыштаваных абвінавачвалі пераважна ў дыверсіях і шпіянажы на карысць Польшчы, сапраўды мелі грунт пад сабой.

У 30-я г. "Польша плыла по течению агрессивной гитлеровской политики", падпісала з Гітлерам "секретное соглашение о разделе Чехословакии", дэманстравала ў дачыненні да СССР "крайнее высокомерие и враждебность", праводзіла "агрессивную региональную политику". Нічога дзіўнага, што Савецкі Саюз і Трэці Райх падпісалі пагадненне ад 23 жніўня 1939 г., якое, аднак, "не содержало статей о военном сотрудничестве", як і "не делало их союзниками ни формально, ни фактически". З пункту погляду "морали и политической практики того времени" пакт Молатава – Рыбентропа "не представлял собой ничего экстраординарного". СССР "пришел на помощь белорусам и украинцам" толькі тады, "когда Польша распалась", а "военных действий между польскими и советскими войсками фактически не было".

Армія Краёва, якая дзейнічала на беларускай тэрыторыі пасля чэрвеня 1941 г., "проводила вооруженные акции против малочисленных групп отступающих советских военнослужащих". З немцамі яна пачала змагацца "после того, как на советско-германском фронте произошел решительный перелом". Пры гэтым "своей важнейшей задачей она считала максимально задержать наступление советских войск", а «своих "крупных успехов" она добивалась во время карательных акций против населения Беларуси», здзяйсняючы "убийства, дикие погромы и грабежи". Адмысловай старонкай у яе дзейнасці было пачатае ў снежні 1943 г. супрацоўніцтва з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, "уничтожение, а по возможности передача германским оккупантам советских партизан". У выніку "аковцы высвободили для фронта, не только Восточного, но и Западного, десятки подразделений вермахта". Польскае ж постакаўскае падполле вяло барацьбу, якая, "особенно после 1948 г., когда политические цели отошли на

второй план, выливалась в теракты, диверсии, грабежи, шантаж и запугивание населения”.

З настолькі тэндэнцыйным, скажоным уяўленнем польска-беларускіх адносінаў немагчыма нават спрачацца. Наступствы такой прапаганды будзе складана выправіць, улічваючы, што з кнігай пазнаёмяцца таксама меней падрыхтаваныя чытачы, якія могуць не ведаць іншых даследаванняў і давяраюць паважаным установам, пад эгідай якіх выдадзены зборнік.

У першай частцы (65 дакументаў), што апавядае пра міжваеннае дваццацігоддзе, практычна ўсе апублікаваныя матэрыялы цалкам ці часткова закранаюць палітыку польскіх улад у дачыненні да беларускай меншасці (“земель Западной Беларуси”). Гэта адна суцэльная плынь абвінавачванняў, часам абгрунтаваных, але ў большасці выпадкаў значна перабольшаных, якія ні разу крытычна не аналізаваліся ні ў каментарах, ні ў “Прадмове”. Бракуе таксама параўнальнага матэрыялу, які тычыцца сітуацыі ў Савецкай Беларусі, жахлівых рэпрэсій у дачыненні да яе насельніцтва, своеасаблівы сімвал якіх – адсутнасць згадвання назвы Курапаты, месца пахавання больш як ста тысяч ахвяр савецкага тэрору 1937–1941 г.[18].

За выключэннем фрагмента з Рыжскай мірнай дамовы (дак. 1) дыпламатычны характар маюць толькі чатыры апублікаваныя дакументы – і толькі два закранаюць адносіны Мінска – Варшавы. Гэта свайго роду кур’ёз, улічваючы двухбаковую міжнародную формулу падборкі матэрыялу.

Цяжка зразумець, чаму з поля зроку складальнікаў цалкам выпаў вельмі цікавы перыяд дзяржаўных польска-беларускіх адносінаў у першыя месяцы (гады) пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы. Надзённыя патрэбы абедзвюх дзяржаў, нягледзячы на адсутнасць фармаль-

[18] Пар.: У. І. Адамушка, Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі, Мінск 1994; W. I. Adamuszko, N. W. Iwanowa, Litości… Represje w obwodzie wilejskim w dokumentach 1939–1941, Warszawa 1996; J. Gorelik, Kuropaty polski ślad, Warszawa 1994.

ных дыпламатычных адносінаў[19], патрабавалі непасрэднага рашэння шэрагу праблем, звязаных найперш з выкананнем пастаноў мірнай дамовы. Пытанні фармуляваліся і вырашаліся пад час узаемаадносінаў паміж беларускім Міністэрствам замежных спраў і мінскім прадстаўніцтвам Дэлегацыі РП у Змяшаных камісіях па выкананні пастаноў Рыжскай мірнай дамовы. Кіраўнік прадстаўніцтва – С. Ціхоцкі – з канца 1921 г. нароўні са сваімі непасрэднымі абавязкамі выконваў консульска-дыпламатычныя функцыі, г. зн. важную, хутчэй дыпламатычную, чым консульскую ролю[20]. Гэтая нетыповая для яго фармальнага статусу дзейнасць спынілася пасля снежня 1923 г. З’явіліся, аднак, іншыя вартыя ўвагі двухбаковыя адносіны, якія знаходзіліся ў кампетэнцыі Консульскага аддзела РП у Менску, што дзейнічаў з 1924 г., яго ўзначальваў Ян Карчэўскі. Дарэмна шукаць штосьці пра гэтыя адносіны ў зборніку.

Акрамя нязначных згадванняў, няма нават дакументаў, якія тычацца шматлікіх польска-беларускіх інцыдэнтаў на мяжы ці важнай для абедзвюх краін праблемы суднаходства на прымежных рэках.

Ігнараванне якіх-небудзь іншых, акрамя “пакутніцкіх”, аспектаў польска-беларускіх адносінаў характэрна і для другой часткі зборніка, якая змяшчае 81 дакумент перыяду 1939–1953 г. У рэцэнзіі складана ахапіць усе пытанні, але, прынамсі, на два з іх варта звярнуць адмысловую ўвагу: адсутнасць якіх-небудзь матэрыялаў на тэму непасрэдных міждзяржаўных адносінаў, пачатак якім паклала падпісаная ў Любліне 9 верасня 1944 г. дамова паміж ПКНА і Саветам народных камісараў Беларускай ССР

[19] У мірных перамовах у Рызе ўдзельнічалі толькі дэлегацыі савецкай Расіі і Украіны. Інтарэсы Беларускай ССР былі прадстаўлены ўскосна – расійскай дэлегацыяй. Яе прадстаўнікоў не было і ў Змяшаных камісіях, закліканых выконваць умовы мірнай дамовы.

[20] Падрабязней: W. Materski, Z genezy powołania polskiej placówki konsularnej w Mińsku (1921–1924), [у:] Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы, рэд. Р. Р. Лазько, Гомель 2006, с. 160–165.

пра абмен насельніцтвам[21]; не згадваецца і польска-беларускае ўзаемадзеянне пад час форуму Падрыхтоўчай камісіі па пытаннях Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, як і пазней, пад час самога форуму[22]. Дадзеныя тэмы не падаліся складальнікам цікавымі, у параўнанні з усёабдымнай "борьбой с польским бандитизмом".

Але нават тут няма паслядоўнасці. Прыклаўшы нямала старанняў да ілюстрацыі пасляваеннай дзейнасці "польских бандитов", складальнікі апублікавалі шмат неістотных матэрыялаў, якія не маюць прамога дачынення да тэмы. Пры гэтым яны абышлі ўвагай ключавы дакумент – даклад Міністэрства ўнутраных спраў Беларускай ССР ад лістапада 1947 г. "Результаты агентурно-оперативной деятельности органов МВД Белорусской ССР по ликвидации антисоветского националистического подполья, его банд и другого контрреволюционного подполья в период с 1 января 1944 г. по 1 марта 1947 г.". Гэты вельмі падрабязны даклад, падпісаны міністрам унутраных спраў ген. С. С. Бельчанкам, у рэдакцыі начальніка Упраўлення барацьбы з бандытызмам палкоўніка Л. К. Гронскага, быў выдадзены ў канцы мінулага стагоддзя ў перакладзе на польскую мову[23]. Такім чынам, нават у галіне, цесна звязанай з канцэпцыяй зборніка, падбор матэрыялаў варта прызнаць недакладным.

Як гаварылася на пачатку рэцэнзіі, адносіны Польшча – Беларусь у разгляданы перыяд ахопліваюць мноства важных праблем рознага характару ў сферы міждзяржаўных узаемадачыненняў і кантактаў паміж народамі. З усёй гэтай пярэстай мазаікі складальнікаў зацікавілі толькі два

[21] Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich, t. VIII, Warszawa 1974, dok. 122, s. 221–227.

[22] Гл., напрыклад: К. В. Киселев, Записки советского дипломата, Москва 1974; M. Pietrasiak, Problem wietnamski na forum ONZ (1945–1977), Łódź 2002; P. Chmielewski, Dyplomacja sowiecka w Radzie Bezpieczeństwa wobec zadań utrzymania pokoju i bezpieczeństwa międzynarodowego u progu zimnej wojny, t. I–II, Łódź 2005.

[23] NKWD o polskim podziemiu 1944–1948. Konspiracja polska na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie, pod red. T. Strzembosza, Warszawa 1997.

пытанні: у першай частцы – палітыка ўладаў Другой Рэчы Паспалітай у дачыненні да беларускай нацыянальнай меншасці, у другой – акаўскае і постакаўскае падполле на анексаванных Савецкім Саюзам увосень 1939 г. паўночнаўсходніх тэрыторыях Рэчы Паспалітай. У першым выпадку ўся падборка матэрыялу заклікана наглядна паказаць ідэю нацыяналістычнай, нават таталітарнай, палітыкі, што бязлітасна знішчала беларускую меншасць; у другім – заплямленыя беларускай крывёй бандыцкія фармаванні, што пабраталіся з фашыстамі.

Улічваючы ўсё вышэйсказанае, выданне павінна называцца не “Польша – Беларусь (1921–1953)”, а, напрыклад, “История мученичества белорусов под преступным польским гнетом (1921–1953)”, бо яно цалкам паўтарае галоўную канцэпцыю так часта цытаванай у зборніку кнігі “Зборнік дакументаў аб панскіх [чытай: польскіх] гвалтах, катаваньнях і зьдзеках над сялянамі і рабочымі ў Заходняй Беларусі” (Мінск, 1927), якая ў момант выхаду ў свет выконвала не навукова-інфармацыйную ролю, а ролю зброі ў ідэалагічнай барацьбе.

Гэты “монатэматычны” характар падборкі дакументаў адлюстроўвае вокладка, на якой пададзена нота старшыні Савета народных камісараў Беларускай ССР і адначасова кіраўніка рэспубліканскага Народнага камісарыята замежных спраў Аляксандра Чарвякова міністру замежных спраў РП Канстанціну Скірмунту ад 21 жніўня 1921 г. – на фоне разарванай на дзве часткі карты Беларусі. У ноце змяшчаўся пратэст супраць “преследований польскими властями населения Западной Беларуси” (такіх жудасных, як закрыццё беларускіх культурных установ, перашкода ў арганізацыі кааператываў, выдаленне прэсы, дасыланай з Беларускай ССР). У дадзеным кантэксце неабходна адзначыць нядобрасумленную працу пры падрыхтоўцы выдання, памылкі археаграфічнага характару. Нота на вокладцы – гэта вядомы дакумент, неаднаразова апублікаваны, аднак у кнізе, размешчаны пад № 3 (36–38), ён падпісаны іншай, няслушнай датай (25.08.1921), ад арыгінала ён таксама адрозніваецца шэрагам рэдактарскіх правак. Складальнікі гэта замоўчалі,

як і не растлумачылі, чаму тэкст ноты прыводзіцца паводле беларускай прэсы таго перыяду[24], а не ў адпаведнасці з архіўнымі матэрыяламі больш ранніх выданняў[25].

Нядобрасумленнасць пры падрыхтоўцы зборніка яшчэ больш маштабная. Так, напрыклад, спасылкі на дакументы носяць хутчэй сімвалічны характар, часцей за ўсё яны зводзяцца да біяграм, тлумачэнняў геаграфічных назваў і загалоўкаў друкаваных выданняў. У іх не вызначаецца дакладнасць ніводнай цьмянай, непраўдзівай інфармацыі, якой так шмат у прапанаваных матэрыялах. Няма перакрыжаваных спасылак, арыгінальных загалоўкаў, грыфа сакрэтнасці і да т. п. Няма дадзеных пра больш раннія выданні дакументаў, якія прыводзяцца са спасылкай на архіўны арыгінал, а ў выпадку падачы як адной з публікацый матэрыялаў – няма архіўнага апісання.

Рэцэнзаванае выданне, калі б яно было прапанавана савецкаму выдавецтву ў 50-я ці 60-я г., не выклікала б асаблівай цікавасці, бо не адрознівалася б ад стандартаў таго часу. Пасля красавіка 1985 г., у перыяд т. зв. галоснасці, аўтары, напэўна, мелі б пэўныя складанасці з выданнем – не з-за цэнзуры, а з-за абвінавачвання ў прапагандзе анахранічнай, чорна-белай, вельмі выбіральнай карціны гісторыі польска-беларускіх адносінаў; абстрагавання ад ведаў пра сапраўдных катаў беларускага насельніцтва, якімі былі савецкія структуры ЧК, НКУС, НКГБ, а пасля сакавіка 1946 г. – МГБ і МУС. А зборнік жа выйшаў у 2012 г., да таго ж пад эгідай Нацыянальнай акадэміі навук і Міністэрства юстыцыі Беларусі. Як гэта трэба разумець?

Беларуская гістарыяграфія функцыянуе ў спецыфічных палітычных умовах, што можа многае растлумачыць. Але не ўсё.

*Пераклад Ларысы Дарожкі*

[24] “Звезда” за 25.08.1921 г.

[25] Гл., напрыклад: Советская Россия и Польша, Москва 1921, с. 42–43; Документы внешней политики СССР, т. IV, док. 197, с. 289–290; Dokumenty i materiały, t. IV, dok. 37, s. 52–53.

# Над найноўшай шматтамовай гісторыяй Беларусі*

## Марцэлі Косман

Мінула акурат 35 гадоў з моманту выхаду ў свет першага тома “Кароткай энцыклапедыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі” ў пяці тамах, дзе пачэснае месца было адведзена гісторыі. Пасля гэтага сістэматычна з’яўляліся чарговыя фундаментальныя энцыклапедычныя выданні, прысвечаныя ў значнай ступені мінуўшчыне, а таксама вырасла новае пакаленне дбайных яе даследчыкаў. Акурат іх стараннямі была падрыхтавана першая шматтамовая аналітычная праца па гісторыі Беларусі – яшчэ ў савецкі час, што не магло не паўплываць на характар гэтага выдання (Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1–5. Мінск, 1972–1975), забяспечанага грунтоўнай бібліяграфіяй да кожнага раздзела. Даўнейшым працам таго перыяду я прысвяціў увагу ў рэцэнзіі, апублікаванай больш як 30 гадоў таму на старонках “Roczników Historycznych” у Познані[1].

* Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. Мінск: Экаперспектыва, 2000. 351 с. (далей ГБ-1); Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 2. Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мінск: Экаперспектыва, 2008. 688 с. (далей ГБ-2); Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 3. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII–XVIII стст.). Мінск: Экаперспектыва, 2004. 344 с. (далей ГБ-3); Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.). Мінск: Экаперспектыва, 2005. 519 с. (далей ГБ-4); Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917–1945 гг. Мінск: Экаперспектыва, 2006. 613 с. (далей ГБ-5); Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 6. Беларусь у 1946–2009 гг. Мінск: Экаперспектыва, 2011. 728 с. (далей ГБ-6).

[1] Kosman M. Рэц. на: Istorija Belorusskoj SSR, Minsk 1977 // Roczniki Historyczne. R. 45. Poznań, 1979. S. 188–189.

З тых часоў стан даследаванняў значна пасунуўся наперад, і не толькі ў Мінску. У Польшчы таксама выйшлі шматлікія манаграфіі і сінтэтычныя нарысы. Аўтар гэтых радкоў у савецкую эпоху зазнаў значны ціск тагачаснай цэнзуры і палітычнага клімату, калі рыхтаваў для вроцлаўскага выдавецтва “Ossolineum”, якое тады публікавала шматтамовую серыю кароткіх нарысаў па гісторыі краін свету, у тым ліку некаторых тагачасных савецкіх рэспублік, кнігу пра гісторыю Беларусі, дзе асвятляліся падзеі да першых гадоў пасля заканчэння Другой сусветнай вайны[2]. Беручы пад увагу водгукі рэцэнзентаў, я мусіў перад друкам значна скараціць раздзелы, прысвечаныя XX ст., бо інакш выданне не ўбачыла б свету. Сёння гэтая кніга ўяўляе сабой ужо помнік той эпохі і мае калекцыйнае значэнне, хоць у свой час яна выканала сваю задачу і прыцягнула да сябе ўвагу значнай колькасці рэцэнзентаў. У польскай гістарыяграфіі апошніх дзесяцігоддзяў з’явіўся шэраг грунтоўных прац на тэму Вялікага Княства Літоўскага і яго уніі з Польшчай (1385–1569–1775), якія ўяўляюць сабой значны ўнёсак у даследаванне гісторыі Беларусі[3]. Яны заслугоўваюць комплекснага абмеркавання. Тут заўважым, што значная іх частка была згадана ў найноўшым шасцітамовым даследаванні. З’явіліся таксама працы, прысвечаныя XIX і XX ст., гэта значыць перыядам, не пазбаўленым супярэчлівых ацэнак, паколькі менавіта ў часы пасля падзелаў Рэчы Паспалітай спыніліся ўнутрыдзяржаўныя зносіны паміж двума народамі, якія з даўняга народа-шляхты ператварыліся ў мадэрныя нацыі. Польскі чытач таксама быў азнаёмлены з дзвюма сучаснымі кароткімі сінтэтычнымі працамі мінскіх даследчыкаў – “Нарысам гісторыі Беларусі ад старажытнас-

[2] Kosman M. Historia Białorusi. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk, 1979. 405 s.

[3] У тым ліку згадаем цікавы сінтэтычны нарыс, які ахоплівае, аднак, выключна часы пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, апублікаваны больш як 10 гадоў таму ўжо ў новых палітычных рэаліях Беларускім саюзам у Рэспубліцы Польшча і кафедрай беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта: Łatyszonek O., Mironowicz E. Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku (Беласток, без года выдання).

ці да канца XVIII ст.” Генадзя Сагановіча і “Нарысам гісторыі Беларусі. 1795–2002” Захара Шыбекі.

Найноўшае даследаванне, плён працы беларускіх гісторыкаў, налічвае агулам 3245 друкаваных старонак. Шматтамовае выданне выходзіла з 2000 да 2011 г. – першыя чатыры тамы даволі аператыўна, а астатнія два – пасля пяці- і шасцігадовага перапынкаў. Унутраная структура выдання не выклікае пярэчанняў і адпавядае этапам палітычнай гісторыі беларускіх земляў, і толькі апошні том (які асвятляе падзеі пасля 1945 г.) ахоплівае як часы прыналежнасці рэспублікі да Савецкага Саюза, так і перыяд пасля яго распаду і здабыцця поўнай незалежнасці. Аб’ём асобных тамоў вагаецца ад 344 (т. 3) да 728 (т. 6) старонак, а значыць, адрозніваецца больш як на 100%. Такая з’ява нармальная для падобных серыйных публікацый. Выходзілі тамы па парадку, з адным выключэннем: 3-і том з’явіўся адразу пасля 1-га, што тлумачыцца больш дынамічным у параўнанні з іншымі перыядамі станам даследаванняў знаходжання тэрыторыі Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай. Сярод членаў рэдакцыйнай калегіі, рэдактараў асобных тамоў і іх аўтараў можна бачыць вядомых даследчыкаў – прадстаўнікоў як старэйшага, так і маладзейшага пакалення гісторыкаў, што само па сабе варта ўхвалы. У першых сказах “Уступу” звяртаецца ўвага на значэнне гісторыі ў развіцці народа і развіваецца гэтая думка на прыкладзе пакручастай гісторыі беларускага народа. Заслугоўвае ўвагі той факт, што ніводная эпоха не занядбаная, захоўваецца гармонія паміж асвятленнем даўнейшых і найноўшых падзей.

Храналагічна найдаўжэйшы перыяд часу ахоплівае першы том, падзелены на два раздзелы – 1. Першабытная эпоха, 2. Беларускія землі ў раннім Сярэднявеччы (VI ст. – першая палова XIII ст.), – гэта значыць да ўтварэння першасных формаў дзяржаўнасці (балты і славяне, усходнеславянскія саюзы плямён, Полацкае і Тураўскае княствы ў IX–XI ст.); наступны этап адлюстроўвае гісторыю беларускіх земляў у XII–XIII ст. Апрача палітычных пытанняў, асобна разглядаецца развіццё эканамічнага ўкладу, грамадскага ладу, а таксама культуры, у тым ліку

спецыфічныя рысы гэтага абшару, якія ўжо тады сведчылі пра яго самабытнасць. Том падрыхтаваны яе мае быць. Шкада толькі, што ў бібліяграфіі нестае дзвюх фундаментальных прац польскага даследчыка ўсёеўрапейскага маштабу Генрыка Лаўмяньскага – "Даследавання пачаткаў літоўскага грамадства і дзяржавы" (у 2 т.), а таксама яго шматтамовага твора на тэму вытокаў славянства ("Пачаткі Польшчы"), у якім беларускім землям таксама аддаецца значная ўвага. Хоць можна было чакаць іх выкарыстання, асабліва калі ўзяць пад увагу храналагічныя рамкі тома (ГБ-1, с. 335–336).

Дбайна падрыхтаваны, хоць і не такі разгорнуты, як папярэдні, трэці том прысвечаны гісторыі Беларусі ў перыяд пасля Люблінскай уніі. Ён ахоплівае два стагоддзі, на працягу якіх Беларусь разам з Вялікім Княствам Літоўскім апынулася ў складзе Рэчы Паспалітай "абодвух нацый" і ў культурным плане хутчэй задавала тон старажытнай дзяржаве Гедымінавічаў, каб на базе адзінай палітычнай нацыі адаптавацца да павеваў, якія ішлі з Кароны. Тут мы бачым велізарныя змены ў параўнанні з названай на пачатку гэтай рэцэнзіі "Гісторыяй БССР" савецкага перыяду. Дастаткова зірнуць на главу пра вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 г., аўтар якой звяртаецца да ўласнай "адкрывальніцкай" манаграфіі, выдадзенай у 1995 г. і прысвечанай гэтай "невядомай" у ранейшай гістарыяграфіі (калі не лічыць польскіх даследаванняў) больш як дзесяцігадовай вайне (ГБ-3, с. 78–92). З храналагічнага пункту гледжання падача матэрыялу падзелена на тры раздзелы: першы ахоплівае мірныя часы да 1648 г., другі – войны, якія дратавалі грамадства ўсё наступнае стагоддзе, трэці – другую палову XVIII ст.: гады гаспадарчага ажыўлення і адначасова палітычнага крызісу, які прывёў да паступовага паглынання беларускіх земляў Расіяй, што завяршылася разам з трэцім падзелам Рэчы Паспалітай. Заслугоўвае ўвагі апошняя глава, прысвечаная матэрыяльнай і духоўнай культуры эпохі Асветніцтва, у тым ліку: 1) адукацыі і навукі, 2) літаратуры, 3) магнацкім культурным цэнтрам, 4) мяшчанскай і сялянскай культуры, 5) рэлігійнаму становішчу. У сціс-

лым “Заключэнні” (318–320) Ю. Бохан, адзін з двух (разам з П. Лойкам) рэдактараў тома, падводзіць вынікі ўсяго аналітычнага выкладу і адначасова “з вышыні птушынага палёту” падсумоўвае ўвесь ранейшы гістарычны шлях беларускага этнасу ў эпоху феадалізму; гэта была, як чытаем у апошнім сказе, база для фармавання ў наступным стагоддзі беларускай нацыі. Дадамо – гэтак жа, як і ў іншых спадчыннікаў шматэтнічнай Рэчы Паспалітай.

Чацвёрты том датычыць эпохі, у якой уся Беларусь апынулася ў складзе Расійскай імперыі і як на пачатку гэтага перыяду была сведкам заняпаду Рэчы Паспалітай, так напрыканцы яго перажыла крах імперыі Раманавых. Храналагічная мяжа паміж раздзеламі праходзіць па сярэдзіне XIX ст. (схіл феадальна-прыгонніцкай эпохі і станаўленне буржуазнага грамадства), а завяршаецца выклад апісаннем падзей, што адбываліся напярэдадні Першай сусветнай вайны. Том забяспечаны грунтоўнай храналогіяй (494–501), у якой апошнія даты датычаць пачатай у сярэдзіне 1914 г. “вялікай еўрапейскай вайны” (як называлі спачатку Першую сусветную, у якую канфлікт ператварыўся праз два гады); у наступным годзе краіну акупавалі нямецкія войскі, а ў Вільні была заснавана першая беларуская публічная школа. Для чытача вельмі карысным будзе грунтоўны “Уступ”, які ўтрымлівае крытычнае агляд бібліяграфіі і крыніц. Успрыманне аблягчаецца (гэта датычыць усіх тамоў) сінтэтычным падсумаваннем выкладу, наяўнасцю бібліяграфіі, вышэйзгаданай храналогіі, а таксама паказальнікаў – імяннога і геаграфічнага.

У пятым томе, які ахоплівае перыяд ад рэвалюцыі 1917 г. да канца Другой сусветнай вайны, матэрыял падзяляецца на пяць вялікіх раздзелаў. Першы з іх датычыць ваенных падзей аж да ўтварэння БССР і падпісання Рыжскай мірнай дамовы. Поруч з палітычнымі падзеямі асобна разглядаюцца аспекты матэрыяльнага побыту народа, пытанні культуры, а таксама роля эміграцкіх элементаў у жыцці народа (36–137). Другі раздзел датычыць гісторыі рэспублікі ў міжваенны перыяд (138–260), у трэцім паказваюцца цяжкія ўмовы “таталітарнай сіс-

тэмы", ці сталінскай дыктатуры, перад пачаткам узброенага канфлікту паміж Нямеччынай і СССР на трэцім годзе Другой сусветнай вайны (261–351). Чацвёрты раздзел ("Заходняя Беларусь пад уладай Польшчы", с. 352–448) падзяляецца на тры главы: 1. Эканамічнае і сацыяльна-палітычнае становішча народа, 2. Змаганне за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, 3. Духоўнае жыццё ва ўмовах паланізацыі. Для польскага чытача гэта асабліва каштоўны раздзел, паколькі ён дазваляе паглядзець на вядомыя яму падзеі з іншага боку, згодна з рымскім прынцыпам *"audiatur et altera pars"* ("няхай будзе выслуханы і другі бок"). І нарэшце гады вялікай народнай трагедыі – пяты раздзел "Беларусь у Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнах" (449–567).

Шосты том апісвае падзеі аж да сучаснасці: выклад завяршаецца на 2009 г. Першы з чатырох раздзелаў ("Пераход ад вайны да міру. Аднаўленне і развіццё эканомікі і культуры") ахоплівае дэкаду 1946–1955 г. (23–190). Вобразна і разам з тым з грунтоўнай апорай на дакументальныя матэрыялы аўтары апавядаюць пра залечванне ваенных ран, сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні, а таксама дэмаграфічныя працэсы (падаецца, з іх варта было б пачаць выклад, тады як на самай справе яны адсунуты амаль што ў канец раздзела) на фоне палітычных і культурных падзей. Другі раздзел ахоплівае ўдвая даўжэйшы перыяд (с. 191–356, да 1970-х г. XX ст.) і апісвае пераадоленне культу асобы Сталіна пасля яго смерці, спробы рэфармавання гаспадаркі, сацыяльна-эканамічнае становішча, змены ў дэмаграфічнай структуры насельніцтва (натуральны прырост, міграцыю з сельскай мясцовасці ў гарады, сацыяльную структуру насельніцтва, а таксама яго этнічны склад). Перапісы насельніцтва, што праводзіліся ў інтэрвале 1950–1970 г., паказалі рост яго колькасці ў БССР з больш як 6,5 млн. да прыкладна 8 млн. чалавек, не лічачы яшчэ 1 мільёна ў іншых частках СССР. У трэцім раздзеле апісваецца чарговае дваццацігоддзе (1971–1991), канец якога супадае з распадам Савецкага Саюза і здабыццём незалежнасці яго ранейшымі ўдзельнікамі ("БССР у перыяд нарастання крызі-

су і заканчэння існавання савецкай сістэмы (1971–1991)”, с. 358–586).

Чым бліжэй да сучаснасці, тым больш гісторык ператвараецца ў палітолага, бо гісторыя вымагае пэўнай часавай дыстанцыі для ацэнкі падзей. І гэта нам варта мець на ўвазе пры знаёмстве з апошнімі раздзеламі шостага тома. Асабліва з чацвёртым яго раздзелам, які таксама ахоплівае два дзесяцігоддзі – з 1991 да 2009 г. (“Беларусь ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту”, с. 587–682). Унутраная структура раздзела не выклікае пярэчанняў – першая глава прысвечана распаду СССР, другая – асвятленню падзей амаль што да нашага часу. Апошняя падзелена на дзве часткі – першая ахоплівае перыяд парламенцкага праўлення, другая – этап прэзідэнцкай улады. Аўтарам “Заключэння” да шостага тома, а таксама – асобна – да ўсяго выдання выступае яго галоўны рэдактар Міхаіл Касцюк.

Такім чынам, у нашым распараджэнні апынулася цікавая праца некалькіх дзясяткаў даследчыкаў – пераважна вядомых і дасведчаных гісторыкаў. Матэрыялы выдання напісаны з веданнем справы, з апорай на галіновую літаратуру, а таксама першакрыніцы. Без сумневу, гэтая праца паслужыць зыходным пунктам для чарговых даследаванняў і паглыблення ранейшых распрацовак. Але ж такі лёс падобных сінтэтычных прац, што старэюць яны хутка – куды хутчэй за манаграфіі. Мяркую таксама, што разгледжаныя шэсць тамоў стануць зыходным пунктам для падрыхтоўкі аднатамовага нарыса, разлічанага на больш шырокае кола чытачоў. Нарэшце, як аўтар першай польскамоўнай “Гісторыі Беларусі” (Вроцлаў, 1979), хацеў бы адзначыць патрэбу падрыхтоўкі – праз 30 з гакам гадоў пасля яе выхаду – новага падобнага выдання і на польскай мове. Мяркую, што гэта спраўдзіцца яшчэ ў бягучым дзесяцігоддзі.

# Перакрыжаванне культур

## Мастацкая культура армянскіх абшчын на землях Рэчы Паспалітай*

**Ганна Харашкевіч**

Сярод народаў, што засялялі Рэч Паспалітаю, галоўнае месца займалі абарыгены яе вялікіх тэрыторый, якія зазналі розную эвалюцыю. Развіццё польскага і збольшага літоўскага этнасаў у цэлым працягвалася паспяхова, хоць і ў розным тэмпе. Нямецкае насельніцтва былых ордэнскіх тэрыторый асімілявалася, зрэшты, даволі павольна, тым больш што на працягу XVI ст. з-за рэлігійных войнаў яно папаўнялася і каталікамі-папістамі, і лютэранамі з цэнтральна-еўрапейскіх нямецкіх земляў. У межах гэтага дзяржаўнага ўтварэння адбываўся працэс фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці розных галін “Русі”, якая ў Сярэднія вякі і на пачатку Новага часу мела розныя самавызначэнні, як, зрэшты, і ў XIX–XX ст. ды ў сучаснай навуцы[1]. На базе заходняй галіны ўсходніх славян складваліся ўкраінская і беларуская народнасці, прадстаўнікі якіх да сярэдзіны XVII ст. ужо ўсведамлялі сябе ўкраінцамі і беларусамі.

Побач са славянскімі і літоўскімі абарыгенамі стракатую карціну этнасаў Рэчы Паспалітай папаўнялі шмат-

* Художественная культура армянских общин на землях Речи Посполитой (Минск, 9–11 октября 2012 г.) / сост. и отв. ред. И. Скворцова. Минск: Арт Дизайн, 2013. 240 с.

[1] Шырока прыняты ў савецкай і расійскай літаратуры тэрмін “Літоўская Русь” уяўляецца не зусім дакладным.

лікія ўцекачы з родных краёў[2]. Акрамя ўжо згаданых немцаў, было шмат яўрэяў і армян, якіх выцяснялі з родных земляў еўрапейскія і агрэсіўныя мусульманскія дзяржавы. У выніку частых міжусобіц у Крымскім ханстве, а таксама ліквідацыі Астраханскага ханства з'явілася шматлікая праслойка татараў. Адметнасць мовы, рэлігіі і заняткаў стварала некаторыя перадумовы для этнічнай самаарганізацыі прадстаўнікоў гэтых этнасаў, якія занялі прыкметнае месца ў сацыяльна-эканамічным жыцці Рэчы Паспалітай. У польскай і расійскай літаратуры даволі добра вывучана становішча яўрэяў і формы іх арганізацыі. У польскай гістарыяграфіі ў апошні час вялікая ўвага аддаецца і гісторыі татараў[3], значная частка якіх падпала пад частковую асіміляцыю. Актыўна даследавалі гісторыю армян Рэчы Паспалітай у другой палове XIX ст. польскія і асабліва ўкраінскія гісторыкі, сярод якіх першае месца займаюць Я. Дашкевіч[4] і яго вучань гісторык права М. Капраль[5], апошні абмежаваўся пераважна Львовам, дзе армянскае насельніцтва было шматлікім. Высілкамі Цэнтра армяназнаўчых даследаванняў "Анив" ("Кола"; базуецца ў Мінску) на чале з Армэнам Хечаянам, дзейнасць якога накіравана на вывучэнне далёкай і блізкай мінуўшчыны армянскага народа, выпускаецца аднайменны часопіс, а ўвосень 2012 г. была праведзена канферэнцыя "Мастацкая культура армянскіх абшчын на землях Рэчы Паспалітай", матэрыялы якой выйшлі

[2] Украпленні галандцаў, італьянцаў, татараў, цыганоў, а таксама англічан і шатландцаў з XVI ст. і старавераў Расіі з XVII в. былі нешматлікімі (Захаркевич С. Армяне Речи Посполитой. Анализ модели культурной адаптации // Художественная культура армянских общин. С. 20).

[3] У першую чаргу варта назваць працу А. Канапацкага (Konopacki A. Życie religijne Tatarów na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI–XIX wieku. Warszawa, 2010).

[4] Дашкевич Я. Р. Вірмени в Україні: дорогами тисячоліть. Зб. наук. праць. Львів, 2012.

[5] Капраль М. М. Національні громади Львова XVI–XVIII ст. (соціально-правові взаємини). Львів, 2003; Економічні привілеї міста Львова XV–XVIII ст.: Привілеї та статути ремісничих цехів та купецьких корпорацій Львова / упоряд. М. Капраль. Львів, 2007.

ў зборніку з такой самай назвай[6]. У канферэнцыі ўдзельнічалі вучоныя і кіраўнікі навукі Арменіі, Беларусі, Літвы, Польшчы[7]. Падабенства лёсу народаў гэтых краін (адсутнасць уласнай дзяржаўнасці на працягу доўгага часу і вымушанасць эміграцыі) ужо ў 1895–1939 г., як вынікала з даклада Д. Мацыяс, прадвызначылі магчымасць і нават неабходнасць падобнага супрацоўніцтва. Па выніках канферэнцыі выдадзены зборнік дакладаў, добра падрыхтаваны Ірынай Скварцовай і ў адрозненне ад большасці сучасных расійскіх выданняў практычна пазбаўлены памылак друку. Дакладныя пераклады з некалькіх моў. Добрыя ілюстрацыі. У цэлым зборнік падрыхтаваны і выдадзены вельмі старанна і з любоўю.

Канферэнцыя і зборнік, які з’явіўся ўслед за ёй, працягваюць традыцыю калектыўнага абмеркавання агульнага мінулага ў рамках Міжнароднай асацыяцыі Інстытутаў гісторыі краін СНД.

На пленарнае паседжанне былі вынесены тры гісторыка-тэарэтычныя даклады, што датычыліся і агульных праблем культурнай адаптацыі, і асіміляцыі прышлага насельніцтва ў Рэчы Паспалітай, тыпалогіі і метадалогіі вывучэння гэтых праблем.

Удзельнікі канферэнцыі зыходзілі з прынцыпу, найбольш дакладна сфармуляванага супрацоўнікам польскага Міністэрства культуры і захавання культурнай спадчыны М. Міхальскім, які разглядаў армянскую культурную спадчыну як частку агульнай спадчыны ўсіх народаў, што засялялі некалі Рэч Паспалітую. Ён жа ахарактарызаваў формы працы Міністэрства ў рамках супрацоўніцтва з цэн-

[6] Назва канферэнцыі не цалкам адлюстроўвае змест дакладаў. Так, М. Альшэўска ахарактарызавала дзейнасць шэрагу армян: гандляра-мануфактурыста, пісьменніка, філосафа, якія актыўна ўдзельнічалі ў пераўтварэннях Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў 1764–1795 г., але яны не ўваходзілі ў армянскую абшчыну (с. 184–190).

[7] На жаль, не прысутнічалі расійскія вучоныя і прадстаўнікі аналагічных расійскіх устаноў, хоць абмен вопытам захавання культурнай спадчыны быў бы карысны і для іх, і для іх замежных калег.

трам "Анив". Гэта дакументаванне і інвентарызацыя помнікаў (якія знаходзяцца на тэрыторыі Украіны) рознага тыпу і паходжання (ад рукапісаў і помнікаў выяўленчага мастацтва да надмагілляў, у прыватнасці, Лычакаўскіх могілак у Львове), захаванне і рэстаўрацыя найбольш знакавых з іх (у першую чаргу, армянскага сабора Успення Прасвятой Багародзіцы ў Львове) і, нарэшце, прапаганда дасягнутых поспехаў.

Аналіз мадэлі культурнай адаптацыі армянскай "этнічнай меншасці", зроблены С. Захаркевічам (БДУ), мае і актуальна-метадычнае значэнне, бо гэты працэс, распачаты ў Сярэднявеччы, працягваецца і ў наш час, набываючы новыя рысы. Пад адаптацыяй культуры аўтар разумее не толькі прыстасаванне "невялікай этнічнай групы да дамінантнай культурнай прасторы шляхам запазычання пэўных элементаў культуры ці ўсяго комплексу цалкам", але і процідзеянне дыфузіі ўласнай культуры "з дапамогай выбудоўвання сацыяльных бар'ераў, межаў і маркераў". С. Захаркевіч уводзіць паняцці "рэсурсавая прадказальнасць" і "адапцыйны патэнцыял этнічнай групы". Пад першым ён разумее "рэальную магчымасць доступу да сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных рэсурсаў пэўнага рэгіёна, грамадства ці дзяржавы ў цэлым з улікам знешніх умоваў навакольнага асяроддзя". Другім тэрмінам пазначана "сукупнасць унутраных фактараў этнічных меншасцяў, якія паўплывалі на выбар той ці іншай стратэгіі культурнай адаптацыі". Ён падкрэслівае, што дзяржаўная ўлада і Вялікага Княства Літоўскага, і Рэчы Паспалітай падтрымлівала хрысціянскае і актыўнае ў эканамічных адносінах насельніцтва (а міжнародным гандлем армяне паспяхова займаліся здаўна), якое ўжо ў XI ст. з'явілася на землях Русі (у 1569 г. яны стануць паўднёва-ўсходняй ускраінай Рэчы Паспалітай). Названыя землі, якія знаходзіліся на перыферыі Еўропы, былі слаба заселены і тым больш слаба ўрбанізаваны. Гэтыя фактары, несумненна, спрыялі фармаванню армянскіх абшчын нароўні з яўрэйскімі і нават цыганскімі, якім Жыгімонт I надаў адмысловыя правы, што, безумоўна, спрыяла і развіццю іх эканамічнай дзейнасці.

Аўтар адзначае, аднак, што армяне, носьбіты ўласных рэлігійных традыцый, зазналі акаталічванне, асабліва ў XVIII ст., і нават зрабілі свой унёсак у Польскае асветніцтва. Ён паказвае таксама асаблівасці з'яўлення армян у краіне: яны былі ўцекачамі ў адрозненне ад татараў і рускіх старавераў, якіх спачатку нібыта запрашалі “ў якасці працоўных рэсурсаў і ваеннай сілы”. Такое проціпастаўленне не зусім карэктнае. І прадстаўнікі дзвюх апошніх этнічных груп самі шукалі прыстанішча ў Рэчы Паспалітай па ўнутраных прычынах, як ужо згадвалася вышэй. Што ж да заняткаў гэтых этнічных меншасцяў, то яны сапраўды істотна адрозніваліся. Армяне практычна трымалі ў сваіх руках увесь усходні гандаль. Аўтар добра арыентуецца не так ва ўкраінскай, як у сучаснай польскай і англамоўнай гістарыяграфіі, што, мабыць, характэрна для гісторыкаў постсавецкага перыяду ва ўсіх краінах, якія ўзніклі на развалінах СССР, пачынаючы з Расіі. Так, С. Захаркевіч услед за Карлам Дойчам, аўтарам камунікатыўнай тэорыі, падкрэслівае ролю нацыянальнага эгацэнтрызму, падтрымання і распрацоўкі “ўласных уяўленняў пра гістарычны працэс і ролю і месца ў ім армянскай абшчыны” і, пералічваючы шэраг сістэмаўтваральных твораў армянскай літаратуры Рэчы Паспалітай, як летапісных, так і актавых, паказвае іх ролю ў захаванні гістарычнай памяці і ў супрацьстаянні асіміляцыйным працэсам (26). У цэлым артыкул С. Захаркевіча не толькі малюе абагульняльную карціну армянскай мадэлі культурнай адаптацыі армян у Рэчы Паспалітай, але і дае глебу для параўнальна-гістарычнага вывучэння і іншых народаў еўрапейскай “перыферыі”.

Сацыяльны і прававы статус армянскіх абшчын у Каралеўстве Польскім і Вялікім Княстве Літоўскім – прадмет параўнальнага вывучэння К. Стопкі (30–41). Хоць аўтар – гісторык, сама пастаноўка пытання – юрыдычна дакладная, якая сыходзіць з канкрэтных рэалій юрыдычнага статусу абшчыны і асобы, – уяўляецца ў лепшым сэнсе сучаснай і актуальнай. Аўтар не задаволены цяперашняй трактоўкай разгляданага пытання і прапануе больш канкрэтна-гістарычны падыход да яе раз-

гляду ў залежнасці ад: месца пражывання прышэльцаў (у Кароне ці Літоўскам Княстве, у каралеўскім горадзе ці ў прыватным, у горадзе ці ў юрыдыцы, пры гэтым ён вылучае памежныя тэрыторыі, якія часта зазнавалі ваенныя і сацыяльныя ўзрушэнні, а адпаведна і дэмаграфічныя, што выключала існаванне стабільных прававых структур), сацыяльнай прыналежнасці (аўтар выключае са сферы ўвагі тых армян, якія атрымалі шляхецкія правы і карысталіся імі), вядзення групавой ці індывідуальнай дзейнасці (сялянскай працай армяне не займаліся), тыпу падсуднасці (пад гарадской юрысдыкцыяй ці па-за ёй) і, нарэшце, наяўнасці храма ўласнай канфесіі. К. Стопка прасачыў, як змянялася становішча львоўскай армянскай абшчыны пры Казіміры Вялікім з 1356 г. Вылучыўшыся з-пад улады агульнагарадской адміністрацыі, абшчына абрала ўласнага войта, што прывяло яе да канфлікту з гарадской радай, які доўжыўся аж да 1469 г., калі Казімір Ягелончык ліквідаваў гэтую пасаду. Тым не менш тая схема (спалучэння агульнагарадской каталіцкай і іншанацыянальнай улады, прадстаўленай войтам адпаведнай канфесіі) была пашырана і на іншыя гарады Кароны Польскай, хоць праваслаўнай Русі ні ў Львове, ні ў Камянцы-Падольскім не ўдалося дамагчыся ўласнай юрысдыкцыі. Пасля ліквідацыі пасады войта як армянская абшчына, так і “руская” ператварыліся ў рэлігійныя, якія, натуральна, цэнтрам прыцягнення мелі свае храмы.

З распаўсюджваннем магдэбургскага права члены армянскіх абшчын, у першую чаргу каталікі, сталі падпарадкоўвацца гэтаму праву, часам, праўда, захоўваючы этнічную і рэлігійную асобнасць. Падобны пераход вызваляў іх ад выплат на карысць дзяржавы, што і выклікала працідзеянне армянскіх абшчын. Асаблівае становішча займалі армяне, якія жылі ў каралеўскіх ці прыватнаўласніцкіх (свецкіх і царкоўных) юрыдыках, дзе дзейнічала польскае права, якому і падпарадкоўваліся ўсе жыхары. Выключэннем была юрыдыка св. Яна ў прыгарадзе Львова, якая знаходзілася ў падпарадкаванні дэкана рымска-каталіцкага Капітула. Яна была засна-

вана для армян-каталікоў паводле пастановы караля Уладзіслава Ягайлы ў 1415 г. Служба (лацінская літургія) у саборы вялася, аднак, на стараармянскай мове, а жыхары падпарадкоўваліся дэкану, хоць і падлягалі суду толькі па армянскіх законах. Больш тыповым было становішча армян, якія жылі адасоблена ў іншых юрыдыках. Так, у каралеўскіх (тыпу Падзамча Львова) яны падпарадкоўваліся старасту, які кіраваўся польскім заканадаўствам. Своеасаблівыя ўмовы склаліся ў Камянцы-Падольскім у залежнасці ад месца пражывання: армяне, якія валодалі дамамі ў той частцы горада, якой кіравалі польскія войты, падлягалі суду па магдэбургскім праве, а русь і палякі, што жылі на тэрыторыі армянскай абшчыны, – армянскаму.

Сітуацыя ў XVII ст. змянілася ў выніку уніі каталіцкай і армянскай цэркваў. У буйных гарадах, за выключэннем Львова і Камянца-Падольскага, дзе асаблівы прававы статус армян быў ліквідаваны толькі ў канцы XVIII ст., армяне-каталікі падпарадкоўваліся агульнагарадскім законам, што пашырыла правы армян – валоданне нерухомасцю, абранне ўладаў, уласны ўдзел у гарадскім самакіраванні. Сітуацыя ў прыватных гарадах была рознай. Прывілеі ўладальнікаў, падараваныя армянам, утрымлівалі або толькі права на ўласную царкву, або (як на паўднёвым усходзе Рэчы Паспалітай) нават на права асобнага суда з уласным войтам. У адным з такіх гарадоў – Замосці, створаным па рэнесансавым узоры, армяне з'явіліся па запрашэнні вялікага кароннага гетмана Яна Замойскага і адразу пабудавалі сваю царкву з прускага каменю, сродкі на ўтрыманне святара даваў сам гетман.

У Вялікім Княстве Літоўскім ніводная армянская абшчына (натуральна, гарадская) не мела адасобленага прававога статусу. Гэта была тэрыторыя панавання магдэбургскага права, якое давалася ўсім жыхарам горада (у тым ліку і чужынцам розных канфесій). У гарадскіх радах (лавах) дзейнічалі часам і армяне. Прыкладам такога прававога ўладкавання можа служыць Кіеў, армяне якога з 1570 г. атрымалі права выбару бургамістра. Былі і некаторыя выключэнні. У 1432 г. армяне засталіся па-

за юрысдыкцыяй падараванага Уладзіславам Ягайлам магдэбургскага права. На чале рэлігійна-прававой армянскай абшчыны стаяла рада (ад 8 да 12 чалавек) старшынаў-лаўнікаў, якія выбіраліся "штогод" практычна на пажыццёвы тэрмін з найбольш заможных гараджан. Гэта былі войт, пісар, намеснікі, якія кіравалі ўласнасцю, эканомы і зборшчыкі падаткаў. З радных выбіраўся і суд, які здзяйсняў правасуддзе з 2-4 прысяжнымі па грамадзянскіх і часткова крымінальных справах (за выключэннем забойстваў, згвалтаванняў, крадзяжоў і махінацый з нерухомасцю), і толькі ў 1497 г. Аляксандр пашырыў дзеянне магдэбургскага права і на армян. Тыя, што жылі ў ВКЛ за межамі гарадоў, падпарадкоўваліся старасцінскаму, "рускаму", праву, а тыя, што атрымалі шляхецтва – шляхецкаму земскаму. Стварэнне Рэчы Паспалітай у 1569 г. суправаджалася заняпадам армянскіх абшчын на літоўскай тэрыторыі, яны былі падпарадкаваны нямецкаму магдэбургскаму праву. Сур'ёзную эвалюцыю зведала і армянскае рэлігійнае права, якое з цягам часу набывала ўсё больш свецкі характар.

Дакладны гісторыка-юрыдычны падыход да тэмы дазволіў аўтару выйсці на разгляд кардынальнага пытання пра ролю прававога статусу ў захаванні культурнай адасобленасці этнічнай меншасці і даць на яго парадаксальны адмоўны адказ. Галоўным фактарам для яе захавання аўтар лічыць прыток новых перасяленцаў у эканамічна камфортныя і перспектыўныя для іх рэгіёны. К. Стопка ілюструе гэтае становішча прыкладам Камянца-Падольскага, які перайшоў пад турэцкую ўладу ў 1672 г. Камянецкія армяне ўцяклі ў бяспечныя гарады Рэчы Паспалітай – Кракаў, Варшаву, Гданьск, Люблін і іншыя – і занялі зусім рознае становішча: ад членаў цэхавых і купецкіх аб'яднанняў да плебеяў, але на былую "радзіму" пасля хуткага вызвалення горада не вярнуліся. Аналагічную з'яву аўтар прасачыў і на прыкладзе іншых гарадоў, якія кепска развіваліся эканамічна. Іх армяне пакідалі дзеля хуткай кар'еры ў іншых больш паспяховых цэнтрах, хай сабе нават пазбаўленых намёкаў на якуюнебудзь адасобленасць іх абшчын. Нарэшце, К. Стопка

робіць некаторыя высновы адносна захавання звычаяў, мовы, рэлігіі, прававога статусу, унутранай салідарнасці этнічнай меншасці. На яго думку, усе гэтыя фактары мелі вялікае значэнне для першага-другога пакалення перасяленцаў. Яны ўмела выкарыстоўваліся ў Кароне для прыцягнення новага насельніцтва, што спрыяла паскарэнню ўрбанізацыі ў гэтым рэгіёне (у адрозненне ад Вялікага Княства Літоўскага, дзе панавала магдэбургскае права, яно ўраўноўвала армян з асноўным этнасам, не даючы першым ніякіх прывілеяў). І ў далейшым на тэрыторыі Кароны ў армян засталіся вялікія магчымасці для сацыяльнага ліфта, бо найбольш прадпрымальныя шчодра прылічаліся да шляхты і тым самым стваралі стымул для новых перасяленцаў.

Неабходна падкрэсліць, што аналіз прававога статусу армян у Рэчы Паспалітай, зроблены К. Стопкам паводле ўласнай праграмы, адкрывае новыя перспектывы ў вывучэнні этнічных адносінаў у тых краінах, дзе насельніцтва не было этнічна аднастайным, а працэсы адаптацыі і асіміляцыі зацягваліся ў тугі вузел унутраных канфліктаў.

Другая частка рэцэнзаванага зборніка прысвечана характарыстыцы архіўных і бібліяграфічных крыніц. Разглядаючы разнастайныя картаграфічныя крыніцы[8], Р. Атаян засяроджваецца на картах армянскіх "калоній" (першыя з іх – царкоўныя. Карта армянска-каталіцкай царквы ў Польшчы на 1772 г., складзена С. Данігевічам, выдадзена ў Львове ў 1928 г.; другая 2001 г. – схема армянскіх калоній у кнізе Я. Хшаншчэўскага "Цэрквы польскіх армян", багата забяспечана ілюстрацыямі; трэцяя такога ж зместу – вынік дзейнасці Рыжскай армянскай абшчыны; чацвёртая – К. Мутафяна, дзе паказаны асноўныя цэнтры і культавыя помнікі). Р. Атаян лічыць усе гэтыя карты недастаткова інфарматыўнымі[9] і ставіць но-

[8] Р. Атаян пачынае з першай карты свету на армянскай мове Таўмаса Ванандэцы, выдадзенай у Амстэрдаме ў 1695 г.

[9] Выключэнне ён робіць толькі для дзвюх картаў "Армянскія калоніі ў Польшчы, Украіне, Малдавіі і Крыме", для якіх быў абраны неадпаведны маштаб.

выя задачы. Ён мяркуе, што неабходна ўключыць у падобныя карты звесткі пра армянскія скрыпторыі Сярэднявечча і Новага часу, картаграфаваныя супрацоўнікамі Матэнадарана, стварыць карту армянскіх паселішчаў у Антычнасці, а таксама картасхемы ўсіх тых гарадоў, дзе знаходзіліся армянскія абшчыны, картасхемы гарадоў з армянскімі "калоніямі" на аснове планаў рознага часу (напрыклад, Камянца-Падольскага 1672, 1684, 1691 і 1773 г.). Праект ідэальнай з пункту гледжання гісторыка карты прадугледжвае выкарыстанне дакладнай геаграфічнай асновы, указання сучасных межаў дзяржаў паралельна з гістарычнымі, нанясення на карту дарог, рачной сеткі, падзелу і вылучэння шрыфтам гарадоў, дзе знаходзіліся "калоніі", і населеных пунктаў з гістарычнымі і цяпер дзейснымі храмамі. Калі гэтая частка праграмы будучай карты калоній не выклікае ніякіх пярэчанняў (а рэцэнзенту нагадвае праект вялікага расійскага картографа І. Галубцова[10]), то другая частка прапаноў Р. Атаяна ўяўляецца небясспрэчнай. Творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнага мастацтваў на карце наўрад ці будуць досыць выразнымі, хоць бы з-за маштабу. Гэтыя дадаткі мэтазгодна змяшчаць у асобныя ўкладкі, пранумараваныя, як і геаграфічныя пункты на асобнай картасхеме. У цэлым, аднак, праграма вельмі ўражвае, хочацца пажадаць аўтару поспеху ў яе найхутчэйшым ажыццяўленні.

Надзвычай карысны кароткі агляд літоўскіх даследчыцкіх публікацый па гісторыі армянскіх абшчын і іх дзейнасці ў Вялікім Княстве Літоўскім, зроблены В. Рыбікаўскене. Калі працы Э. Рымшы былі і раней вядомыя, то вельмі цікавыя высновы назіранняў Р. Фірэёвіча і Ю. Лаўрушаса ўпершыню даступныя чытачам на рускай мове.

[10] Хорошкевич А. Л. Рец. на кн.: Памяць стагоддзяў на карце Айчыны: зб. навук. прац у гонар 70-годдзя Міхаіла Федаравіча Спірыдонава / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі; уклад.: Р. А. Аляхновіч, А. І. Груша, А. Б. Доўнар; рэдкал.: А. А. Каваленя (адк. рэд.) [і інш.]. Минск, 2007 // Славяноведение. 2009. № 2. С. 103–107.

Манаграфічны характар носіць даследаванне Т. Саргсян, якая старанна сабрала разнастайныя звесткі пра архітэктурны лёс храма св. Нікалааса ў Камянцы-Падольскім. Аўтар на аснове больш дакладнага прачытання Камянецкага летапісу, памятнай царкоўнай кнігі і надпісаў прапануе перадатаваць некаторыя этапы будаўнічай гісторыі помніка, адносячы да другой паловы XVI ст. фармаванне агульнага вобліку царквы, які захоўваўся на працягу яшчэ двух стагоддзяў.

Піруза Мнацаканян прапануе агляд больш як 100 армянскіх рукапісаў Матэнадарана, створаных на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Крыніцай звестак пра паходжанне гэтых рукапісаў служаць калафоны, дзе перапісчыкі называюць сябе, сваё месцазнаходжанне, часам замоўцу і акалічнасці, пры якіх рукапіс ствараўся. Галоўным чынам гэта богаслужбовыя кнігі. Нешматлікія рукапісы гістарычнага зместу: гісторыя Хацінскай вайны 1621 г., апісанне нашэсця татараў на Рэч Паспалітую, апісанне Іаанеса Камянецкага аблогі Камянца-Падольскага войскам султана Мяхмеда IV у 1627 г. Хацелася б выказаць пажаданне пра выданне вышэйназваных рукапісаў і асобнай публікацыі калафонаў, найбольш змястоўных з пункту гледжання гісторыі сусветнай і армянскай культуры.

Да артыкула П. Мнацаканян тэматычна блізкае даследаванне ўкраінскага вучонага А. Бажко, прысвечанае Камянецкаму летапісу, які захаваўся ў Бібліятэцы мхітарыстаў у Венецыі і апублікаваны Гевондам Алішанам у 1896 г. Спачатку яго вялі прадстаўнікі трох пакаленняў адной сям'і: Тэр-Аванесу належаць запісы за 1560–1605 г. на старажытнаармянскай мове, яго сыну Тэр-Грыгору – за 1605–1616 г. на армяна-кіпчакскай, унукам Тэр-Акобу і Тэр-Аксенту – да 1624 г. Аўтарства запісаў на абедзвюх мовах за наступныя 30 гадоў засталося невядомым. Першы складальнік летапісу протаіерэй свабодна валодаў класічнай старажытнаармянскай мовай. Ён, на думку А. Бажко, які пагадзіўся з пунктам гледжання Я. Дашкевіча, пачаў свой выклад з 1410 г., памылкова датаваўшы яго 1450 г. Значным для першага аўтара летапісу быў 1430 год, калі пасля смерці Вітаўта, які адваж-

на біўся з татарамі, Камянец перайшоў у падпарадкаванне Польскага Каралеўства. Вітаўту Тэр-Аванес міжволі супрацьпастаўляе ўладароў краіны, якія ў 1568 г. нічога не зрабілі для выратавання краіны ад страшнага нашэсця 40-тысячнага татарскага войска, што на працягу двух тыдняў бесперашкодна рабавалі Падолле (93). Камянец перайшоў у склад Кароны. Другім паваротным момантам для Тэр-Аванеса быў 1569 год: у Любліне ўжо раней аб'яднаныя Польшча і Літва дамовіліся, "каб адзіны суд быў і судовая пячатка і каб з гэтага часу былі вечнымі гэтае рашэнне і гэты парадак" (91).

Кругагляд Тэр-Аванеса быў даволі шырокі. Хоць звесткі пра Вялікае Княства Літоўскае за XVI ст. нешматлікія, ён з патрыятычным гонарам занёс паведамленне пра перамогу 15 верасня 1562 г. 16-тысячнага коннага войска Жыгімонта Аўгуста над 30-тысячным "маскоўскім". На наступны год ён з жалем запісаў, што "маскоўскі вялікі князь… прыйшоў у каралеўскія землі і [захапіў Полацк] не ўласнымі сіламі, а з дапамогай бунту падступных і дрэнных русічаў, калі тыя падпалілі крэпасць у пяцішасці месцах, а потым спалілі ўвесь горад і крэпасць, і самі здалі крэпасць ворагу, і ўсе трапілі ў палон да масквітаў" (93). А. Бажко тлумачыць пазіцыю Тэр-Аванеса стэрэатыпамі, распаўсюджанымі ў Рэчы Паспалітай у дачыненні да праваслаўных. Яны, па меркаванні даследчыка, адчуваюцца і ў апісанні ўрачыстай працэсіі камянецкіх мяшчан 14 кастрычніка 1579 г. з выпадку вяртання Полацка ў склад Рэчы Паспалітай. Русь Камянца-Падольскага ў працэсіі ўдзельнічаць адмовілася.

Наступныя аўтары працягнулі традыцыю першага летапісца, падкрэсліваючы недахопы дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да казацтва. У ліпені 1649 г. ананім запісаў: "З'явіўся Хмяльніцкі з Крываносам, і колькі нягодаў зведала Польшча". Яшчэ выразней пазіцыя ананіма выяўлена ў запісе ад 18 жніўня 1650 г.: "Казацкі народ столькі крыві праліў, пакуль мудры дабрадзейны кароль наш Казімір [Ян-Казімір] перамір'е з ім не заключыў. А ўсё гэта праз неразумнасць вяльможаў нашых здарылася!" (93). Несумненна, звесткі Камянецкага летапісу пашы-

раюць нашы ўяўленні не толькі пра міжнародныя адносіны ў Еўропе, але і пра грамадскую атмасферу ў XVI–XVII ст.

Трэці раздзел зборніка непасрэдна прысвечаны архітэктуры, выяўленчаму і дэкаратыўнаму мастацтву армян Рэчы Паспалітай. Тут 14 артыкулаў, найбольшая ўвага аддадзена так званым слуцкім кунтушовым паясам, апісанню і датаванню наяўных у розных сховішчах экзэмпляраў, тэхніцы іх вытворчасці і рэстаўрацыі, успрыманню іх сучасным чалавекам і г. д. Асноўнымі ў гэтай частцы можна лічыць артыкулы І. Скварцовой пра датаванне паясоў і А. Сардарава пра хрысціянскія сімвалы армян і беларусаў. Першы з іх змяшчае аргументаваныя абгрунтаванні новага датавання выбітных помнікаў прыкладнага мастацтва XVIII ст., аўтар удакладняе і ролю Лявона Маджарскага не толькі ў арганізацыі вытворчасці, але і ў падрыхтоўцы мастацкіх праектаў.

Артыкул А. Сардарава дае ўяўленне пра ролю хрысціянства ў фармаванні светаадчування еўрапейскіх народаў (“Я ёсць шлях”, Ян 14.6). Аўтар пачынае з тлумачэння ідэаграмы сонца (кола з прамянямі) – салярнага знака, які выконваў функцыі абярэгу, ахоўніка. З прыходам хрысціянства, спачатку яшчэ не дзяржаўнай рэлігіі, новы сімвал – крыж, крыж у коле ці зорны крыж – увабраў у сябе і ўсе значэнні ранейшага знака і набыў ідэю ўваскрэшання і вечнага жыцця. Асабліва выразна гэтую ідэю ўвасабляюць крыж завіты ці крыж, які расце. Яго высякаюць на камянях (хачкарах) ці ўсталёўваюць на паклонных крыжах і капліцах (каплічках).

Храналагічна да гэтага артыкула прымыкае артыкул К. Лавыш пра бытаванне візантыйскага і ўсходняга (пераважна сірыйскага) шкла (шыкоўнага посуду і бранзалетаў – шараговых упрыгожванняў гарадскіх жанчын) на тэрыторыі Беларусі і армянскіх аналагаў. Абагульняючы матэрыялы раскопак Ф. Гурэвіч у Наваградку і дадатак да іх у выніку працы там жа Т. Бубянько і параўноўваючы іх з аналагічнымі помнікамі прыкладнога мастацтва Аюбідскай Сірыі, выяўленымі ў армянскім Дзвіне, аўтар прыходзіць да высновы пра “ўцягнутасць

сярэднявечных гарадоў Беларусі ў гандлёвыя і культурныя адносіны з краінамі Усходу і Візантыі" і агульныя крыніцы паступлення гэтых артэфактаў на Русь і ў Арменію.

Сярод прац на архітэктурныя тэмы адзін з найбольш цікавых – артыкул В. Карніенкі пра армянскую капліцу XVI–XVII ст. у Кіеўскім Сафійскім саборы ва ўсходняй частцы прыдзела св. Антонія і Фядосія, дзе былі выяўлены армянскія графіці XVI–XVII ст. Пасля даследаванняў аўтара колькасць графіці (малюнкаў і надпісаў кірыліцай, лацінкай і армянскім шрыфтам) дасягнула 143 (с. 146). Ён жа выдаў тры першыя часткі поўнага корпуса графіці – двух прыдзелаў: Георгія Вялікапакутніка, Пятра і Паўла і цэнтральнага нефа. Шматлікія графіці В. Карніенка перадатаваў 70-мі гадамі XVI ст., удакладніў імёны святых, што дазволіла таксама больш выразна паказаць гісторыю самога сабора не толькі ў XVI–XVII ст., але і ў XI–XII ст. Прыемна, што працы па даследаванні сабора і яго графіці, пачатыя А. Комечам і С. Высоцкім, паспяхова працягваюцца і ў нашы дні ўкраінскімі вучонымі.

Армэн Казаран, які праславіўся выданнем помнікаў VII–VIII ст., гэтым разам засяродзіўся на гісторыі Армянскага сабора ў Львове, паглыбіўшыся значна далей за сваю польскую папярэдніцу І. Валаньскую. А. Казаран адзначыў уплыў розных традыцый (рамана-гатычнай, візантыйскай і старажытнарускай XII–XIII ст. на фармаванне вобліку храма сярэдзіны XIV ст. (120–121). Старажытны роспіс, элементы якога захаваліся, выяўляе падабенства з традыцыяй крымскіх армян таго ж XIV ст. (у прыватнасці, Іаана Прадцечы ў Кафе 1348 г.).

У сферу ўвагі гісторыкаў архітэктуры трапілі не толькі знакамітыя храмавыя збудаванні, але і "правінцыйныя", у тым ліку і свецкія. С. Азізян распавядае пра помнікі сучаснай Івана-Франкоўскай вобласці Украіны, дзе армянскія калоніі з'явіліся ў XV (Снятын), XVII (Станіслаў), XVIII (Гарадзенка і Куты) стагоддзях. Лёс галоўнага храма ў Івана-Франкоўску (былым Станіславе) трагічны. Мясцовыя станіслаўскія армяне

не прызналі армяна-каталіцкай уніі. Першапачатковы драўляны храм св. Станіслава 1665 г., аднагодак горада, на працягу 1743–1773 г. быў заменены новым барочным будынкам, які пацярпеў у час Першай сусветнай вайны, у 1946 г. перададзены Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве, за адсутнасцю праваслаўных вернікаў быў аддадзены мастакам-“дысідэнтам”, потым у 1971 г. Музею гісторыі і атэізму, у 1992 г. – Украінскай праваслаўнай царкве Маскоўскай патрыярхіі і, нарэшце, Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве, роспісы зафарбаваны сучаснымі мастакамі (захаваліся толькі дзве кампазіцыі Яна Салецкага “Узнясенне” і “Акафіст Багародзіцы”).

Сучаснікам храма св. Станіслава быў і храм у сяле Лысец, збудаваны з каменю ў 1889 г. Святаром быў этнічны армянін, які праводзіў літургію і па армянскім, і па лацінскім абрадзе. Тут знаходзілася копія XVI ст. цудатворнага абраза Божай Маці з кафедральнага сабора Камянца-Падольскага, прывезенага ў XIII ст. з Канстанцінопаля. Абраз знік у 30-я г., калі была знішчана і царква. Лысец знакаміты двума сваімі выхадцамі – архіепіскапамі Львоўскай мітраполіі С. Стэфановічам (1752–1858) і М. Ісаакам (1824–1901).

Крыху больш удала склаўся лёс армянскіх цэркваў у Гарадзенцы і ў Снятыне, хоць першай – храму Бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі 1706 г., узведзенаму бежанцамі з Камянца-Падольскага[11], пагражае абрушэнне, а другая выкарыстоўваецца не па прызначэнні.

Французская даследчыца С. Лапорт на прыкладзе абразоў Віфліемскага храма 1628 г. Новай Джульфы, раёна Ісфагана, куды шах Абас на пачатку XVII ст. перасяліў багатых армян з Джульфы, паказвае працэс засваення армянскімі майстрамі дасягненняў еўрапейскага мастацтва, у прыватнасці П. Рубенса і М. дэ Воса. Гравюры гэтых майстроў паслужылі асновай для стварэння армянамі кампазіцый “Распяццяў”. Еўрапейскія мастацкія павевы

[11] Гісторыя гэтай армянскай абшчыны падрабязна вывучана А. Каглянам, Р. Смерачанскім і В. Нікіфаруком.

дасягалі і Львова. Лазар Бабердацы ствараў свае ілюстрацыі да Біблii пад моцным уплывам мініяцюр Тэадора дэ Бры да Вульгаты, выдадзенай у 1598 г.

У сувязі з даследаваннем армяна-еўрапейскіх мастацкіх сувязяў паўстае пытанне пра аналагічныя армяна-іранскія і армяна-турэцкія. Гэтае пытанне ўдзельнікамі канферэнцыі закранута не было. Тым часам яно заслугоўвае адмысловай увагі. Не толькі армянскія купцы знаёмілі еўрапейскія народы з ужытковым мастацтвам Ірана (дзяржавы Сефевідаў) і Асманскай імперыі, але і самі армянскія мастакі зведвалі ўплыў мастацтва гэтых краін. Збольшага вядома ўздзеянне іранскай мініяцюры на армянскую творчасць. Можа быць, на наступнай канферэнцыі варта паставіць і пытанне пра сувязь армянскага і іранскага мастацтва і пра ролю армянскага, як праваднiка армянскіх традыцый?

Львоўская мастацтвазнаўца I. Гаюк працягнула даследаванне В. Александровіча пра армянскіх мастакоў Львова. Яна адзначыла, што армянская мініяцюра, у якім бы са шматлікіх скрыпторыяў яна ні была створана, захоўвала традыцыйныя сярэднявечныя рысы. І гэта насуперак прыкметнаму з XIV ст. уплыву італьянскага кніжнага мастацтва. Помнікі армянскага іканапісу і жывапісу ствараліся толькі ў Львове. Яны нешматлікія і належаць пэндзлю мясцовых мастакоў. Адна праца – майстра чэшскай школы. У выявах св. Каэтана, св. Рыгора Асветніка, Памазання на царства цара Трдата можна знайсці сляды малдава-румынскага паходжання. Упершыню I. Гаюк звяртаецца да гісторыі ўзнікнення і бытавання цудатворнага абраза XVII ст. Багародзіцы Камянецкай, прывезенай з Кіева, верагодна, у 1651 г., а ў 1654 г. у яе гонар было заснавана брацтва.

Цудатворным лічыўся і абраз св. Рыгора Асветніка, паводле яго картушу, які захоўваўся асобна, абраз быў перададзены ў храм Кацярынай Вачкоенц у 1638 г., а ў 1640 г. паўстала і брацтва. I. Гаюк на падставе прозвішча данатара і стылёвых асаблівасцяў лічыць, што абраз быў створаны ў Румыніі. З гэтым жа рэгіёнам яна звязвае Святую Тройцу XVI ст., у кампазіцыі прыкмет-

ныя сляды ўплыву гравюры А. Дзюрэра 1511 г., хоць, мяркуючы па размяшчэнні Святога Духа, мастак быў армянінам, які ездзіў у Румынію, як і яго сын, таксама іканапісец, “для свайго ўбогага пражытку”. Па меркаванні І. Гаюк гэта быў Павел Богуш (упершыню згаданы ў 1570 г. – †1605), яго сын Сымон (каля 1575 – 1648), прыдворны мастак Мнішкаў у Самборы, ездзіў у 1604–1611 г. у Расію – менавіта з той жа мэтай. Аўтар прыпісвае яму серыю карцін (“Заручыны Марыны Мнішак і Дзмітрыя ў Кракаве ў 1605 г.”, “Каранацыя і каранацыйнае шэсце”, “Каранацыя Марыны Мнішак”, нарэшце, яе ж парадны партрэт 1606 г.). Нашчадкі двух першых Багушэвічаў працягнулі сямейную традыцыю: у 1702 г. адзін з іх быў цэхмістрам львоўскіх мастакоў. Акрамя гэтай дынастыі існавалі яшчэ некалькі, аднак звестак пра іх вельмі мала; выключэнне – Хрыстафор Захарыя Захновіч, меркаваны аўтар партрэта Крыштафа Аведыка Бернатовіча, прадстаўніка найбагацейшага львоўскага армянскага роду (†1671 г.).

Падагульняючы свае назіранні, І. Гаюк адзначае, што армянскі партрэт развіваўся ў чатырох формах – пагруднага, паяснога, на ўвесь рост і надмагільнага. У вельмі цікавым артыкуле І. Гаюк, якая ўвяла шмат новага матэрыялу, чытачу, мабыць, не хапае ідэалагічнага (прабачце за гэтае азначэнне) асэнсавання працэсу станаўлення армянскага мастацтва, як галіны ці антытэзы сармацкага мастацтва. Зрэшты, чытач можа падумаць пра гэта сам, пазнаёміўшыся з “Сармацкім партрэтам” Л. Тананаевай (Масква, 1979).

Традыцыі культурных армяна-руска-беларускіх сувязяў працягнуты былі і ў ХХ ст. – пры гэтым крыху парадаксальным спосабам: зборнік завяршаецца артыкулам А. Харака, прысвечаным калекцыі прац Івана Айвазоўскага (Айвазяна), якая знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Дырэктар гэтага музея Алена Аладава (1907–1986) актыўна спрыяла папаўненню фондаў музея творамі рускага жывапісу (гэтая калекцыя складае больш за паўтары тысяч прац) і ў 1950–1960-я г. у Маскве і Ленінградзе набыла каля 40 прац знакамітага армян-

скага мастака, частка якіх прысвечана падзеям гісторыі Расіі і Турцыі[12].

У сувязі з гэтым рэцэнзенту хочацца вярнуцца да некаторых кардынальных пытанняў зборніка. Эвалюцыя абшчын, адаптацыі армян да ўмоваў Рэчы Паспалітай завяршаецца знікненнем гэтай формы самаарганізацыі. Якія прычыны гэтага? Якія прычыны адсутнасці падобных абшчын[13] у Княстве ўсяе Русі (1485–1547), Расійскім царстве (1547–1721) і, нарэшце, Расійскай імперыі (1721–1917)[14]? Аддаленасць ад тых краін, якія пакідалі бежанцы? Малая колькасць апошніх? Жорсткасць клімату або ўлады?

Узнікненне такіх пытанняў – своеасаблівы знак якасці ўсяго зборніка. Ён прывабны пастаноўкай шырокіх гістарычных праблем і скрупулёзнымі мікрадаследаваннямі па прыватных, але важных для гісторыі культуры Еўропы і Азіі пытаннях[15]. Гэтым яму гарантавана доўгае жыццё.

*Пераклад Ларысы Дарожкі*

[12] Усе яны ёсць у рэцэнзаваным зборніку. Ён змяшчае тры блокі каляровых ілюстрацый, але іх падзел уяўляецца не вельмі ўдалым. На пошукі ілюстрацый да пэўнага артыкула ідзе шмат часу. Лепш было б нумараваць ілюстрацыі па парадку, а не ў адпаведнасці з артыкуламі. Першы блок каляровых ілюстрацый, бадай, найбольш слабое месца кнігі. Залішнім падаецца дубляванне выявы магілы М. Ісаака, а таксама друкаванне вокладак (праўда, вытанчана прыгожых) дзвюх польскіх кніг І. Валаньскай і выявы Замойскага музея. Выявы гэтых вокладак лепш было б змясціць на апошняй старонцы вокладкі зборніка, а за кошт эканоміі месца можна было б павялічыць карты 2 і 3.

[13] Гэта тычыцца не толькі армян, але і выхадцаў з Рэчы Паспалітай, якія магутнай плынню памкнуліся на ўсход ужо ў апошнія гады Лівонскай вайны.

[14] У зборніку па-ранейшаму ўжываецца прынятая ў айчыннай гістарыяграфіі XIX ст., як і ў сучаснай замежнай, пачынаючы з Украіны і Беларусі, недакладная назва краіны “Масковія”.

[15] На фоне ўласнай і, бадай, агульнарасійскай сучаснай неахайнасці ў дачыненні да карэктуры цешыць амаль поўная адсутнасць памылак (шкада, што не пашанцавала “причту”, які пераўтварыўся ў “притчу”).

## СМИЛОВИЦКИЙ, ЛЕОНИД Л. Евреи в Турове: История местечка Мозырского Полесья. Иерусалим, 2008. 846 с.

Леанід Смілавіцкі, вядомы ў міжнародным маштабе гісторык беларускіх яўрэяў, – аўтар выдатнай манаграфіі па гісторыі яўрэйскай грамады беларускага горада Турава. Мэтай Смілавіцкага было напісанне комплекснага даследавання як для навуковых колаў, так і для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй рускага і еўрапейскага яўрэйства, і ён выканаў свой намер вельмі якасна.

Тураў – адзін з найстарэйшых гарадоў на тэрыторыі Беларусі, цягам сваёй гісторыі ён зазнаваў рускі, украінскі і польскі ўплывы. У даследаванні разглядаюцца сацыяльная структура, эканамічнае, этнічнае, міжнацыянальнае і духоўнае жыццё горада. Акрамя таго, закранаюцца пытанні адукацыі, сямейнага жыцця, аховы здароўя і ўмоў жыцця, а таксама ўплыву рускіх рэвалюцый. Асноўная ўвага аддаецца пытанням эміграцыі, пераследаў, у тым ліку цкаванню сіяністаў, пагромам сінагог і сталінскім рэпрэсіям. Нарэшце аўтар дакументуе трагедыі яўрэйскай грамады Турава пад час нацысцкай акупацыі, а таксама праблемы пасляваеннага аднаўлення горада.

Кніга базуецца на дэталёвым даследаванні архіўных дакументаў і літаратуры па тэме ў шырэйшым кантэксце дадзенай праблематыкі. Аўтар таксама абапіраўся на гістарычныя статыстычныя звесткі, перыядычныя выданні, а таксама метады вуснай гісторыі, выкарыстоўваючы ўспаміны былых жыхароў Турава і іх нашчадкаў.

Працу даследчыка над кнігай і яе публікацыю падтрымалі многія асобы з Ізраіля, Беларусі, Расіі, Нямеччыны, Аўстраліі, Вялікабрытаніі і ЗША. Такая падтрымка дэманструе цікавасць да манаграфіі.

Мова выдання – руская, але ёсць англамоўная назва, змест і ўводзіны, што дае магчымасць зарыентавацца ў структуры і мэтах тым, хто не чытае па-руску.

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў, якія падзяляюцца на часткі. Першы раздзел называецца “Наши

корни”, у пятнаццаці частках якога апісваюцца многія пытанні, згаданыя вышэй (прырода і людзі, сям’я, жыццё, рэлігія, яўрэйская адукацыя, медыцына, эміграцыя і інш.). Другі раздзел мае назву “Между двумя мировыми войнами”, тут у чатырнаццаці частках разглядаюцца пагромы 1918–1921 г., сіяніцкі рух, калектывізацыя, савецкія школы, мова навучання, пошукі шчасця ў Крыме, разгром яўрэйскай рэлігіі, рэпрэсіі і інш.

Памер і структура кнігі не збалансаваныя: калі першыя два раздзелы маюць прыкладна 200 і 300 старонак тэксту, то апошнія два – вельмі кароткія, толькі па 35 старонак кожны. Несумненна, такая структура – недахоп кнігі. Было б вельмі добра, каб аўтар больш месца аддаў даследаванню пасляваеннага перыяду.

Вялікі дакументальны дадатак змяшчае шмат каштоўных матэрыялаў: спісы жыхароў Турава яўрэйскай нацыянальнасці ў розныя гады, спісы ахвяр пагромаў, спісы членаў аб’яднанняў і арганізацый. Ёсць спіс яўрэйскіх салдат з Турава, якія ўдзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне, глыбока кранальны спіс на восем старонак у дзве калонкі кожная, дзе згадваюцца тураўскія яўрэі, якія загінулі ў Халакосце, а таксама спіс яўрэяў, што жылі ў Тураве пасля 1945 г. (толькі 68 прозвішчаў).

Манаграфія ўключае слоўнік тэрмінаў і паняццяў, спісы ілюстрацый і скарачэнняў, іменны і геаграфічны паказальнікі, што не толькі палягчае карыстанне кнігай, але і можа быць у цэлым карысным для даследчыкаў, якія займаюцца тэматыкай усходнееўрапейскіх яўрэяў. Вельмі цікавая таксама калекцыя гістарычных фотаздымкаў.

Лёс яўрэйскай грамады Турава ўяўляе сабой цікавую мікрагістарычную карціну, якая мае вялікую макрагістарычную важнасць. Аўтар вельмі ўдала ўводзіць гісторыю Турава ў шырэйшы гістарычны кантэкст і, такім чынам, яго манаграфія выконвае ролю не толькі крыніцы ведаў пра гісторыю яўрэяў беларускага Турава, але і даследавання па гісторыі Усходняй Еўропы.

Прага *Мілада Полішэнска*

## MARKOVÁ, ALENA. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu: iluze nebo realita? Praha: Nakladatelství Lidové noviny, 2012. 261 s.

Калі б мы хацелі знайсці доказы таго, што гістарычная навука выбірае свае тэмы не па іх значнасці, а ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры, то развіццё даследаванняў у галіне беларускай гісторыі паслужыла б гэтаму яскравым прыкладам. Бо калі сорак гадоў таму існавала толькі адна сур'ёзная аглядная манаграфія па беларускай нацыянальнай гісторыі, напісаная беларускім эмігрантам Нікаласам Вакарам (Nicolas Vakar), то на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў у "заходняй" гістарыяграфіі і паліталогіі выйшлі дзясяткі публікацый, прысвечаных беларускай праблематыцы. Гэта, вядома ж, нічога не змяняе ў тым, што як тады, так і цяпер існавала і існуе этнічная супольнасць – беларусы, роўна як і тое, што ў тэрыторыі іх пражывання было сваё мінулае і свая гісторыя. Аднак гэтае мінулае стала прадметам падвышанай цікавасці толькі ў той момант, калі Беларусь трывала ўвайшла ў палітычны дыскурс і стала аб'ектам сутыкнення часта процілеглых палітычных інтарэсаў.

Сярод прац, якія ўзнікаюць у такіх умовах (зрэшты, як і ў іншых галінах навукі), можна знайсці нямала павярхоўных даследаванняў, што ўяўляюць сабой часта агітацыйна-палітычныя і кан'юнктурныя кампіляцыі. З іншага боку, сярод гэтых прац можна таксама сустрэць і сур'ёзныя, змястоўныя даследаванні. Менавіта да такіх і належыць манаграфія А. Маркавай, нядаўна выдадзеная ў Празе. Яе аўтар – беларуска па паходжанні і чэшка па ўніверсітэцкай адукацыі – паставіла сабе амбіцыйную задачу: падрабязна растлумачыць прычыны непаспяховасці спробаў утварэння мадэрнай этнічна дэфінаванай (etnicky definovaný) беларускай нацыі.

Галоўны перыяд, на працягу якога вырашаўся лёс беларускага працэсу нацыяфармавання, па меркаванні аўтара, – перыяд так званай беларусізацыі 20-х г. XX ст. Само па сабе такое сцверджанне, вядома ж, не ёсць чымсьці новым, хоць і не ўсе даследчыкі яго падзяляюць. Новай, па нашым меркаванні, з'яўляецца спроба не абмяжоўвацца

рамкамі патрыятычнага захаплення, не рабіць маралізатарскіх высноваў, а супастаўляць нацыянальную дзейнасць, а таксама праект сучаснай нацыі з аб'ектыўнымі ўмовамі і перадумовамі, што склаліся ў рэальным грамадска-палітычным кантэксце свайго часу.

З шырокага дыяпазону ўсёй дзейнасці, якая адносіцца да такога ж шырокага паняцця "беларусізацыя", аўтар абрала дзве тэмы: прасоўванне беларускай мовы ў галіне нацыянальнай адукацыі, звязанае з умацаваннем беларускай ідэнтычнасці, і пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў дзяржаўнай сферы, г. зн. сферы дзяржаўных установаў і арганізацый.

Карпатлівая рэканструкцыя спробаў укаранення беларускай мовы ў адміністрацыйную сферу, а таксама ў партыйную вертыкаль засноўваецца на вывучэнні адміністрацыйных крыніц. Рэканструкцыя ўзнаўляе вартую ўвагі карціну не толькі вельмі слабой беларускай нацыянальнай свядомасці адукаванай меншасці насельніцтва, але і дэманструе шчырае імкненне нешматлікай групы беларускай нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі пашырыць сферу выкарыстання новай мовы ў грамадскім дыскурсе. Дадзеная сітуацыя ўскладнялася з самага пачатку тым, што нацыянальна арыентаваная інтэлігенцыя павінна была адмяжоўвацца ад таго падазрэння, што ў духу "буржуазнага нацыяналізму" яе перавагі аддаюцца нацыянальнаму, а не класаваму прынцыпу.

Аўтар выкарыстала не толькі пісьмовыя матэрыялы, якія дакументуюць саму беларусізацыйную дзейнасць, але і высновы праверак, што рэгулярна кантралявалі яе эфектыўнасць. Нават тады, калі патрабаванне валодання беларускай мовай і пераводу на яе ўсяго справаводства заставалася ў сіле, частыя праверкі дэманстравалі, што дзяржаўныя службоўцы ўсё яшчэ размаўлялі пераважна па-руску не толькі паміж сабой, але і аддавалі перавагу гэтай мове пры зносінах са сваім атачэннем. Гэта тлумачылася тым, што для большасці службоўцаў беларуская мова не была роднай. І звязана гэта было не толькі з тым, што яшчэ нядаўна ў царскай Расіі гарадская адміністрацыя складалася пераважна з рускіх па нацыянальнасці службоўцаў, але таксама і з тым, што гарадское асяроддзе, з якога паходзіла большасць інтэлектуальных эліт, не

было этнічна беларускім, а пачынальнікі беларусізацыі не мелі дастатковага часу для падрыхтоўкі кадраў з мясцовага беларускага (пераважна сельскага) насельніцтва.

Самы падрабязны, як і, па нашым меркаванні, самы выніковы – раздзел пра нацыянальную палітыку ў галіне народнай асветы і адукацыі. Спачатку аўтар асвятляе праблематыку пачатковых школ, дзе галоўнай задачай была спроба пераканаць сялянства ў тым, што агульнадзяржаўная кампанія па ліквідацыі непісьменнасці павінна праходзіць на беларускай мове. Дасягнуць гэтай мэты было вельмі няпроста, бо вялікая частка сялян лічыла рускую мову адзінай літаратурнай мовай, а значыць, і мовай, якая адкрые іх дзецям шлях да патэнцыйнага ўзыходжання па сацыяльнай лесвіцы.

Спробы беларусізаваць сярэднюю прафесійную і вышэйшую адукацыю звычайна сутыкаліся з тым, што большасць выкладчыкаў, якія прыйшлі ў гэтыя ўстановы пасля рэвалюцыі, не валодалі беларускай мовай. Гэтая сітуацыя, тым не менш, істотна змянілася на працягу некалькіх наступных гадоў, калі асноўная маса выкладчыцкіх кадраў пачала пераходзіць да выкладання па-беларуску. Найболей паспяховай беларусізацыя была на педагагічных факультэтах.

Заслугоўвае ўвагі шосты раздзел, прысвечаны нацыянальнаму зместу школьнай праграмы, які можна ўзнавіць, аналізуючы змест новых беларускіх падручнікаў, асабліва па такіх дысцыплінах, як гісторыя, геаграфія і літаратура. Надзвычай цікавы аналіз нацыяналізаванай канцэпцыі беларускай гісторыі, якая цесна пераплятаецца з гісторыямі суседніх народаў – Польшы, Літвы і Расіі. Мы не збіраемся пераказваць тут фактаграфію, сабраную аўтарам кнігі. Спынімся канкрэтна на тых прынцыпах і метадах, якія, па нашым меркаванні, найболей важныя і выніковыя. Найперш неабходна зазначыць, што аўтар не проста апісвае саму беларусізацыю 20-х г., а змяшчае асобныя звесткі ў агульны кантэкст палітычных і сацыяльных узаемасувязяў. Важна і тое, што аўтар пры гэтым зыходзіць з аналізу прычын пачатку беларусізацыі, г. зн. аналізу нацыянальнай палітыкі маладой савецкай дзяржавы і матывацыі яе правядзення. Пры гэтым аўтар не абмяжоўваецца павярхоўным клішэ аб прапагандысцкіх мэтах, а імкнецца зразумець матывацыю і “свет ідэй-

ных перакананняў" пачынальнікаў савецкай нацыянальнай палітыкі ўвогуле і палітыкі беларусізацыі ў прыватнасці. Дадзенай праблематыцы працэсу прыняцця палітычных рашэнняў аўтар *à propos* прысвячае асобны раздзел. Пры гэтым апісвае ўсю ўнутраную супярэчлівасць той сітуацыі, у якой апынулася савецкая нацыянальная палітыка: з аднаго боку, падтрымка нацыянальнай культуры была прыярытэтам тых прадстаўнікоў савецкай палітыкі, якія адмовіліся ад "велікарускага" інтэрнацыяналізму, які ў духу Розы Люксембург падтрымліваўся Бухарыным, Пятаковым і інш. З другога боку, у выніку правядзення нацыянальнай палітыкі фармаваўся той пласт мясцовай нацыянальнай інтэлігенцыі, які патэнцыйна саслабляў цэнтралістычныя асновы ўлады.

Самыя ўдалыя, па нашым меркаванні, тыя раздзелы кнігі, якія прысвечаны ролі школьнай адукацыі, г. зн. ролі пачатковых, сярэдніх прафесійных і вышэйшых навучальных устаноў. Аўтар разглядае барацьбу з непісьменнасцю і аналізуе яе вынікі, адначасова звяртае ўвагу на тое, што навучанне ў школах з беларускай мовай выкладання часта было малапрывабным. Вельмі цікавы, як ужо згадвалася, аналіз новых падручнікаў, асабліва падручнікаў па гісторыі, паколькі гістарычна дасведчаныя стваральнікі нацыянальнай ідэнтычнасці толькі тады пачыналі шукаць і апісваць сваё мінулае, сваю "нацыянальную прастору", а значыць, і сваё "агульнае прызначэнне". Канцэпцыя нацыянальнай гісторыі ўзнікала адначасова з беларускай нацыянальнай навукай. У гэтым сэнсе беларускі нацыянальны рух у еўрапейскім кантэксце (разам з сербскім ці басконскім) належыць да тых нешматлікіх выпадкаў, калі фаза A "навуковага інтарэсу" інтэнсіўна развівалася толькі разам з наступленнем нацыянальнай агітацыі (г. зн. фазы B) і ў цесным узаемадзеянні з ёю. Само сабой зразумела, што такая акалічнасць паўплывала і на сам характар праграмы нацыянальнага руху.

Неабходна пытацца не толькі пра тое, што новага мы даведваемся з кнігі. Вялікае значэнне мае тое, якое месца займае кніга ў шырокім даследчым кантэксце, які ўнёсак робіць яна ў шырэйшае абагульненне ўзаемасувязяў у вывучэнні нацыянальных рухаў. Адна з галоўных высноваў, да якіх прыходзіць аўтар, – сцверджанне пра тое, што непаспяхо-

васць палітыкі беларусізацыі мела вырашальную ролю пад час фармавання беларускай нацыі. Ці азначае гэта, што няўдача была ўжо загадзя наканавана ўмовамі, якія папярэднічалі яе развіццю? З пункту гледжання перыядызацыі еўрапейскіх нацыянальных рухаў беларускі рух пачаўся са значным спазненнем па часе. Нацыянальны рух беларусаў узнікаў на парозе XX ст., а ў час Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіўся на пачатку сваёй агітацыйнай фазы (фазы B нацыянальнай агітацыі). Афіцыйнае прызнанне беларусаў як нацыі і наступная савецкая беларусізацыя не толькі значна садзейнічалі развіццю нацыянальнага руху, але і адкрывалі магчымасць масавага прыняцця беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. Гаворка, аднак, ішла толькі пра патэнцыйную, тэарэтычную магчымасць, якая сёння рэтраспектыўна аналізуецца сучаснымі даследчыкамі. Але ці была гэтая магчымасць сапраўды рэальнай? Працэс фармавання нацыі ў такой сітуацыі нельга ахарактарызаваць як непазбежны: пра непазбежнасць можна гаварыць толькі тады, калі нацыянальны рух ужо ўвайшоў у сваю масавую фазу (фазу C). У беларускім жа выпадку нацыянальны рух, безумоўна, не знаходзіўся ў гэтай фазе. Непаспяховасць дадзенага працэсу, звязанага з непаспяховасцю нацыянальнай агітацыі, перашкодзіла наступнай рэалізацыі гэтай магчымасці.

Як вынікае з кнігі А. Маркавай, гэтая няўдача не была выклікана толькі пачаткам сталінскіх рэпрэсій, а мела глыбейшыя перадумовы, якія палягалі ў нізкім узроўні не толькі нацыянальнай, але і беларускай этнічнай ідэнтычнасці, пачынаючы з папярэдніх дзесяцігоддзяў і канчаючы пачаткам савецкай эры. Такім чынам, кніга не толькі робіць істотны ўнёсак у вывучэнне аднаго з найважнейшых перыядаў беларускай гісторыі, але і дзякуючы дасведчанаму тэарэтычнаму падыходу аўтара прымушае задумацца пра такія агульныя праблемы працэсаў нацыяфармавання, як роля палітычных рашэнняў, сацыяльнай камунікацыі і ўзроўню агульнай адукацыі насельніцтва. На гэтыя пытанні рэцэнзаваная кніга адказвае толькі часткова: хутчэй падштурхоўвае да разважанняў і да іх пастаноўкі.

Пяройдзем да агульных высноваў, якія робяцца відавочнымі з праведзенага А. Маркавай даследавання. Яны

з’яўляюцца каштоўным эмпірычным унёскам у дыскусію паміж “канструктывісцкай” і “перэніялістычнай” канцэпцыямі фармавання сучасных нацый. Па нашым глыбокім перакананні, гісторыя і лёс беларусізацыі ў гэтым сэнсе – і пры гэтым незалежна ад намераў аўтара – даюць аргументы супраць абедзвюх гэтых канцэпцый. Беларусізацыя – эмпірычны прыклад не толькі таго факта, што нацыя не была “адвечнай” катэгорыяй, але і таго, што яе нельга было “сканструяваць” у адпаведнасці з ідэалістычнымі ўяўленнямі “нацыяналістаў”. Іншымі словамі, фармаванне сучаснай нацыі залежала як ад суб’ектыўных высілкаў адраджэнцаў (а таксама ад іх уціску), так і ад аб’ектыўных фактараў і ўзаемасувязяў. Там, дзе аб’ектыўныя фактары нацыянальнай інтэграцыі не былі развіты ў дастатковай ступені, вонкавага ўмяшання ў выглядзе палітычных рэпрэсій, накіраваных на прадстаўнікоў і ўдзельнікаў нацыянальнай агітацыі, было цалкам дастаткова не толькі для таго, каб спыніць пераход нацыянальнага руху да яго масавай фазы, але нават і для таго, каб была дыскрэдытавана тагачасная мадэль нацыянальнай ідэнтычнасці.

Неабходна згадаць і іншую заслугу манаграфіі: кніга з’яўляецца ўнёскам у даследаванне фактараў, якія ўплываюць на раўнавагу паміж імкненнем да стабільнасці і адначасова дэстабілізацыі бальшавіцкай дыктатуры пралетарыяту. Барацьба за беларусізацыю была па сваёй сутнасці адначасова барацьбой за новую нацыянальную ідэнтычнасць. Адсюль пытанне: што для савецкай дзяржавы азначала б патэнцыйная перамога ў гэтай барацьбе? Наколькі слушнымі былі асцярогі камуністычнай партыі наконт таго, што стабільнасць савецкай дзяржавы магла быць пахіснутая пры магчымым паспяховым фармаванні нацый на яе этнічных ускраінах? Жорсткасць ліквідацыі гэтых “нацыяналізмаў”, вядома ж, можна назваць сталінскай самаўпраўнасцю, але пры гэтым не аспрэчваецца тая асцярога, што іх патэнцыйны поспех мог дэстабілізаваць дыктатуру пралетарыяту. Але тут мы пераходзім да пастаноўкі такіх пытанняў, адказаць на якія павінны ўжо іншыя даследчыкі.

Прага *Міраслаў Грох*

## SHORE, MARCI. The Taste of Ashes. The Afterlife of Totalitarianism in Eastern Europe. New York: Crown Publishers, 2013. 370 p.

Кніга амерыканскай даследчыцы Марсі Шор мае назву “Смак попелу. Жыццё пасля таталітарызму ва Усходняй Еўропе”. Назва сімвалічная, бо адлюстроўвае сутнасць разліку з сацыялістычным мінулым. Гаворка ідзе пра такія краіны былога “сацыялістычнага лагера”, як Польшча, Чэхаславакія, Венгрыя, Румынія.

Ва ўводзінах Марсі Шор адзначае, што яе праца – вынік назіранняў пад час знаходжання ў апісваных краінах і камунікавання з людзьмі розных нацыянальнасцяў, узроставых і сацыяльных груп, а таму суб’ектыўная. Кніга напісана ў публіцыстычнай манеры, але заўвагі і высновы аўтара, як падаецца, будуць вельмі карыснымі для даследчыкаў усходнееўрапейскага рэгіёна. Упэўнена, не ўсім сацыяльным і палітычным групам у разгляданых краінах яны спадабаюцца. Але гэта зусім іншая гісторыя. Гісторыя, якая ўпісваецца ў калектыўную, культурную памяць ці гістарычную палітыку.

Маючы добрую навуковую базу і размаўляючы з людзьмі, назіраючы за іх паводзінамі ў розных абставінах, сітуацыямі ў паўсядзённым жыцці, Шор паспрабавала выявіць пэўныя міфы і іх вытокі ва ўспрыманні сацыялістычнага мінулага ў краінах Усходняй Еўропы і дэканструяваць іх. У пераважнай большасці выпадкаў яна гэта робіць вельмі пераканальна і на розных крыніцах, хоць фармальна спасылак не дае.

Якія праблемы закранае даследчыца? Іх шмат: Халакост, польска-яўрэйскія адносіны, паўстанне ў Варшаўскім гета (1943) і Варшаўскае паўстанне 1944 г., захапленне камунізмам пасля Другой сусветнай вайны, развіццё дысідэнцкага руху ў Чэхаславакіі і стаўленне да яго ў грамадстве да і пасля 1989 г., адносіны розных пакаленняў да рэвалюцыі 1989 г. і пераменаў пасля яе, люстрацыя, актывізацыя нацыяналізму, праблема неафашызму ў сучасным грамадстве і інш. Уздымаюцца ў кнізе і праблемы экзістэнцыяльнага характару, у першую чаргу пошуку чалавекам сябе ў новым, постсацыялістычным грамадстве ці ў эміграцыі.

Чытачу, які павярхоўна ведае пасляваенную гісторыю краін Усходняй Еўропы, будзе лёгка зарыентавацца ў падзеях, бо на самым пачатку М. Шор вылучае пэўныя этапы ў развіцці краін сацыялістычнага блока і дае іх характарыстыку. Аўтар ставіць пытанне пра прычыны захаплення камунізмам і шукае адказ у падзеях Другой сусветнай вайны (134). Даследчыца адзначае, што яе суразмоўцы-чэхі акцэнтавалі ўвагу на двух момантах: папершае, у канцлагерах камуністы паводзілі сябе вельмі годна і высакародна – "былі лепшымі людзьмі" (101, 115), а па-другое, вызваленне прыйшло менавіта з боку Чырвонай Арміі, якая прынесла як свабоду, так і жыццё. Праўда, пры гэтым, лічыць аўтар, многія жыхары Усходняй Еўропы не зразумелі, выйгралі ці прайгралі яны вайну, бо пасля яе заканчэння прыйшоў час сталінізму (9). Зразумела, Шор называе не ўсе прычыны, што паўплывалі на выбар людзей на карысць камуністычнай ідэалогіі, але, магчыма, ва ўмовах маральнай дэградацыі грамадства і стомленасці ад вайны менавіта гэтыя былі галоўнымі. Што датычыцца маладога пакалення, якое актыўна ўключылася ў будаўніцтва новага грамадства пасля вызвалення, то для яго, на думку аўтара, знакавай, пераломнай падзеяй стала Мюнхенская канферэнцыя 1938 г. – заходнія краіны прадалі Чэхаславакію нацысцкай Нямеччыне, а Чырвоная Армія вызваліла краіну (114).

Разбіраючыся ў асаблівасцях жыцця ва ўмовах акупацыі, даследчыца выходзіць на праблему адносінаў мясцовага насельніцтва і Руху Супраціўлення да яўрэяў. Яна спрабуе не дакументальна разабрацца (хоць з тэксту відаць яе добрае веданне прадмета), а пагаварыць з людзьмі, пачуць іх уражанні і адчуванні і пры гэтым захаваць аб'ектыўнасць ва ўспрыманні і асэнсаванні атрыманай інфармацыі. У кнізе неаднаразова адзначаюцца вельмі няпростыя адносіны паміж палякамі і яўрэямі, чэхамі і яўрэямі, назіраецца спроба разабрацца ва ўзаемаадносінах унутры вельмі разнастайнага яўрэйскага асяроддзя, дзе было і застаецца шмат канфліктаў. Разглядаючы гэтыя праблемы, аўтар згадвае ў тым ліку рэакцыю на кнігі Яна Гроса "Суседзі" і "Страх", а таксама дыскусію,

якая разгарнулася вакол гэтых кніг (у першым выпадку пра забойства палякамі яўрэйскага насельніцтва мястэчка Едвабнэ ў ліпені 1941 г., у другім – польска-яўрэйскія адносіны ў першыя пасляваенныя гады). На гэтым фоне Шор выходзіць на праблему антысемітызму ў Польшчы.

Аўтар адзначае дваістасць названай праблемы. З аднаго боку, адсутнасць у сучаснага маладога пакалення яўрэяў ведаў пра дапамогу іх суродзічам з боку Руху Супраціўлення і простых людзей у гады Другой сусветнай вайны і акцэнтаванне ўвагі толькі на негатыўных момантах ва ўзаемаадносінах прыводзіць да негатыўнага стаўлення да палякаў і абвінавачванняў іх у антысемітызме (тут дадаюцца прыклады з пасляваеннага развіцця краіны – пагром 1946 г. у Кельцах, антысіяніСцкая кампанія 1968 г. і інш.). З другога боку, зазначае аўтар, у сучаснай Польшчы можна назіраць вялікую колькасць праяў антысемітызму, у тым ліку ў выглядзе надпісаў на сценах будынкаў, але гэта не дазваляе абвінавачваць усіх жыхароў у дрэнным стаўленні да яўрэяў.

Разглядаючы падзеі Другой сусветнай вайны, Шор коратка згадвае Варшаўскае паўстанне. Зразумела, што найбольш вострымі праблемамі тут выступаюць мэтазгоднасць пачатку выступлення і магчымасць Чырвонай Арміі дапамагчы паўстанцам. Даследчыца справядліва заўважае, што ва ўмовах адсутнасці дыпламатычных адносінаў паміж польскім урадам у эміграцыі і савецкім урадам пытанне ўзаемадзеяння Арміі Краёвай і Чырвонай Арміі было палітычным. Яшчэ ў траўні 1944 г. У. Чэрчыль гаварыў польскаму прэм'ер-міністру С. Мікалайчыку пра неабходнасць дамаўляцца з СССР (155). З іншага боку, піша Шор, польскі ўрад добра ведаў пра негатыўнае і нават варожае стаўленне Чырвонай Арміі да Арміі Краёвай, а таму наўрад ці мог дамовіцца пра ўзаемадзеянне і дапамогу. З гэтым можна пагадзіцца, але адказу на прычыны такіх адносінаў у кнізе мы не знойдзем. Як і не знойдзем адказу на пытанне, чаму Чырвоная Армія, атрады якой стаялі "на другім беразе *вузкай* (вылучана намі. – *Л. К.*) ракі", не дапамагла паўстанцам? Трэба адзначыць, што ўспрыманне Шор Віслы як "вузкай ракі" (155, 156) вельмі

суб'ектыўнае, тым больш калі гаворка ідзе пра баявыя дзеянні. Аўтар адкрыта не абвінавачвае кіраўніцтва СССР і Чырвонай Арміі ў бяздзеянні пад час паўстання, аднак ускосна гэта вынікае з тэксту.

Два вызначальныя гады вылучае Шор у развіцці сацыялістычных краін – 1956 год (XX з'езд КПСС, выступленні ў Польшчы і Венгрыі) і 1968 год ("Пражская вясна" ў Чэхаславакіі, студэнцкія хваляванні і антысіяністсцкая кампанія ў Польшчы). Аўтар адзначае, што пасля 1968 г. у ЧСФР было "нібы" жыццё: ніхто больш не верыў у камунізм і "ніхто, нават тыя, хто быў пры ўладзе, больш не верылі, што хтосьці верыць у камунізм" (29). Такім чынам, лічыць Шор, надышоў канец марксізму, бо "нармалізацыя" азначала дагматызм, цэнзуру і ціск сталінскіх часоў, але без тэрору (31).

Апісваючы перыяд 1970–1980-х г., аўтар згадала добра вядомую не толькі ў краінах Усходняй Еўропы, але і ў СССР фразу "Мы робім выгляд, што працуем, а яны – што плацяць нам" (16), якая, як падаецца, вельмі трапна адлюстроўвае настроі тагачаснага грамадства. Магчыма, з гэтага "нібы жыцця" часткова і вынікае разгубленасць грамадства пасля ліквідацыі сацыялістычнага ладу, непрыстасаванасць да жыцця ў новых умовах і па новых правілах.

Значнае месца ў кнізе адводзіцца пытанню фармавання і дзейнасці апазіцыйнага руху ў краінах Усходняй Еўропы. Калі ў Польшчы яго афармленне адбывалася дастаткова хутка, а сам рух быў масавы, то ў Чэхаславакіі сітуацыя была іншай. Традыцыйна тут гаворка ідзе пра "Хартыю 77", міф якой пастаянна фармуецца і падсілкоўваецца ў сучасным чэшскім грамадстве. М. Шор справядліва адзначае ў пэўным сэнсе выпадковы характар стварэння гэтага аб'яднання, якое па сваёй сутнасці не было антымарксісцкім. Яно не выступала за рэстаўрацыю капіталізму ці ўсталяванне шматпартыйнай сістэмы, не прапаноўвала альтэрнатыўнай палітычнай сістэмы. Адзіным яго патрабаваннем да ўрада было патрабаванне жыць па законе. І гэта пры тым, што дысідэнты выразна імкнуліся быць "апалітычнымі" і пераважна цікавіліся праблемамі экзістэнцыялізму. Яны не былі падрыхтаваныя ні да рэвалюцыі 1989 г., ні да жыцця ў новых палітычных умовах. Нават у 1989 г. Вацлаў

Гавэл не хацеў ісці ў палітыку і гаварыў, што яго больш цікавяць праблемы чалавечага існавання (26, 34).

Якім было стаўленне грамадства да членаў “Хартыі 77”? Найбольш трапны, нам падаецца, адказ даюць прыведзеныя даследчыцай словы чэшскага філосафа Ладзіслава Гейданэка: «Большасць людзей глядзела на дысідэнтаў як на “неразумных людзей, якія адкрыта гавораць тое, што і так усе ведаюць”» (27).

Цікавае назіранне М. Шор за рэакцыяй на перамены, якія адбыліся пасля рэвалюцыі 1989 г. Старэйшае пакаленне ўспрыняло іх калі не абыякава, то негатыўна. Аўтар згадвае сваіх знаёмых чэхаў, якія “ведалі адно: у параўнанні з цяперашнім становішчам камунізм быў лепшым для іх… Аксамітная рэвалюцыя прынесла ім свабоду, якой яны не патрабавалі. …Усё сваё жыццё яны працавалі ва ўмовах камуністычнага рэжыму, які абяцаў, што паклапоціцца пра іх у старасці. Цяпер іх сацыяльны кантракт быў разарваны. Для іх пакалення рэвалюцыя прыйшла вельмі позна” (70). Але ж і маладое пакаленне адчувае расчараванне: “Сістэму разбурылі, а людзі засталіся тыя ж” (56), “не можа быць дэмакратыі з людзьмі, якія маюць камуністычную ментальнасць” (92).

Шмат увагі ў кнізе аддаецца такім паняццям, як калектыўная памяць і гістарычная палітыка, хоць яны і не з’яўляюцца непасрэдным прадметам вывучэння даследчыцы. На розных прыкладах аўтар паказвае як маніпуляцыі камуністычных уладаў, так і імкненне розных сацыяльных і палітычных груп забыць або выкрасліць з гісторыі пэўныя факты, абяліць ці ачарніць тых ці іншых дзеячоў. Сярод прыкладаў “забыцця” ў сучасным чэшскім грамадстве мы бачым масавую падтрымку камуністаў у пасляваеннай Чэхаславакіі (сведчанне гэтага – вынікі парламенцкіх выбараў 1946 г., выступленні прыхільнікаў пад час камуністычнага перавароту ў лютым 1948 г. і інш.), пераход відных дзеячоў з лагера вестуноў камунізму ў апазіцыйны ці дысідэнцкі лагер (сёння мала хто любіць узгадваць гэты эпізод у сваёй біяграфіі). З іншага боку, у Славакіі мы маем ідэалізацыю рэжыму Ё. Ціса ў гады Другой сусветнай вайны, а ў Румыніі – Жалезнай гвардыі міжваеннага

перыяду. І такіх прыкладаў значна больш. На фоне такой гульні з памяццю не выпадкова ўзнікаюць дыскусіі па пытанні люстрацыі,назіраецца рост нацыяналізму і неафашызму, абвастрэнне міжнацыянальных супярэчнасцяў.

Зразумела, што ў сучасным грамадстве ў той ці іншай форме ідзе барацьба за памяць. Прывядзем яшчэ адзін прыклад з кнігі М. Шор – святкаванне 9 траўня ў Чэхіі. Дзень вызвалення заўсёды быў камуністычным святам, цяпер “кожны імкнецца забыцца, што менавіта салдаты Чырвонай Арміі вызвалялі Прагу, і памятае, што амерыканскія войскі вызвалілі Плзень, што за паўтары гадзіны язды на захад” (80).

Кніга Марсі Шор змяшчае вялікую колькасць разнастайных прыкладаў з жыцця пад час і пасля таталітарызму. Усе іх не апісаць – кнігу трэба чытаць. Яна дазваляе ў значнай ступені зразумець псіхалогію сучаснага ўсходнееўрапейскага грамадства, разабрацца ў некаторых хітраспляценнях гісторыі краін Усходняй Еўропы і яе інтэрпрэтацыях.

Мінск *Любоў Козік*

## WÜNSCH, THOMAS. Deutsche und Slawen im Mittelalter: Beziehungen zu Tschechen, Polen, Südslawen und Russen. München: R. Oldenbourg, 2008. 188 s.

Манаграфія нямецкага даследчыка Томаса Вюнша, прафесара Пасаўскага ўніверсітэта, ставіць перад сабой задачу агляду ўзаемаадносінаў і ўзаемаўплываў нямецкага і славянскага светаў у перыяд Сярэднявечча. Задача гэтая як цікавая, так і складаная, бо хавае ў сабе небяспеку ператварыць кнігу ў груваскі гістарыяграфічны агляд. Такая небяспека была відавочная і самому аўтару, пра што сведчаць ужо першыя старонкі кнігі, прысвечаныя метадалогіі даследавання. Аўтар бачыць выйсце з гэтага становішча ў пошуку новых падыходаў, новых тэм,

новых спосабаў разгляду гістарычнага матэрыялу. Такім чынам, кніга ўяўляе сабой своеасаблівы метадалагічны эксперымент: спробу знайсці даследчы фармат, у якім будзе магчымы як аналіз канкрэтыкі білатэральных узаемаадносінаў (нямецка-польскіх, нямецка-чэшскіх і інш.), так і выяўленне асноўных характарыстык “культурнай сустрэчы” немцаў і славян, якая адбылася ў Сярэднявеччы. Менавіта гэтая “сустрэча” і з’яўляецца прадметам разгляду, а ў якасці суб’ектаў узаемаадносінаў выступаюць не краіны, а народы – немцы, палякі, чэхі і г. д.: свядомы акцэнт на гэтым зроблены ў самой назве кнігі і назвах яе асобных частак.

З першых старонак кнігі Томас Вюнш дэкларуе імкненне выйсці з вузкіх рамак нацыянальных наратываў (“гісторыя Нямеччыны”, “гісторыя Польшчы”, “гісторыя Расіі” і г. д.) і нацыянальна арыентаваных гістарыяграфій, кожная з якіх вывучае “сваю гісторыю”. Пры такім падыходзе адбываецца штучнае абмежаванне тэматыкі даследавання: некаторыя сюжэты апынаюцца “на сумежжы” гістарыяграфічных традыцый і застаюцца па-за ўвагай даследчыкаў, якія мяркуюць, што дадзеныя сюжэты праходзяць “не па іх ведамстве”. Асабліва негатыўна такая сітуацыя ўплывае на вывучэнне гісторыі Усходняй Еўропы ў перыяд Сярэднявечча, калі просталінейная праекцыя ў мінулае сучасных палітычных рэалій хавае ад даследчыкаў працэсы, якія прынцыпова не павінны зводзіцца да гісторыі (ці перадгісторыі) сучасных дзяржаў. Можна толькі вітаць і іншы прынцыповы намер аўтара: дапоўніць “заходні вектар” нямецкай медыявістыкі “ўсходнім вектарам” – узаемаадносінамі з краінамі і народамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Сучасны нямецкі медыявіст павінен адчуваць сябе ўтульна не толькі ў гісторыі Італіі, Францыі ды Іспаніі, але і ў гісторыі Чэхіі, Польшчы і Расіі, піша Томас Вюнш у прадмове (VIII).

Абвешчаная канцэптуальная пазіцыя аўтара атрымлівае развіццё ў змястоўнай частцы працы, якая складаецца з двух раздзелаў: “Чэхі, палякі і немцы” і “Паўднёвыя славяне, рускія і немцы”. Тут аўтар ідзе па шляху

строгай сістэматызацыі, якая дазваляе яму выбудаваць шматузроўневую сістэму аналізу гістарычнага матэрыялу. Гэты метад выразна выяўлены ў раздзеле “Чэхі, палякі і немцы” (другая частка структуравана падобным чынам, але мае менш раздзелаў). Спачатку аўтар вызначае суб’екты ўзаемадзеяння, у дадзеным выпадку гэта Нямеччына, Польшча і Чэхія, даючы агульны нарыс іх палітычнай гісторыі (1. “Дыяпазон і профіль культурнай сустрэчы”), а таксама месцы фіксацыі інфармацыі: пісьмовыя крыніцы, археалагічныя помнікі і г. д. (2. “Артыкуляцыя сустрэчы”). Затым звяртаецца да “Прасторы сустрэчы” (3), у межах якой асобна разгледжаны палітыка (3.1), сельскія паселішчы і ландшафт (3.2; тут акцэнт зроблены на сельскай каланізацыі і ўзнікненні зон змешанага рассялення), горад і права (роля немцаў і “нямецкага права” ў гарадах Усходняй Еўропы; 3.3), гандаль (3.4), навука і “тэхнічная літаратура” (3.5; цэнтры сярэднявечнай навукі: кляштары, універсітэты і г. д.; сярэднявечныя інтэлектуалы і іх спадчына), літаратура (3.6), мастацтва (3.7), рэлігія (хрысціянізацыя і развіццё царкоўнай структуры; 3.8), “суседства” (кантакты, канфлікты, дынастычныя сувязі; 3.9) і мова (3.10; узаемаўплыў нямецкай і славянскіх моў, пераход на мову суседзяў і г. д.). Далей аналізуюцца “Формы і наступствы сустрэчы”, у якія ўключаны міграцыя (4.1), інтэграцыя і сегрэгацыя (гістарычны лёс нямецкай меншасці ў Польшчы і Чэхіі; 4.2) і ўзаемнае ўспрыманне (вобраз суседзяў у гістарычных творах Сярэднявечча; 4.3). Вынікі аналізу падсумоўваюцца ў асобным параграфе (5. “Памеры ўзаемнага ўплыву”).

Такі падыход варта прызнаць надзвычай удалым. Ён дазваляе аўтару звярнуцца да вельмі шырокага спектра праблем і ў той жа час не страціць логіку выкладу ў лабірынтах падзейнай гісторыі і гістарыяграфічных падыходаў. Выразная пастаноўка даследчыцкіх задач і пастаянная метадалагічная рэфлексія, на наш погляд, – наймацнейшыя бакі кнігі Томаса Вюнша. Разнастайнасць разгляданых тэм і сюжэтаў сведчыць пра бліскучую эрудыцыю аўтара і свабоднае валоданне ім гістарыяграфіяй

краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У выніку кніга робіцца не толькі шырокай абагульняльнай карцінай нямецка-славянскіх кантактаў, але і выдатнай магчымасцю для "ўваходжання ў праблематыку" пры вывучэнні мноства асобных сюжэтаў усходнееўрапейскага Сярэднявечча. Гэтая магчымасць асабліва каштоўная ва ўмовах самаізаляцыі нацыянальных гістарычных школ, якая назіраецца сёння ва Усходняй Еўропе.

Бывае, што недахопы навуковай працы апынаюцца адваротным бокам яе добрых якасцяў. Строгая схематызацыя дазволіла аўтару выбудаваць каркас для шматузроўневага аналізу нямецка-славянскай "культурнай сустрэчы", але пры гэтым у многіх выпадках абмежавала праблемнае поле даследавання. Шкада, што аўтар адмовіўся ад разгляду рэгіёна *Germania Slavica* – абласцей ранняй нямецкай каланізацыі (Сілезія, Памеранія і інш.), тым больш што Сілезіі прысвечаны многія яго навуковыя працы. Па фармальных прыкметах засталіся па-за межамі даследавання і тэрыторыі нямецкага рассялення ў неславянскім асяроддзі (Прыбалтыка, Венгрыя і інш.). Гэта асабліва прыкра ў выпадку Лівоніі: цяжка, больш за тое – немагчыма ставіць пытанне пра ўзаемаадносіны немцаў і ўсходніх славян у перыяд Сярэднявечча без аналізу ролі нямецкай Лівоніі як "акна ў Еўропу" для вечавых рэспублік Ноўгарада і Пскова, а затым і Маскоўскай дзяржавы. Падобную ролю для Вялікага Княства Літоўскага выконвала Прусія: у цені працяглага ваеннага супрацьстаяння і эпахальнай Грунвальдскай бітвы 1410 г. апынулася тая акалічнасць, што Тэўтонскі ордэн быў для Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага не толькі супернікам, але і правадніком культурных інавацый. У выніку суб'ектамі ўзаемаадносінаў з нямецкім светам ізноў апынуліся перадусім сярэднявечныя славянскія дзяржавы – Русь, Польшча, Чэхія, Балгарыя, Сербія, а памежныя сітуацыі і кантактныя зоны засталіся ў цені. Магчымым выйсцем з "дзяржавацэнтрычнай пасткі" можа стаць вызначаны аўтарам падыход па вылучэнні "мадэльных рэгіёнаў" (на прыкладзе *Rotreussen* – Чырвонай Русі; 116). Створаныя на тэрыто-

рыі гэтых рэгіёнаў культурныя мадэлі потым трансляваліся на больш шырокія прасторы. Такімі “мадэльнымі рэгіёнамі”, як ужо адзначалася, былі для ўсходніх славян Лівонія і Прусія. Даследаванні ў гэтым кірунку ўяўляюцца надзвычай перспектыўнымі.

Некаторыя заўвагі можна выказаць да структурнага падзелу кнігі. Наўрад ці магчыма ў межах невялікай часткі паўнавартасна разгледзець узаемаадносіны нямецкага свету з Руссю і паўднёвымі славянамі (103–128; для параўнання, “польска-чэшскі” раздзел мае ў тры разы большы памер: 11–101). Сярэднявечная гісторыя Русі – “рэч у сабе”, яна патрабуе больш разгорнутага фармату даследавання, а не беглага нарыса. У гэтай частцы манаграфіі аўтару бракуе апоры на вынікі даследаванняў сучасных расійскіх медыявістаў, якія вельмі актыўна звяртаюцца да вывучэння ўзаемаадносінаў Старажытнай Русі з суседзямі, у тым ліку і з нямецкім светам. Дастаткова назваць працу А. В. Назаранкі “Древняя Русь на международных путях” (2001), якая вывела на прынцыпова новы ўзровень даследавання ў гэтым напрамку. Верагодна, мэтазгодней было б разглядаць узаемаадносіны нямецкага свету з усходнімі і паўднёвымі славянамі ў асобных раздзелах, што дазволіла б больш выразна раскрыць спецыфіку гістарычнага развіцця гэтых рэгіёнаў славянскага свету, знайсці ў агульнай карціне месца і для гісторыі беларускіх і ўкраінскіх земляў.

Падсумоўваючы, варта яшчэ раз зрабіць акцэнт на двух асноўных даследчыцкіх поспехах аўтара: адмова ад вузкіх рамак нацыянальных наратываў (“гісторыя Нямеччыны”, “гісторыя Польшчы” і г. д.) на карысць шырокай карціны “культурнай сустрэчы” і стварэнне мадэлі шматузроўневага аналізу гістарычных узаемаадносінаў немцаў і славян. Канцэптуальны і метадалагічны эксперымент, здзейснены Томасам Вюншам, варта прызнаць паспяховым. Уяўляецца, што праца нямецкага даследчыка здольная стаць моцным імпульсам у галіне вывучэння нямецка-славянскіх сувязяў у перыяд Сярэднявечча.

Мінск *Аляксей Мартынюк*

# VERKHOLANTSEV, JULIA. Ruthenica Bohemica: Ruthenian Translations from Czech in the Grand Duchy of Lithuania and Poland. Wien; Berlin: Lit, 2008 (Slavische Sprachgeschichte. Bd. 3). 215 S.

Рэцэнзаваная праца належыць маладой даследчыцы, расійскай эмігрантцы з Масквы, якая ў 2004 г. абараніла ў Каліфарнійскім універсітэце (Лос-Анжэлес) кандыдацкую дысертацыю па тэме манаграфіі. Навуковым кіраўніком Верхаланцавай выступіў лінгвіст з сусветным імем, акадэмік РАН і РАЕН Вячаслаў Іванаў (цяпер выкладае ў ЗША). Праўда, раней ён не займаўся вывучэннем старажытнай мовы і пісьменства беларусаў і ўкраінцаў, але апошнім часам раптам звярнуў увагу і на гэтую сферу. Сведчаннем яго зацікаўленняў стаў пакуль адзіны аглядны артыкул пра моўную стракатасць ВКЛ, які тройчы публікаваўся (з неістотнымі адрозненнямі)[1].

Праца Ю. Верхаланцавай уяўляе сабой філалагічны аналіз чатырох перакладаў на старабеларускую / стараўкраінскую мову, выкананых з чэшскіх арыгіналаў. (Даследчыца абрала тэрмін *руськая* (Ruthenian) для наймення гэтай мовы (1, 2, 132), таму ён выкарыстоўваецца ў гэтай рэцэнзіі і далей.) Тры з гэтых перакладаў цяпер страчаны назаўжды і захаваліся толькі ў публікацыях:

[1] Иванов В. В. Славянские диалекты в соотношении с другими языками Великого княжества Литовского // Славянское языкознание: XIII Международный съезд славистов (Любляна, 2003). Доклады российской делегации. Москва, 2003. С. 258–288; Иванов В. В. Славянские диалекты в соотношении с другими языками Великого княжества Литовского // Русская антропологическая школа: Труды / ред. кол.: В. В. Иванов [и др.]. Москва, 2004. Вып. 1; Иванов В. В. Языки, языковые семьи и языковые союзы внутри Великого княжества Литовского // Speculum Slaviae Orientalis: Muscovy, Ruthenia and Lithuania in the Late Middle Ages = Московия, Юго-Западная Русь и Литва в период позднего средневековья / Eds.: V. V. Ivanov, J. Verkholantsev. Москва, 2005. С. 93–121 (UCLA Slavic Studies, New Series. Vol. 4).

візіянерская “Кніга пра Таўдала-Рыцара”, эсхаталагічная гісторыя пра Сівілу-прарочыцу, біблейная кніга Тобіяша (Товіта). У поўным аб’ёме (і ў арыгінале) дайшоў толькі адзін помнік, самы буйны з абраных – пераклад Песні Песням, які, праўда, неаднаразова даследаваўся ў навуцы (П. Уладзіміравым, А. Флароўскім, А. Жураўскім, А. Аляксеевым і інш.).

Філалагічны аналіз гэтых перакладных помнікаў, кожнага паасобку, вядзецца ў працы па наступных аспектах: чэшскі арыгінал, тэхніка перакладу (хібы перакладу, яго варыятыўнасць (дублеты і варыянты), памылкі) і датаванне; лінгвістычны аналіз вынесены ў асобны раздзел. На характарыстыку тэхнікі кожнага перакладу прыпадае толькі некалькі дзясяткаў прыкладаў. Аналіз суправаджаецца таксама разглядам літаратурнай гісторыі помнікаў (паходжанне, змест), што мае вагу для вызначэння арыгінала і даты перакладу. Раней рукапісы з гэтымі перакладамі звязвалі з XVI ст. ці нават з XVII ст., аднак Ю. Верхаланцава датуе іх сярэдзінай ці 2-й паловай XV ст. (140), усяляк імкнучыся ўдаўніць гэтыя помнікі, аднесці на больш раннія часы. Але яе доказы на гэты конт слабыя.

Праца складаецца з прадмовы (з падзякамі, што тыпова для англасаксонскіх манаграфій), уводзінаў (1–17), сямі аналітычных раздзелаў, аддзела канчатковых заўваг (148–152), пяці дадаткаў (публікацыі руськіх перакладаў з іх чэшскімі ці лацінскімі арыгіналамі або царкоўнаславянскімі паралелямі), багатай бібліяграфіі (191–205) і аж чатырох паказальнікаў: крыніц (206–208), прадметнага паказальніка (209–212), паказальніка імёнаў (213–214) і геаграфічных назваў (215). Гэтыя паказальнікі – значны апарат для кнігі, дзе аналізу невялікіх помнікаў прысвечана толькі пяць раздзелаў на 88 старонках.

Уводзіны маюць кідкі загаловак: “Lingua Ruthena in Polonia Usitata” – ён запазычаны з правіненцыі позняга часу на адным з рукапісаў “Пакутаў Хрыстовых” (1). Аднак такі загаловак не зусім удалы: можна падумаць, што даследчыца збіраецца гаварыць пра тыя руськія тэрыторыі (Галіччыны і Падолля ці (пасля Люблінскай уніі) усёй

Украіны), якія сапраўды ўваходзілі ў склад Польскага каралеўства. Аднак насамрэч ва ўводзінах яна гаворыць пра мову і пісьменства ўсяго ўсходнеславянскага насельніцтва ВКЛ і Рэчы Паспалітай (2). Шкада, што з Масквы (ці Лос-Анжэлеса) гэтая тэрыторыя ўсё яшчэ бачыцца толькі як “Polonia”. Аўтарка лічыць, што з канца XIV ст. Літва знаходзілася ў “палітычнай федэрацыі” з Польшчай (8), і гэта абумовіла рост ролі каталіцызму і польскай мовы. Апошняя, на яе думку, зрабілася ўплывовай мовай ва ўсіх сферах грамадскага жыцця ўжо напрыканцы XVI ст. (9). Даследчыца сцвярджае, што на працягу XV і XVI ст. паланізацыя ахапіла руськіх феадалаў, духавенства і заможнае мяшчанства (sic!), што польская мова карысталася ў русінаў высокім прэстыжам (9, 134). Але добра вядома, што ў XV ст. польская мова слаба ўжывалася ў пісьменстве самой Польшчы; якраз прэстыжнай (яшчэ ў 1-й палове XVI ст.!) там была (апрача лацінскай) чэшская мова (18–21, 137). Далей даследчыца абмяркоўвае моўныя погляды руськіх пісьменнікаў, разбіраючы шэраг цытат з некалькіх аўтараў канца XVI – XVII ст. (11–16). А чаму б не з XV стагоддзя, якому прысвечана манаграфія?

Першы раздзел (18–38) фактычна працягвае ўводзіны, але цяпер ён прысвечаны разгляду ролі чэшскай мовы ў моўнай гісторыі ВКЛ і Польшчы. Тут абмяркоўваецца прэстыж чэшскай мовы ў Польшчы, кантакты паміж чэхамі і русінамі, чэшскі ўплыў на мову галіцкіх грамат XIV–XV ст. і руськага перакладу Вісліцкага статута 1347 г., распаўсюджанне чэшскай Біблії ў ВКЛ. Нарэшце даследчыца пераходзіць да тэмы харвацкіх глагаляшаў (27–38): апісвае запрашэнне ў 1347 г. глагаляшскіх манахаў-бенедыктынцаў імператарам Карлам IV у Прагу, у Эмаўскі манастыр, дзе распачалася славянская літургія, перасяленне адтуль у 1380 г. часткі глагаляшаў у Алешніцу (Сілезія) па запрашэнні Конрада II, а ў 1390 г. і ў Кракаў (у манастыр на Кляпажы) па запрашэнні караля Ягайлы і яго першай жонкі Ядзвігі. Аднак славянская літургія ва ўсіх гэтых цэнтрах паступова заняпала, а глагаляшы або вярнуліся дадому, у Далмацыю, або паўміралі (36–37). Тым не менш, Ю. Верхаланцава (разам з некаторымі

іншымі даследчыкамі) лічыць, што місія глагаляшаў на гэтым не занікла, што яны ўсталявалі кантакты з праваслаўнымі русінамі, вынікам чаго і сталі даследаваныя ёю тэксты. Доказаў гэтаму ў яе ніякіх, апрача агульных меркаванняў накшталт таго, што пераклады “маглі быць звязаныя з глагалічнымі манахамі” і “могуць служыць тэкстуальным сведчаннем празелітычнай дзейнасці каталіцкіх глагаляшаў” (37, таксама 148–149). Пры адсутнасці лінгвістычных і гістарычных доказаў даследчыца спрабуе знайсці хоць нейкую падтрымку гэтых ідэй у самых нечаканых месцах. Напрыклад, яна абмяркоўвае фрэску тыбуртынскай Сібілы на адной са сцен Эмаўскага манастыра (82–84), хоць ніякай сувязі з рускім перакладам “Сівілы” гэта не высвятляе.

Заканамернае пытанне, чаму глагаляшы ў сваёй місіі абралі нейкія перыферыйныя творы і чэшскія (а не харвацкія) арыгіналы, чаму ў рускіх перакладах няма і следу харватызмаў[2], не атрымала ў працы адказу. Таксама, як і пытанне, чаму русіны, якія шмат перакладалі з польскай і нават лацінскай мовы, не маглі перакласці чатыры невялікія тэксты з чэшскай мовы (пар. аб’ёмныя і блізкія па часе (пачатак XVI ст.) выданні Скарыны, заснаваныя на значным уліку чэшскіх крыніц). І ўжо зусім загадка, чаму для нескладаных перакладаў (выкананых праваслаўнымі, с. 49–50, 89, 149) спатрэбіўся ўдзел нейкіх каталікоў-глагаляшаў з Прагі, якія, дарэчы, не пакінулі ніякіх уласных перакладаў на чэшскую ці польскую мову. Больш верагодна тлумачыць выкарыстанне рускімі перакладчыкамі 2-й паловы XV – 1-й паловы XVI ст. чэшскіх арыгіналаў менавіта прэстыжам чэшскай мовы ў тагачаснай Польшчы. Пасля таго як у сярэдзіне XVI ст. гэты прэстыж страчваецца, знікае цікавасць да чэшскіх крыніц і ў Беларусі ды Украіне.

[2] Скарачэнне ў рускіх помніках канчатка -*ого* / -*аго* як -*о*$^{г}$ / -*а*$^{г}$ – не харватызм (як мяркуе Ф. Мараш і з чым гатова пагадзіцца Ю. Верхаланцава, с. 47–48), а выпадковае супадзенне са скарачэннем -*о*$^{г}$ харвацкіх помнікаў, чаму спрыяе аднолькавая марфалагічная структура славянскіх ад’ектываў (пар. польск. *te*$^{o}$ < *tego*, *one*$^{o}$ < *onego*).

У другім раздзеле (39–51) аналізуецца рускі пераклад Песні Песням (ён знаходзіцца ў зборніку № 558 Сінадальнага збору Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве). Даследчыца пацвярджае ранейшую выснову А. Аляксеева пра Падэраўскую Біблію 1432–35 г. (т. зв. 3-й рэдакцыі) як арыгінал перакладу (хоць з яе прыкладаў (40) можна зразумець, што ён усё ж быў здзейснены з нейкага пазнейшага спіса гэтай Бібліі). Раней рускі рукапіс датавалі XVI ст. ці нават XVII ст., аднак у 1986 г. А. Турылаў аднёс яго ўзнікненне да канца XV ст. Філіграні паперы датуюцца 1460–80 гадамі (43, fn 6), спіс быў выкананы з нейкага антыграфа (43, 109), які Ю. Верхаланцава спрабуе датаваць аж 2-й чверцю ці сярэдзінай XV ст. (43–44). Аднак ён мог паўстаць і каля 1500 г.: зборнік змяшчае вызнанне веры мітрапаліта Іосіфа (напэўна, Балгарыновіча, пастаўленага ў 1497 г.). Асаблівую ўвагу даследчыцы прыцягнуў кантэкст рукапісу – у зборніку знаходзіцца шэраг перакладаў на рускую мову (жыцце Аляксея, чалавека Божага, і аповесць пра трох каралёў), а таксама пераклад каталіцкай імшы ў гонар Дзевы Марыі, апошні аўтарка манаграфіі (услед за Ф. Марашам) прыпісала глагалям на Кляпажы (44–48, 148). Адразу пасля тэксту мшы ў зборніку змешчана кірылічная транскрыпцыя некалькіх каталіцкіх малітваў. На думку даследчыцы, усё гэта не выпадкова і пацвярджае сувязь рускага перакладу Песні Песням з дзейнасцю ў Празе харвацкіх бенедыктынцаў. Cum hoc ergo propter hoc!

Трэці (52–69) і чацвёрты (71–85) раздзелы прысвечаны, адпаведна, перакладам гісторыі пра Таўдала-рыцара і аповеду пра Сівілу-прарочыцу. Зборнік, у якім знаходзіліся абодва гэтыя тэксты, ужо загінуў (ён паходзіў з пачатку XVI ст.), а ад гэтых перакладаў засталіся толькі публікацыі: ад першага – невялікія фрагменты (1881), ад другога – поўны тэкст (1898), аднак у гэтым выпадку ў вучоных бракуе непасрэднага чэшскага арыгінала. Таму даследчыца аддала ўвагу іншым перакладам (царкоўнаславянскаму, чэшскім) і лацінскай версіі гэтых твораў, а таксама іншым творам, што суправаджалі рускія пераклады ў гэтым зборніку. Ёй удалося зрабіць некалькі

важных назіранняў. Услед за Я. Карскім Ю. Верхаланцава датуе ўзнікненне руськага перакладу “Сівілы” часам да 1492 г. (75–76, 78, 84–85). У пятым раздзеле (86–89) даследчыца ўдакладніла чэшскую крыніцу яшчэ аднаго страчанага помніка – руськага перакладу кнігі Тобіяша (застаўся толькі нязначны фрагмент у публікацыі Я. Карскага 1894 г.): гэта Літамержыцкая Біблія 1429 г.

У шостым раздзеле (90–117) аналізуецца мова разгледжаных руськіх перакладаў. Напачатку даследчыца апісвае асаблівасці руськай мовы, вызначыўшы яе паказальныя арфаграфічна-фаналагічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя і нават некаторыя лексічныя рысы (91–98). Паводле іх далей у асобных падраздзелах вядзецца аналіз мовы перакладаў (праўда, толькі першых трох, паколькі фрагмент кнігі Тобіяша вельмі малы), кожнага паасобку. Аналіз палягае ў прывядзенні моўных прыкладаў на тую ці іншую з’яву, часам з кароткімі ўдакладненнямі ці абагульненнямі. Пры аналізе перакладу Песні Песням даследчыца параўноўвае яго рысы (пераважна сінтаксічныя) з перакладам Ф. Скарыны і перакладам Віленскага зборніка № 262 (100). У сваіх высновах Ю. Верхаланцава канстатуе моцны ўплыў чэшскай мовы арыгінала на пераклад.

У аналізе і высновах даследчыца не заўсёды карэктная. Так, у прэфіксе слова *примогаше* яна ўбачыла рэфлекс прасл. **ě > і*, як ва ўкраінскай мове (пар. ц.-сл. *прѣмогаше*), хоць у помніку (гэта гісторыя пра Таўдала) ёсць і *премогалъ* (110). Аднак *ѣ* у ц.-сл. *прѣ-* – гістарычна позняга паходжання, а ва ўкраінскай мове гэты прэфікс выступае як *пре-* (*пресмачно*, *пресолодкий*, *преспокійний*, *претихо* і пад.). Яшчэ вялікае пытанне, ці вымаўляўся *ѣ* у гэтым прэфіксе тагачаснымі ўкраінцамі, якія ў чытанні царкоўнаславянскіх тэкстаў арыентаваліся на сваё вымаўленне, як *і*. Таму больш падстаў у *примогаше* бачыць кантамінацыю прэфіксаў *пре-* і *при-*, блізкіх па сваім значэнні, або іканне (неадрозненне *е* і *і*), што будзе ў дадзенай сітуацыі беларускай рысай. Гэта тым больш верагодна, што ў помніку шмат прыкладаў ужывання *е* замест *ѣ* і няма выпадкаў блытаніны *ы* і *и* / *і* не пасля зацвярдзелых.

Нярэдкія ў гэтым помніку (а таксама ў “Сівіле”) і прыклады кантамінацыі асноў дзеясловаў, што адзначае і сама даследчыца (напр. *дозрети* ‘ўбачыць’ пры *оузрѣли*). Аднак тэматычны суфікс -*и*- ў дзеяслове *повѣдилъ* яна абвясціла ўкраінізмам (110), як і *ѡтповѣдилъ* у “Сівіле” (118), хоць з большай падставай гэта можа быць ужо згаданае іканне ці кантамінацыя асноў, пашыраная ва ўсіх руськіх помніках. І вось толькі гэтыя два прыклады, вельмі спрэчныя, дазволілі Ю. Верхаланцавай заявіць, што ў арфраграфіі “Таўдала” мяшаюцца беларускія і ўкраінскія рысы (117). А вось у высновах наконт мовы Песні Песням, дзе няма ніводнага, нават спрэчнага ўкраінізма, пра беларускую аснову гэтага помніка – ні слова (100–103, 109). Фактычна ўсе даследаваныя ў манаграфіі помнікі трэба акрэсліць як беларускія – паводле іх дыялектнай асновы. Але даследчыца зрабіла адваротную выснову: што ўсе пераклады адрозніваюцца паводле мовы (148).

Загана падыходу Ю. Верхаланцавай – ігнараванне самабытнасці руськай мовы (гэта толькі “калекцыя ідыялектаў і індывідуальных перакладаў”, с. 15). Сама руськая мова для яе – проста мяшанка ўсходнеславянскіх, польскіх і царкоўнаславянскіх элементаў (150–151), або горш за тое – проста кепска вывучаная польская мова (138). Так, яна лічыць, што мадэлі з прэфіксам *з*- пры корані *вѣд(ати)* і з прэфіксам *от*- пры корані *повѣд(ати)* – заходнеславянскія, паколькі іх няма ў “старажытных усходнеславянскіх дакументах” (145). Праўда, гэтыя дакументы (помнікі XII–XIV ст.) толькі геаграфічна ўсходнеславянскія, а фактычна яны – царкоўнаславянскія паводле сваёй мовы. У такой сітуацыі варта, можа, звяртацца да ўсходнеславянскіх дыялектаў і шукаць там наяўнасць тых або іншых мадэляў. Дарэчы, форма *отповедати* вядома ў беларускіх і ўкраінскіх граматах ужо з 1347 г.[3], так што калі гэта мадэль і запазычаная, то даволі даўняя. Але такія запазычанні Верхаланцава чамусьці не лічыць арганічным складнікам руськай мовы, затое лёгка навязвае ёй царкоўнаславянскія формы. Так, адштурхоўваючыся ад

3 Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1978. Т. 1. С. 89.

паказанняў ужо згаданых “дакументаў”, яна сцвярджае (145), што словы *краль* і *цесарь* – усходнеславянскія (sic!), а спалучэнне *о речахъ* – гэта “фанетычны пераклад” адразу з дзвюх моў (sic!), польскай і чэшскай, а ўсходнеславянскім адпаведнікам мусіла б быць форма *о вещехъ* (з архаічным канчаткам!). Як бачым, моўны аналіз каліфарнійскай даследчыцы часам спрэчны ці некарэктны; здаецца, што да даўняй руськай мовы яна падыходзіць з меркамі сучаснай рускай мовы з яе моцным царкоўнаславянскім кампанентам.

Гэтым жа абумоўлена і іншая загана падыходу Верхаланцавай – неадэкватная ацэнка тагачаснай перакладчыцкай тэхнікі. Руськія элементы, агульныя ці тоесныя з заходнеславянскімі, а таксама запазычанні, напр. *кождого* = *každeho*, *оглядала* = *ohledala* (40), *в ритеръствѣ* = *rytieřstvo*, *о речах* ‘рэчы’ = *řeč*, *пышныхъ* = *pyšný*, *досыт* = *dosyt* (56), *къ подобенъству* = *ku podobenství*, *погоршене* = *pohoršení*, *на панях або паннах* = *na paniech anebo na pannách* (79), яна абвяшчае псеўдаперакладамі, фактычна лічачы недахопам перакладчыка, які не перадаў іх больш самабытнымі элементамі. Ацэньваць гэтыя пераклады з пазіцыі сучаснай тэорыі і практыкі перакладу агістарычна.

У цэлым Ю. Верхаланцавай пароблена значная праца, але вартасць яе моцна зніжаюць многія некарэктныя кваліфікацыі мовы і тэхнікі перакладу. У манаграфіі таксама адчуваецца пэўная даследчыцкая тэндэнцыйнасць. Аўтарка зыходзіла з ідэі, што даследаваныя ёю пераклады ўзніклі вельмі рана ў XV ст. і звязаны з глагаляшамі Эмаўса ці Кляпажа. Аднак у межах наяўнага ў яе матэрыялу пераканальна давесці гэта немагчыма.

Мінск *Ігар Клімаў*

## On the Border of the Worlds: Essays about the Orthodox and Uniate Churches in Eastern Europe in the Middle Ages and the Modern Period. Edited by ANDRZEJ GIL and WITOLD BOBRYK. Siedlce – Lublin: Akademia Podlaska, Instytut Europy Srodkowo-Wschodnej, 2010. 186 p.

Кніга змяшчае шэсць артыкулаў вядомых спецыялістаў па гісторыі Кіеўскай мітраполіі ў познім Сярэднявеччы і Новым часе – Ігара Скачыляса (Львоў), Міхаіла Дзмітрыева (Масква), Томаша Кемпы (Торунь), Леаніда Цімашэнкі (Драгобыч), Анджэя Гіля (Люблін) і Вітальда Бобрыка (Седльцы). Як адзначаюць рэдактары кнігі А. Гіль і В. Бобрык у прадмове, Усходняя Еўропа параўнальна з усім еўрапейскім кантынентам – спецыфічная прастора з шэрагам супрацьлеглых рысаў і феноменаў. Яна была і ёсць месцам вялікіх і малых сустрэч, бурных канфліктаў. Праз Усходнюю Еўропу праходзяць шматлікія межы паміж рэлігіямі, культурамі, але тут адбываюцца і агульныя працэсы.

Аўтары і рэдактары кнігі зыходзяць з таго, што важным фактарам, які ў мінулым уплываў на гэтую частку Еўропы, была Праваслаўная царква. Яе карані ў візантыйскай традыцыі, адаптаванай да мясцовых умоў і традыцый. Абаронцай праваслаўя была Кіеўская Русь – адзін з важных палітычных і культурных цэнтраў кантынента ў пачатку другога тысячагоддзя. Нават пасля палітычнай дэзынтэграцыі Кіеўскай Русі і ўтварэння шэрагу ўдзельных княстваў мітрапалічая кафедра ў Кіеве па-ранейшаму заставалася духоўнай сталіцай Русі, нягледзячы на намаганні па стварэнні новых рэлігійных цэнтраў, у прыватнасці, з ініцыятывы маскоўскіх правіцеляў, якія прэтэндавалі на гегемонію ў рэгіёне. Праваслаўе стала важным рэлігійным фактарам у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай.

Падзеі XV–XVI ст. ва Усходняй Еўропе прывялі да лёсавызначальных зменаў: стварэння ў 1448 г. Маскоўскай мітраполіі, якую ў 1589 г. узвысілі да рангу патрыярхату, а таксама стварэння новай рэлігійнай супольнасці – Уніяц-

кай царквы. Такім чынам рэлігійная прастора кіеўскага праваслаўя была падзелена паводле розных крытэрыяў: палітычнага – на маскоўскую і польска-літоўскую частку; юрысдыкцыйнага – на часткі, падпарадкаваныя Праваслаўнаму патрыярхату ў Маскве і Канстанцінопалі, а таксама Папу Рымскаму. З канца XVI ст. існавалі тры вялікія супольнасці, якія прэтэндавалі на кіеўскую спадчыну: Праваслаўная царква Маскоўскай дзяржавы, Праваслаўная і Уніяцкая цэрквы Польска-Літоўскай Рэспублікі. Названы факт і яго вынікі ўздзейнічаюць на гісторыю гэтай часткі Еўропы да нашага часу, і не толькі ў рэлігійнай сферы.

Ігар Скачыляс у артыкуле “From Sacred Space to Administrative Model of Church Governing: the Organization of the Territory of Halych (Lviv) Eparchy in the Medieval and Early Modern Period” разгледзеў тэрытарыяльную арганізацыю Галіцкай (Львоўскай) епархіі ў Сярэднявеччы і ранні Новым часе, паказаўшы эвалюцыю падыходаў да гэтага пытання, у кантэксце зменаў палітычнай сітуацыі ў гэтым рэгіёне і зменаў у менталітэце мясцовага духавенства і вернікаў.

Міхаіл Дзмітрыеў у артыкуле “Humanism and Traditional Orthodox Culture of Eastern Europe: the Problem of Compatibility (15th–17th centuries)” прааналізаваў уплыў гуманізму на традыцыйную культуру Кіеўскай Русі ў XV–XVII ст., якая заявіла пра сябе фармаваннем шэрагу рэлігійных рухаў на яе тэрыторыі, у прыватнасці, “іўдаізантаў” (“жидовствующих”) і “несцяжацеляў” або багатай літаратурай рознага характару.

У артыкуле “Stauropegic Brotherhood of Vilno and Brotherhood Monastery as the Most Important Orthodox Centre in the Grand Duchy of Lithuania at the End of the 16th and in the 17th Centuries” Т. Кемпа паказаў ключавую ролю ў канцы XVI – першай палове XVII ст. праваслаўнага брацтва і манастыра Святога Духа ў Вільні ў ВКЛ як брацтва новага тыпу ў пошуку шляхоў інтэлектуальнага адраджэння Праваслаўнай царквы Кіеўскай мітраполіі, а пасля Берасцейскай уніі – у барацьбе за прызнанне правамоцнасці праваслаўнай веры. Раскрываецца эвалюцыя сацыяльнай базы гэтай брацкай арганізацыі – ад інтэлектуальнай праваслаўнай эліты да шараговых гараджан – і яе адрозненне

ад пазнейшых уніяцкіх брацтваў як элітнай арганізацыі. Характарызуюцца розныя, супрацьлеглыя групы, лагеры, павевы, настроі, праекты рэформаў царквы, якія мелі месца ў гэтай арганізацыі. Так, адны члены выступалі за падпарадкаванне дзейнасці брацтва ўладзе мітрапаліта, іншыя – за незалежнасць брацтва як ад свецкіх уладаў, так і ад главы Кіеўскай мітраполіі. Адсутнасцю супрацоўніцтва прыхільнікаў рэформаў у Праваслаўнай царкве Т. Кемпа тлумачыць той факт, што кіеўскі мітрапаліт М. Рагоза схіліўся да спрыяння уніі.

Канстатуецца, што моцная і імгненная апазіцыя брацтва царкоўнай уніі вельмі паўплывала на антыўніяцкія настроі іншых "літоўскіх" гарадоў. У той жа час польскі даследчык прызнае, што праваслаўны клір і праваслаўная эліта Вільні былі падзелены ў адносінах да уніі: адны супраць яе змагаліся, другія імкнуліся пераламіць сітуацыю на яе карысць. Паказаны ўзаемаадносіны, канфлікты мітрапаліта І. Пацея з брацтвам, эпілогам якіх сталі падзеі 1608–1609 г., пасля чаго вакол праваслаўнай царквы Св. Духа кансалідавалася ўся праваслаўная апазіцыя Вільні, а значэнне праваслаўнага брацтва і манастыра выйшла далёка за межы горада. Яны сталі галоўным цэнтрам праваслаўя ў ВКЛ і важным пунктам праваслаўнага супраціўлення ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Трэба мець на ўвазе, што Уніяцкая царква ВКЛ была нашмат мацнейшая, чым на Рускіх землях, якія належалі Польскай кароне.

Томаш Кемпа акцэнтуе ўвагу на тым, што, нягледзячы на пераслед, які зведалі члены брацтва і манахі пад час кіравання Жыгімонта ІІІ, яны прадстаўлялі частку праваслаўя, гатовую да дыялогу з Уніяцкай царквой (пра гэта сведчаць, напрыклад, пераход у унію М. Сматрыцкага, а праваслаўны архімандрыт Іосіф Бабрыковіч быў адным з ініцыятараў праваслаўна-ўніяцкага сабору 1629 г.), і не шукалі дапамогі ў Расіі, як гэта рабілі некаторыя праваслаўныя вернікі.

Паступовы заняпад брацтва і манастыра ў другой палове XVII ст. Т. Кемпа тлумачыць драматычнымі падзеямі, звязанымі з расійскай акупацыяй ВКЛ. Ён абвяргае расійскіх гісторыкаў, якія пісалі ў XIX ст., што праваслаўнае насельніцтва Вільні сустракала рускую армію хлебам-

соллю. Падзенне ўплыву брацтва ў другой палове XVII ст. ён звязвае таксама з агульным аслабленнем праваслаўя і лічыць, што працэс пераходу знаці ў рыма-каталіцызм або унію быў паскораны казацкім паўстаннем на чале з Б. Хмяльніцкім і вайной з Расіяй.

Леанід Цімашэнка, аўтар артыкула «Prince Konstanty Wasyl Ostrogski and the "Single-Faith" Muscovy», даследаваў адносіны абаронцы праваслаўя, аднаго з найбагацейшых магнатаў ВКЛ Канстанціна Васіля Астрожскага да Масквы, з якой яго звязвала агульная рэлігія. Гэтае пытанне аўтар разглядае як факт вялікай праблемы ўзаемаадносінаў рэлігійных культур на еўрапейскім Усходзе. На думку Л. Цімашэнкі, сувязі Астрожскага з Масквой былі разнастайныя і часам далёкія ад мірных.

Разглядаецца пытанне пра ўзроўні і формы ідэнтыфікацыі князя, для якога галоўнай была прыналежнасць да Русі, потым – да Літвы і, урэшце, – да Кароны. Згадваецца дакумент 1595 г. аўтарства К. Астрожскага, у якім ён выступае ад імя праваслаўнага насельніцтва Падольскай, Кіеўскай і іншых украінскіх земляў і "Белай Русі ў Літве". Ён пазіцыянаваў сябе як сын "нашай маці Усходняй царквы" і падкрэсліваў сваю ўсходнюю рэлігійную ідэнтычнасць. Яго веравызнанне, перакананні не пахіснулі ні крызіс Праваслаўнай царквы Кіеўскай мітраполіі, ні прапаганда ўніфікацыі цэркваў. Л. Цімашэнка разглядае рэлігійныя сувязі ў пачатку 1580-х г. паміж двума свецкімі правіцелямі: каранаваным (Іванам IV) і некаранаваным (К. Астрожскім). З аднаго боку, частку накладу Астрожскай Біблії 1581 г. выдання князь паслаў цару, а праз два гады пачаў кантакты з Рымам наконт царкоўнай уніі. У той жа час падтрымаў ваенны паход С. Баторыя супраць Маскоўскай дзяржавы.

У сваім праекце царкоўнай уніі К. Астрожскі гаварыў аб неабходнасці пагаднення з маскоўскім праваслаўем, пра што пісаў у пісьме Пацею ў 1593 г. Звяртаецца ўвага на тое, што князь ніколі не згадваў маскоўскага патрыярха. Палітычныя характарыстыкі адносінаў К. Астрожскага да Масковіі, на думку Л. Цімашэнкі, нельга разглядаць у кантэксце яго добразычлівых адносінаў да маскоўскага праваслаўя. Гісторык заўважае, што пытанне адносінаў Астрожскага да мас-

коўскага праваслаўя ляжыць у больш шырокім кантэксце даследавання ўспрымання Масквы ва ўкраінска-беларускім уяўленні. Акрамя таго, К. Астрожскі быў адным з найбольш актыўных суб'ектаў Берасцейскай уніі. Гэтую праблему таксама трэба прымаць да ўвагі ў святле контраверсій адносна прыцягальнасці або непрывабнасці маскоўскага праваслаўя для Кіеўскай Царквы ў часы Берасцейскай уніі.

Далей разглядаюцца розныя трактоўкі наяўнасці ўплыву факта стварэння Маскоўскага патрыярхату на заключэнне Берасцейскай уніі. Аўтар падзяляе пагляд А. Галецкага, які лічыў, што пасля стварэння Маскоўскага патрыярхату любыя кантакты Русі з ім сталі рызыкоўнымі. Нават накіраванне ў Маскву дэлегацыі па справах уніі адкрывала той магчымасць умяшання ў справы Рускай царквы. Аўтар мяркуе, што стварэнне Маскоўскага патрыярхату выклікала сярод уладных структур Рэчы Паспалітай жаданне дыстанцыявацца ад маскоўскіх уплываў. Такая тэндэнцыя мела тут месца і да 1589 г. Яна выявілася ў спробах стварыць Рускі патрыярхат. Калі палітыкі царскага двара ў справе стварэння патрыярхату апярэдзілі ВКЛ, унія з Рымам набыла выгляд найбольш эфектыўнага спосабу абароны ад прэтэнзій уладалюбівага суседа.

Да пачатку XVII ст. адносіны да Масквы ва ўкраінска-беларускім праваслаўным грамадстве звычайна былі негатыўнымі. Шматлікія вучоныя – да іх адносіцца і Л. Цімашэнка – згаджаюцца, што першы прывабны вобраз маскоўскага праваслаўя ўзнік у “Палінодыі” Захарыя Капысценскага. Першыя, у той час асобныя сцверджанні, якія акцэнтавалі супольнасць праваслаўнай веры Русі і Масковіі, з’явіліся ў пачатку XVII ст.

Падсумоўваючы разгляд праблемы адносінаў К. Астрожскага да маскоўскага праваслаўя, Л. Цімашэнка адзначае, што іх нельга ацаніць катэгорыямі “пазітыўна” / “негатыўна”. Гэтыя адносіны залежалі ад многіх фактараў, у тым ліку польска-маскоўскіх палітычных узаемадачыненняў, якія ў другой палове XVI – пачатку XVII ст. былі варожымі.

Даследчык прыходзіць да высновы, што паміж праваслаўнай Руссю ВКЛ і маскоўскім праваслаўем пры князі К. Астрожскім не было ўзаемнай зацікаўленасці. Пра-

васлаўная Русь у канцы XVI – пачатку XVII ст. была занята праблемай барацьбы з царкоўнай уніяй і не надавала значэння змене статусу Маскоўскай праваслаўнай царквы. У той жа час маскоўскія пісьменнікі і рэлігійныя мысляры (за рэдкім выключэннем) не заўважалі зменаў ва ўкраінска-беларускім праваслаўі.

Анджэй Гіль артыкул "The First Images and the Beginning of the Cult of the Archbishop of Polock Josaphat Kuncewicz in the Polish-Lithuanian Commonwealth till the mid-17$^{th}$ Century" прысвяціў першым пісаным іконам Язафата Кунцэвіча, які ў 1623 г. прыняў пакутніцкую смерць ад рук праваслаўных жыхароў Віцебска, і пачатку яго культу (да сярэдзіны XVII ст.). Віцебскае злачынства, хоць і трагічнае для ўніятаў, стала пунктам адліку не толькі для ўмацавання іх уласнай пазіцыі, але і для прызнання іх дыферэнцыяцыі як да праваслаўя, так і лацінства. Пакутніцкая смерць стала, такім чынам, адной з асноў, на якой Уніяцкая царква пачала выбудоўваць уласную пазіцыю сярод іншых хрысціянскіх дэнамінацый з сярэдзіны 1620-х г.

Паводле А. Гіля, перакананне ў святасці Я. Кунцэвіча з'явілася ва ўніяцкім асяроддзі ў хуткім часе пасля яго смерці. Вось чаму кіеўскі мітрапаліт І. Руцкі ўжо ў пачатку 1624 г. прыкладаў намаганні, каб распачаць яго беатыфікацыйны працэс у Рыме. Гэтая ініцыятыва была падтрымана, сярод іншых, каралём Жыгімонтам III, каралевічам Уладыславам і канцлерам ВКЛ Львом Сапегам. З Рыма побач з доказамі святасці жыцця і смерці Кунцэвіча папрасілі таксама яго выяву. Аўтар артыкула канстатуе з'яўленне ў хуткім часе пасля забойства Я. Кунцэвіча яго выяваў, неабходных для беатыфікацыйнага працэсу і выкарыстання ў краіне для далейшай папулярызацыі. Яны паходзяць з дзвюх іканаграфічных традыцый – заходняй і ўсходняй.

Звяртаецца ўвага на тое, што ў першых выявах Кунцэвіча – 1625 г. з Вільні і 1630 г. з Кракава, якія ўзніклі на этапе ініцыявання беатыфікацыйнага працэсу і неабходнасці хуткага вырабу партрэта для будучага абвяшчэння блажэнным, няма атрыбутаў, характэрных для яго наступнай прэзентацыі: прылады забойства (сякеры) і пальма-

вай галінкі – сімвала пакутніцкай смерці. Але гэтыя атрыбуты хутка з’явіліся ў выявах Кунцэвіча ў поўны рост, з сякерай, уваткнутай у галаву, і рукамі, скрыжаванымі на грудзях. Найбольш раннія партрэты гэтай традыцыі – 1643 і 1665 г.

З поспехамі беатыфікацыйнага працэсу культ Я. Кунцэвіча быў сфакусаваны на месца яго пахавання ў Полацку. Да сярэдзіны XVII ст. мы маем рэальныя факты жывучасці культу ў гарадах Кіеўскай мітраполіі, дзе існавалі структуры Уніяцкай царквы: Полацку, Магілёве, Сокале, Любліне, Кракаве. Першы перыяд ушанавання Я. Кунцэвіча завяршаецца ў першай палове XVII ст. з-за маскоўскай палітыкі вынішчэння слядоў уніі ў ВКЛ у час акупацыі 1654–1667 г. Войны сярэдзіны XVII ст. змянілі геаграфію культу Я. Кунцэвіча і яго іканаграфічныя прадстаўленні. Там, дзе было адноўлена праваслаўе, элементы, якія лічыліся для праваслаўнай традыцыі чужымі, былі разбураны або мадыфікаваны адпаведна патрабаванням культу і эстэтыкі новых уладальнікаў. Прыклад – ікона св. Іаана Багаслова з калекцыі Музея старажытнабеларускай культуры ў Мінску, якая паходзіць з Высокага каля Брэста. Яе аналіз указвае на тое, што гэта перамаляваны абраз Я. Кунцэвіча. Гэтым А. Гіль тлумачыць такую малую колькасць слядоў культу Я. Кунцэвіча ў Кіеўскай мітраполіі ў XVII ст. У Беларусі, напрыклад, толькі некалькі патрэтаў і скульптур ідэнтыфікуецца з Кунцэвічам. Так мала слядоў культу Я. Кунцэвіча мела сваім вынікам правал спробаў яго кананізацыі ў другой палове XVII ст. У гэты перыяд набываў усё большую папулярнасць культ Дзевы Марыі.

У эсэ “Rite Changes in the Uniate Diocese of Chelm in the 18$^{th}$ Century” В. Бобрык прасачыў працэс змены абраду ў Холмскай епархіі ў XVIII ст.

Рэцэнзаваны зборнік артыкулаў сваёй фактурай, крыніцавай базай і новымі трактоўкамі істотна ўзбагачае веды пра месца Кіеўскай мітраполіі і яе значэнне ў гісторыі еўрапейскага Усходу, прыводзячы іх у адпаведнасць з сучасным станам гістарычнай навукі.

Гродна *Святлана Марозава*

## BALCERAK, WIESŁAW. Z dziejów zamierzeń federacyjnych Józefa Piłsudskiego. Warszawa: Instytut Historii PAN, Mazowiecka Wyższa Szkoła Humanistyczno-Pedagogiczna w Łowiczu, 2011. 73 s.

Чарговае выданне вядомага польскага гісторыка Веслава Бальцэрака ўяўляе сабой зборнік дакументаў канферэнцыі, якая адбылася 15–20 студзеня 1920 г. у Фінляндыі з удзелам, акрамя гаспадароў, Эстоніі, Латвіі, Літвы і Польшчы – такім чынам, дзяржаў, якія паўсталі ў выніку Першай сусветнай вайны. Той форум за даволі кароткі час быў адным з шэрагу падобных палітычных мерапрыемстваў дзяржаў-лімітрофаў, якім давялося вырашаць праблемы асабістай бяспекі. Пагроза сыходзіла перадусім з боку нядаўняга іх каланіяліста – Расіі, якая да таго часу зрабілася бальшавіцкай, што значна павялічыла ступень пеяратыўнасці ўсходняга (для названых новапаўсталых дзяржаў) суседа.

Галоўнае пытанне, якое абмяркоўвалася, – арганізацыя сумеснай абароны ў выпадку нападу на любую з дзяржаў. Выданне адлюстроўвае ход паседжанняў. На іх панавала, як можа падацца, атмасфера даволі прыязная (за выключэннем польска-літоўскіх стасункаў, якія, аднак, не афішаваліся). Здавалася б, дзяржавы, маючы фактычна адну мэту – захаванне незалежнасці, павінны былі прыкласці ўсе намаганні, каб яе дасягнуць, па магчымасці нейтралізаваць галоўны фактар пагрозы. Аднак становішча дзяржаў было розным. Фінляндыя і Польшча пачувалі сябе больш упэўнена. Літва ж мела з апошняй прынцыповую спрэчку, якая да таго часу яшчэ не была вырашана, – за Віленшчыну. Таму спакой, памяркоўнасць і схільнасць да кансэнсусу, якія панавалі на канферэнцыі, можна лічыць толькі культурай дыпламатыі. Хоць усе бакі зрабілі крок да канструктыўнага вырашэння праблемы бяспекі іх дзяржаў, прыняўшы адпаведную рэзалюцыю, відавочна, пытанні заставаліся адкрытымі. Таму наперадзе, па ўзаемнай згодзе, планавалася правядзенне падобных мерапрыемстваў (прычым з пашырэннем кола ўдзельнікаў).

Безумоўна, увядзенне ў навуковы зварот гэтых матэрыялаў будзе карысным для гісторыкаў усходнееўрапейскага рэгіёна, спросціць іх карпатлівую працу, архіўныя пошукі. У ідэале ж бачыцца выданне зборніка дакументаў з адлюстраваннем шырэйшай сацыяльна-палітычнай панарамы (перадусім наконт тэмы пагрозы з боку Савецкай Расіі дзяржавам-лімітрофам). Тым больш што да гэтага падштурхоўвае і назва, дадзеная выданню В. Бальцэракам – “З гісторыі федэрацыйных намераў Юзафа Пілсудскага”. Праўда, як бачым, польскі гісторык разглядае праведзеную канферэнцыю ў іншым кантэксце – унутрыдзяржаўнай палітыкі, якую імкнуўся ажыццявіць Начальнік Польскай Рэспублікі. Канферэнцыя ж для ўнутранай арэны стала знешнім фактарам. Ва ўводзінах і эпілогу В. Бальцэрак падае і асабісты аналіз гэтай падзеі і яе кантэксту, імкнучыся да аб’ектыўнасці (што, аднак, не заўсёды яму ўдаецца, як у выпадку, напрыклад, з ацэнкай польска-літоўскіх узаемаадносінаў). Беларускія сюжэты ў аналізе практычна адсутнічаюць.

Кажучы вобразна, рэчышча, якое капалі эвентуальныя партнёры такімі канферэнцыямі, перасохла: розныя для кожнай з дзяржаў прычыны перашкодзілі арганізаваць сумесную бяспеку ад Расіі. Таму і лічыць В. Бальцэрак, што знікненне ў 1939–1940 г. Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі як незалежных дзяржаў было абумоўлена немагчымасцю іх кансалідацыі. Аднак тую кансалідацыю польскі гісторык бачыць хіба толькі ў рамках федэралісцкай канцэпцыі Ю. Пілсудскага, ані не параўноўваючы пры гэтым яе рэалізацыю з падобнай (прынамсі фармальна, у агульных рысах) – з саюзным праектам, ажыццёўленым Саветамі. Зрэшты, В. Бальцэрак заклікае ўсіх зацікаўленых уважліва аналізаваць тагачасныя сацыяльна-палітычныя працэсы, а падрыхтаванае ім выданне і павінна ў гэтым дапамагчы.

Мінск *Анатоль Трафімчык*

## Spojrzenie na polski Wrzesień 1939 roku / Pod redakcją TADEUSZA KONRACKIEGO. Warszawa: Wydawnictwo Neriton, 2011. 180 s.

Ці знойдзецца ў польскай гістарычнай навуцы больш папулярная тэма, чым падзеі верасня 1939 года? Ці калінебудзь для польскіх даследчыкаў зменшыцца кола вострых праблем у разглядзе гэтай тэмы? Пакуль азначаныя пытанні гучаць рытарычна і змены інтанацыі ў бліжэйшы час не прадбачыцца.

Вось і ў чарговым выданні дэкларуецца "набліжэнне найменш вядомых (або асабліва важных пазнавальна) аспектаў падзей, якія адкрывалі Другую сусветную вайну" (7). Тэмы змешчаных пад адной вокладкай артыкулаў падабраны не сістэмна. Частка аспектаў сугучная, сінанімічная даследаванням гісторыкаў сучаснай Беларусі, але ёсць і не зусім прывычныя для нашага гістарыяграфічнага спектра. І тым больш цікава даведацца з уступу, што навука заходніх суседзяў пры Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук мае такі асобны аддзел, як Zakład Systemów Totalitarnych i Dziejów II Wojny Światowej (аддзел таталітарных сістэм і дзеянняў Другой сусветнай вайны). Як гэта кантрастуе з аб'яднаннем, ушчыльненнем гуманітарных структур НАН Беларусі… Хоць тэма апошняй вайны ў нашай краіне і дасягненні савецкага часу ўзведзены ў ранг дзяржаўнай ідэалогіі, аднак навуковыя даследаванні, публіцыстычныя развагі ў афіцыёзным дыскурсе спыніліся, як ствараецца ўражанне, недзе ў 70-х г. мінулага стагоддзя – як у сэнсе метадалагічных і каштоўнасных падыходаў, так і ў сэнсе элементарнага ўмення думаць не па-местачковаму.

Названы зборнік артыкулаў, ініцыяваны прафесарам Польскай акадэміі навук (ПАН) Ежы Барэйшам, адкрываецца аглядам гістарыяграфіі. Марэк Нэй-Крвавіч (Marek Ney-Krwawicz), таксама супрацоўнік ПАН, падае тэму "польскага Верасня" ў асэнсаванні айчынных навукоўцаў пад час дэмакратызацыі краіны. Агляд лаканічны. Тэма – з улікам шырыні і глыбіні здабыткаў польскай гістарыяграфіі – заслугоўвае найменей манаграфіі. Артыкул уяўляе

сабой хутчэй разгорнутыя тэзісы з асэнсаваннем навуковай эвалюцыі ў даследаванні палякамі той складанай тэмы. Галоўная ўвага звяртаецца на кнігі. Не адкідаюцца напрацоўкі і папярэдніх даследаванняў, бо многія захоўваюць "фактаграфічную вартасць" (10). У гэтым назіраецца спроба ўбачыць не толькі кардынальны паварот у гістарычнай навуцы Польшчы, які імкліва адбыўся на пераломе 1980–90-х г., але і пэўная пераемнасць у гістарыяграфіі. Вядома, тая імклівасць стала для большасці "старых" навукоўцаў драматычнай. Таму многім давялося зазнаць самарэвізію, у чым і заключалася своеасаблівая драматычнасць.

Для чытача, збольшага абазнанага ў польскай гістарыяграфіі, тэзісы М. Нэй-Крвавіча даволі прадказальныя. Гаворыцца, напрыклад, што тэма нямецка-польскай вайны ў верасні 1939 г. была даследавана ўжо ў перыяд ПНР – у адрозненне ад савецка-польскай барацьбы другой паловы таго катастрафічнага для Польшчы верасня, якая магла даследавацца хіба толькі на эміграцыі. Затое ў гэтай тэме быў зроблены рывок з пераменамі: 1) дзякуючы лібералізацыі і дэідэалагізацыі гуманітарнай навукі, 2) дзякуючы таму, што ў 1990-я г. на пэўны час прыадкрыліся савецкія архівы (дарэчы, па многіх аспектах нашай агульнай гісторыі польскія даследчыкі нашмат плённей апрацавалі савецкую дакументацыю беларускіх архіваў).

Між тым апошнім часам, паводле М. Нэй-Крвавіча, не заставалася па-за ўвагай і тэма нямецка-польскай вайны. Дарэчы, у зборніку таксама ёсць артыкул пра адзін з яе аспектаў – "Нямецкія планы адносна насельніцтва Польшчы і іх рэалізацыя ў 1939 г." Яцэка Анджэя Млынарчыка з Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні. Гэтая праца падштурхоўвае да суаднясення нямецкіх планаў адносна жыхароў міжваеннай Польшчы з савецкімі, таксама вельмі жорсткімі, а таксама з нямецкімі планамі адносна насельнікаў беларускіх тэрыторый пад час акупацыі 1941–1944 г. Адзначым, што ў нямецкіх планах дзеянняў на тэрыторыі Польшчы аўтар вылучае наступныя аспекты:

– палітыка адносна этнічнага польскага насельніцтва;
– палітыка адносна яўрэйскага насельніцтва;
– супрацоўніцтва з нямецкай меншасцю і клопат пра яе;

– спробы антыпольскага паразумення з украінскімі нацыяналістамі.

Аднак не ўсе сюжэты трапілі пад увагу даследчыка. Несумненна, інтарэс і беларускіх, і польскіх гісторыкаў выклікала б асэнсаванне нямецкім навукоўцам факта вынішчэння палякамі яўрэяў у Ядвабнэ ў ліпені 1941 г. Узнікае пытанне, наколькі тая масакра карэлявалася з нацысцкімі планамі.

Польскія гісторыкі не абмяжоўваюцца артыкуламі і манаграфіямі пра падзеі трагічнага верасня, а прадукуюць цэлыя навуковыя серыі на гэтую тэму, распрацоўваюць асобныя яе кірункі (апошнім часам усё больш увагі прыцягвае біяграфістыка, прадстаўленая і ў зборніку артыкулам Робэрта Новака з ПАН “Вэрнэр барон фон Фрыч. Смерць нямецкага генерала ў першыя дні Другой сусветнай вайны”).

Заўсёды важнае значэнне ў польскай гістарыяграфіі мела памяць пра загінулых. М. Нэй-Крвавіч характарызуе зробленае за два дзясяткі гадоў жыцця ў новым сацыяльным кантэксце: адбывалася ліквідацыя белых плям, якія ўзніклі ў выніку латэнтызацыі наступстваў нападу СССР на Польскую Рэспубліку (так афіцыйна называлася міжваенная Польшча, а не “II Рэч Паспалітая” – публіцыстычная назва, якая фактычна ўсталявалася ў гістарыяграфіі пасля знікнення дзяржавы).

Важна, што, як адлюстроўваецца М. Нэй-Крвавічам, у польскай гістарычнай навуцы праводзяцца параўнальныя даследаванні паасобных аспектаў супрацьстаяння польскага народа са смяротнымі навакамі – заходняй і ўсходняй. Гэта дазволіць вызначыць ступень іх жорсткасці і пагрозы для чалавецтва.

Марэк Нэй-Крвавіч у сваім аглядзе практычна не робіць пераказу прац ці высноў з іх. Аднак зразумела, што даробак сучаснай польскай гістарыяграфіі наносіць значны ўдар па іміджу Краіны Саветаў. Што праўда, мёртвым не баліць. А вось сённяшняй дзяржаўнай гістарычнай навуцы Беларусі, якая засталася ў палоне савецкай традыцыі па многіх пытаннях верасня 1939 г., не пазайздросціш: ёй застаецца або выкручвацца (што часцей за ўсё не ўдаецца), або герметызавацца, заплюшчваць вочы на плён суседзяў (так прасцей і так часцей за ўсё робіцца). Тым не менш такое мулкае

суседства адбіваецца на беларускай гістарыяграфіі, якая, нягледзячы на штучную герметызацыю (дакладней, на імкненне да яе) і дагматызацыю, нават у абліччы прадстаўнікоў афіцыёзу спакваля прымае пазіцыі, кажучы лексікай апошніх, "фальсіфікатараў" мінулага. Работа М. Нэй-Крвавіча будзе асабліва карыснай тым, хто пачынае даследаваць тэму, а для маладых беларускіх гісторыкаў артыкул стане ўводзінамі ў тэму сучаснай польскай гістарыяграфіі.

Іншыя артыкулы зборніка такой практычнай вартасці для гісторыкаў з Беларусі, напэўна, мець не будуць. Але і карысці ад іх нельга змяншаць. Прынамсі дзякуючы іх інфарматыўнасці спросціцца вялікі аб'ём працы. Напрыклад, з наступнай работы – "Вайна з Польшчай у 1939 г. у заходненямецкай гістарыяграфіі" Ёхана Болера (Jochen Böhler) з Універсітэта Фрыдрыха Шылера ў Ене (Нямеччына) – даведваемся, што на момант напісання тых радкоў не было даследаванняў нямецкімі аўтарамі "ўступлення Саветаў на тэрыторыю ўсходняй Польшчы пасля 17 верасня 1939 г." (23). Аўтар прасочвае, як адбывалася развіццё нямецкай гістарычнай навукі адносна гэтак непрыемнай для яе прадстаўнікоў тэмы, не ўнікае разгляду памылак калег-папярэднікаў. Нямецкі гісторык паказвае, як некаторыя нямецкія вайскоўцы, перайшоўшы пасля вайны ў гістарычную навуку ФРГ, у 1950-я г. перакладалі цяжар віны за вайну цалкам на Гітлера, а часам нават даходзілі да апраўдання масавых расстрэлаў (26). Але, як адзначаецца, з 1960-х г. заходненямецкая гістарыяграфія набывае неабходны навуковы крытыцызм. Артыкул Ё. Болера будзе карысны для вузкага кола беларускіх гісторыкаў – перадусім для тых, хто рашыцца на канцэптуальнае параўнанне гістарыяграфій і аналізу падзей верасня 1939 г. (нападаў на Польшчу ІІІ Райха і ІІІ Рыма).

Два артыкулы прысвечаны візуальным матэрыялам пра вераснёўскія падзеі: "Верасень 1939 года ў фотаздымках" (Яцак Зыгмунд Савіцкі, Томаш Стэмпоўскі, Конрад Слюсарскі) і "Папулярызацыя тэматыкі Верасня 1939 года на прыкладзе польскіх дакументальных фільмаў апошняга дваццацігоддзя" (Тадэвуш Кандрацкі), – тэмы, бадай, некранутыя беларускімі даследчыкамі. Зрэшты, адна з прычын гэтай некранутасці – фігураванне чырвонаармейцаў поруч з нацыстамі, адлюстра-

ванне іх братэрскіх стасункаў, “дружбы, скрепленной кровью” (цытата адрасаваных Рыбентропу слоў Сталіна: Телеграмма И. В. Сталина министру иностранных дел Германии г. Иоахиму фон Риббентропу // Правда. 1939. 25 дек.).

Фотаархіў, як вынікае, надзвычай багаты. Здымалі прадстаўнікі кожнага ваюючага боку, а часам і спецыялісты з іншых краін, напрыклад амерыканец Джульен Браен (Julien Bryan). Зразумела, ракурсы, падбор сюжэтаў, інтэрпрэтацыі розных фатографаў не супадаюць. Найбольш фота пакінулі нямецкія фатографы, а часам і звычайныя жаўнеры (толькі ў Бундэсархіве захоўваюцца сотні здымкаў). Тым часам з савецкага боку вядомы толькі прапагандысцкія ілюстрацыі. Іншым разам у ходзе свайго даследавання аўтары выяўлялі, што фотаздымак быў зроблены праз інсцэніроўку (як, напрыклад, шырока вядомае фота ліквідацыі шлагбаума на польскай мяжы салдатамі Вермахта). І хоць ужо выкананы велізарны аб’ём працы па пошуку, сістэматызацыі і рэпрэзентацыі фотаматэрыялаў, застаюцца шырокія перспектывы далейшай даследчыцкай дзейнасці на гэтай дзялянцы вывучэння мінулага.

У Польшчы за апошні час знята каля 70 фільмаў і дакументальных праграм пра падзеі верасня 1939 г. Яны і аналізуюцца ў згаданым артыкуле. Прыкладна трэцяя частка прысвечана савецкаму нападу, столькі ж – нямецкаму, астатнія – ударам па Польшчы з абодвух бакоў. Як бачым, даволі ўраўнаважана па колькасці. Хоць можна было б чакаць перакосу ўвагі кінематаграфістаў-гісторыкаў у бок савецкай агрэсіі. Зрэшты, спачатку так і было: калі пра апошнюю першы фільм з пачаткам сацыяльна-палітычнай трансфармацыі быў зняты (sic!) ужо ў 1988 г., то пра нямецка-польскую вайну дакументальны фільм з’явіўся толькі ў 1997 г. (што – з улікам стварэння такіх фільмаў у папярэдні час – натуральна).

У артыкуле Пятра Маеўскага “Чэхаславацкая армія ў 1938 г. у параўнанні з Войскам Польскім” знойдзем супастаўленне эвентуальнага чэхаславацкага адпору нямецкай агрэсіі, якая магла адбыцца ў 1938 г., з рэальным польскім адпорам гэтаму ж ворагу праз год. Аўтар шляхам дастаткова скрупулёзнага аналізу рэвізуе ранейшыя палажэнні, стэрэатыпы і прыходзіць да высновы, што даволі індустрыяльная Чэхаславакія магла б лепей выступіць су-

праць Вермахта (чым Польшча), але тым не менш не мела шанцаў на перамогу. У беларускай афіцыёнай гістарыяграфіі пераважае адваротны пункт погляду (гл. хоць бы вядомыя падручнікі па Вялікай Айчыннай вайне ў кантэксце Другой сусветнай). Паводле меркаванняў некаторых гісторыкаў, Гітлер, калі яму Захад ахвяраваў Чэхаславакію, нават быў трохі расчараваны, што не далі "пагуляць у вайну", апрабаваць сілы. Артыкул П. Маеўскага паказвае, што самаўпэўненасць фюрара грунтавалася на рэальнай глебе.

Цікавы сюжэт для даследавання абрала Магдалена Гулас з ПАН – "Брытанскія камуністы і вайна ў Польшчы ў верасні 1939 г." Работа запатрабавала шмат пошукавых высілкаў. Аднак аўтарка змагла адлюстраваць змену рэакцыі камінтэрнаўцаў Туманнага Альбіёна і прасачыць іх залежнасць ад Масквы.

І зусім незвычайную тэму прапануе Павел Касіньскі з Інстытута нацыянальнай памяці – "Так званыя ваенныя злачынствы, здзейсненыя жаўнерамі Войска Польскага пад час абароннай вайны 1939 г.". Як высвятляецца, былі і такія. Прыведзена шмат фактаў. Аднак кантэкст развіцця падзей пакінуў маштаб фармальна незаконных (па ваенных паняццях) забойстваў з боку палякаў гістарычна нязначным. Яны былі не вынікам адмысловай палітыкі, а, хутчэй, "спантаннымі актамі" (166). Галоўнай крыніцай, як ні парадаксальна, для работы П. Касіньскага стаў ваенны архіў у Фрайбургу, дзе захаваліся матэрыялы, сабраныя самімі немцамі. Кіраўніцтва ІІІ Райха пасля перарастання вайны з Польшчай у сусветную 4 верасня 1939 г. стварыла пры Вермахце даследчую ўстанову па парушэннях міжнароднага права.

Напрыканцы дадамо, што кожны артыкул суправаджаецца разгорнутым рэзюмэ на англійскай мове, што пашырае міжнародную рэцэпцыю выдання. Работы зборніка не толькі адкрываюць невядомыя старонкі гісторыі на тэму пачатку Другой сусветнай вайны, але і проста ці ўскосна ставяць новыя пытанні, якія неабходна будзе вырашаць у бліжэйшай перспектыве гісторыкам, у тым ліку беларускім, што яўна адстаюць у даследаванні агульнага з суседзямі мінулага.

Мінск *Анатоль Трафімчык*

# Гарадзенскі гадавік. № 1. Рэд. ЮРЫ ГАРДЗЕЕЎ. Гродна, 2012. 118 с.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што сёння адзін з асноўных навуковых гістарычных асяродкаў у Беларусі – гарадзенскі. У выніку актыўнасці гарадзенскай навуковай супольнасці з'явіўся на свет і працягвае існаванне цэлы шэраг паспяховых выдавецкіх праектаў. У 2012 г. іх стала больш яшчэ на адзін – выйшаў першы нумар гісторыка-культуралагічнага часопіса "Гарадзенскі гадавік". Новае выданне рэпрэзентуе такі даследчыцкі напрамак, як гістарычная ўрбаністыка, які апошнім часам у Беларусі дастаткова актыўна развіваецца, а тэматычна нумар прысвечаны адной, але найбольш значнай у гісторыі Горадні плошчы – былому Рынку (сённяшняя Савецкая). Выданне ўкладзена храналагічна, дзякуючы чаму ёсць магчымасць прасачыць і параўнаць, які выгляд мела плошча ў розныя гістарычныя эпохі; напрыканцы змешчаны разнастайныя матэрыялы, у тым ліку па археалогіі плошчы, публікацыі крыніц, праект аднаўлення традыцыйнай планіроўкі і адна рэцэнзія.

Цікавасць уяўляе першы тэкст (аўтарства Ганны Паўлоўскай) – пра семіётыку плошчы; ён выконвае ролю свайго роду тэарэтычнай ініцыяцыі. Аўтарка разглядае варыянты знакавай нагрузкі, якую могуць несці галоўныя плошчы гарадоў (форум, касцельны пляц і рынак, цэнтр імперыі, музей і інш.). Напрыканцы ідзе разгляд у гэтым кантэксце апошніх зменаў у абліччы Савецкай плошчы ў Горадні. Папярэдні перыяд закранаецца як бы ўскосна, у кантэксце тых самых зменаў. Трэба думаць, гэта быў сярэднявечны еўрапейскі тып рынку, апісаны ў агульных рысах як адзін з варыянтаў. Аднак падаецца, усё ж варта было б спыніцца на ім больш канкрэтна, бо ў наступных артыкулах прастора "ранейшага" гарадзенскага Рынку даследуецца ў крыху іншым ракурсе. Аўтарка разглядае апошнія змены (вынікі праведзенай рэканструкцыі) у кантэксце "імперскай" мадэлі ўладкавання, галоўным чынам з-за павелічэння прасторы. Можна было б паспрабаваць таксама зірнуць на гэта

паводле разгледжанага на самым пачатку “змяшанага” варыянта – адмірання ў сучасным горадзе аўтаноміі цэласных раней сістэм (хоць сама аўтарка аспрэчвае падобнае меркаванне), калі рэлігійна і ідэалагічна вытрыманыя мадэлі разбураюцца такімі рысамі спажывецкага грамадства, як функцыянальнасць, практычнасць і г. д. У беларускім кантэксце, дзе разуменне, засвоенасць і прызнанне каштоўнасці папярэдніх культурных традыцый па-ранейшаму мінімальныя, гэта вельмі пашыраны варыянт, і прыкладаў таму дастаткова. У цэлым агляд атрымаўся добра структураваным, і артыкул выклікае жаданне дастасаваць прапанаваную класіфікацыю да галоўных плошчаў іншых беларускіх гарадоў, у першую чаргу сталіцы. Так, на плошчы Незалежнасці тады мы маглі б пабачыць выцясненне “імперскага” тыпу “змяшаным”, на плошчы Свабоды – выразную музеефікацыю, на Кастрычніцкай – замацаванне “імперскай” мадэлі.

У артыкуле Юрыя Гардзеева “Прастора гарадзенскага рынку і соцыум у XVI–XVIII ст.” галоўная плошча горада разглядаецца як месца канцэнтрацыі грамадска значных установ і ў выніку гэтага – сустрэчы і кантактаў розных сацыяльных груп і слаёў. Аўтар звязвае яе афармленне з XV ст., калі адбывалася пашырэнне гарадской забудовы ў паўночным і ўсходнім напрамках, апошні этап адносіць да атрымання горадам магдэбургскага права ў 1496 г., але ўвогуле генезіс новага гарадскога цэнтра да гэтай падзеі дакладна пакуль не прасочваецца. Сапраўды, размяшчэнне Рынку ў пэўным сэнсе на ўскраіне сярэднявечнага горада пакідае пытанні. Пры апісанні функцыянальнага характару прасторавай арганізацыі плошчы звяртае на сябе ўвагу месца ў ёй могілак. Паводле аўтара, акрамя выканання традыцыйных функцый, могілкі былі “месцам грамадскіх сходаў ці шпацыраў. На тэрыторыі могілак будаваліся жылыя дамы ды крамы. Паводле крыніц XVIII ст., на цвінтарных пляцах стаяў парафіяльны шпіталь з садам” (19). Размова ідзе, зразумела, пра цвінтар як прыкасцельную тэрыторыю, якая і несла сацыяльную нагрузку, хоць вядома, што ў тую эпоху ў дачыненні да гарадской тэрыторыі не было яшчэ такога падзелу на цвін-

тар і могілкі, як сёння. Падаецца толькі, замест выразаў накшталт "у Рынку, побач з касцёлам" (пра могілкі і іншыя аб'екты) варта ўжываць больш адпаведныя сучаснай беларускай мове "на Рынку" (пра будынкі) ці "каля Рынку", каб пазбегнуць недакладнага разумення. Цікава таксама прасачыць разам з аўтарам змены ў структуры зямельнай уласнасці на галоўнай плошчы горада на працягу XVI–XVIII ст. і паступовае выцясненне мяшчанства магнатамі і шляхтай.

Наступны матэрыял – перакладзены з польскай мовы артыкул Пятра Яцака Ямскага "Палацы прэтэндэнта на каралеўскі трон. Мастацкая падрыхтоўка Казіміра Яна Сапегі да гарадзенскага сойма 1693 г." – пакідае супярэчлівае ўражанне. У артыкуле, які дзеліцца на некалькі частак, распавядаецца пра пабудову і далейшы лёс сапегаўскіх палацаў у Горадні, пры гэтым уводзяцца новыя, дастаткова інфарматыўныя крыніцы па тэме. Вызначэнне часу пабудовы сапегаўскіх палацаў, у тым ліку аднясенне на значна больш ранні час (канец XVII ст.) узвядзення другога з іх, які знаходзіўся на вуліцы Азёрскай і ўваходзіў у адзіны палацавы комплекс з палацам на Рынку, заслугоўвае ўвагі як навуковае адкрыццё. Пры гэтым вызначаны імёны архітэктараў, дойлідаў і нават мастакоў, якія афармлялі інтэр'еры. Здзіўляе праяўленая аўтарам інтуіцыя, бо ўскосныя згадкі пра мастакоў у прыватнай перапісцы (толькі па імені або нават без імя), здавалася б, давалі мінімальныя шансы для паспяховага вызначэння асобы. Намаляваная панарама будаўніцтва усё ж не пазбаўлена пэўнай колькасці дапушчэнняў, паколькі ў аснове яе ляжыць выкарыстанне пераважна такога спецыфічнага віду крыніц, як карэспандэнцыя, у выніку часам складана зразумець, пра які з трох сапегаўскіх палацаў (акрамя двух мураваных, быў яшчэ драўляны), ці пра якія памяшканні, элементы канструкцыі ідзе размова. Пры чытанні раз-пораз узнікаюць пытанні адносна дакладнасці фактычнага боку матэрыяла. Невядома, што за каронны стольнік, сын Казіміра Яна Сапегі, не названы па імені, да вяселля якога рыхтаваліся ў 1687 г. (28). У вялікага гетмана быў сын Юрый (Ежы) Станіслаў, у гэты час стольнік ВКЛ (не

каронны), аднак ён ужо два гады як быў жанаты з Ізабэлай з Палубінскіх[1]. Каронным жа стольнікам быў Стэфан Мікалай Браніцкі (між іншым, зяць Казіміра Яна Сапегі акурат з гэтага года[2]). Выкарыстанне дзеля параўнання колькасці гасцей, якія маглі прыбыць у Горадню на сойм 1693 г., вельмі ўмоўных звестак з сойма 1697 г. (100 тыс. чалавек) выглядае некарэктна (30) – у апошнім выпадку шляхта з'ехалася на элекцыю новага караля. Тут жа прысутнічае спрэчнае сцверджанне, што "запрашэнне" магнатам сваіх прыхільнікаў на сойм магло забяспечыць яму "перавагу галасоў падчас пасяджэнняў" (тамсама). Відавочна, аўтар не ўлічвае, што ўдзельнікаў сойма не мог запрасіць любы ахвотны. На с. 43 згадваецца сапегаўскі прыхільнік Багуміл Слушка – асоба, па гістарычных крыніцах невядомая. Увогуле, ліслівыя тосты за здароўе "караля Казіміра IV" (маючы на ўвазе Казіміра Яна Сапегу) падымаў полацкі ваявода Дамінік Міхал Слушка[3]. Цікавасць уяўляе эпізод з прыбіваннем герба Сапегаў да чужых палацаў і камяніц у 1692 г., на жаль, не зусім слушна інтэрпрэтаваны (с. 30, параўн. ліст на с. 47). Масальскі, на чый палац прыбілі герб, і мазырскі староста – дзве розныя асобы. Меліся на ўвазе гарадзенскі харужыч Ян Антоній Масальскі і яго айчым, мазырскі староста Казімір Караль Халецкі[4]. Пад "выхадам з апекі" трэба разумець не спробу выбіцца з пратэкцыі, а дасягненне Масальскім паўналецця, калі ён сам мог распараджацца сваёй маёмасцю, што Сапега відавочна праігнараваў, самавольна займаючы яго палац на час сойма. Таму абурэнне Масальскага, падтрыманага

[1] Rachuba A. Sapieha Jerzy Stanisław // PSB. T. XXXV/1. Z. 144. S. 21.

[2] Rachuba A. Sapieha Kazimierz Jan Paweł // PSB. T. XXXV/1. Z. 144. S. 47.

[3] Rachuba A. Słuszka Dominik Michał // PSB. T. XXXIX/1. Z 160. S. 140.

[4] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1695. S. 244–245; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. II. Województwo trockie / Pod red. A. Rachuby; oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. P. Romaniuk, A. Haratym; przy współpr. A. Macuka i J. Aniszczanki. Warszawa, 2009. S. 242.

айчымам, можна зразумець. Не выключана, што гэта самаўпраўства паклала пачатак непаразуменням, якія прывялі ў выніку да фармавання апазіцыі Сапегам у Гарадзенскім павеце на чале з Янам Антоніем Масальскім. Апошні раздзел "Рэзідэнцыя прэтэндэнта на каралеўскі трон", як падаецца, закліканы паказаць каралеўскія амбіцыі Казіміра Яна Сапегі, аднак большасць прыведзеных у падмацаванне гэтай думкі цытат з крыніц і літаратуры сведчаць, хутчэй, пра гегемонію Сапегаў у ВКЛ, а то і проста пра ўплывы і магутнасць роду. Казімір Ян Сапега не быў кандыдатам на каралеўскі трон у 1697 г., а ВКЛ не збіралася "гарлапаніць ва ўнісон" яму ў падтрымку (44), наадварот, на элекцыйным сойме шляхта дамаглася абмежавання яго паўнамоцтваў. Размовы пра яго *магчымае* кандыдацтва, якія мелі месца пасля смерці ў 1696 г. Яна III, не прывялі да выстаўлення вялікім гетманам сваёй кандыдатуры. Увогуле, спіс кандыдатаў, цытаваны аўтарам, збольшага памылковы – у соймавых дыярыушах і прапановах саміх кандыдатаў фігуруюць іншыя імёны. Артыкул напісаны месцамі двухсэнсоўнай паўмастацкай мовай, да таго ж не надта добра перакладзены, у выніку складана ўспрымаецца. Нумарацыя ілюстрацый "выпала", і часам цяжка зразумець, на якую з іх ідзе спасылка. Усе разважанні падводзяць чытача да высновы, што Казімір Ян Сапега збіраўся стаць каралём і загадзя будаваў сабе каралеўскі палац на ўзор варшаўскага (з трыма вежачкамі на даху), а пабудаваны побач другі палац ад пачатку меўся выконваць ролю сенатарскай палаты. Выснова смелая, але, зноў жа, пабудаваная на шэрагу дапушчэнняў. Зыходзячы з таго, што палац на Азёрскай будаваўся ў 1687 г., тады ж згадваецца і пра рамонт зоркі, якая звалілася з вежы вялікага палаца, г. зн. палаца на Рынку (28), можна зрабіць выснову, што апошні ў такім выглядзе быў пабудаваны яшчэ раней. І, адпаведна, яшчэ раней Сапегі ўзяліся дэманстраваць такім чынам свае каралеўскія амбіцыі? За гіпатэтычным падабенствам з каралеўскім палацам (калі апошні браўся за ўзор, што далёка не факт) маглі стаяць прэстыжныя матывы, не абавязкова палітычныя планы. Аўтар прызнае, што патрэбны дадатковыя сведчанні пра знешні выгляд

палаца на Рынку. Акрамя таго, ім праводзяцца паралелі паміж палацам на Рынку і віленскімі палацамі Сапегаў і Слушкаў, якія мелі падобны выгляд, што выклікае чарговыя пытанні. Аўтары нядаўняй літоўскай манаграфіі пра палац Сапегаў на Антокалі таксама схільныя разглядаць яго ўзвядзенне (у комплексе з суседнім кляштарам трынітарыяў) у кантэксце планаў апанавання Казімірам Янам Сапегам трона Рэчы Паспалітай[5]. За адсутнасцю прамых сведчанняў пра прычыны будаўніцтва ўзнікае пытанне: ці не зашмат "каралеўскіх" палацаў і ці не замала каралёў? Не кажучы ўжо пра тое, што будаўніцтва сабе каралеўскіх палацаў загадзя было б па меншай меры безразважнасцю. Вядома, што ў другой палове панавання Аўгуста II палац на Азёрскай у Горадні выкарыстоўваўся для паседжанняў сената. Але няма звестак, што гэта і было мэтай будаўніцтва. Сама наяўнасць вялікай прадстаўнічай залы ў магнацкім палацы, падаецца, яшчэ не дае падставаў для такога роду высноваў. Тэарэтычна, Сапегі маглі штосьці падобнае пралічваць у сувязі з соймавым статусам горада (безадносна да сваіх магчымых каралеўскіх планаў). Аднак ніякіх звестак пра тое, як меўся выкарыстоўвацца палацавы комплекс да яго перабудовы ў XVIII ст. саксонскімі архітэктарамі, не прыводзіцца.

Наступныя два артыкулы, аўтарства Іны Соркінай і Таццяны Казак, прысвечаны гарадзенскаму Рынку ў другой палове XIX – пачатку XX ст. і ў 20–30-я г. XX ст. адпаведна. Рынак у гэты час, забудаваны амаль цалкам муравайнымі двух- і трохпавярховымі дамамі, набыў вельмі прадстаўнічы выгляд. Артыкулы, як і ў цэлым гадавік, багата ілюстраваны выявамі Рынкавай плошчы і вуліц, якія ад яе адыходзілі. Аўтаркі засяродзілі ўвагу на структуры зямельнай уласнасці галоўнай плошчы горада. Робіцца выснова, што галоўную ролю тут ужо выконвалі яўрэі, якім у той час належала абсалютная большасць рынкавых пляцаў. Паколькі папярэдні перыяд (першая палова XIX ст.) з прадуманай у цэлым структуры выдання "вы-

[5] Janonienė R., Purlys E. Sapiegų rūmai Antakalnyje. Vilnius, 2012. P. 229.

паў", невядома, як і калі гэтыя змены адбыліся. Прадпрымальнасць гарадзенскіх яўрэяў вельмі наглядна відаць з дакументаў, якія адлюстроўваюць валоданне нерухомасцю ў раёне рынкавай плошчы. Так, у 1886 г. уладальнік былога радзівілаўскага палаца Лейзер Брэгман здолеў уціснуць у яго ажно 29 крам (55). Высвятляецца, гэта была яшчэ не мяжа: у 1923 г. іх ужо было 45, без уліку вялікай колькасці майстэрняў і іншых памяшканняў (70).

З артыкула Віктара Саяпіна "Гісторыя Савецкай плошчы. Праекты перапланіроўкі 40–80 гадоў XX ст.", напісанага на падставе крыніц з Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, гарадзенцы могуць даведацца, што было зроблена і што яшчэ планавалася зрабіць з іх горадам у пасляваенны час, аж пакуль у 70-я гады не была нарэшце прызнана каштоўнасць гістарычнай забудовы. Мы тут не ставім на мэце даць поўны агляд усіх змешчаных у выданні матэрыялаў, але можна адназначна сцвердзіць, што спецыялісты па розных часах і тэматыцы абавязкова ў ім знойдуць нешта для сябе новае. А для многіх, і не толькі спецыялістаў, гісторыя Горадні стане сапраўдным адкрыццём.

У падрыхтоўцы выдання бралі ўдзел шэраг гарадзенскіх гісторыкаў, асноўная заслуга сярод якіх належыць вядомаму спецыялісту па гісторыі горада Юрыю Гардзееву – навуковаму рэдактару гадавіка. Акрамя таго, гэта якраз той выпадак, калі варта адзначыць працу дызайнера Змітра Гупянца. Фармат *in quarto* і шыкоўнае афармленне з вензелямі на кожнай старонцы робяць "Гарадзенскі гадавік" не проста важнай навуковай падзеяй, але і выдатным падарункам для аматараў і знаўцаў Горадні. Зробленыя заўвагі носяць прыватны характар і не змяншаюць агульнага пазітыўнага ўражання ад нумара. Адзінае, што хацелася б пажадаць выдаўцам – скарыстацца паслугамі карэктара, што для такога саліднага выдання было б зусім не лішняе. Зыходзячы з канцэпцыі гэтага нумара, можна зрабіць выснову, што ў будучым варта спадзявацца працягу ўсебаковага паказу гісторыі і архітэктурнай спадчыны іншых знакавых мясцін аднаго з найбольш адметных беларускіх гарадоў.

Мінск *Зміцер Віцько*

# Гарадзенскі гадавік. № 1. Рэд. ЮРЫ ГАРДЗЕЕЎ. Гродна, 2012. 118 с.

У межах кніжнай серыі “Гарадзенская бібліятэка” ўбачыў свет першы нумар перыядычнага выдання “Гарадзенскі гадавік”, прысвечаны праблемам мінулага Горадні. Характар выдання лакальны і ў пэўным сэнсе пераклікаецца са зборнікам артыкулаў “Гарадзенскі палімпсест”, які выходзіць штогод па выніках канферэнцыі. Але калі “Гарадзенскі палімпсест” акцэнтуе ўвагу на гісторыі дзяржаўных устаноў, сацыяльнай і рэлігійнай гісторыі горада, то ўвага аўтараў “Гарадзенскага гадавіка” зводзіцца да багатага на падзеі мінулага шматлікіх аб’ектаў горада (плошчаў, вуліц, будынкаў). Гэтая ініцыятыва, безумоўна, добрая, і мы мусім вітаць першае такое выданне. Іншае пытанне – наколькі аўтары будуць трымацца такога фармату і далей. Варта адзначыць, што тэматыка, закранутая “Гадавіком”, у свой час падымалася ў “Гарадзенскім палімпсесце”[1].

Нумар пачынаецца з публіцыстычнага артыкула Тацяны Маліноўскай, дзе адчуваецца абурэнне аўтара з нагоды апошніх перамен у абліччы горада. Назіраецца зададзенасць выпуску на далучэнне ўвагі грамадскасці да праблем рэгенерацыі і захавання гісторыка-культурных каштоўнасцяў Горадні. У зборніку даволі комплексна прадстаўлены раздзел даследаванняў, прысвечаных унутрыгарадскім аб’ектам.

Плошча як базавы кампанент арганізацыі гарадскога жыцця разглядаецца ў працы Ганны Паўлоўскай, дзе прыводзяцца разнастайныя семантычныя значэнні плошчы ў часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, у перыяд Расійскай імперыі і Савецкага Саюза. Згодна з функцыянальным прызначэннем на працягу кожнага прамежку часу аўтар вылучае асобныя тыпы плошчаў. Так,

[1] Гарадзенскі палімпсест 2008. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008). Горадня – Беласток, 2008; Гарадзенскі палімпсест 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI–XX стст. Мінск, 2011.

адзначаецца, што для сярэднявечных гарадоў плошчы былі грамадскімі, гандлёвымі, сакральнымі цэнтрамі. Для пазнейшых часоў (XIX–XX ст.) характэрны імперскія плошчы і плошчы-музеі. Аўтар прыводзіць прыклады адпаведных плошчаў Рыма, Масквы, Пекіна, Варшавы, Берліна. Асобная ўвага акцэнтавана на Савецкую плошчу Горадні.

Гарадзенскі рынак у XVI–XVIII ст. знайшоў адлюстраванне ў шматбаковым даследаванні Юрыя Гардзеева, заснаваным на дакументах з архіваў Мінска, Вільні, Горадні, Масквы. Немалая ўвага пры гэтым звяртаецца на архітэктурна-прасторавую арганізацыю галоўнай гарадской плошчы Горадні, якая, паводле аўтара, была "паказчыкам каштоўнасцей гараджан і норм іх жыццядзейнасці". Характарызуюцца розныя горадабудаўнічыя формы: стыхійнасць і непланамернасць складвання рынку; розная форма і плошча кожнага рынкавага пляца; няправільныя абрысы рынкавых кварталаў і нерэгулярная арганізацыя прасторавай сістэмы, абмежаваная абарончымі ўмацаваннямі. Рэнесансныя традыцыі XVI ст. у гарадской прасторы Горадні ўвасобіліся ў архітэктуры гарадской ратушы і адноўленага Фарнага касцёла. Функцыянальнае прызначэнне рынку разглядаецца аўтарам праз характарыстыку яго асноўных кампанентаў: ратушы як сімвала самакіравання і юрыдычнай самастойнасці гарадской абшчыны, Фары Вітаўта як цэнтра рэлігійнага жыцця, а таксама слупа ганьбы, карчмы, шынкоў, могілак. Аўтар не абмінае ўвагай функцыю рынкавай прасторы як месца святкавання ўрачыстасцяў і вядзення гандлю. Адзначаецца, што сярэднявечныя горадабудаўнічыя формы рынку праіснавалі ў Горадні ў непарушным стане да канца XVIII ст. Важная выснова – назіранне аўтара аб змене сімвалічнага характару архітэктурнага аблічча прасторы рынку на працягу XVI–XVIII ст. Так, калі ў XVI ст. ратуша і Фарны касцёл падкрэслівалі факт існавання самастойнай юрыдычна акрэсленай абшчыны мяшчан, то ў канцы XVIII ст. панарама рынку спалучала новыя сімвалы – езуіцкі касцёл, палацы Радзівілаў і Сапегаў.

У святле трох адшуканых лістоў за 1692 г., дасланых кіраўніком будаўнічых работ і слугой Лямборскім на імя Казіміра Яна Сапегі, якія захоўваюцца ў Бібліятэцы Ака-

дэміі навук Літвы ў Вільні, польскі даследчык Пётр Яцак Ямскі даследуе гісторыю комплексу двух рыначных палацаў Сапегаў. Аўтар згадвае тры юрыдыкі Сапегаў, якія існавалі ў 1690-я г. у Горадні, апісвае падрыхтоўку Казіміра Яна Сапегі да сойма 1693 г., аналізуе гісторыю комплексу двух сапегаўскіх палацаў у перыяд сойма. Даволі цікавая адметнасць працы – персаніфікацыя мастакоў Казіміра Яна Сапегі, якія дзейнічалі ў Горадні ў канцы XVIII ст. Аўтар абгрунтоўвае думку аб магчымасці кампазіцыйнага злучэння палаца з касцёлам езуітаў, праводзіцца параўнанне палаца з Варшаўскім соймавым комплексам. Горадня са сваім узроўнем мастацкага жыцця разглядаецца як далёкае прадмесце заможнай Варшавы. Робіцца выснова, што ўзвядзенне гарадзенскага палаца адпавядала найвышэйшым каралеўскім імкненням Казіміра Яна Сапегі. Лісты Лямборскага да Сапегі, а таксама рахунковыя запісы пра будаўніцтва палаца публікуюцца паводле польскіх нормаў перадачы тэксту напрыканцы артыкула. Канец старонак пазначаецца ў квадратных дужках, аднак не пазначаецца канец радкоў, нерасчытаныя месцы перададзены пункцірнай лініяй.

Астатнія тры артыкулы раздзела прысвечаны гарадзенскім плошчам. Яны ўяўляюць асаблівую цікавасць не столькі высновамі (як папярэднія), колькі далучэннем раней малавядомага архіўнага і ілюстрацыйнага матэрыялу.

Увага Іны Соркінай звернута да сацыяльнай тапаграфіі Параднай (Сабornай) плошчы ў канцы XIX – пачатку XX ст. У артыкуле робіцца спроба прасачыць маёмасныя адносіны, характар забудовы і функцыянальнае прызначэнне кожнага пляца на галоўнай плошчы Горадні ў канцы XIX – пачатку XX ст. У даследаванні задзейнічаны галоўным чынам дакументы з фондаў НГАБ (у Горадні) “Гродзенская губернская па гарадскіх справах установа”, “Будаўнічае аддзяленне Гродзенскага губернскага праўлення”. У дадатку змяшчаюцца спісы ўладальнікаў прыбытковай нерухомай маёмасці на Саборнай плошчы ў 1886 г., дамоў плошчы з указаннем уладальнікаў і колькасці дворнікаў у 1907 г., звесткі пра прыватныя збудаванні на Параднай плошчы і іх кошт за 1910 г., звесткі з інвентарных вопісаў

нерухомай маёмасці Гародні 1910 г., звесткі пра валавы даход з нерухомай маёмасці Левінсон і Тарлоўскай на Парадңай плошчы за 1910 г., звесткі пра валавы даход з нерухомай маёмасці Гродзенскага Фарнага рымска-каталіцкага касцёла за 1910 г., звесткі пра гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы на Парадңай плошчы 1910 г.

Даследаванне Таццяны Казак, прысвечанае плошчы Баторыя ў 1920–1930-я г., амаль цалкам заснавана на матэрыялах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці (ДАГВ), з якіх асаблівая ўвага аўтара акцэнтавана на анкетах, складзеных статыстычным аддзелам Гродзенскага магістрата ў 1923–1924 г. На падставе гэтых і іншых дакументаў праводзіцца агляд пляцаў з будынкамі на паўночным, усходнім, паўднёвым і заходнім баках плошчы.

Праекты і абставіны перапланіроўкі Савецкай плошчы ў 1940–1970-я г. разгледжаны ў артыкуле Віктара Саяпіна. Аўтар на падставе матэрыялаў ДАГВ, а таксама газетнай перыёдыкі падрабязна апісвае захады па добраўпарадкаванні плошчы, адзначае важныя пастановы гарвыканкама на гэты конт, праводзіцца параўнанне паміж генеральным планам рэканструкцыі і развіцця горада 1951 г. і генеральным планам 1973 г., які характарызаваўся больш паважлівым стаўленнем да гістарычнай забудовы цэнтральнай часткі горада.

Раздзел "Гісторыя рэстаўрацыйнай думкі і пытанні аховы помнікаў" змяшчае тры артыкулы, два з якіх прысвечаны пытанням археалогіі, трэці – архітэктуры. Алесь Госцеў і Алесь Кіркевіч робяць агляд археалагічных здабыткаў XV – сярэдзіны XX ст., адшуканых у зоне земляных і будаўнічых работ на Савецкай плошчы Горадні. Праведзена сістэматызацыя артэфактаў, галоўнымі крытэрыямі якой вызначаны матэрыял, асартымент і побытавае прызначэнне. Выяўленыя знаходкі, а менавіта керамічны посуд, вырабы з кафлі, шкла, металу і косці, належным чынам апісваюцца і ілюструюцца графічнымі выявамі. На падставе дадзеных археалагічных раскопаў і інжынерна-геалагічнага бурэння 1987–1988 г. Алесь Краўцэвіч прапануе схему трох участкаў аховы культурнага слоя Горадні, складзеную ў 1988 г. і зацверджаную гарвыканкамам. На нашу думку,

гэта спрыяла больш упарадкаванаму і планаваму даследаванню помнікаў археалогіі, а таксама выратавала шмат з іх. На вялікі жаль, улады парушылі свае пастановы пад час рэканструкцыйных работ 2005–2006 г. Архітэктары Алена Пархута і Барыс Шмыга публікуюць апорны план рэканструкцыі Савецкай плошчы, распрацаваны ў 2003 г. Аўтары падаюць схемы развіцця горада на розныя перыяды яго існавання (1376–1569, 1569–1795, 1795–1939, з 1939 г. да нашага часу) без аналізу будаўнічай эвалюцыі. Асноўным падмуркам да працы паслужылі гістарычная даведка Ігара Трусава і фотаздымкі канца XIX – сярэдзіны XX ст.

Безумоўна, найбольш цікавая частка для даследчыкаў – раздзел “Крыніцы па гісторыі Гораднi”, прысвечаны публікацыі дакументаў, якія асвятляюць асаблівасці эканамічнага развіцця горада ў XVI і XVIII ст. (пісцовыя кнігі Гарадзенскай эканоміі за 1560–1561, 1680 г., рэестры палацаў, двароў і дымоў за 1726 г., тарыф і дыспартымент за 1775 г., карта горада за 1780 г., пададзеныя Ю. Гардзеевым), а таксама змяшчаюць апісанні асобных унутрыгарадскіх будынкаў (інвентар палаца Сапегаў 1748 г., апублікаваны А. Мацуком і Ю. Гардзеевым).

Публікацыі Ю. Гардзеева характарызуюць гісторыю галоўнай плошчы Гародні – даўняга ратушнага Рынку на працягу XVI–XVIII ст. Пералікі рынкавых сядзіб і іх уладальнікаў дазваляюць прасачыць дынаміку маёмасных адносінаў, уявіць стан забудовы горада, саслоўна-прафесійную структуру ўладальнікаў нерухомай маёмасці. Пры падачы тэксту аўтар захоўвае тапаграфію дакументаў, перадаючы тэкст без значных адхіленняў ад метадычных рэкамендацый па публікацыі польскамоўных дакументаў па гісторыі Беларусі XVI – першай паловы XIX ст., распрацаваных А. Шаландам[2]. Акрамя палітарнага набору аўтар выкарыстоўвае і факсімільную падачу тэксту.

Абставіны жыцця і дзейнасці маршалка Трыбунала ВКЛ Міхала Антонія Сапегі (1711–1760) у кантэксце судовых

[2] Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі польскамоўных дакументаў XVI–XIX стст. / склад. А. І. Шаланда. Мінск: БелНДІДАС, 2012. 47 с.

спрэчак з Масальскімі за спадчыну мсціслаўскага ваяводы Юрыя Сапегі асвятляюцца ў прадмове да публікацыі інвентара Гарадзенскага палаца за 1748 г. Пры падрыхтоўцы гэтага дакумента выкарыстаны польскія метадалагічныя нормы і інструкцыі па выданні польскамоўных крыніц за 1925, 1953 і 1956 г., што набліжае тэкст да сучасных польскіх нормаў пунктуацыі і арфаграфіі[3]. Нягледзячы на даволі падрабязае апісанне дакумента, асаблівасці яго публікацыі тлумачацца павярхоўна. Выключэнне складае спіс абрэвіятур, якія называюцца “скарачэннямі”. Нерасчытаныя ў тэксце словы замест прынятага пазначэння пункцірам падаюцца запазычаным лацінскім варыянтам (sic!), тапаграфія дакумента не вытрымліваецца (непазначанымі застаюцца канец радка і старонкі). Прымаючы пад увагу, што “Метадычныя рэкамендацыі” А. Шаланды пабачылі свет у тым жа годзе, што і “Гарадзенскі гадавік”, можна дараваць аўтарам выкарыстанне вопыту польскай археаграфіі без уліку досведу сваёй. Слушным крокам можна лічыць пераклад асобных лацінізмаў і польскіх слоў на беларускую мову.

Юрый Гардзееў публікуе рэцэнзію на працу Ігара Трусава “Праваслаўныя храмы Гродна: кароткі нарыс гісторыі” (Мінск – Гродна, 2008), дзе адзначае найбольш цікавыя і спрэчныя моманты рэцэнзаванай кнігі. Даследаванне І. Трусава разглядаецца як спроба комплекснага агляду гісторыі праваслаўнага культавага будаўніцтва Горадні, якая можа надаць штуршок далейшым даследаванням у згаданай галіне.

У цэлым выданне заслугоўвае станоўчай ацэнкі і будзе карысным шырокаму колу даследчыкаў і аматараў гісторыі Горадні і іншых гарадоў.

Мінск *Зміцер Яцкевіч, Вадзім Урублеўскі*

[3] Instrukcja wydawnicza dla średniewiecznych źródeł historycznych, oprac. Komisja Historyczna PAU, Kraków, 1925; Instrukcja wydawnicza dla źródeł historycznych od XIV do połowy XIX wieku, pod red. K. Lepszego, Wroclaw, 1953; Instrukcja wydawnicza: edytorskie zasady opracowania tekstów monograficznych i źródłowych, przygotowania maszynopisów oraz materiału ilustracyjnego, Wrocław, 1956.

## SAVCHENKO, ANDREW. Belarus – a Perpetual Borderland. Brill Academic Publishers, 2009. 239 p.

Дысцыплінарную прыналежнасць сваёй кнігі аўтар апісвае як даволі эклектычную храналагічна структураваную працу на памежжы сацыялогіі і паліталогіі з некаторымі элементамі эканамічнага аналізу, раскіданымі па ўсім тэксце (с. IX). Выкарыстоўваючы адпаведныя тэорыі і канцэптуальныя рамкі, у якасці мэты кнігі аўтар называе даследаванне схільнасці Беларусі да захавання савецкіх сацыяльных структур і інстытуцый і тлумачэнне цяперашніх асаблівасцяў сацыяльнага і палітычнага ландшафту Беларусі праз даследаванне доўгай гісторыі краіны як памежжа (*borderland*) Расіі і Еўропы (тамсама).

Кніга складаецца з трох частак, уступу і заключэння.

Ва ўступе, які мае назву "Вобразы, канцэпцыі і гісторыя памежжа" (*Images, Concepts and History of a Borderland*), гэтыя пытанні разглядаюцца ў кантэксце беларускай сітуацыі. Аўтар лічыць, што цяперашнія асаблівасці развіцця Беларусі неабходна тлумачыць з перспектывы пазіцыі Беларусі як памежжа, якая моцна паўплывала на рух краіны ў сучаснасць. Ён паказвае асаблівасці беларускага гарадскога пейзажу як бачнай характарыстыкі статусу краіны як памежжа; савецкая архітэктура Мінска, адбудаванага з руін пасля Другой сусветнай вайны, таксама разглядаецца як адлюстраванне гісторыі краіны (2–3). А. Саўчанка зазначае, што падкрэсліванне становішча Беларусі як памежжа паміж Захадам і Усходам характэрна для аўтараў, якія пішуць на беларускую тэматыку (Вакар, Запруднік, Марплз). Размяшчэнне паміж двума магутнымі і культурна рознымі суседзямі, Польшчай і Расіяй, падтрымліваецца тэарэтычнымі спасылкамі на цывілізацыйнае бачанне сусветнай гісторыі і палітыкі (Белаградскі, Хантынгтан, Парсанс). А. Саўчанка падкрэслівае, што культурныя ўплывы гэтых дзвюх магутных суседніх краін могуць такім чынам разглядацца ў якасці вызначальнага фактара беларускай ідэнтычнасці, параўнальнага па сваім значэнні з тэндэнцыямі ўнутранага паходжання (5). Аўтар сцвярджае,

што ў адрозненне ад Еўропы з яе штораз большым постмадэрнісцкім і постнацыянальным самаўспрыманнем для Беларусі мадэрнасць і нацыянальнасць усё яшчэ застаюцца галоўнымі крытэрыямі сістэмы адліку (1).

Такім чынам, кніга прысвечана "беларускай нацыянальнай ідэі, што ўвасобілася ў форме сучасных нацыянальных інстытуцый толькі пачынаючы з 1920-х г. як частка савецкага праекта" (тамсама). Таму, сцвярджаецца, што пасля распаду СССР Беларусь і яе эліты не мелі іншага бачання дзяржаўнасці, чым "набор нацыянальных інстытутаў, атрыманых у спадчыну ад савецкай эпохі і здольных выжыць толькі ў сімбіёзе з Расіяй" (тамсама).

Першая частка называецца "Стварэнне памежжа" (*The Making of a Borderland*) і канцэнтруецца на сітуацыі Беларусі пад час мадэрнізацыі і нацыянальнага развіцця, якая храналагічна ахоплівае перыяд з XVI ст. да канца Першай сусветнай вайны. Яна пачынаецца тэзісам аўтара пра тое, што незалежная Беларусь "не змагла развіць палітычных і культурных арганізацый, звязаных з сучаснай Еўропай" (15). А. Саўчанка сцвярджае, што большасць краін усходняй перыферыі Еўропы, раней падкантрольных Расіі (краіны Балтыі і Украіна), "звычайна лічаць сябе членамі пэўнага еўрапейскага "суседства". Гэтая характарыстыка, аднак, не тычыцца Беларусі, бо яна ніколі не мела моцнай плыні грамадскай думкі або ўплывовай групы інтэлектуалаў, якія змаглі б звязаць беларускую нацыянальную дзяржаву з пэўным еўрапейскім "суседствам" (15–16). Аўтар таксама апісвае досвед незалежнасці балтыйскіх нацыянальных дзяржаў у міжваенны час і робіць дыяхранічнае параўнанне паміж міжваеннымі краінамі Балтыі і постсавецкай Беларуссю, спасылаючыся на пэўныя падабенствы, такія, як развіццё ўласных нацыянальных інстытуцый і сімвалаў (хоць з рознай прыродай і сэнсамі) і шлях ад неэфектыўнай дэмакратыі ў спалучэнні са значнымі эканамічнымі цяжкасцямі ў бок "адносна спрыяльны дыктатуры" (18). Хоць храналагічнае апісанне нацыянальнага развіцця Беларусі з XVI ст. да канца Першай сусветнай вайны ў гэтай частцы даволі дакладнае і адлюстроўвае розныя пункты гледжання на гэтыя працэсы, варта звярнуць увагу на некаторыя аспекты, якія неабходна разглядзець падрабязней.

Па-першае, А. Саўчанка піша, што шляхта (*gentry*) ВКЛ ажыццяўляла дзейнасць дзяржавы на мове, якую яна называла "рускай / расійскай" (*Russian*), а праз некалькі сказаў сцвярджае, што арыгінальны тэрмін *"ruski"* можа быць больш дакладна перакладзены як "русінскі" (*Ruthenian*; 28). Гэтая гульня тэрміналогіі здаецца непатрэбнай, бо яна падымае больш пытанняў, чым дае адказаў, а таксама ў пэўнай ступені дэзарыентуе чытача, не знаёмага з гісторыяй рэгіёна. Акрамя таго, слушна паказваючы пазнейшую "нацыяналізацыю" гісторыі ВКЛ, аўтар робіць шэраг супярэчлівых заяваў. Сцвярджаючы, што палітычная нацыя ВКЛ (шляхта) "была ні беларускай, ні рускай / расійскай (*Russian*), дакладна не ў цяперашнім значэнні гэтага тэрміна", А. Саўчанка адначасова падкрэслівае яе падзел на "этнічна літоўскі" (*ethnically Lithuanian*) і "славянскі" (*Slavic*) кампаненты з наступным рэлігійным падзелам па прыкмеце этнічнасці. Акрамя таго, аўтар лічыць, што "ўся дыскусія наконт этнічнага паходжання славянскага кампанента літоўскай шляхты – у значнай ступені праекцыя палітычных поглядаў сучасных назіральнікаў на цалкам іншую культурную і палітычную структуру" (28). Хоць апошняя заўвага фармальна слушная, бо дамадэрная ідэнтычнасць значна адрозніваецца ад сучаснай, спецыяльнае вылучэнне этнічна балцкага кампанента і яго фактычнае атаясамленне з прыналежнасцю да сучаснай літоўскай ідэнтычнасці выглядае супярэчлівым агульнай лаяльнасці ўсёй шляхты ВКЛ да ўласнай дзяржавы.

Па-другое, аўтар не надта знаёмы з гісторыяй беларускай мовы, у прыватнасці, з развіццём традыцыі выкарыстання лацінскага алфавіту для запісу беларускіх тэкстаў. Напрыклад, цытуючы беларускамоўны верш Сыракомлі пра Кракаўскае паўстанне 1846 г., А. Саўчанка сцвярджае, што яго правапіс "ні польскі, ні беларускі" (52), хоць напісанне лацінскімі літарамі адпавядае варыянту, які беларускія аўтары выкарыстоўвалі ў тыя часы. Недастатковае веданне гісторыі беларускай мовы можна таксама прасачыць у спосабе транслітарацыі назвы "Мужыцкай праўды" (арыгінальная назва: *Mużyckaja Prauda*), антырасійскай газеты, якую беларускай лацінкай выдаваў Кастусь Каліноўскі, як "Muzhitskaya Pravda" (44). У пытанні выкарыстання мовы таксама характэрна, што

аўтар не зусім абгрунтавана ўжывае розныя спосабы напісання прозвішчаў двух пакаленняў актывістаў беларускага нацыянальнага руху. Калі прозвішчы першага пакалення беларускіх нацыянальных актывістаў пішуцца ў адпаведнасці з польскай мовай (Bohuszewicz, Dunin-Marcinkiewicz), то другога – згодна з правіламі транслітарацыі Бібліятэкі Кангрэсу (Lutskevich, Pashkevich, Bahdanovich).

Другая частка называецца “Свет з Усходу” (*Ex Oriente Lux*). Храналагічна яна пачынаецца з канца Першай сусветнай вайны і заканчваецца распадам СССР. Як і першая, гэтая частка прапануе даволі паслядоўнае гістарычнае апісанне развіцця беларускіх земляў і адлюстроўвае розную палітыку, што праводзілася там на працягу розных перыядаў часу. Тым не менш некаторыя аспекты, закранутыя ў гэтай частцы, патрабуюць пільнейшай увагі.

Па-першае, апісанне Вільні для беларускіх эліт зроблена А. Саўчанкам настолькі ж непаслядоўна, як і яго спроба прыраўняць балцкі кампанент палітычнай нацыі ВКЛ да сучаснай этнічнай літоўскай прыналежнасці. Сцвярджаючы, што гістарычна ў Вільні палітычная ўлада была ў руках літоўцаў, потым палякаў, потым расійцаў (69), аўтар сам становіцца ў шэраг тых, хто пераносіць сучасныя ўяўленні на цалкам іншую культурную і палітычную структуру, нацыяналізуе гісторыю ВКЛ, займаючы бок сучаснага літоўскага нацыяналізму, а таксама абмінаючы пытанне змены зместу тэрмінаў з цягам часу.

Па-другое, аўтар слушна падкрэслівае той факт, што “бальшавікі на этнічна беларускіх тэрыторыях засяродзілі свае намаганні на мабілізацыі салдат, большасць з якіх не былі беларусамі”, тлумачачы гэта ўяўнай “адсутнасцю зацікаўленасці ў вывучэнні патэнцыйнай прывабнасці камуністычных ідэй сярод беларускага насельніцтва” з боку бальшавікоў (71). Тым не менш, наяўнасць лініі фронту на тэрыторыі Беларусі паказваецца статычна, так, нібы яна не выклікала нейкіх зменаў, такіх, як эвакуацыя значнай колькасці беларускага насельніцтва ў цэнтральныя раёны Расіі і яе замены на паўтара мільёна большую колькасць салдатаў з усёй Расійскай імперыі. Такі дэмаграфічны зрух значна абмежаваў магчымасці розных сегментаў нацыянальна арыентаванай беларускай

палітычнай сцэны. Акрамя таго, нягледзячы на падрабязнае дакументаванне стварэння БССР як у савецкай (Вадзім Круталевіч), так і заходняй (Віктар Сукенніцкі) навуцы, абмінаецца роля беларускіх камуністаў у 1918 г. у стварэнні асобнай беларускай нацыянальнай камуністычнай фармацыі, калі яны здолелі пераканаць Сталіна ў неабходнасці ўтварыць аўтаномную Беларускую Савецкую Рэспубліку і такім чынам зменшыць ролю чужынцаў у савецкіх органах улады Беларусі.

Па-трэцяе, аўтар слушна сцвярджае, што з пункту гледжання прасоўвання палітыкі русіфікацыі Беларусь была першай сярод іншых савецкіх рэспублік, паказваючы ролю беларускай мовы для “партызанскага” пакалення камуністычнай эліты як мовы, якую яны выкарыстоўвалі ў паўсядзённых зносінах з мясцовымі жыхарамі. У прыватнасці, А. Саўчанка апісвае відавочнае раздражненне Хрушчова ў час яго візіту ў Мінск з прычыны выбару мовы Мазуравым для публічнага выступу (143). Акрамя таго, аўтар слушна падкрэслівае той факт, што “беларускія нацыянальныя камуністычныя і проста нацыяналістычныя эліты, якія стварылі асновы беларускай нацыянальнай дзяржавы ў 1920-я г., былі вынішчаны пад час чыстак 1930-х г.”, а “беларускія лідары пасляваеннага пакалення, якія ўсведамлялі сваю нацыянальную ідэнтычнасць, ведалі, што нацыяналізм часоў карэнізацыі ідэалагічна недапушчальны” (139). У той час вельмі спрэчным выглядае заява А. Саўчанкі пра тое, што “ў сферы культуры беларускія эліты прынялі ролю выпрабавальнага палігона для русіфікацыі пад прыкрыццём савецкага інтэрнацыяналізму, адведзеную іх краіне” (142), і гэта было кампрамісам паміж урадавымі бюракратамі і так званай творчай інтэлігенцыяй. Слушна падкрэсліваючы істотныя адрозненні паміж асобнымі савецкімі рэспублікамі ў пытанні выкарыстання нацыянальных моў, А. Саўчанка адначасова робіць выснову, што “сітуацыя ў Беларусі не была вынікам узгодненых намаганняў, зробленых цэнтральнай уладай у Маскве ў выкараненні нацыянальных культур у кожнай савецкай рэспубліцы” (139). Слушнасць такога сцверджання спрэчная, бо кожная савецкая рэспубліка мела сваю нішу для магчымых дзеянняў. Па-першае, не варта недаацэньваць ідэалагічнага прасоўвання савецкімі ўладамі канцэпцыі так званай трыадзінай старажытнарускай на-

роднасці, якая можа разглядацца як дадатковы ідэалагічны інструмент Масквы па асіміляванні культурна і моўна блізкіх беларусаў і ўкраінцаў. Па-другое, у выпадку Беларусі гэтая ніша для дзеянняў была аддадзена сферы эканомікі, што дазволіла БССР прайсці хуткую мадэрнізацыю ў пасляваенны перыяд. Што да культурнай сферы, то асабліва Машэраў меў даволі мала магчымасцяў для манеўру ў пытанні правядзення "нацыяналізуючай" палітыкі ў БССР. У той самы час і Мазураў, і Машэраў падтрымлівалі і абаранялі беларускую творчую інтэлігенцыю, прадстаўнікі якой займалі кіраўнічыя пазіцыі ў рэспубліцы і праз сваё высокае становішча маглі праводзіць палітыку ў галіне культуры. Пацверджаннем абмежаванасці культурнай нішы для Беларускай ССР могуць быць словы паэта Генадзя Бураўкіна, тагачаснага старшыні Дзяржтэлерадыё БССР. Згодна з Бураўкіным, Машэраў падтрымліваў яго намаганні па беларусізацыі рэспубліканскага тэлебачання ўскосна, бо любая падтрымка кіраўніка ЦК КПБ, выказаная публічна, азначала б неадкладнае зняцце яго з пасады маскоўскімі цэнтральнымі ўладамі.

Трэцяя частка мае назву "Памежжа назаўсёды: сучасная Беларусь" (*Borderland Forever: Modern Belarus*) і апісвае палітычнае, сацыяльнае і эканамічнае развіццё краіны ад упадку савецкай эпохі да нашых дзён. Гэта наймацнейшая і найбольш усёахопная частка кнігі. А. Саўчанка дае падрабязную характарыстыку беларускай камуністычнай партыі на чале з саветызаванымі і дэнацыяналізаванымі тэхнакратамі з так званай Мінскай прамысловай групы ў 1980-я г., засяроджваецца на ролі Чарнобыльскай катастрофы і адкрыцця Курапатаў для беларускай нацыянальнай самасвядомасці, апісвае ўзнікненне і развіццё Беларускага Народнага Фронту, а таксама палітычныя падзеі ў БССР у апошнія гады існавання СССР (145–159). Аўтар аналізуе эканамічныя падзеі ў краіне, параўноўваючы эканамічную палітыку беларускіх уладаў з аналагічным захадамі ў краінах Балтыі (159–170). Далей А. Саўчанка апісвае абранне А. Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта і далейшае ўзмацненне яго пазіцый на фоне асноўных тагачасных палітычных сіл краіны (171–189). У апошняй главе часткі, красамоўна названай "Палітэканомія інстытуцыйнага сімбіёзу: Беларусь і Расія ў будаванні супольнай будучыні"

(*Political economy of institutional symbiosis: Belarus and Russia building the future together*) (189–224), разглядаюцца беларуска-расійскія адносіны ў сферы палітыкі, эканомікі, вайсковага супрацоўніцтва і пытанняў бяспекі; закранаюцца таксама нядаўнія палітычныя і эканамічныя падзеі ў краіне.

Заключэнне пад назвай “Куды, Беларусь?” (*Whither Belarus?*) уяўляе сабой кароткі пераказ асноўных высноваў кнігі. Нягледзячы на магчымыя альтэрнатыўныя сцэнары будучыні Беларусі, А. Саўчанка сцвярджае, што “Беларусь не стане чарговай расійскай правінцыяй – інстытуцыйны сімбіёз дазваляе кожнай краіне дасягаць сваіх мэтаў без поўнай палітычнай інтэграцыі. Яна, аднак, будзе заставацца памежжам Расіі (Russia’s borderland) да таго часу, пакуль кіраўніцтва Расіі не зменіць свайго меркавання аб карыснасці такога ўладкавання” (229).

Кніга пакідае даволі спрэчнае ўражанне: яе моцны бок – зварот да канцэпцыі памежжа для апісання беларускай рэчаіснасці, а таксама аналіз сучасных падзей у краіне ў 3-й частцы. Гістарычным часткам, якія тычацца як дасавецкага, так і савецкага перыядаў (ч. 1 і 2), нягледзячы на іх адносную паслядоўнасць і дакладнасць, уласцівы даволі стэрэатыпныя ці, прынамсі, спрэчныя заявы. Такая розніца тыповая для заходніх даследаванняў Беларусі – без бессторонняга погляду на беларускую гісторыю, мову і культуру нават найлепшы аналіз сучаснага перыяду не можа цалкам патлумачаць беларускую ідэнтычнасць і самабытнасць.

Недахоп кнігі – спосаб транслітарацыі беларускіх імёнаў і геаграфічных назваў: яны ў асноўным транслітаруюцца згодна з рускай мовай, а часам – з польскай ці беларускай у адпаведнасці з правіламі транслітарацыі Бібліятэкі Кангрэсу. Такі выбар не спрыяе разуменню беларускай культурнай і моўнай самабытнасці замежным чытачом, які не знаёмы з беларускай сітуацыяй. Тым не менш, нягледзячы на пэўныя недахопы, кніга Андрэя Саўчанкі можа разглядацца як важны ўнёсак у заходнія беларускія даследаванні – аўтар прыняў складаны выклік, паказаўшы нацыянальнае беларускае развіццё ад XVI ст. да цяперашняга часу.

Брэмэн, Прага *Кірыл Касцян, Ганна Васілевіч*

# Tożsamości zbiorowe Białorusinów / pod red. R. RADZIKA. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej, 2012. 422 s.

Праблема калектыўнай ідэнтычнасці беларусаў неаднаразова рабілася прадметам навуковага аналізу. У шэраг гэтых даследаванняў добра ўпісваецца манаграфія “Калектыўныя ідэнтычнасці беларусаў”, падрыхтаваная пад кіраўніцтвам прафесара Рышарда Радзіка. Рэцэнзаваная праца складаецца з 11 артыкулаў, напісаных палітолагамі, сацыёлагамі, антраполагамі, лінгвістамі, культуролагамі і журналістамі, што дазволіла ўсебакова разгледзець пытанне калектыўнай ідэнтычнасці сучасных беларусаў. Удзел даследчыкаў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Чэхіі і ЗША гарантуе разнароднасць навуковых пазіцый. Структура працы празрыстая і цалкам здавальняльная з пункту гледжання структуры і пазнавальнасці. Пэўны недахоп манаграфіі ў тым, што некаторыя змешчаныя ў ёй артыкулы раней ужо публікаваліся ў іншых навуковых выданнях. Такая хіба часткова пазбаўляе рэцэнзаваную працу навізны. З іншага боку, мы атрымалі вартае ўвагі даследаванне, прысвечанае праблематыцы калектыўнай ідэнтычнасці беларусаў і скіраванае перш за ўсё да польскіх чытачоў, што часткова апраўдвае прысутнасць раней публікаваных матэрыялаў, бо дагэтуль яны былі даступныя толькі вузкаму колу спецыялістаў у памянёнай сферы. Апрача таго, гэта адна з нямногіх у апошнія гады сінтэтычных прац, прысвечаных пытанню калектыўнай ідэнтычнасці беларусаў, хоць у больш вузкіх аналітычных даследаваннях на гэтую тэму недахопу няма. Асобна варта падкрэсліць, што пры напісанні многіх артыкулаў былі скарыстаны вынікі эмпірычных даследаванняў, і гэта значна павышае навуковую каштоўнасць рэцэнзаванага выдання.

Артыкул Алега Манаева і Юрыя Дракахруста “Уласцівасці сучаснай беларускай ідэнтычнасці” адкрывае дыскусію, прысвечаную гэтаму пытанню. Згаданы артыкул грунтуецца на багатым эмпірычным матэрыяле, перш

за ўсё на даследаваннях грамадскай думкі, што праводзіліся Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД). На жаль, як і ў ранейшых публікацыях заснавальнікаў НІСЭПД, тут не апісваецца метадалогія даследаванняў, з прычыны чаго цяжка адназначна ацаніць іх верагоднасць. Працяглы час гэтая акалічнасць служыць падставай для крытыкі работы найважнейшага цэнтра даследаванняў грамадскай думкі на Беларусі, вось чаму яго супрацоўнікі павінны звярнуць асаблівую ўвагу на апісанне метадалогіі даследаванняў. У артыкуле часам зашмат месца аддаецца графічнаму адлюстраванню вынікаў даследаванняў замест іх падрабязнага аналізу. Некаторыя прапанаваныя вынікі даследаванняў адыходзяць убок ад цэнтральнай праблематыкі артыкула, і іх прыцягненне не заўсёды выглядае апраўданым. Так, прыкладам можа служыць пытанне аб прэферэнцыях беларусаў на выбарах 2006 г. Якім чынам упадабанні выбаршчыкаў уплываюць на калектыўную ідэнтычнасць беларусаў, аўтары публікацыі не паказваюць, як і не адказваюць на пытанне, чаму прэзідэнцкія выбары 2006 г. адыгралі ключавую ролю ў яе станаўленні. За выняткам гэтых дробных заўваг артыкул А. Манаева і Ю. Дракахруста ўяўляе сабой важкае слова ў дыскусіі пра калектыўную ідэнтычнасць беларусаў. Як вынікае з іх даследаванняў, большасць беларусаў (75%) лічаць сябе бліжэйшымі да рускіх, а не да еўрапейцаў, а беларуская мова не адыгрывае асноватворнай ролі ў фармаванні іх нацыянальнай ідэнтычнасці, хоць нярэдка і акрэсліваецца як родная мова. У штодзённых зносінах галоўную ролю адыгрывае перш за ўсё руская мова. З іншага боку, беларуская культурная ідэнтычнасць пераважае сярод усіх грамадскіх груп, а кола тых, хто атаясамлівае сябе з рускай культурай, застаецца ў меншасці. Вельмі цікавай выглядае эвалюцыя поглядаў беларусаў у сферы геапалітыкі. Нягледзячы на няспынны працэс беларуска-расійскай інтэграцыі, існуе выразная тэндэнцыя да змяншэння колькасці яе прыхільнікаў; адначасова расце доля прыхільнікаў інтэграцыі з ЕС. На думку аўтараў, геапалітычная арыентацыя

беларусаў не стрыжань іх нацыянальнай ідэнтычнасці, а, хутчэй, вытворная ад іншых фактараў, у тым ліку замежнапалітычных. На карысць такога становішча сведчаць, у прыватнасці, вынікі даследаванняў, паказаныя ў табліцы 21 (31).

Рыгор Іофе імкнецца адказаць на пытанне аб вытоках беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. У публікацыі пад назвай “Працяглыя пошукі беларускай ідэнтычнасці” амерыканскі даследчык спрабуе даследаваць яе характар. Варта цалкам згадзіцца з думкай аўтара, што рэлігійны фактар вельмі мала ўплывае на развіццё нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. Гэтаксама і адносна малады беларускі нацыяналізм, як і ў ранейшыя часы, не адыгрывае істотнай ролі ў фармаванні беларускай ідэнтычнасці. Асабліва каштоўным у артыкуле гэтага аўтара выглядае вылучэнне трох нацыянальных праектаў (“натывісцкага”, “маскоўска-ліберальнага” і “крэольскага”), якія прэтэндуюць на кансалідацыю беларусаў і ўмацаванне іх нацыянальнай ідэнтычнасці. Прыхільнікі “натывісцкага”, або “праеўрапейскага”, праекта заяўляюць пра неабходнасць працягу беларускага нацыянальнага адраджэння, вызвалення ад расійскага каланіялізму, а таксама вяртання да спрадвечных еўрапейскіх каранёў. У “маскоўска-ліберальным” лагеры гуртуюцца рускамоўныя беларусы, што падзяляюць антылукашэнкаўскія і праеўрапейскія настроі; у сваю чаргу, “крэолы” карыстаюцца “трасянкай” і пры гэтым скіраваны досыць патрыятычна і нацыяналістычна. Па сутнасці, “крэолы” ўяўляюць сабой апору цяперашняга аўтарытарнага рэжыму, а сама “крэольскасць” выступае формай данацыянальнай свядомасці. На думку аўтара, беларусы перажываюць толькі пачатковую стадыю нацыябудавання, і працэс іх нацыянальнай кансалідацыі расцягнецца на доўгі час.

У грунтоўным артыкуле Ніны Мячкоўскай “Стагоддзе беларускага нацыянальнага адраджэння: галоўныя падзеі і тэндэнцыі ў гісторыі моўнай самасвядомасці і моўнай сітуацыі на Беларусі” аналізуюцца два важныя пытанні: эвалюцыя самасвядомасці беларусаў у святле іх стаўлення да беларускай мовы, а таксама нацыя-

нальна-моўная палітыка, прапагандаваная грамадскімі рухамі, партыямі або дзяржавай у мэтах урэгулявання міжнацыянальных і міжмоўных узаемаадносінаў у шматэтнічным і разнамоўным беларускім грамадстве. Паводле аўтаркі, да пачатку XX ст. працэс фармавання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, як і працэс пашырэння беларускай мовы, насіў абмежаваны характар. Толькі "нашаніўскае" адраджэнне (1906–1918) паспрыяла абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і павышэнню статусу беларускай мовы. Паводле аўтаркі, сур'ёзнай праблемай заставалася ачышчэнне беларускай мовы ад русізмаў і паланізмаў. Перыяд прымусовай савецкай беларусізацыі досыць цяжка лічыць "залатым дзесяцігоддзем беларускай мовы" (да чаго схіляецца аўтарка), хоць былі зроблены маштабныя крокі ў справе яе пашырэння ў грамадстве. Аўтарка артыкула падрабязна раскрывае працэс фармавання беларускай літаратурнай мовы, а таксама яго асобныя фазы. На жаль, не хапае шырэйшага аналізу падыходаў да беларусізацыі ў праграмах паасобных палітычных партый ці грамадскіх рухаў (за выключэннем БНФ), хоць такая мэта дэкларуецца на пачатку артыкула.

Надзвычай цікавы артыкул Катажыны Вашчынскай "Беларуская нацыянальная ідэнтычнасць у святле выказванняў жыхароў Мінска і ваколіц", заснаваны на эмпірычных даследаваннях. Пэўныя заўвагі выклікае, аднак, выбар суразмоўнікаў: вылучэнне на першы план мясцовых аўтарытэтаў, адукаваных людзей (настаўнікаў, публіцыстаў) дазваляе нам пазнаёміцца, хутчэй, са станам самасвядомасці нацыянальнай інтэлігенцыі, чым зрабіць высновы наконт сучаснай беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці наогул. Са зробленага аналізу вынікае, што жыхары цэнтральных рэгіёнаў краіны не адчуваюць праблем з нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй, бо ўсе называюць сябе беларусамі. Параўнальнае даследаванне на матэрыяле насельніцтва ўсходніх рэгіёнаў краіны магло б даць цікавы матэрыял у пацвярджэнне або абвяржэнне тэзісаў аўтаркі. К. Вашчынская засяроджваецца на надзвычай цікавым працэсе "набыцця беларускай свядомас-

ці", які вынікае галоўным чынам з пошукаў адказу на пытанне "Хто я?". У большасці суразмоўнікаў прысутнічае "зваротны момант" і пераасэнсаванне падыходу да беларускай ідэнтычнасці, найперш у выніку тых ці іншых абставін – такіх, як, напрыклад, уплыў беларускай культуры або гістарычнай традыцыі. Даследаванні К. Вашчынскай пацвярджаюць той ужо вядомы факт, што рост беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці не прыводзіць да істотнага пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы. У ранейшых даследаваннях адзначалася, што беларуская мова мае вобраз "мовы інтэлігенцыі", паколькі апошняя належыць да адной з нешматлікіх сацыяльных груп, якія абараняюць развіццё беларускай мовы. На думку аўтаркі, фармаванне беларускай самасвядомасці скарэлявана з набыццём ведаў пра беларускую гісторыю і культуру. Працягласць памянёнага працэсу індывідуальная і залежыць ад вонкавых чыннікаў, а беларускамоўнасць не складае неабходнай умовы для фармавання беларускай ідэнтычнасці. Як лічыць аўтарка, функцыянаванне беларуска-рускага двухмоўя можа паспрыяць размыванню рысаў нацыянальнай ідэнтычнасці.

Асобны артыкул, прысвечаны рэлігійнай ідэнтычнасці беларусаў, напісала Вольга Брэская. У працы "Рэлігійны грамадзянін ці беларус-вернік? Два дзесяцігоддзі сацыялагічных даследаванняў рэлігійнай ідэнтычнасці беларусаў" аўтарка абапіраецца перш за ўсё на даследаванні, якія праводзіліся Нацыянальнай акадэміяй навук Рэспублікі Беларусь – арганізацыяй палітызаванай і ўбудаванай у сучасную палітычную сістэму. Таму цяжка ацаніць верагоднасць прапанаваных вынікаў даследавання, бо ніякая іншая незалежная навуковая арганізацыя на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў падобных даследаванняў не праводзіла. У сваім аналізе В. Брэская не закранае праблемы абмежавання дзяржаўнымі ўладамі дзейнасці каталіцкай царквы і пратэстанцкіх цэркваў, хоць гэта мае свой уплыў на працэс станаўлення рэлігійнай ідэнтычнасці беларусаў. Яшчэ нядаўна самаідэнтыфікацыя большасці беларусаў на захадзе краіны (аднясенне сябе да каталікоў, праваслаўных і г. д.) была

процілеглай таму, што назіралася на ўсходзе. З даследаванняў аўтаркі артыкула адназначна вынікае, што рэгіяналізм “захад – усход” траціць сваё значэнне і адбываецца выраўноўванне канфесійнага падзелу насельніцтва ў абедзвюх частках краіны. Адбываецца таксама працэс павелічэння долі вернікаў (у 1998 г. – 79,1%, у 2007 г. – 89,9 %).

Андрэй Казакевіч разважае над станам сучаснай беларускай гістарычнай ідэнтычнасці. У пацвярджэнне высноваў сваёй працы ён спасылаецца на распрацоўкі незалежнага Інстытута палітычных даследаванняў, дапоўненыя і скарэляваныя з вынікамі, атрыманымі Інстытутам сацыялогіі НАН Беларусі, а таксама сацыялагічнай лабараторыяй “Новак”. Вось жа, мы атрымалі працу надзвычай каштоўную і наватарскую, якая мае на мэце барацьбу з пашыранымі стэрэатыпамі. Згодна з высновамі аўтара, гістарычная памяць беларусаў не мае непарыўнага характару, а, хутчэй, складаецца з уяўленняў пра асобныя гістарычныя эпохі, часта дапоўненых ведамі пра асобныя падзеі ды постаці. Гістарычная памяць беларусаў ахоплівае чатыры гістарычныя перыяды: 1) Полацкае і Тураўскае княствы (X–XIII ст.), 2) Вялікае Княства Літоўскае (XIII–XVI ст.), 3) Другая сусветная (г. зн. Вялікая Айчынная) вайна, 4) пасляваенны савецкі перыяд. Астатнія гістарычныя падзеі носяць эпізадычны характар і маюць невялікае значэнне для фармавання гістарычнай свядомасці сучасных беларусаў. Працы бракуе аналізу гістарычнай ідэнтычнасці ў залежнасці ад узроўню нацыянальнай свядомасці. Нацыянальна свядомыя беларусы апелююць да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, а для беларусаў з нізкім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці найбольшае значэнне мае перыяд Другой сусветнай вайны.

Вольга Гушчава ў працы “Перадача памяці пра гістарычныя падзеі ў асобных беларускіх сем’ях” засярodзілася на праблеме перадазу гістарычнай памяці сярод сучасных беларусаў. Хоць яе даследаванні абмяжоўваюцца групай у некалькі дзясяткаў рэспандэнтаў, прапанаваныя вынікі ўяўляюць сабой цікавы матэрыял да

дыскусіі пра гістарычную памяць жыхароў Беларусі. Згодна з даследаваннямі аўтаркі, сямейная памяць ахоплівае 3-4 пакаленні і канцэнтруецца вакол штодзённага жыцця. Успаміны пра міжваенны перыяд адыгрываюць маргінальную ролю, а сталінскія рэпрэсіі не выступаюць важным элементам калектыўнай памяці беларусаў. Да групы найважнейшых сямейных успамінаў належаць падзеі Другой сусветнай вайны. З даследаванняў аўтаркі вынікае, што вобраз Другой сусветнай вайны ў памяці беларускіх сем'яў супадае з вобразам, які транслюецца афіцыйнай прапагандай. Пасляваенны перыяд (1945–1985) у калектыўнай памяці беларусаў адлюстраваны слаба, хоць і асацыюецца з мірным часам. Насуперак паноўнаму стэрэатыпу, распад СССР не ацэньваецца ні пазітыўна, ні негатыўна, і толькі вынікі гэтага распаду часткай беларусаў крытыкуюцца.

Шмат новага ў праблематыку калектыўнай свядомасці беларусаў уносіць артыкул Ганны Энгелькінг «Паміж "панам" і "жыдам". Заўвагі пра структуру ідэнтычнасці беларускіх калгаснікаў у канцы XX – пачатку XXI ст.». Яго высновы – плён шматгадовых палявых даследаванняў, якія вяліся на абшарах Заходняй і Усходняй Беларусі. З іх ясна вынікае, што нацыянальныя пытанні не належаць да першачарговых вартасцяў беларускіх калгаснікаў, а іх калектыўная ідэнтычнасць грунтуецца на такіх каштоўнасцях, як праца, зямля і нярэдка рэлігія. Даўнейшыя сялянскія каштоўнасці па-ранейшаму жывуць у калектыўнай свядомасці беларускіх калгаснікаў, якія дастасоўваюць свой сучасны светапогляд да ўяўленняў мінуўшчыны.

Нэлі Бекус у артыкуле пад назвай "Беларуская нацыя як ідэя і катэгорыя грамадскай практыкі. Парадоксы камуністычнага развіцця" разважае пра сувязі паміж нацыянальнай ідэяй і дэмакратыяй у посткамуністычных дзяржавах. Асаблівае месца ў яе даследаваннях займае Беларусь. І ў той час як пытанні стаўлення беларусаў да Расіі шырока адлюстраваны ў спецыяльнай літаратуры і тут мы не сустракаем нейкага новага падыходу, канцэпцыя існавання дзвюх ідэй беларускасці выглядае з наву-

ковага пункту гледжання свежай і наватарскай. Дзве сучасныя процілеглыя канцэпцыі беларускай нацыі былі сфармуляваны апазіцыяй і цяперашняй уладай. Ідэя беларускай нацыі, сфармуляваная дзеячамі апазіцыі ў 1990-я г., апелявала да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага. Яе аўтары як палкія прыхільнікі адраджэння беларускай мовы і культуры стваралі альтэрнатыўную нацыянальную ідэю, пазбаўленую расійскіх уплываў. У афіцыйным дыскурсе, падтрыманым уладай, ідэя беларускай нацыі фармавалася з арыентацыяй на расійскі ўзор, з апеляцыямі да савецкай спадчыны і досведу.

Да кампаратывісцкіх даследаванняў звяртаюцца аўтары двух апошніх артыкулаў – Мікола Рабчук («Усходнеславянская “умма” і праблема эмансіпацыі: пра “слабую” ідэнтычнасць украінцаў і беларусаў») (па-беларуску гэты артыкул апублікаваны ў папярэднім томе БГА) і Мілаш Ржэзнік (“Чэшская і беларуская нацыянальная ідэнтычнасць – спроба параўнання ў гістарычным аспекце”). У першым артыкуле ўкраінскі даследчык параўноўвае “сілу” нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў і ўкраінцаў. М. Ржэзнік ацэньвае працэс станаўлення нацыянальнай ідэнтычнасці чэхаў і беларусаў у гістарычным аспекце.

У рэцэнзаванай манаграфіі рознабакова прааналізаваны праблемы калектыўнай ідэнтычнасці беларусаў, што адкрывае поле для шырэйшай дыскусіі на гэтую тэму. Кніга мае вельмі шмат вартасцяў, а выказаныя палемічныя заўвагі не ўплываюць на высокую ацэнку яе навуковага ўзроўню. Мы атрымалі надзвычай годную працу; пры гэтым інтэрнацыянальны склад аўтарскага калектыву павышае пазнавальную каштоўнасць выдання і дазваляе параўнаць разнародныя падыходы да складанага характару калектыўнай ідэнтычнасці сучасных беларусаў. Вялікая тэматычная разнастайнасць манаграфіі і яе наватарскі характар не толькі станоўча ўплываюць на яе ацэнку, але і дазваляюць парэкамендаваць яе шырокаму колу чытачоў.

Торунь *Аркадзіуш Чволэк*

## Беларускі архіў вуснай гісторыі

Беларускі архіў вуснай гісторыі – гэта on-line сховішча электронных дакументаў па вуснай гісторыі Беларусі XX ст. (www.nashapamiac.org), да якіх арганізаваны доступ з мэтай захавання і спрыяння іх шырокаму выкарыстанню ў даследаваннях і адукацыйных мэтах. Гэты інтэрнэт-праект, пачаты ўвесну 2011 г., першы ў Беларусі, які ставіць на мэце праз арганізацыю on-line доступу да ўспамінаў сведкаў часу паспрыяць аналізу і пераасэнсаванню савецкага перыяду гісторыі Беларусі і Усходняй Еўропы, новым міждысцыплінарным даследаванням па гэтай тэматыцы.

Вуснагістарычныя дакументы збіраюцца з мэтай фармавання корпуса крыніц для міждысцыплінарных даследаванняў. Захоўванне і доступ адбываюцца з выкарыстаннем сучасных інфармацыйных тэхналогій. Гісторыя Беларусі XX ст. фіксуецца ва ўспамінах сведкаў часу, і гэта дапамагае захаванню памяці пра найноўшы перыяд гісторыі, у тым ліку па маладаследаваных і актуальных тэмах.

Асноўныя дакументы архіва – інтэрв'ю (вусныя ўспаміны). На захаванне прымаюцца таксама апытальнікі, транскрыпцыі, фотаздымкі рэспандэнтаў, лічбавыя копіі дакументаў асабістага паходжання, што даюць магчымасць інтэрпрэтацыі вусных успамінаў. Камплектаванне архіва адбываецца, з аднаго боку, шляхам збору і апрацоўкі ўспамінаў у межах экспедыцый, арганізаваных камандай архіва, з другога – праз перадачу дакументаў гісторыкамі, краязнаўцамі і іншымі зацікаўленымі асобамі і ўстановамі. Дакументы БАВГ выстаўляюцца пастпова, пасля праходжання адпаведнай апрацоўкі. За 2011–2013 г. на захаванне ўзята больш за 40 калекцый ад 14 уладальнікаў, што складае больш за 600 інтэрв'ю, 2000 дакументаў (аб'ёмам 1,5 Тб).

Сабраныя ў архіве дакументы – гэта біяграфічныя, тэматычныя інтэрв'ю і біяграфічныя інтэрв'ю з асобнымі тэматычнымі блокамі. Тэматыка інтэрв'ю ахоплівае маладаследаваныя пытанні гісторыі рэпрэсій, штодзённасці, эміграцыі, этнаграфіі, асноўных падзей ХХ ст. у асобных рэгіёнах Беларусі і інш. Створана магчымасць тэматычнага пошуку дакументаў. Доступ да іх магчымы пасля рэгістрацыі на партале.

Дакументы архіва могуць быць выкарыстаны для навуковых, адукацыйных ці асветніцкіх мэтаў са спасылкай на Беларускі архіў вуснай гісторыі.

Інфармацыю пра новыя дакументы, змешчаныя на партале, можна атрымаць праз рассылку праекта, даслаўшы свой кантакт на электронны адрас архіва (info@nashapamiac.org).

*Ірына Кашталян*

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2012 г.

## На ступень доктара гістарычных навук

Батяев, В. Ф. Развитие белорусских общественных объединений в XIX – 20-е годы XX века. Этнологическое исследование : 07.00.07 / Батяев Василий Федорович; Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы НАН Беларуси. – Минск, 2011. – 47 с. – Библиогр.: с. 40–44 (38 назв.).

Елизаров, С. А. Формирование и функционирование системы административно-территориального деления БССР (1919–1991 гг.) : 07.0.002 / Елизаров Сергей Александрович; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 45 с. – Библиогр.: с. 36–42 (64 назв.).

Макушников, О. А. Социально-экономическое и этнокультурное развитие Гомельского Поднепровья в V–XIII вв. : 07.00.06 / Макушников Олег Анатольевич; Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси. – Минск, 2011. – 37 с. – Библиогр.: с. 25–34 (190 назв.).

Семенова Л. Н. Политика социального реформизма в британских доминионах в последней трети XIX – начале XX в. : 07.00.03 / Семенова Людмила Николаевна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 47 с. – Библиогр.: с. 40–44 (56 назв.).

## На ступень кандыдата гістарычных навук

Анофранка, Н. В. Жанчыны дваранскага саслоўя Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: сацыяльна-прававы статус, удзел у грамадскім жыцці : 07.00.02 / Анофранка Наталля Васільеўна; Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2012. – 25 с. – Бібліягр.: с. 20–22 (16 назв.).

Бурачонак, А. В. Развіццё прадпрымальніцтва ў фабрычна-заводскай вытворчасці Беларусі (1861–1914 гг.) : 07.00.02 / Бурачонак Аляксандр Вячаслававіч; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2012. – 24 с. – Бібліягр.: с. 19–21 (17 назв.).

Буча, А. І. Беларуская дыяспара ў Чэхаславакіі (1921–1938 гг.) : 07.00.03 / Буча Андрэй Іванавіч; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2012. – 24 с. – Бібліягр.: с. 20–21 (12 назв.).

Вайцяховіч, А. В. Развіццё форм і відаў пахавальнага абраду на тэрыторыі Полацкай зямлі ў X–XII стст. : 07.00.06 / Вайцяховіч Андрэй Іванавіч; Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2011. – 27 с. – Бібліягр.: с. 22–24 (28 назв.).

Волынец, А. О. Институт “сыновнего королевства” в державе франков : 07.00.03 / Волынец Алексей Олегович; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2011. – 21 с. – Библиогр.: с. 17–18 (9 назв.).

Гаврилов, В. И. Франко-американские отношения в 1995–2005 гг. : 07.00.15 / Гаврилов Вадим Иванович; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2011. – 22 с. – Библиогр.: с. 19 (8 назв.).

Гавриловец, Л. В. Политика Польской Народной Республики по германскому вопросу в 1955–1970 гг. : 07.00.03 / Гавриловец Людмила Владимировна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (31 назв.).

Груntoў С. У. Семантыка мемарыяльных помнікаў беларусаў канца XVII – пачатку XXI ст. : 07.00.07 / Груntoў Сяргей Уладзіміравіч; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2011. – 22 с. – Бібліягр.: с. 18–19 (9 назв.).

Дземідовіч, А. В. Вялікае Княства Літоўскае ў знешнепалітычных адносінах Рэчы Паспалітай з Расіяй і Швецыяй у першай трэці XVII ст. : 07.00.15 / Дземідовіч Алена Васільеўна; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2012. – 22 с. – Бібліягр.: с. 18–19 (14 назв.).

Докунова, Е. Н. Советские военнопленные на оккупированной территории Беларуси: условия содержания, сопротивление (1941–1944 гг.) : 07.00.02 / Докунова Елена Николаевна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (15 назв.).

Ковяко, И. Н. Политика Великобритании по германскому вопросу в 1979–1990 гг.: 07.00.03 / Ковяко Ирина Ивановна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 26 с. – Библиогр.: с. 20–23 (32 назв.).

Лебедев, А. Д. Политика советской власти по отношению к Римско-католической церкви в БССР (1919–1929 гг.) : 07.00.02 / Лебедев Андрей Дмитриевич; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2011. – 26 с. – Библиогр.: с. 19–23 (33 назв.).

Морунов, А. А. Межконфессиональные отношения в Беларуси XIV – начала XXI в. (на примере православной и католической церквей) : 07.00.07 / Морунов Александр Александрович; Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы НАН Беларуси. – Минск, 2011. – 22 с. – Библиогр.: с. 18–19 (13 назв.).

Мусина, Н. Е. Государственная молодежная политика в БССР в 20-е годы XX в. : 07.00.02 / Мусина Надежда Евгеньевна; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (21 назв.).

Паўлоўская, Г. Г. Гродзенскія кляштарныя хронікі як крыніца па гісторыі Гродна другой паловы XVII – XVIII ст. : 07.00.09 / Паўлоўская Ганна Генрыхаўна; Гродзенскі дзярж. ун-т імя Я. Купалы. – Гродна, 2012. – 23 с. – Бібліягр.: с. 19–20 (14 назв.).

Разуванава, К. С. Дзейнасць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Заходняй Беларусі (1926–1936) : 07.00.02 / Разуванава Ксенія Сяргееўна; Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2011. – 24 с. – Бібліягр.: с. 21 (7 назв.).

Репин, В. В. Бессарабская проблема во внешней политике Советского государства (1918–1940 гг.) : 07.00.03 / Репин Виталий Валерьевич; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (13 назв.).

Торканевский, А. А. Рим в системе принципата и становление христианской общины Рима (I – середина II в. н. э.) : 07.00.03 / Торканевский Андрей Андреевич; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (11 назв.).

Трубчык А. Г. Школьная адукацыя на тэрыторыі Беларусі ў час польска-савецкай вайны (1919–1921 гг.) : 07.00.02 / Трубчык Алена Генадзьеўна; Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Мінск, 2012. – 26 с. – Бібліягр.: с. 21–23 (18 назв.).

Улахович, В. Е. Становление и особенности внешней политики Республики Беларусь (1991–2005 гг.) : 07.00.15 / Улахович Владимир Евгеньевич; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2012. – 26 с. – Библиогр.: с. 21–23 (27 назв.).

*Ніна Камарова*

# Выданні, атрыманыя рэдакцыяй

Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты. Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі / рэд. А. Лагвінец і Т. Чуліцкая. Варшава, 2013.

Берестечко 1651 в історії Польщі і України. Луцьк – Прушкув, 2013.

Вялікае Княства Літоўскае і суседзі: Права. Вайна. Дыпламатыя / пад. рэд. С. Ф. Сокала і А. М. Янушкевіча. Мінск, 2012.

Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.: у 2 кн. Кн. 1. Мінск, 2011; Кн. 2. Мінск, 2012.

Джерела з історії Національно-визвольної війни українського народу 1648–1658 рр. Т. 1 (1648–1649) / упорядник Ю. Мицик. Київ, 2012.

Доўнар Л. Гісторыя беларускай кнігі. Мінск: БДУКМ, 2012.

Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX–XIII вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV–XVIII вв., ремесло, денежное обращение и торговые связи Полоцка в средневековье (по данным археологии, нумизматики и письменных источников), культура и просвещение в средневековом Полоцке / О. Н. Левко [и др.]; редкол.: А. Коваленя (гл. ред.); науч. ред. О. Левко; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. – Минск: Беларуская навука, 2012.

Трафімчык А. В. Якуб Колас – вядомы і невядомы. Мінск, 2012.

Тэстаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст. (з актавых кніг Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі) / склад.: А. Ф. Аляксандрава, В. У. Бабкова, І. М. Бобер. Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2012.

Формозов А. А. Классики русской литературы и историческая наука. Москва: Гриф и К., 2012.

Bömelburg, H.-J., Gestrich A., Schnabel-Schüle H. (Hg.): Die Teilung Polen-Litauens. Inklusions- und Exklusionsmechanismen – Traditionsbildung – Vergleichsebenen. Osnabrück, 2013.

Bunte Flecken in Weißrussland. Erinnerungsorte zwischen polnisch-litauischer Union und russisch-sowjetischem Imperium. Hg. von Thomas M. Bohn, Rayk Einax und Julian Mühlbauer Wiesbaden 2013. (Historische Belarus-Studien Bd. 1)

Czwołek A. Opozycja polityczna na Białorusi (1989–2010). Gdańsk, 2013.

Friedman A. Deutschlandbilder in der weißrussischen sowjetischen Gesellschaft 1919–1941. Propaganda und Erfahrungen. Stuttgart: Franz Steiner, 2011.

From Krakow to Vilnius. Report of the 2nd International Itinerant Seminar “The Common Heritage of Eastern Borderlands of Europe” (2010). Tokyo University of Foreign Studies, 2013.

Kołodziej R., Zwierzykowski M. Bibliografia parlamentaryzmu Rzeczypospolitej szlacheckiej. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2012.

Marková A. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu: iluze nebo realita? Praha: Nakladatelství Lidové noviny, 2012.

Po unii – sejmiki szlaheckie w Rzeczypospoloitej XVI–XVIII wieku / pod red. H. Lulewicza i M. Wagnera. Siedlce, 2013.

Radzik R. Białorusini – między Wschodem a Zachodem. Lublin: UMCS, 2012.

Studia z dziejów Rzeczypospolitej z Państwem Moskiewskim w XVI–XVII wieku / pod red. M. Nagielskiego, K. Bobiatyńskiego i P. Gawronia. Zabrze – Tarnowieckie Góry, 2013.

Tożsamości zbiorowe Białorusinów / pod red. R. Radzika. Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2012.

Zakrzewski A. Wielkie Księstwo Litewskie (XVI–XVIII w.). Prawo – ustrój – społeczeństwo. Warszawa, 2013.

*Герольд Litherland* № 19 (2013).

*Ab Imperio* 2013, №1, 2, 3, 4.

*Hansische Geschichtsblätter* Jg. 130, 2012; 131, 2013.

*Harvard Ukrainian Studies* Vol. 31, nr. 1–4 (2009–2010).

*Das Historisch-Politische Buch* Jg. 61. 2013. Hf. 4–6.

*History and Theory* Vol. 52. 2013. Nr. 3.

*Przegląd Wschodni* T. XII. Z.1–3 (45–47).

*Zapiski Historyczne* T. 77. 2012. Z. 3; T. 78. 2013. Z.1–3.

*Zeitschrift für Ostmitteleuropa-Forschung* Jg. 61 (2012) Hf. 3–4; 62 (2013) Hf. 1–4.

## Аўтары нумара

**Thomas M. Bohn**
Justus-Liebig-Universität Gießen
Historisches Institut
Osteuropäische Geschichte
Otto-Behaghel-Str. 10
D-35394 Gießen

**Васіль Варонін**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт
вул. Чырвонаармейская 6
220030 Мінск

**Jury Hryboŭski**
Uniwersytet Warszawski
ul. Szturmowa 4
02-678 Warszawa

**Maria Kałamajska-Saed**
Instytut Sztuki PAN
ul. Długa 26/28
00-950 Warszawa

**Антон Лявіцкі**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт
вул. Чырвонаармейская 6
220030 Мінск

**Wojciech Materski**
Instytut Studiów Politycznych PAN
ul. Polna 18/20
00-625 Warszawa

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая**
вул. Адзінцова, д. 31, к. 1, кв. 63
220018 Мінск

